# КУФЭРАК
## ВІЛЕНШЧЫНЫ

**ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
АЛЬМАНАХ**

**14**

Мінск, «Кнігазбор», 2012

# Змест

*Галіна Асіповіч*

# ГОЛАС ДАЛЁКАЙ МАЛАДОСЦІ

*Прысвячаю сыну Алегу, каб ведаў свае карані і не забываў край, дзе нарадзіўся*

«Яны былі разумнейшымі, вартымі пераймання сябрамі, людзьмі з непахісным аўтарытэтам і зайздроснай абаяльнасцю змагароў і пакутнікаў».

*Я. Брыль. «Птушкі і гнёзды»*

## Сцяжынкі родныя дзяцінства

Успаміны… Яны прыходзяць нечакана, спантанна напаўняюць увесь пакой, стукаюць, здаецца, у дзверы, заглядваюць у вокны. Адкуль такая настойлівасць, запатрабаванне сустрэчы з даўно мінулымі падзеямі, з людзьмі, якія мелі дачыненне да твайго жыцця? Магчыма, гэта іх крыўда на тое, што ў свой час мы былі недастаткова ўважлівымі да тых, хто быў побач з намі, не адчувалі, як неспакойна біліся іх сэрцы побач з нашымі. А калі верыць таму, што ў жыцці нічога не бывае выпадковым, то гэта значыць, што яны нешта важнае сведчылі ў нашым жыцці і, магчыма, маглі зрабіць або зрабілі яго іншым. Але мы, на жаль, праходзілі, як караблі-прывіды, побач з гэтымі людзьмі ў пошуках нечага незвычайнага, а простыя жыццёвыя з'явы здаваліся нам малазначнымі, непрыкметнымі. А магчыма, гэта наша жыццёвая нявопытнасць адносіла нас ад глыбіннай асэнсаванасці жыцця, як водны паток адносіць трэску ад берага.

І дзякуй Богу, што ён дарue чалавеку старасць, калі можна нешта пераасэнсаваць у сваім жыцці, падвесці горкі вынік і пашкадаваць, што ўжо нічога нельга перайначыць.

Ціхая снежаньская раніца, яшчэ далёкая да світання. На гарадской аўтобуснай станцыі людзей мала, як і пасажыраў аўтобуса, які накіроўваецца на Ленкаўшчыну. Аўтобус цёплы, утульны. Я займаю месца, з якога добра відаць дарога ўперадзе, можна назіраць і за тым, як збоку мільгаюць за акном дрэвы, сустрэчныя машыны, блішчаць за горадам далёкія агеньчыкі вясковых хат, дзе пачынаюць прачынацца людзі.

На душы адчуванне ціхай радасці, бо я еду ў свае родныя мясціны, па добра знаёмай дарозе, якая вывела мяне «ў людзі». Я буду ехаць праз Лебедзева, дзе ў далёкай маладосці працавала настаўніцай у сярэдняй школе, потым праз Маркава, дзе скончыла дзесяцігодку, а потым і Клочкава, дзе на гары, каля самага лесу стаіць адзінока бацькоўскі дом. Ён відаць з усіх дарог, па якіх набліжаешся да вёскі, прыхаваны ў зеляніне саду летам і ў па-

лоне снегу зімой. Сэрца шчыміць: чакае! Але сёння я буду ехаць міма роднай вёскі (прабач, родная хата!) у суседнюю да сваёй даўняй сяброўкі Антаніны, якая жыве ў Ленкаўшчыне. Сяброўства наша — з тых часоў, як вучыліся ў Маркаўскай школе, жылі ў школьным інтэрнаце. Сталі дарослымі, з'явіліся сем'і, жыццёвыя нягоды. Сустрэчы былі больш выпадковымі. І вось нашы дзеці сталі дарослымі, а мы, набыўшы многа хвароб і перажыўшы складаныя аперацыі, стаўшы людзьмі пенсійнага ўзросту, зноў сталі шукаць сустрэч. Нас збліжала новае ўсведамленне жыцця і свайго фізічнага стану. Шчырыя размовы, добразычлівасць, аптымізм у адносінах абуджалі нашы сілы да жыцця. Пакінуўшы Мінск, адмовіўшыся ад дактароў і іх хімічнай тэрапіі, Антаніна ў жыццёвых праявах вясковага жыцця знаходзіла сабе лекі ад цяжкай хваробы. Чысціня і парадак у хаце, без адзінай травінкі агарод і кветкі ўсюды: на прызбе, каля сцежак, на склепе, каля вуліцы — займалі яе час ад рання і да вечара.



*Юльян Сергіевіч (першы злева ў верхнім радзе) з аднавяскоўцамі*

Вось і цяпер я ехала да Антаніны з добрым настроем, у чаканні цёплай сустрэчы і доўгіх размоў аб усім на свеце.

Толькі перш мне хочацца нагадаць адну вясёлую і разам з тым сумную гісторыю нашых узаемаадносін з Антанінай. У 2000 годзе я вярнулася з далёкай Поўначы на пастаяннае пражыванне ў Маладзечна і стала зноў наведваць сястру ў суседняй вёсцы Высокае. Дарога праз Ленкаўшчыну міма бацькоўскай хаты Антаніны з правага боку і хаты Сергіевічаў Юльяна Іосіфавіча і Агаты Канстанцінаўны — злева. Я спынялася каля адной і другой хаты, але замкі на дзвярах сведчылі аб тым, што тут ніхто не жыве. Сергіевічы былі пахаваны на могілках недалёка ад вёскі. Канановічы, бацькі Антаніны, таксама ўжо памерлі, а сама Антаніна з мужам жыла то ў Клочкаве, дзе ў іх была хата, то ў Ленкаўшчыне ў бацькоўскай хаце. З ёй мы не бачыліся ўжо добрых 20 гадоў. А пабачыцца вельмі хацелася, і я ніколі не мінала яе хаты ў надзеі застаць дома. Потым суседзі сказалі, што Антаніна цяжка захварэла, знаходзіцца ў Мінску ў бальніцы. І вось чарговы раз я стукаю ў дзверы, на якіх ужо не вісіць замок. Чую: заходзьце! Пераступаю парог, бачу



*Юльян Сергіевіч (у верхнім радзе) з сябрамі маладосці*




*Памятная шыльда на хаце Юльяна Сергіевіча ў Ленкаўшчыне*

Антаніну ў квяцістым халаце, абыякавы позірк, сівыя каратка пастрыжаныя валасы. Я гатова кінуцца ў абдымкі, але чую: «А хто вы?». У голасе ніякай цікавасці да мяне. «Галя», — адказваю сцішана я. «А як ваша прозвішча?» — дабівае яна мяне сваім пытаннем. У роспачы я адказваю: «Асіповіч». І тут вочы Антаніны пачынаюць акругляцца, у іх з'яўляецца цікаўнасць, затым усмешка, і яна кідаецца да мяне ў абдымкі. Просіць прабачэння за нявetлівую сустрэчу, спасылаецца на стан здароўя, на «хімію» пасля аперацыі. І вось мы ўжо сядзім за сталом і весела смяёмся над тым, што з намі здарылася.

Ленкаўшчына… Нейкім дзіўным чынам яна размясцілася на скрыжаванні Маладзечанскага, Валожынскага і Смаргонскага раёнаў Мінскай і Гродзенскай абласцей. Можа, і ў гэтым ёсць якая загадка?

Пачынала світаць. Дзякуючы выпаўшаму за ноч снегу абрысы дамоў пачалі вырысоўвацца на фоне бляклага неба. Насустрач аўтобусу беглі агеньчыкі ў вокнах яшчэ не пакінутых хат.

І вось я стукаюся ў дзверы…

Вёску Ленкаўшчыну я ведаю з таго часу, як стала наведвацца да сваёй роднай сястры Рэні, якая выйшла замуж у суседнюю вёску Высокае. Дарога якраз ляжала праз Ленкаўшчыну, і, рухаючыся то пешшу, то на ровары з 10-гадовага ўзросту, я з цікаўнасцю заглядвала ў двары і вокны вяскоўцаў. Усім давала «добры дзень», і многія мяне ўжо ведалі і ўсміхаліся ўслед. А больш за ўсё мяне цікавіў на ўзвышшы ў пачатку вёскі зарослы белай акацыяй чырвоны цагляны падмурак разбуранага маёнтка пана Струтынскага. У пасляваенныя часы там была пачатковая, а потым 7-гадовая школа, якую скончылі мае старэйшыя брат і сястра. У 1956 годзе гэту школу перавялі ў Клочкава, спачатку класы размясцілі ў вясковых хатах гаспадароў Ермаковіча Янкі, Вяля Віктара, Вяля Уладзіміра. У тым жа годзе ў 6-гадовым узросце я паступіла ў першы клас гэтай школы. Дык вось дарога ад Клочка-

ва да Ленкаўшчыны ў 2 кіламетры памятаецца мне і сёння. У адрозненне ад збітых, з'езджаных дарог, якіх хапала наўкола, гэта была шырокая роўная дарога, месцамі ляжаў яшчэ брук, і гэта надавала дарозе нейкую святочнасць, урачыстасць. Дарога вяла ў «панскі двор», так называлася месца разбуранага маёнтка. Але, мабыць, самым прываблівым у гэтым няхітрым пейзажы (злева лес, невялікае азярцо, справа высокі ўзмежак, які раздзяляў клочкаўскія і ленкаўскія палі, і яго называлі з павагай «Граніца») было тое, што ўздоўж дарогі раслі дубы, разгалістыя, ужо даўно немаладыя, шмат пабачыўшыя на сваім веку. Сцішана і насцярожана сустракалі і праводзілі яны шматлікіх спадарожнікаў, нікому не раскрываючы свае таямніцы. Разбураны маёнтак і гэтая заўсёды хвалюючая сваёй звыкласцю і незвычайнасцю ўражанняў дарога ўжо пазней для мяне ядналіся ў нешта адзінае, захаплялі сваёй таямнічасцю, спляталіся з купалаўскімі вобразамі з паэмы «Курган», «Бандароўна». Нешта шчымела ў душы, прасілася на волю, але выйсця яшчэ не мела.



*Такім быў Юльян Сергіевіч у маладыя гады*

Такім чынам, дарогу ў Ленкаўшчыну я ведаю з маленства і да сённяшняга часу. Цяпер наўкола дагледжаныя калгасныя палі, якія ганарыста хваляцца сваім багатым ураджаем. А ў мяне прад вачыма палі майго дзяцінства, нарэзаныя зялёнымі стужкамі межаў і ўзмежкаў, якія так упрыгожвалі вясной свежаўзараныя і восенню прыбраныя прасторы зямлі. На іх красавалі пунсовыя рабінкі, перасміхаліся маладыя бярозкі, сумавалі вербы. Межы мелі свае назвы: «паўлінчына», «фэлькава», «пупішына» і г. д. Я любіла назіраць за ўсім гэтым з высокіх узгоркаў, дзе прыходзілася працаваць разам з маці: жаць жыта, капаць бульбу, ірваць лён. У часы кароткага адпачынку цешылі вочы гэтыя дзівосныя краявіды неба, зямлі, працы людзей.

Недалёка ад вёскі знаходзіцца невялікі вясковы могільнік, на якім пахаваны Юльян Іосіфавіч і Агата Канстанцінаўна Сергіевічы. Здалёк ён уяўляе сабой купку зялёных густа нарослых дрэў сярод узараных палёў, праз якія пралягла нешырокая дарога. Хаваюць тут толькі вяскоўцаў, якія засталіся жыць у вёсцы, пагэтаму могільнік зарос хмызняком, дрэвамі і адшукаць патрэбную магілу бывае часам не проста.



*Юльян Сергіевіч з жонкай Агатай Канстанцінаўнай*

Яшчэ пры сумесным жыцці зрабіў Юльян Іосіфавіч помнік на дваіх, бо вельмі непакоіўся аб тым, калі памрэ першым, каб Агатцы было менш клопатаў, а самае галоўнае, каб побач ляжаць у

зямлі. Памятаю, як праз год пасля пахавання мы з Агатай Канстанцінаўнай наведвалі магілу Юлічка (па-іншаму яна яго не называла), там стаялі два помнікі, і толькі на адным з іх не было даты смерці. Стоячы на каленях і чытаючы малітву, яна то прасіла Юлічка хутчэй забраць яе да сябе, то абяцала яму доўга не затрымлівацца на гэтым свеце. Праўда, пражыла яна ў сваёй хатцы, а потым у пляменніка ў Беразінску яшчэ больш за 15 гадоў.

Успамінаюцца часы майго дзяцінства, канец 50-х і пачатак 60-х гадоў ужо мінулага стагоддзя. Мне, вясковай дзяўчынцы, часта прыходзілася пасвіць кароў (адпаска) па 2, а то і па 4 дні запар. З самага рання кароў пасвілі ў лесе, які называўся Дзедаўскім, потым выганялі іх на ўзлессе каля Топкавічаў, дзе каровы пад сонцам адпачывалі. Тое самае рабілі, прыгрэўшыся на сонцы, і мы, пастухі. Мясціны былі вельмі прыгожымі, асабліва восенню, калі палі, лясы, узмежкі апраналіся ў святочнае залацістае адзенне, і ўсё наваколле здавалася незвычайна казачным і ўрачыстым пад высокім сінім небам. А якіх толькі назваў гэтым мясцінам напрыдумвалі людзі: збіраць грыбы ў Ламах, пасвіць кароў пад Пстрычыхай, пад Тонкавічамі, хадзіць у маліну ў Высмалы, з'ехаць без здарэнняў на кані або ровары з Летуноў, пасвіць авечкі пад Трасамі і г. д. І дарослыя, і дзеці беспамылкова ведалі гэтыя назвы і ніколі іх не блыталі.

## Дзе горкі лёс бярэ пачатак

У баку ад вёскі Юраўшчына на ўзлеску стаяла некалькі хат. Жылі там людзі каталіцкага веравызнання, і жыццё іх у значнай меры адрознівалася ад нашага вясковага. А значыць, і вельмі цікавіла нас. Пасвячы кароў, збіраючы грыбы, мы шукалі прычыну, каб зайсці да іх на панадворак, а то і ў хату. І лепшай прычыны не было, як папрасіць вады. Людзі былі добразычлівымі, падавалі ваду, было і так, што перападала нават цукерка або аладка. На двары ў іх заўсёды быў парадак, адзенне ў жанчын было больш падобным на святочнае, чым на штодзённае, і размаўлялі яны неяк дзіўна, усміхаючыся і часта ўжываючы незразумелыя нам польскія словы. Усё гэта нас, дзяцей, захапляла, бо ў тыя часы мы нічога цікавага ў сваім жыцці асабліва не бачылі. Вярнуўшыся, задаволеныя, да кароў, мы доўга смяяліся над словамі «мамуся», «татуся», з якімі звярталіся да сваіх бацькоў іх дзеці.

У свой час да 1957 года ў гэтых мясцінах вакол Чорнага мора, так называлася невялікае вадасховішча за цёмны колер вады, жылі сем'і Харытонавых, Тонкавічаў, Гісічаў, Сергіевічаў. Там жыла і сям'я Юльяна Іосіфавіча Сергіевіча: бацька і маці, браты Пракоп, Якуб і Васіль, сёстры Ганна і Дарына.

У гэтую вялікую сям'ю і прыйшла Агата Канстанцінаўна, выйшаўшы замуж за Юліка. Была яна з беднай сялянскай сям'і, непісьменная, але працавітая і прывабная сваімі добразычлівымі адносінамі да людзей дзяўчына з вёскі Мысіншчына. Ведалі яны адно аднаго з самай маладосці, і іх сяброўства даўно перайшло ў каханне. І вось яны разам, шчаслівыя і маладыя, жывуць

на хутары, завіхаюцца гаспадары. Юлік, акрамя гаспадаркі, актыўна займаецца культурна-асветніцкай дзейнасцю сярод моладзі: ладзіць у вёсках вечарыны, выступае як паэт, рыхтуе спектаклі, малюе да іх дэкарацыі, складае песні, прыпеўкі на беларускай мове.



*Пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Купалінка» пры маладзечанскай газеце «Святло камунізму»*

Але пачынаецца Другая сусветная вайна, і Юліка прызываюць у армію. У хуткім часе ён трапляе ў палон, потым — лагер у Нямеччыне. Надышлі гады чакання і адзіноты для Агаты і гады здзекаў і барацьбы за волю для Юліка. Гады палону сталі для вясковага хлопца-рамантыка своеасаблівай школай жыцця. Побач з такімі людзьмі, як Янка Брыль, гартаваліся яго новыя якасці — не толькі грамадзяніна сваёй Бацькаўшчыны, але і барацьбіта за волю і шчасце свайго народа. Ён ужо цвёрда ведаў, што любіць і што трэба ненавідзець, як і за што змагацца. Вярнуўшыся з палону, Юльян Іосіфавіч ідзе працаваць настаўнікам у школу вёскі Лашаны, што недалёка ад Рымцеляў. Яшчэ не скончылася вайна, Юльян Іосіфавіч вучыць дзяцей мужнасці і справядлівасці, выхоўвае ў іх пачуцці патрыятызму, любві да свайго краю, мовы, культуры. Неаднойчы ўлады рабілі яму заўвагі і папярэджанні наконт прынцыпаў навучання і выхавання дзяцей.

Арыштавалі Юльяна Іосіфавіча ў школе на вачах у вучняў. Ненадзейным для грамадства палічыла яго ўлада, і нават небяспечным. А такіх людзей чакалі Сібір і сталінскі лагер. Там на гады апынуўся Юльян Іосіфавіч. Горкі вопыт адзіноты і адчаю, выжывання ў нямецкім палоне, але і вопыт мужання, станаўлення як асобы, спазнаўшай сутнасць суровых жыццёвых акалічнасцей, дапамог яму выстаяць, захаваць чалавечае аблічча, не страціць лю-



*Ідзе абмеркаванне вершаў пачаткоўцаў. Крайні справа Мікола Ермаловіч, побач сядзіць Генадзь Каханоўскі. Маладзечна, другая палова 1960-х гг.*



*Сярод дарагіх і блізкіх людзей. Злева направа: Агата Сергіевіч, Галіна Асіповіч і Юльян Сергіевіч*

бові да роднай Бацькаўшчыны, людзей і ў лагеры, і пасля вяртання дамоў.

Нялёгка жылося Агаце Канстанцінаўне ў вялікай радні і ў такой адзіноце. «Працаваць у сям'і прыходзілася шмат і цяжка, бо абаронца быў далёка, — расказвае мне яна на маленькай куханьцы, дзе мы з ёй гатуем абед. — Гаспадарка вялікая, зямлі мелі многа, і цяжкую работу часта перакладвалі на мае плечы». І я шчыра веру гэтаму апавяданню, гледзячы на яе спрацаваныя рукі і пакручаныя артрытам пальцы. Потым ёй пашчасціла аддзяліцца ад дзевераў, збудаваць маленькую хатку са свірна, які ёй уступілі з агульнай гаспадаркі, і зажыць самастойна, хоць і небагата. А ў 1956 годзе зазбіралася ў Караганду, дзе жыў на пасяленні Юльян Іосіфавіч. Цяпер, абдумваючы гісторыю іх нялёгкага і прыгожага жыцця, я прыпамінаю падзею з майго далёкага дзяцінства, калі ў хату да нас прыйшла Агата Канстанцінаўна. З сабой у дарогу да мужа яна рашыла купіць тканую посцілку. Маці ў той час ткала многа, была на выданні мая сястра, ды і час такі, што кросны амаль не выносілі з хаты.

Мяне, 6-гадовую дзяўчынку, вельмі ўразіла прыгожая, статная жанчына, якая нейкім чынам завітала да нас. Яна ветліва прывіталася, потым падышла да маці, і яны абняліся, як добрыя знаёмыя. Прыселі каля стала, пачалася размова. Мне хацелася як мага лепш разгледзець гэту жанчыну. Па сваім адзенні, уменні суцішана размаўляць і слухаць яна нагадвала мне настаўніцу. У той час настаўнікі мясцовай школы кватаравалі ў нас, і я ўжо добра ведала, чым адрозніваюцца яны ад звычайных вясковых людзей. На жанчыне была чорная ў белыя крапінкі сукенка, аздобленая бялюткім каўнерыкам. Ён так прыгожа адцяняў яе твар, цёмныя вочы і гладка зачэсаныя чорныя валасы. Мне здалося тады, што няма нічога прыгажэйшага за такое ўбранне. Потым яны доўга разглядалі посцілкі. Размова паміж імі не сціхала. Але пра што яны гаварылі, я асабліва не ўслухоўвалася. Агата Канстанцінаўна выбрала сабе посцілку. Потым маці пачаставала госцю, загарнула ў паперу кавалак сала і адмовілася ўзяць грошы за посцілку. На гэтым яны шчыра развіталіся.

Толькі праз шмат гадоў, калі я ўпершыню прыйшла ў хату Сергіевічаў, я распазнала ў Агаце Канстанцінаўне тую чароўную жанчыну з майго маленства.

# Пачуццяў і адносін чысціня

Да 1966 года я амаль нічога не ведала пра гэту сям'ю. Праўда, калі вучылася ў школе, чула ад дзяўчат з Ленкаўшчыны, што жыве ў іх вёсцы паэт, які быў нават у турме. У словах іх адчувалася нейкая насцярожлівасць і таемнасць. У нашай сям'і ніколі не было гутаркі пра Сергіевічаў. Толькі пасля знаёмства з Юльянам Іосіфавічам я даведалася ад маці, што ў маладосці яны сябравалі, ладзілі вечарыны, спектаклі. Мая маці мела 4 класы адукацыі польскай школы, актыўна ўдзельнічала ў тэатральных спектаклях, якія ставіў Юльян Іосіфавіч на вясковай сцэне. Захаваўся фотаздымак таго часу, на якім у шляхецкім убранні Юлік і мая маці сярод прыбранай вясковай моладзі.

Да сям'і Сергіевічаў на працягу ўсяго часу людзі адносіліся паважліва-насцярожана. Ніхто не мог сказаць пра іх кепскага слова, бо ў адносінах да ўсіх Сергіевічы былі шчырымі і прыветлівымі, добрымі дарадцамі ў складаных жыццёвых праявах. А вось словы «турма» і «палон» насцярожвалі людзей, незразумела ім было, за што ўсё гэта адбылося з іх аднавяскоўцам: ён жа не краў і нікога не забіў.

Дык вось, панскі двор да 1956 года быў ускраінай вёскі, хат там амаль не было. Але прыйшоў час, калі ўлады пачалі «зганяць» людзей з хутароў у вёскі, узмацняць калгасы. І тады побач з асноўнай вуліцай у нізіне, на ўскраіне на ўзгорках пачалі будавацца хаты. Выраслі вуліцы, завулкі, з'явілася вялікая сажалка. З часам панскі двор быў увесь забудаваны. Пайшла ў патрэбу і чырвоная цэгла панскага маёнтка.

Вярнуўшыся з Караганды ў 1957 годзе, на адной з вуліц пабудавалі сваю хату Юльян Іосіфавіч і Агата Канстанцінаўна. Хата была невялічкай, у адзін пакойчык, прыхожая была адначасова і кухняй, маленькія сенцы. Адкрытая сонцу, на ўзгорку, яна весела паглядала вокнамі на вясковую вуліцу, у поле, на суседні двор. У хаце было ўтульна, цёпла, чысценька. Засяляліся Сергіевічы ў хату вясной. Трэба было засяваць агарод, але ніякага насення ў іх не было. Дапамагалі ім суседзі — Васіль і Ганна Канановічы — бацькі маёй сяброўкі Антаніны. Яны таксама пераехалі з хутара, але ўжо трохі абжыліся на новым месцы. Добрымі сябрамі і суседзямі яны засталіся на ўсё жыццё.

А распачаць жыццё на новым месцы было цяжка. Дзе ўзяць насенне бульбы, не гаворачы ўжо пра астатняе? І вось, каб дапамагчы Сергіевічам, вясковыя жанчыны, садзячы бульбу на калгасным полі, зносілі яе патроху ў кашах у ельнік. Рызыкоўна, але выйсця другога няма.

За гасцінна накрытым сталом мы размаўляем з Антанінай аб жыцці, здароўі, дзецях. Пастукаўшы ў дзверы, зайшла Людміла Васільеўна Русакевіч, пляменніца Юльяна Іосіфавіча, якую паклікала Антаніна па маёй просьбе. У вёсцы яе называюць Лёдзяй, ёй ужо больш за 70 гадоў, прывабная, падобная на свайго дзядзьку, шчырая і адкрытая жанчына. Мяне яна ведае больш, чым я яе, бо яна нікуды не выязджала з вёскі і добра ведае пра нешматлікіх жыхароў бліжэйшых вёсак і іх дзяцей. Вядома, што наша гутарка пераключылася на Сергіевічаў. Лёдзя прынесла невялічкі здымак тых даўніх

часоў, калі яе бацькі былі яшчэ маладымі. Ёсць на тым здымачку і Юльян Іосіфавіч з Агатай Канстанцінаўнай, таксама яшчэ маладыя і ўжо шчаслівыя, бо гэта быў 1959 год, і яны былі ўжо разам у Ленкаўшчыне.

Многа цікавага расказала Людзміла Васільеўна пра вялікую сям'ю Сергіевічаў. Было іх чатыры браты і дзве сястры: Пракоп (1900 г. н.), Васіль (1902 г. н.), Якуб (1907 г. н.), Юлік (1910 г. н.), Ганна (1922 г. н.). Старэйшая за ўсіх сястра Дарына загінула ад рук немцаў у час вайны. На хутары, дзе яны жылі, аднойчы ў лазні мыліся партызаны. Знайшоўся нехта, хто падказаў немцам, і яны з'віліся на двары. Партызанам удалося ўцячы ў лес. А вось жыхароў хутара немцы паставілі пад аўтаматамі ў рад і запалілі хату. Дарына не стрымалася і кінулася да хаты. Услед прагучалі стрэлы. Згарэла і хата, прыйшлося будавацца па-новаму.

Браты Юльяна Іосіфавіча былі працавітымі і таксама таленавітымі людзьмі. І талент гэты быў самабытны, бо вучыцца ўсім не было за што. Юлік, скончыўшы чатыры класы польскай школы, пісаў вершы, складаў песні, прыпеўкі, маляваў карціны, дываны, арганізоўваў з вясковай моладдзю спектаклі. Старэйшы Васіль быў вядомы на ўсю акругу сталяр, мог змайстраваць не толькі мэблю, вокны і дзверы, але і цудоўныя цацкі для дзяцей. Якуб сам зрабіў гармонік, навучыўся на ім іграць, навучыў гэтаму майстэрству і свайго сына Хведара. Нават я памятаю, як нам, вучаніцам Ленкаўскай васьмігодкі, хацелася наладзіць канцэрт, але не было каму падыграць нашы прыдуманыя танцы і песні. Вось мы і хадзілі дэлегацыяй да Хведара прасіць, каб ён нам дапамог, і не чулі ніколі ад яго адмовы. Памяркоўнымі, уважлівымі былі браты ў сям'і і ў адносінах з аднавяскоўцамі. Праўда, крыўдзіліся трохі на Якуба, які быў больш жорсткім і гняўлівым. Дарэчы, і Агата Канстанцінаўна была ў крыўдзе на яго пры сумесным жыцці на хутары. А вось самая малодшая ў сям'і Ганна ў час вялікай Айчыннай вайны пайшла ў партызаны. Была яна не ў мясцовых партызанскіх атрадах, а падалася далей у Налібоцкую пушчу. Ніхто з вяскоўцаў не сказаў ёй дрэннага слова, хоць і напакутаваліся яны за час вайны ад партызанаў. Пасля вайны Ганна вярнулася ў вёску, сышоўшы з цягніка на далёкай станцыі Залессе. Была яна ў ваеннай форме і з маленькім вузельчыкам у руках. З таго часу яе называлі ў вёсцы партызанкай, а па прозвішчу яна Заянкоўская.

Абжыўшыся трохі ў Ленкаўшчыне, Юльян Іосіфавіч і Агата Канстанцінаўна сталі запрашаць да сябе вяскоўцаў у госці. Былі яны не толькі гасціннымі гаспадарамі, але, мабыць, хацелі яшчэ і неяк аддзячыць усім за дапамогу на новым месцы жыцця. Юльян Іосіфавіч быў вясёлым расказчыкам розных гісторый, складаў на хаду вершы, прыпеўкі, да таго ж яшчэ і добра спяваў. Паўсядзённыя з'явы жыцця знаходзілі месца ў яго творчасці.

На той час калгас асушваў пад сенажаці балоты за ракой Вуша, што за Маладзечнам. Ездзілі туды калгаснікі за 30 кіламетраў спачатку на конях, потым на машынах, жылі па тыдню, пагэтаму і гісторый было багата. Ды і з'явай гэта было значнай у жыцці вясковых людзей, асабліва моладзі. Антаніна

прыпомніла радкі з песні на гэту тэму, якую склаў Юльян Іосіфавіч. Здаецца, яны даволі вясёлыя:

Дайце боты гумовыя, новыя,
Каля хаты я іх не нашу.
Заставайцеся дома здаровыя,
Адпраўляюць мяне на Вушу.
Будзем весела ехаць машынаю,
Углядацца уперад, у даль
Дружным хорам з хлапцамі, мужчынамі
Будзем пець пра вішнёвую шаль.

Знаходзіліся ў вёсцы і такія людзі, якія «ўскідвалі на вочы» Юліку, што ён, такі прыгожы і ўдалы, узяў сабе ў жонкі непрыгожую Агатку.

Можа, і крыўдзіўся Юльян Іосіфавіч на гэтыя словы, але, усміхаючыся, адказваў такім «праўдалюбцам»: «Трэба ж некаму і непрыгожых браць замуж». Пасмейваўся, а сам добра ведаў цану незвычайнай прыгажосці сваёй Агаткі. Ведаў пра тое, як яна, недаядаючы сама, збірала кожны кавалачак мяса, сушыла бульбу, цыбулю, часнок, збірала ўсё, што магла, і адпраўляла пасылачкай у далёкую і невядомую ёй Караганду, калі яе Юлічак быў там на пасяленні. Ведаў і пра тое, як доўгія гады чакала яго Агатка з пакутных дарог: то з палону, то з турмы. А як яна, непісьменная, без грошай, не ведаючы свету, дабіралася да яго ў Караганду ў тым далёкім 1956 годзе? Да Масквы яе давезлі знаёмыя людзі, там нейкім чынам пасадзілі ў таварны цягнік, бо грошай на білет у пасажырскім вагоне не было. Так і ехала, хаваючыся: то ў вагоне, то зверху на ім. Вось гэту прыгажосць умеў цаніць Юлік у сваёй Агатцы. А яна, саромеючыся сваёй непісьменнасці, з любоўю і адданасцю глядзела на свайго каханага і не хавала ад людзей свайго жаночага шчасця. І так было ўсё жыццё…

Маё знаёмства з Юльянам Іосіфавічам адбылося 9 мая 1965 года ў час святкавання Дня Перамогі. Каля помніка савецкаму салдату ў нашай вёсцы Клочкава адбыўся ўрачысты мітынг. Потым у клубе быў канцэрт, прысвечаны гэтай падзеі. Перад аднавяскоўцамі я прачытала свой верш «Памятник». На той час я ўжо заканчвала 10-ы клас Маркаўскай сярэдняй школы. Пасля канцэрту да мяне падышоў незнаёмы чалавек, прывітаўся, назваў сябе Юльянам Іосіфавічам. Прыветлівыя, крыху ўсмешлівыя вочы глядзелі на мяне ў нейкім прыхаваным здзіўленні. Гаварыў ён ціха, паважна, на прыгожай беларускай мове, якую нават у вёсцы нельга было пачуць ні тады, ні цяпер. Перш спытаўся, чыя я. Пачуўшы адказ, ён як бы нечаму нават узрадаваўся і папрасіў адысціся ў бок ад натоўпу. З цікавасцю пачаў распытваць, дзе вучуся, пахваліў мяне за выступленне, спытаў, ці напісала я яшчэ што-небудзь. Тактоўна і ў той жа час неяк пакутліва пашкадаваў, што я пішу вершы на рускай мове. «Ведаеш, дзяўчынка, — сказаў ён, — нам цяжка ўзмацніць магутную рускую літаратуру, не ведаючы і не шануючы сваёй, беларускай. Але,

калі захочаш пісаць далей вершы, у цябе будзе час гэта ўсвядоміць. А пакуль што я запрашаю да сябе ў госці цябе і тваю маці. Там і пагаворым». Я вельмі засаромелася і яго слоў, і таго, што на нас звярталі ўвагу людзі, а потым яшчэ дапытваліся ў мяне: «А што ён казаў?»

Па дарозе дамоў, а ісці мне аж на край вёскі, я разважала над тым, што адбылося. У вачах стаяў сярэдняга росту светлавалосы чалавек сталага ўзросту з прыемнай усмешкай на твары. Мяне не пакідаў погляд яго блакітных вачэй, спагадлівы і цёплы. Быццам ён хацеў сказаць нешта такое, што можа абараніць мяне ад жыццёвых нягод, і ў той жа час сумняваўся: бо і сам быў маладым. Калі, развітаўшыся, Юльян Іосіфавіч адышоў, я адзначыла ў яго постаці, хадзе, адзенні чалавека інтэлігентнага, як бы «не тутэйшага», не падобнага на тых людзей, якія жылі побач. Дома я расказала аб усім маці, на што яна адказала, што гэта вельмі добры і разумны чалавек, і параіла абавязкова яго наведаць. А я рашыла, што пайду да яго толькі тады, калі напішу вершы на беларускай мове, бо іначай, здавалася мне, размовы ў нас не адбудзецца. З маці мы не раз вярталіся да гэтай тэмы. Яна расказвала, што гэта чалавек з яе далёкай маладосці. Працаваў настаўнікам у школе, вёў асветніцкую работу сярод моладзі, быў маладым, прыгожым, інтэлігентным і размаўляў заўсёды на беларускай мове. Паказала мне даўні фотаздымак, на якім сярод групы вясковай моладзі былі мая маці і Юльян Іосіфавіч. Расказвала і аб тым, як моладзь ладзіла тэатральныя спектаклі, і амаль да свайго 80-гадовага ўзросту, паставіўшы рукі ў бокі і прыняўшы належны тэатральны выгляд, выконвала ролю балбатлівай суседкі, якая за бясконцымі размовамі ніяк не магла дайсці з вадой дамоў ад студні. Прысутных гэта заўсёды весяліла. А вось пра тое, што Юльян Іосіфавіч быў у зняволенні, я даведалася не ад маці.

Толькі ў канцы лета, калі я ўжо скончыла школу і, не паступіўшы на вучобу ў педагагічнае вучылішча, спрабавала ўладкавацца на працу ў горад Маладзечна, маці рашуча сказала мне: «Пайшлі». Куды, я ўжо ведала, бо не адзін раз яна пытала ў мяне, ці збіраюся я наведаць Юльяна Іосіфавіча. А я нават уявіць сабе не магла, як я прыйду ў іх хату, што скажу. Маці сказала, што мы пойдзем у Высокае да сястры Рэні, а на зваротным шляху зойдзем у госці. Набраўшы пачастункаў, мы пайшлі. Хаты ў Ленкаўшчыне былі пабудаваны блізка каля дарогі, ці, можа, гэта дарогі так пашырaліся, што сталі праходзіць пад вокнамі. Седзячы каля акна за шыццём ці размовамі, людзі пільна сачылі за ўсім, што адбывалася на вуліцы. І як толькі мы параўняліся з хатай Сергіевічаў, гаспадар ужо стаяў каля брамкі. Ветліва павітаўся і спытаў, куды гэта мы ідзём. Маці прызналася, што ідзём мы праведаць іх. Юльян Іосіфавіч, радасна ўсміхнуўшыся, гасцінна расчыніў брамку і запрасіў нас да сябе. Міма пунцовых вяргіняў і іскрыстых настурак мы прайшлі да хаты і падняліся на невысокі ганачак. На ўваходзе ў хату нас сустрэла гаспадыня, Агата Канстанцінаўна, Агатка, як назвала яе маці, і яны кінуліся ў абдымкі. Потым, паказаўшы на мяне, маці сказала, што я яе дачка. Іскрысты погляд, цёплая ўсмешка, гладка зачэсаныя валасы і белы каўнерык! (гэта ён

10 гадоў назад так паланіў мяне сваёй прыгажосцю) нагадалі мне жанчыну, якая прыходзіла да нас. Гэта ўзрадавала мяне. Мы працягнулі насустрач рукі і абняліся.

Далей нас запрасілі ў пакойчык, маленькі, чысценькі, утульны. Размовы вяліся аб надвор'і, гаспадарцы, аб знаёмых людзях. Потым жанчыны пайшлі на кухню, там забразгалі талеркі, нажы.

Калі мы засталіся ў пакоі адны, я неяк адразу сумелася пад поглядам уважлівых блакітных вачэй. Каб не маўчаць далей, я працягнула Юльяну Іосіфавічу лісткі са сваімі вершамі і затаілася ў куточку канапы. Я і тады ведала, якімі былі кволымі мае першыя вершы, але Юльян Іосіфавіч пахваліў мяне за шчырасць верша «Людзі мае харошыя», адзначыў нейкія ўдалыя радкі ў другіх вершах і папрасіў пакінуць іх у сябе. А тут і гаспадыня падаспела са сваімі пачастункамі, і размова набыла другі кірунак.

З таго часу я была частай госцяй у гэтым гасцінным доме, асабліва летам. Як і раней, мне падабалася дарога ў Ленкаўшчыну, хоць не было ўжо векавых дубоў і панскага бруку, затое ў галаве было многа думак і спадзяванняў на далейшае жыццё, і думкі гэтыя былі чыстыя і ўзнёслыя, як само неба над галавой. Часам мы сядзелі ўтраіх на прыступках ганачка, размаўлялі, дзяліліся навінамі ад мінулай сустрэчы. Пад вокнамі хаты цвілі кветкі, там жа спелі трускаўкі, якімі мы тут жа частаваліся, на двары хадзілі куры. З усёй гаспадаркі ў Сергіевічаў былі агарод, куры ды кабанчык. Карову яны не трымалі, бо не мелі здароўя назапасіць на зіму сена. Малако прыносілі суседзі, часам пляменнікі, якія жылі ў вёсцы. Юльян Іосіфавіч, як і ўсе вяскоўцы, павінен быў хадзіць на працу ў калгас. Па стану здароўя ён не мог быць у перадавіках, а вось мінімум працадзён ад яго патрабавалі ўлады. Часта заходзіў да іх пляменнік Іван Сергіевіч, які працаваў тут брыгадзірам, і, выпіўшы чарку, наказваў на працу.

У тыя дні, калі Юльян Іосіфавіч не хадзіў на працу ў калгас, займаўся хатняй гаспадаркай. Усё ў яго было ў парадку: двор, платы, агароджы, невялікі хлеў, склеп, — на ўсім быў след гаспадарлівасці і руплівасці. Кожнай вясной фарбавалі вокны і дзверы сваёй хаты, уваходную брамку. Усё гэта надавала святочнасць і гасціннасць будынку. На ўсім, чым займаўся Юльян Іосіфавіч, — адбітак мастацкага таленту. Вось у пакоі над ложкам вісіць дыван: у вячэрнім паўзмроку лясное возера, дзе плаваюць лебедзі. У прыхожай на ўсю сцяну мастацкае палатно ў раме, на ім жытнёвае поле і Янка з касой ды Алёна з сярпом. А які каліграфічны быў почырк! Якія экслібрысы ствараў Юльян Іосіфавіч! Як беражліва трымаў ён у руках кнігу, як асцярожна перагортваў старонкі часопісаў, з якой інтанацыяй чытаў вершы сваіх любімых паэтаў! Усё было незвычайным у гэтым чалавеку. Бывала, прыйшоўшы нечакана да іх (тэлефонаў тады не было), я заставала яго за сталом з кнігай у руках. Збянтэжаны, ён падымаўся мне насустрач у ватніку на плячах, у такіх жа ватных штанах, адзеты па-сялянску, але ў паглядзе, у постаці было столькі інтэлігентнасці і абаяльнасці, што збянтэжанай была я, а не ён.

Аднойчы Антаніна ўспомніла расказ бацькі аб прыездзе Я. Брыля ў Ленкаўшчыну. У бяседзе за сталом, куды заўсёды запрашаліся суседзі, пайшла размова пра палон. Янка Брыль прыпомніў, як таварышы па палону часам рабілі заўвагі Юльяну Іосіфавічу на празмернае старанне ў працы на нямецкіх гаспадароў, на што Сергіевіч з пачуццём вінаватасці і годнасці адказваў: «Мяне так бацька навучыў рабіць».

## Юнацтва светлага прыступкі

Юльян Іосіфавіч ніколі не называў сябе паэтам. Часцей расказваў пра іншых, узяўшы ў рукі літаратурны часопіс. Ад яго я даведалася пра Ларысу Геніюш, з якой аб'яднаў яго лёс на чужыне, чытаў яе лісты, шкадаваў, што ў яе дрэннае здароўе, перачытваў вершы. Слухала я і пра Янку Брыля, з якім яны разам былі ў палоне ў Нямеччыне, пра тое, як быў напісаны раман «Птушкі і гнёзды», хто з'яўляецца прататыпамі яго асноўных герояў. Узорам грамадзянскасці для Юльяна Іосіфавіча быў Пятро Бітэль, складанае жыццё якога прымаў блізка да сэрца. Былі ў Сергіевічаў сваякі і ў далёкай Аўстраліі, адкуль яны атрымлівалі пісьмы, а часам і пасылкі.

Ад Юльяна Іосіфавіча пачула я ўпершыню пра Міколу Ермаловіча і Генадзя Каханоўскага, якія ў далейшым сталі для мяне добрымі дарадцамі ў стаўленні да жыцця, людзей, паэзіі. Складана было на той час мне, 16-гадовай вясковай дзяўчыне, знайсці самастойна сваё месца ў жыцці. А вельмі хацелася вучыцца, хацелася ажыццявіць мару дзяцінства — стаць настаўніцай. Бацькі, занятыя вясковымі справамі, ні вучобай, ні працаўладкаваннем маім не займаліся, і я зразумела, што трэба старацца самой. Памятаю, як з неадольнай настойлівасцю я шукала сабе прыватную кватэру ў горадзе. Брала вуліцу «на лясных» і заходзіла з хаты ў хату. І так не адзін дзень. Усё ж знайшлася добрая душа Галіна Іванаўна, у якой былі свае дзве дачкі амаль майго ўзросту, выслухала мяне, пашкадавала і ўзяла на кватэру. З такой жа настойлівасцю я ўладкавалася і на працу на швейную фабрыку № 1, хоць і была яшчэ непаўналетняй.

І вось аднойчы, прачытаўшы аб'яву ў газеце «Святло камунізму» і набраўшыся смеласці, я пераступіла парог рэдакцыі, каб прысутнічаць на пасяджэнні літаб'яднання «Купалінка». Там пазнаёмілася з паэтамі Маладзечаншчыны. Старэйшымі ў «Купалінцы» былі Уладзімір Зянько, Яўген Кашкан, Марат Баскін, Вячаслаў Шнуркевіч, Янка Галубовіч. Часам наведваўся на пасяджэнне Вячаслаў Ляшковіч, сакратар райкама партыі. Пазней я ўжо ведала, хто такія Генадзь Каханоўскі і Мікола Ермаловіч. Па іх адносінах да мяне я адчула добрую руку і цёплае слова Юльяна Іосіфавіча. Жыццё маё набыло новы змястоўны сэнс. А колькі было радасці, калі ў газеце з'явіліся мае першыя вершы! «Купалінка» была добрай школай па мастацкаму выхаванню і ўзрошчванню маладых паэтаў. Мы вучыліся абмяркоўваць вершы, разумець паэтычнае слова, вобразна думаць, любіць беларускую мову. Мы

часта выступалі ў школах горада і раёна, на прадпрыемствах, у інтэрнатах. Памятаю, як ездзілі нават у Вільню на свята літаратуры. Вядома, што галоўная заслуга ў гэтым была Міколы Іванавіча Ермаловіча. Ён патрабаваў ад аўтараў гістарычнай праўдзівасці, мастацкай выразнасці, чысціні беларускай мовы. Думкі свае выказваў дасведчана і пераканаўча. Хударлявы твар, доўгія прамыя валасы, акуляры з тоўстымі шкельцамі, за якімі не было відаць выразу вачэй, надавалі яму выгляд чалавека ўпартага і бескампраміснага. Я заўсёды гублялася перад ім, разумеючы сваю неадукаванасць, жыццёвую няўпэўненасць. Сустракаючы на вуліцы, калі ён ішоў, апусціўшы галаву, і, не звяртаючы ўвагі на людзей, размахваў рукамі і размаўляў сам з сабой, я не асмельвалася нават павітацца з ім.

Толькі паступіўшы ва ўніверсітэт на філалагічны факультэт, я пасмела ўзняць на яго вочы. Цяпер нам было аб чым пагаварыць. Ён добра ведаў выкладчыкаў філфака. Дзякуючы Міколу Іванавічу ўжо на першым курсе я пазнаёмілася з Нілам Гілевічам, ён выкладаў у нас курс па народнай творчасці. Разам са мной вучыліся Галіна Каржанеўская, Леанід Якубовіч, я была знаёма з Таццянай Дзмітрусёвай, Алесем Разанавым, Вольгай Іпатавай. Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага памятаю маладым і няўрымслівым. Прыемнае і нешта няўлоўнае было ў яго аблічча. Смяшлівы, поўны даверу позірк, такая ж шчырая ўсмешка. Гаварыў хутка і многа. Здавалася, ён заўсёды некуды спяшаўся. Ён цікавіўся творчасцю маладых паэтаў Маладзечаншчыны, абмяркоўваў іх творы, выказваў слушныя заўвагі, але ў канцы размовы па ім было відаць, што яго ўжо чакаюць новыя справы, сустрэчы, падзеі. Яго добра ведалі ў настаўніцкім асяроддзі горада і раёна, ён часта бываў у школах, пытаўся пра патрэбных яму людзей, цікавіўся школьнымі музеямі, гістарычнымі звесткамі. Размаўляў толькі на беларускай мове. Жыццярадасны і няўрымслівы, у вачах некаторых людзей ён выглядаў дзіваком.

І Генадзь Каханоўскі, і Мікола Ермаловіч былі частымі і жаданымі гасцямі ў Сергіевічаў.

Хацелася б мне тут расказаць яшчэ пра адну значную падзею з майго жыцця. У 1967 годзе я паступіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У.І. Леніна на філалагічны факультэт завочнага аддзялення (не хапіла бала на дзённае). З фабрыкі я звольнілася яшчэ да паступлення на вучобу. Дык вось, Мікола Іванавіч Ермаловіч павёў мяне па восені да загадчыка райана Мікалая Іванавіча Козела ўладкоўваць на працу. Ужо добра давяраючы свайму настаўніку, хоць і вельмі хвалюючыся, я пайшла ў аддзел адукацыі. Не ведаю, як і пра што гаварылі ў кабінеце два цёзкі. Потым паклікалі мяне, пасадзілі за стол, далі ліст паперы і ручку. Загадчык райана загадаў пісаць і прадыктаваў надта доўгі і вельмі складаны сказ з паэмы Я. Коласа «Новая зямля». Я павінна была даць характарыстыку сказу, разабраць яго па членах сказа і г. д. Я хвалявалася вельмі, але з заданнем справілася. Потым яшчэ адказвала на іншыя пытанні. Загадчык аб'явіў, што накіроўвае мяне працаваць у Самальскую васьмігодку настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Так здзейснілася мая мара, і я, дзякуючы гэтым добрым людзям,

стала настаўніцай. Вядома, што гэтай навіной я паспяшалася падзяліцца з Юльянам Іосіфавічам. Мне здалося, што адносіцца да мяне з таго часу ён стаў як да дарослай. Практыкі і належных ведаў у настаўніцкай працы ў мяне яшчэ не было, але была шчырая любоў да дзяцей і жаданне быць ім патрэбнай. А вобраз Лабановіча з трылогіі Я. Коласа «На ростанях» быў самым галоўным прыкладам служэння справе асветы (даруйце за пафас, але гэта так). За 10 гадоў мне давялося працаваць настаўніцай Граніцкай пачатковай школы, выкладчыцай мовы і літаратуры Лебедзеўскай сярэдняй і Ленкаўскай васьмігадовай школы, намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце Выверскай сярэдняй школы.

З 1978 года я працавала на адміністрацыйнай пасадзе Маладзечанскага гарвыканкама, а з 1985 года на той жа пасадзе загадчыка гарадскога аддзела культуры на далёкай Поўначы. У апошнія 10 гадоў я зноў вярнулася на настаўніцкую працу.

Усё жыццё мне шчасціла на сустрэчу з добрымі людзьмі, дзе б і кім бы я ні працавала. І за ўсё гэта я шчыра дзякую Богу і маім добрым настаўнікам, якія на пачатку жыццёвага шляху дапамаглі мне выбраць правільныя арыенціры ў жыцці, навучылі любіць і паважаць людзей працы, цаніць і берагчы роднае слова і нашу Бацькаўшчыну.

Гасціннасць дому Сергіевічаў мяне часам здзіўляла і ўражвала, а было што і весяліла. Мая маці часта хадзіла каля іх хаты да дачкі ў Высокае. Заўсёды занятая справамі, яна подбегам спяшалася з узгорку, на якім стаяла хата, спадзеючыся, што яе не заўважылі. Але, калі вярталася назад, Юлік ужо выглядаў яе каля брамкі і настойліва запрашаў зайсці ў хату. Аднойчы я чула паміж імі такую гаворку: «Чаму, як ішла ў апошні раз, не зайшла да нас?» — пытаецца Юлік. «Вельмі ж спяшалася, часу не было», — вінавата адказвае маці. «Другі раз я выйду аж на дарогу і злаўлю», — не здаецца гаспадар. «А я ўцяку» — бароніцца маці. «А я палку вазьму», — заліваецца смехам Юлік.

Мае наведванні Юльяна Іосіфавіча таксама не абышліся без вясковых дасведчанняў. Пайшлі размовы, што я, мабыць, дачка яго, бо і вершы пішу, і знешняе падабенства пачалі знаходзіць у нас. Гэтая навіна неяк збянтэжыла мяне, і я доўгі час не ведала, як сябе паводзіць пры сустрэчы з Сергіевічамі, нейкі час нават перастала наведваць іх. Бацьку свайго, добрага і клапатлівага чалавека, я вельмі любіла, а ў маці саромелася аб гэтым запытацца. Магчыма, што і Юльян Іосіфавіч заўважыў некаторыя змены ў маіх адносінах да яго. Аднойчы ён сказаў, што ведае аб вясковых размовах і што ганарыўся б, калі б гэта было праўдай, але, на жаль, у пару майго нараджэння быў далёка ад родных мясцін. Прайшлі дзесяцігоддзі, але калі я і цяпер, ужо ў сталым узросце бываю ў Ленкаўшчыне, людзі маладзейшага ўзросту пытаюцца ў мяне: «А можа, ты і праўда дачка Юліка?» І самі смяюцца са свайго запытання.

Непакоіла Юльяна Іосіфавіча жыццё многіх вяскоўцаў: іх бездухоўнасць, абыякавасць, зласлівасць, п’янства і брыдкаслоўе. З жалем гаварыў ён пра свайго пляменніка брыгадзіра Івана і яго жонку настаўніцу Веру Васільеўну,

якіх, з яго слоў, хвалюе толькі матэрыяльны дабрабыт, ды і ў чарку часта сталі заглядваць.

Была яшчэ адна пляменніца Соня, майго ўзросту, дачка Ганны-партызанкі, якая часта наведвалася да свайго дзядзькі. Жылі яны з маці ў Юраўшчыне. Ганна на гэты час ужо любіла выпіць, потым да гэтага занятку далучылася і Соня. І вось адбылося здарэнне, якое папсавала адносіны Юльяна Іосіфавіча са сваёй раднёй. На той час у яго было ўжо нямала маіх вершаў, якія друкаваліся ў газетах «Святло камунізму», «Мінская праўда». Аднойчы Юльян Іосіфавіч паказаў мне рукапісны зборнік маіх вершаў з адзнакай «Першая кніга паэта». Незвычайна прыгожым почыркам былі выпісаны вершы. У пачатку кніжкі змясціў мой фотаздымак, які папрасіў мяне прынесці, не кажучы для чаго. Была і прадмова з характарыстыкай мастацкіх вартасцяў маіх вершаў і выказваннем надзеі на маю літаратурную будучыню. Акрамя таго, кніжка была аздоблена прыгожымі малюнкамі. Сапраўдны літаратурны зборнік! Для мяне гэта было прыемнай нечаканасцю. Радавалася са мной і Агата Канстанцінаўна, бо на яе вачах ствараўся гэты цуд, і нават прачытала на памяць радкі з майго верша пра зімовы вечар. Я падышла да іх і пацалавала, бо не ведала, як справіцца са сваімі пачуццямі. Мне здаваліся яны самымі блізкімі і роднымі людзьмі. Ды і яны, расчуліўшыся, сталі хаваць свае вочы.

Кніжку мне Юльян Іосіфавіч не аддаў, сказаў, што захавае яе для краязнаўчага музея. Атрымалася так, што свой зборнік я трымала ў руках адзін толькі раз. Падзяліўся Юльян Іосіфавіч навіной з суседзямі, паказаў, у прыклад Соні, пасля чаго кніжка знікла. Соня нейкім чынам выкрала яе, знесла дамоў. І як потым дзядзька ні прасіў вярнуць яе ў любым стане, нічога не атрымалася. Відаць, ужо тады лёс вызначыў, што не быць мне паэткай.

Я любіла гэтых добрых, шчырых людзей. Ішла да іх заўсёды з добрым настроем, несла з сабой пачастункі і абавязкова новыя вершы. Я адчувала на сабе іх бацькоўскі клопат у тым, як яны мяне сустракалі, як цікавіліся маім жыццём, як Юльян Іосіфавіч праводзіў мяне на ўскрай вёскі. Я добра ведала, што мяне тут заўсёды чакаюць, «у душы схаваўшы нецярпення боль». Дзяцей сваіх, на жаль, у іх не было. Але Агата Канстанцінаўна часта нахвальвала свайго пляменніка з Беразінскага Сяргея, які працаваў у калгасе механізатарам. Напэўна, ён і сапраўды быў такім чалавекам, якім характарызавала яго Агата Канстанцінаўна, бо свой век, ужо без Юлічка, яна дажывала ў пляменніка. І вось, калі мы з ёй гатавалі абед на кухні, Агата Канстанцінаўна расказвала пра яго і шэптам казала, што вельмі хацела б нас пазнаёміць. «Але Юлічак і слухаць не хоча і злуецца пры гэтым, кажа, што куды ён прыйшоў да яе», — з сумам заканчвала яна гутарку. Мяне ж весяліла гэта размова, бо я была маладая і ні аб чым сур'ёзным яшчэ не думала.

Ні аб чым гэтым я не думала да 22 гадоў, пакуль маці аднойчы з нейкім адчаем сказала, што мае аднагодкі, хоць і невучоныя, даўно замуж выйшлі, а я… Пакрыўдзілі тады мяне матчыны словы і прымусілі агледзецца наўкол. У мяне была любімая настаўніцкая праца, дзеці, якім я аддавала многа вольнага часу, вучоба ва ўніверсітэце, многа чытала, нешта пісала, мела многа

сяброў. Жыццё мне здавалася цікавым і змястоўным. Былі і прапановы выйсці замуж. І вось на 22-м годзе жыцця я зусім выпадкова пазнаёмілася з Валерыем Асіповічам. Нашы вёскі знаходзіліся на адлегласці ўсяго ў 2 кіламетры, але за лесам, і мы не ведалі раней адно аднаго. І сустрэліся ў гэтым самым лесе: ён па дарозе да сваякоў з Вуглянаў у Ленкаўшчыну, а я — на аўтобус у Маладзечна. Вясной сустрэліся, а ў жніўні ўжо пажаніліся. Дык вось Юльян Іосіфавіч і Агата Канстанцінаўна прынялі нейкім чынам свой удзел сватанні мяне за Асіповіча. Маці Валерыя Алена Міхайлаўна (у вёсцы яе клікалі Гэлькай) вельмі занепакоілася, калі сын абвясціў аб жаданні жаніцца. Дык і было чаго. На той час сям'я Асіповічаў блізка сябравала з сям'ёй Палонскіх, якія жылі ў Беніцы. Палонскі быў старшынёй мясцовага калгаса. У старшыні была дачка, якая заканчвала сярэднюю школу. Бацькі мелі намер пажаніць дзяцей, забяспечыць ім добрую будучыню. А тут — я. У дзень, калі Валерый ішоў да маіх бацькоў прасіць маёй рукі, Алена Міхайлаўна не стрывала і пайшла ў нашу вёску да сваёй радні, каб распытацца пра мяне. У гэты час Юльян Іосіфавіч з Агатай Канстанцінаўнай накіроўваліся ў Беніцу па нейкіх сваіх справах. На дарозе яны і сустрэліся. Алена Міхайлаўна расказала, па якой неадкладнай справе яна спяшаецца ў нашу вёску. Вось тут Сергіевічы і далі волю сваім пачуццям, нахвальваючы мяне. У дадатак Агата Канстанцінаўна сказала яшчэ і тое, што вельмі хацела, каб яе пляменнік і я пажаніліся. Гэтыя словы адразу насцярожылі маці Валерыя. «А чаму ж не ажаніўся пляменнік?» — спытала яна. Тут ужо, дакорліва глянуўшы на жонку, стаў тлумачыць Юльян Іосіфавіч. Нічога дрэннага не пачула Алена Міхайлаўна пра мяне і ад сваёй радні. Але і сам Палонскі, і маці пачалі адгаворваць Валерыя ад жаніцьбы, бо, відаць па ўсім, вельмі хацелася сем'ям парадніцца. Праўда, даведалася я аб гэтым значна пазней. На зваротным шляху Сергіевічы зайшлі да нас і расказалі аб сустрэчы з Аленай Міхайлаўнай.

У жніўні адбылося вяселле. Ганаровымі гасцямі былі Юльян Іосіфавіч і Агата Канстанцінаўна. Многа добрых слоў сказалі яны нам у сваім вершаваным віншаванні. Але, на жаль, ніякія словы не ўратавалі наша сумеснае з Асіповічам жыццё. Праўда, нейкі час мы з задавальненнем прыходзілі ў Ленкаўшчыну ўдваіх, а калі нарадзіўся сыночак, то і ўтраіх. Нас лічылі добрай прыгожай парай, але жыццё не склалася.

## Апошняя сустрэча

У 1974 годзе пачалася падпіска на Беларускую Савецкую Энцыклапедыю ў 12 тамах. Выданне яе пачалося рэдакцыйнай калегіяй Акадэміі навук БССР у 1969 годзе і скончылася ў 1975 годзе. Галоўны рэдактар — народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка. Пачуўшы аб гэтым выданні, Юльян Іосіфавіч папрасіў мяне падпісацца на яго імя. Падпіску прымала маладзечанская кнігарня. Я ў той час ужо жыла (праўда, на кватэры) у горадзе Маладзечна, працавала намеснікам дырэктара па выхаваўчай рабоце ў Вы-

верскай сярэдняй школе і мела магчымасць часцей наведвацца ў кніжныя лаўкі. Я атрымлівала кожны том энцыклапедыі і прыносіла дамоў Юльяну Іосіфавічу. Не магло не ўразіць мяне тое, з якой цікавасцю і любоўю браў ён у рукі кожны том выдання: доўга аглядаў вокладку, разгладжваў рукамі першыя кніжныя лісты, па-дзіцячаму ўсміхаўся, нават узважваў на руцэ і задаволена клаў на стол. Я магла толькі здагадацца, колькі шчаслівых гадзін правёў Юльян Іосіфавіч за вывучэннем, знаёмствам, чытаннем гэтага выдання. І не мог ён не выказаць свае адносіны на гэту з'яву ў культурным жыцці роднай Беларусі. У сёмым томе энцыклапедыі сваім незвычайна прыгожым почыркам ён напісаў верш, прысвечаны Петрусю Броўку, «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» ад 16 чэрвеня 1974 г.

Ці можа вышэй што ўзняцца
Між кніжных падзей,
Як гэта шматтомная праца
Нястомных людзей?..
Хто возьме яе, пагартае —
Адчуе ў руках
Культуры радзімага краю
Шырокі размах.
Хоць я і не ёсць якім знатным,
Аднак нешта варт,
Таму што стараннем прыўзнятым
Здабыў гэты скарб.
Змяшчаецца тут усё гэта,
Чым я ганарусь:
Навука, культура, прасвета
Твая, Беларусь
А з часам, мяне як не будзе,
Схаваюць гады,
Я веру — цудоўныя людзі
Заглянуць сюды.
І вечнасці нашай аснова
Услужыць для тых,
Каму беларускае слова —
Святое з святых.

Чым быў для Юльяна Іосіфавіча ў апошнія гады яго жыцця гэты калектыўны твор «нястомных людзей», сведчаць радкі гэтага самага верша:

Калі я дзе-небудзь бываю,
Штось вабіць дамоў,
Дзе энцыклапедыю маю,
Дванаццаць тамоў.

Як яшчэ мог выказаць сваю любоў да роднага краю гэты незвычайна прыгожы, сціплы чалавек! Словы, думкі, дзеянні — усё табе, Радзіма. Ты толькі памятай свайго сына.

А я дзякую лёсу за тое, што Юльян Іосіфавіч з Агатай Канстанцінаўнай сустрэўся на маім жыццёвым шляху і ў мае тады маладыя гады сваім нялёгкім жыццём, ціхім словам паказаў, як можна і як павінна служыць свайму народу і Бацькаўшчыне ва ўсе часы, не чакаючы за гэта ніякай падзякі.

Павінна я распавядаць і пра тое, што аднойчы, калі ў Юльяна Іосіфавіча назбіралася ўжо больш за палову тамоў энцыклапедыі, ён дастаў з палічкі першы том і адгарнуўшы першую старонку, даў мне прачытаць. Там было напісана: «Кніга гэта і ўсе наступныя тамы энцыклапедыі пасля мяне пераходзяць ва ўласнасць Галіны Уладзіміраўны Асіповіч. Вёска Ленкаўшчына Юльян Сергіевіч 18 студзеня 1974 г.». Тэкст быў упрыгожаны экслібрысам «З кніг Галіны Асіповіч» і малюнкамі: пад сярпом жытнёвыя каласы і васількі.

Я была ўсхвалявана, узрушана, не знаходзіла слоў, каб выказаць свае адносіны да падзеі. Але тады я зразумела, чаму Юльян Іосіфавіч, калі я прыносіла тамы энцыклапедыі, імкнуўся абавязкова і неадкладна са мной за іх разлічыцца і ніколі не згаджаўся з тым, што я не хацела браць грошы.

Энцыклапедыю я атрымала з рук Агаты Канстанцінаўны пры наведанні яе ўжо пасля смерці Юльяна Іосіфавіча. У глыбокай самоце мы перагортвалі з ёй лісты энцыклапедыі, дзе, здавалася, яшчэ блукалі думкі дарагога нам Юльяна Іосіфавіча.

Восенню 1976 года я наведала Юльяна Іосіфавіча ў бальніцы ў пас. Беразінскае. Неяк за сваімі ўласнымі клопатамі, звязанымі з нашым з Асіповічам сямейным разладам вясной гэтага года, я ўпусціла момант, калі Юльян Іосіфавіч стаў зусім дрэнна сябе адчуваць. Гады зняволення, знясільваючая праца, складаныя ўмовы жыцця — усё гэта прывяло да працяглай і цяжкай хваробы. Ён часта звяртаўся да дактароў, і ўсё неяк абыходзілася. А тут… Я прыйшла ў бальніцу асенняй сумнай парой. Такія ж сумныя бясколерныя калідоры бальніцы. У палаце Юльян Іосіфавіч знаходзіўся адзін. Ён быў вельмі ўзрушаны маім прыходам, што і мне надало хвалявання. Ён ляжаў у ложку, а ўгледзеўшы мяне, хуценька падхапіўся, ускінуў здзіўлена і разам з тым збянтэжана свае вочы. На маё прывітанне адказаў з вінаватай усмешкай і са шкадаваннем, што я прыйшла сюды да яго, калі ён такі нямоглы. У мяне забалела сэрца ад таго, што ён, знаходзячыся ў такім цяжкім стане, лічыць сябе вінаватым перад намі, здаровымі, за тое, што прымушае нас непакоіцца.

«Вы прыйшлі да мяне, хоць не вельмі хацеў я таго, каб нікчэмны мой выгляд наводзіў на сум, на тугу», — піша ён у развітальным вершы «Маім наведвальнікам у бальніцы» (1976).

Потым Юльян Іосіфавіч крыху супакоіўся, стаў расказваць, як ідзе лячэнне, не прамінуў сказаць, якія добрыя, уважлівыя тут дактары. Распытаў і пра мае сямейныя справы, шчыра паспачуваў, выказаў надзею на лепшае. Хоць і пакідала я Юльяна Іосіфавіча ў вялікім засмучэнні, але ніяк не думала,

што бачу яго жывым у апошні раз. Чаму? Чаму такі прыгожы, такі ўтульны для ўсіх чалавек павінен сысці раней часу ў магілу? Праз некалькі дзён мы яго ўжо хавалі. Быў пахмурны восеньскі дзень. Але калі вынеслі з хаты труну і накіраваліся да могілкаў, з-за хмар развітальна выглянула сонца, а потым сыпануў сонечны дожджык. Сонца свяціла да таго часу, пакуль мы не пахавалі Юльяна Іосіфавіча на могілках недалёка ад вёскі. На пахаванні былі вяскоўцы і родныя Сергіевічаў.

Цяжка было глядзець на Агату Канстанцінаўну. Сухія вочы (пэўна, выплакала ўсё за развітальную ночку), поўныя непрыхаванага болю, неадрыўна глядзелі на Юлічка. Яна пяшчотна гладзіла яго валасы, рукі, папраўляла каўнерык і прасіла чакаць яе, быццам не ён, а яна адпраўлялася ў далёкую дарогу.

Пахавалі — значыцца схавалі
Ад людзей, ад сонца, ад жыццёвых скрух
Васільковы позірк, спадзяванняў хвалі
І цяпло стамлёных скрыжаваных рук.

Разышліся людзі. Апусцела хатка,
Слёзы адзіноты новы дзень прынёс.
Перад абразамі кленчыла Агатка
І прасіла літасці ціха у нябёс.

І ляцелі словы у бясконцасць, вечнасць
(Зоркі гэтак любяць вышыню!).
І чакаць, як свята, апошнюю сустрэчу,
Зноў чакаць… Ці ж ёй упершыню?

*Тамара Бярэзіна*

# РАДАВОД ПЯТРА БІТЭЛЯ

Звесткі пра продкаў, якія дайшлі да майго дзеда Бітэля Пятра Іванавіча ад яго бабулі і бацькі, ён занатаваў. Карыстаючыся яго запісамі, можна вярнуцца ў часе ў першую палову XIX стагоддзя.

У вёсцы Круглая Вішнеўскай воласці жыла сям'я Адашкевічаў. Зямлі было мала, хлеба на ўвесь год не хапала, дык старэйшыя з дзяцей ішлі ў падпаскі, наймаліся на працу да багацейшых суседзяў, а падросшы, адбывалі прыгон на Вішнеўскім жалезаліцейным заводзе, а пасля яго ліквідацыі — на фермах і палях графа Храптовіча. Да адной з дачок Адашкевічаў Ганны (прыблізна 1823 г. н.) пасватаўся Язэп Бітэль (прыблізна 1820 — 1855) з вёскі Бомбалы, якая знаходзіцца паміж вёскай Сакаўшчына і Слайкоўскім лесам, недалёка ад дарогі Вішнева–Валожын. Язэп Бітэль паходзіў з сям'і прыгонных вішнеўскага пана.

Жыхары в. Бомбалы круглы год працавалі на нарыхтоўцы дроў для завода або капалі і грузілі ў параконныя скрыні балотную руду. Язэп Бітэль і Ганна Адашкевіч пажаніліся каля 1845 года (прадзед і прабабка Пятра Іванавіча Біталя). Сумеснае іх жыццё працягвалася не больш за 10 гадоў. За гэты час у іх нарадзіліся два сыны — Сымон (каля 1847 г.) і Францішак (каля 1850 г.).

Прыблізна ў 1855 годзе Язэп трагічна загінуў у лесе. Яго «забіла дрэвам». Удава Язэпа Ганна з двума сынамі вярнулася ў родную вёску Круглая да сваіх бацькоў. Сыны Сымон і Францішак, падросшы, былі падпаскамі, а пасля адмены паншчыны пачалі наймацца на розныя работы да людзей. Зямлі ў іх не было. Праз некаторы час Сымон і Францішак асвоілі спецыяльнасць цесляроў і хадзілі па вёсках, наймаючыся на працу. Жылі яны ў хаце тых гаспадароў, якім ладзілі тую ці іншую будыніну. Зрэдку наведваліся да маці, аднак хутка зноў ішлі на некалькі тыдняў, а то і месяцаў, у людзі. Ад цяжкай працы і дрэннага харчавання малодшы брат Францішак захварэў на сухоты і памёр, пражыўшы не больш за 32 гады. У той жа час (каля 1882 г.) памерла і іх маці.

Сымон застаўся зусім адзін. Пачаў заглядаць у чарку. Жаніцца не хацеў, бо, прывыкшы да вольнага жыцця, баяўся гэту волю страціць. Тым часам гады ішлі. Сымону было ўжо каля сарака гадоў, а ён не меў ні сям'і, ні сталага месца жыхарства. Трэба было падумаць аб нейкім прыстанішчы на старасць. Не маючы ні граша за душой, з вопраткі толькі тое, што на сабе, а з маёмасці — сякеру за поясам, заставалася толькі пайсці ў прымы. Аднойчы ў Вішневе на кірмашы яму паказалі прыгожую маладую ўдаву Алену Краскоўскую з вёскі Люташ. Яна Сымону вельмі спадабалася. Пазнаёміліся. У хуткім часе ўзялі шлюб. Гэта адбылося восенню 1886 года. Сымон стаў мужам Алены (яе ў хаце звалі Алюта) і айчымам яе чацвярых дзяцей. Старэйшаму дзіцяці было дзевяць гадоў, а малодшаму два. А праз два гады, 11 верасня 1888 года, у

іх нарадзіўся сын Іван, а па-хатняму звалі Ясем, Ясечкам. Гэта быў бацька Пятра Іванавіча Бітэля.

Новы гаспадар, Сымон Бітэль, з першых дзён энергічна прыступіў да працы. Ён быў больш майстравым, чым земляробам, дык у першую чаргу ўзяўся за будынкі. За кароткі час паправіў гумно, паставіў новы свіран, накрыў хлеў і паветку, дабудаваў да сяней камору і святліцу — хата павялічылася ледзь не ўдвая, — выкапаў і вымураваў студню. Горш ішлі земляробчыя справы. Запушчаная і слаба ўгноеная зямля ледзь вяртала насенне. З вялікімі цяжкасцямі ўдалося выменяць каня на маладзейшага. За нейкія тры гады гаспадарка значна ўзмацнела, аднак канцы з канцамі зводзіць было цяжка, і Сымон пачаў усё часцей адлучацца з хаты на заробкі.

Яго ведалі як добрага сумленнага майстра і ахвотна запрашалі на цяслярку, заробленыя грошы былі значным падспор'ем у гаспадарцы. Аднак Сымон зноў пачаў выпіваць. На заўвагі жонкі адказваў грубым словам, лаянкай. У сям'і пайшоў разлад.

Падраслі пасынкі. Сталі дапамагаць па гаспадарцы. Сымон, вярнуўшыся з чарговых заробкаў, знаходзіў не свае парадкі і пачынаў гневацца, што тое не так і іншае не гэтак. Пасынкі баяліся яго, а ў меру падрастання іх боязь перайшла ў нянавісць. Сымон пачуўся чужым і вельмі адзінокім. Яму хацелася пайсці з сям'і назаўсёды, але ў яго быў сын Ясечка, якога ён вельмі любіў. Дзеля сына Сымон жыў, працаваў і вяртаўся ў сям'ю. Ён заўсёды прыносіў Ясечку гасцінца. Раней ён прыносіў гасцінцы ўсім дзецям і жонцы, але пасля іх выступленняў супроць яго сваім застаўся толькі Ясечка. Праз гэта старэйшыя браты і сёстры Ясечку неўзлюбілі.

Сымон быў вельмі працавіты чалавек і здольны майстра. А яшчэ ён замаўляў ваду ад розных хваробаў, а асабліва ад пярэпалахаў. Апрача таго ён адным сваім позіркам мог затрымаць кроў з раны як у жывёлы, так і ў чалавека. Вось пра які выпадак расказваў яго сын Ясечка:

«Аднойчы зімой бацька нешта майстраваў у хаце. Я, як заўсёды, круціўся ля яго. Было мне тады гадоў 8–9. Калі бацька адвярнуўся, я ўзяў у рукі яго вострую сякеру і, не разлічыўшы цяжару, апусціў яе сабе на босую нагу. Кроў свіснула аж на сцяну і на столь. Я вельмі спалохаўся і схапіўся за рану рукамі. Але бацька сказаў:

— Пусці!

Я глянуў на яго знізу ўверх і трымаўся за нагу. Ён паўтарыў:

— Пусці, не бойся. Не пойдзе кроў.

Я адпусціў пальцы, і з-пад іх адкрылася глыбокая ружовая рана. Кроў не паказалася. Бацька загадаў маці заліць мне рану тапалёўкай (пупышкі топаля, залітыя спіртам) і завязаць чыстай кужэльнай анучкай. Рана хутка загаілася». Былі і іншыя выпадкі затрымання ім крыві, пра якія расказвалі многа і доўга аднавяскоўцы і знаёмыя.

Калі Ясечка пайшоў у школу, то праявіў здольнасці да вучобы. Пасля заканчэння народнага вучылішча яму хацелася вучыцца далей. Бацькі ўладкавалі яго ў двухкласнае вучылішча, дзе ён правучыўся дзве зімы.

У той час у Барунах была праваслаўная духоўная школа, якая рыхтавала выкладчыкаў закона Божага. Двухкласнае вучылішча існавала пры ёй як навучальная ўстанова некалькі павышанага тыпу, у якой студэнты праходзілі сваю педагагічную практыку. Закончыўшы гэта вучылішча, Ясечка таксама працаваў дзве зімы настаўнікам школы граматы ў вёсках Няровы і Адамова.

Пасля гэтага ён спрабаваў уладкавацца пісарам да міравога суддзі ў воласць, але не быў прыняты, нарэшце стаў учотчыкам пры пабудове чыгункі на адрэзку Гародзькі (цяпер ст. Валожын) — Багданава.

Ва ўзросце каля 20 гадоў ён уладкаваўся ў Вішнеўскай пошце перш вартаўніком, а пазней паштальёнам. У начальніка Вішнеўскай пошты ў той час служыла ў якасці хатняй работніцы і няньki маладая дзяўчына родам з в. Зноскі Гальшанскай воласці. Яна звалася Міхаліна Адамаўна Данілевіч. Пазнаёміўшыся з ёй, праз некаторы час Ясечка сказаў маці, што намервaецца ажаніцца. Маці і Ясечкавы сёстры былі супраць, бо Міхалінка была круглая сірата, непісьменная бедная служанка.

У чэрвені 1911 года Ясечку перавялі на становішча паштальёна ў мястэчка Радунь Лідскага павета. Так-сяк уладкаваўшыся на новым месцы, ён забраў да сябе Міхалінку, і ў жніўні 1911 года адбыўся іх шлюб. Вянчаліся ў лідскім праваслаўным саборы, прычым Міхалінка засталася пры сваёй, рымска-каталіцкай веры. Да шлюбу ездзілі на паштовых конях, на вяселлі нікога са сваякоў не было. Прысутнічалі толькі Ясечкавы калегі па працы. Пасядзелі вечар і разышліся. Так адбылося вяселле бацькоў Пятра Іванавіча Бітэля.

Маці Пятра Іванавіча Міхаліна была на год маладзейшая за свайго мужа. Яна нарадзілася ў вялікай сям'і. Яе маці памерла, калі дзяўчынцы было ўсяго 3 гады, а бацька Адам памёр ў 1898 годзе, калі Міхалінцы было 9 гадоў. Спачатку Міхалінка са сваёй старэйшай сястрой Каралінай жылі пры сям'і свайго брата. Падросшы, яна стала пастушкай. Пазней была служанкай. Караліна даведалася, што ў Багданаве пану Рушчыцу патрэбна на работу на кухні дзяўчына. Яна парэкамендавала сваю сястру Міхаліну. Яе прынялі. У доме Рушчыцаў Міхаліна працавала 4 гады. На святы і канікулы прыязджаў да сваіх бацькоў паніч, здаецца з Пецярбурга, дзе вучыўся. Дома яго звалі Эрня. Яна бачыла паніча мімалётна некалькі разоў, але нічога канкрэтнага сказаць пра яго не магла. Ці гэта быў той самы будучы мастак Фердынанд Рушчыц, яна не ведала. За час службы ў Рушчыцаў Міхаліна вырасла, і ёй захацелася знайсці больш паважную і лепш аплатную работу. Яна нанялася за служанку да начальніка Вішнеўскай пошты Паджунаса. Тут яна нянчыла двое малых дзяцей і рабіла ўсё неабходнае ў хатняй гаспадарцы. Работу ў Паджунасаў яна ўспамінала як не вельмі цяжкую. Тут, у Вішневе, яна пазнаёмілася з Ясечкам, за якога пасля і выйшла замуж. У тым жа 1911 годзе восенню памёр бацька Ясечкі, Сымон.

*Уладзімір Прыхач*

# СЛЯДАМІ СЛАВУТЫХ ПРОДКАЎ

## Ігнат Дварчанін на Смаргоншчыне

З цягам часу не перастаеш здзіўляцца, колькі вядомых людзей так ці інакш пакінулі свой след у нашым краі. І невядома, як бы склаўся ў далейшым іх лёс, калі б яны не мелі на некаторы час дачынення да Смаргоншчыны.

Імя ўраджэнца Дзятлаўшчыны, знанага дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху за незалежнасць і ўз'яднанне Беларусі ў 30-я гады ХХ стагоддзя, педагога і навукоўца, публіцыста і выдаўца, доктара філасофіі Ігната Дварчаніна (1895–1937) ушанавана на яго малой радзіме. На роднай хаце ў вёсцы Погіры ўсталявана мемарыяльная дошка, у Дзятлаве ўзвышаецца помнік гэтай яркай і мужнай асобе, а землякі ладзяць разнастайныя мерапрыемствы прысвечаныя яго памяці. Перавыдадзена дысертацыя І. Дварчаніна, якая была абаронена ім у 1926 годзе ў сценах Карлава ўніверсітэта ў Празе і якая з'явілася першым у беларускім літаратуразнаўстве даследаваннем пра дзейнасць Францыска Скарыны.

Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры ў 1995 годзе выдала грунтоўны, на 300 старонак, гісторыка-біяграфічны нарыс пра Ігната Сымонавіча Дварчаніна, дзе і знаходзяцца цікавыя звесткі для смаргонцаў. У нарысе згаданы той факт, што пасля заканчэння 1-й Арыенбаўмскай школы прапаршчыкаў ён восенню 1916 года быў накіраваны на Заходні фронт у 43-і Сібірскі стралковы полк. З іншых крыніц стала вядома аб тым, што дадзенае вайсковае фарміраванне ўваходзіла ў 11-ю Сібірскую стралковую дывізію 38-га армейскага корпуса 10-й рускай арміі і займала пазіцыі на крэўскіх вышынях. Калі больш дакладна, то прыкрывала фронт ад крэўскай царквы да мясцовага гарадзішча, што і пацвердзілі звесткі з Расійскага ваенна-гістарычнага архіва. Менавіта пра гэтыя ці блізкія да іх мясціны, пра ваенныя гаротныя падзеі ён узгадвае ў сваім вершы «У часы вайны», калі піша наступныя радкі:

Там, дзе жыў народ шчасліва,  
Сёлы і мястэчкі  
Цвілі, цветам красавалі, —  
Там… крыві там рэчкі.  
Там, дзе нівы, збожжа, жыта  
Душачку ласкалі, —  
Там пустэльня, розны быльнік,  
Там равы паўсталі.

З аўтабіяграфіі І. Дварчаніна вынікае, што на крэўскім участку фронту ён знаходзіўся да ліпеня 1917 года. Тут адначасова працягваў вывучэнне нямецкай мовы і іншых прадметаў за курс сярэдняй школы. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года яму быў нададзены чын падпаручніка. Разумеючы неабходнасць самаарганізацыі беларусаў на ўсіх франтах Першай сусветнай вайны, ён прымае актыўны ўдзел у стварэнні гуртка беларусаў-вайскоўцаў у сваім палку. Як прадстаўнік такога гуртка Ігнат Дварчанін удзельнічае ў з’ездах беларускіх вайскоўцаў Заходняга фронту. З яго ўдзелам 21–23 ліпеня 1917 года прайшоў з’езд беларускіх нацыянальных арганізацый і партый. Большасць дэпутатаў выказалася за палітычную аўтаномію Беларусі ў складзе Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі і выразіла пратэст супраць прэтэнзій Польскай дзяржаўнай рады на беларускія землі. Гэты прадстаўнічы форум абраў Цэнтральную Беларускую Раду, якая ўзначаліла беларускі нацыянальны рух. Ігнат Дварчанін уваходзіць у створанае з’ездам арганізацыйнае бюро беларусаў-вайскоўцаў і таму застаецца ў Мінску.

Адначасова са з’ездам на крэўска-суцькаўскіх пазіцыях адбываецца вядомае ліпеньскае 1917 года наступленне рускай арміі. Сёння становіцца часткова зразумелым, чаму яно не мела поспеху. Пасля выпрабавальнай пазіцыйнай вайны людзей больш хвалява́ў хутчэйшы мір, спакойнае жыццё ва ўласным нацыянальным доме, і таму салдаты не падтрымалі наступленне, чакаючы звестак пра рашэнні з’езда.

Адным з галоўных вынікаў Першай сусветнай вайны стаў той факт, што нашыя землякі, пайшоўшы ў войска ці выправіўшыся ў бежанства проста насельнікамі тутэйшых зямель, вярнуліся пасля выпрабаванняў дахаты свядомым беларускім народам. Дзейнасць Ігната Дварчаніна ў руху абуджэння самасвядомасці нацыі адыграла не апошнюю ролю. А закладвалася гэтая дзейнасць у крэўскім кутку Смаргоншчыны.

## Уладальнік маёнтка Абадзішча

Імя аднаго з лідараў грамадска-культурнага руху мусульман першай паловы XX стагоддзя, выдаўца і пісьменніка Леона Крычынскага добра вядома ў суседняй Польшчы, Азербайджане. Яго прозвішчам названы татарскі культурны цэнтр у Гданьску, адной з мэт якога ёсць знаёмства з багатымі традыцыямі шматвяковай татарскай культуры. Смаргонцам таксама варта бліжэй пазнаёміцца з некаторымі фактамі біяграфіі гэтай асобы, бо працяглы час лёс Л. Крычынскага быў звязаны з нашым краем.

Пасля пабудовы напрыканцы XIX стагоддзя сядзібы ў Абадзішчах летні час ён праводзіць менавіта ў гэтым бацькоўскім маёнтку, а пасля смерці бацькі, генерал-лейтэнанта расійскага войска Канстанціна Крычынскага, становіцца яго гаспадаром. Станіслаў Радван ва ўспамінах, прысвечаных Леону і надрукаваных у першым томе «Татарскага штогадовіка» 1932 года выдання, вобразна распавядаў пра гэтую мясціну наступным чынам. «Каля


*Леон Крычынскі*

збегу дарог, якія вядуць з ціхіх ходзькаўскіх Барун на Валожын, а з Багданава на Ластаю і з Ластаі на Даўбучкі, ўзносіцца двор «з дрэва, на падмурку» — Абадзішча: пільны татарскі табар. Пагорак, на якім стаіць двор, аплывае рэчка-пяснярка з хуткім крынічным цячэннем: Ластайка, працякаючая паміж адвечных мусульманскіх Ластаёў. Яе празрыстыя пырскі вады засумавалі па татарскіх каралеўскіх харугвах і шляхецкіх улусах. Каля поля застылі ў літоўскай, бязмернай меланхоліі зялёныя размоклыя лугі і жоўтыя сцерні пад вялізарным блакітным небам. Над дарогамі нерухома вісяць каралавыя гірлянды калін. Зямля маўклівая і неразгаданая, багатая і гасцінная: колькі народаў — столькі вер, колькі вер — столькі сусветаў. Недалёка ад мусульманскага двара стаіць чорны прыдарожны крыж, які пастаўлены мусульманінам на магіле загінуўшых у 1812 годзе французаў». Шмат цікавых звестак пра мясціну і наваколлі змясціў сам Леон Крычынскі ў сваёй працы 1930 года «Ластайскія ўладанні». Па сённяшні дзень кніга з'яўляецца каштоўнай крыніцай па гісторыі гэтай старонкі бацькаўшчыны, служыць прыкладам, як трэба рыхтаваць летапісы родных паселішчаў.

Жыццёвы шлях Леона Крычынскага пачаўся ў Вільні, дзе 25 верасня 1887 года ён нарадзіўся ў сям'і Канстанціна Крычынскага і Марыі з Ахматовічаў. Навучанне распачаў у першай Віленскай мужчынскай гімназіі, прадоўжыў у гімназіі Смаленска. У 1911 годзе абараніў дыплом на факультэце права Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта. У студэнцкія гады становіцца актыўным сябрам гуртка мусульманскіх студэнтаў. З 1912 года жыве і працуе ў Варшаве. Пасля ўзнікнення ў 1913 годзе Таварыства дапамогі бедным мусульманам становіцца яго сакратаром. У гэты час распачынае працу над «Бібліяграфічнымі матэрыяламі пра татар Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны», якая ў 1917 годзе была надрукавана ў Петраградзе. Гэта была вялікая праца, у якую ўключаны 239 назваў кніг пра літоўскіх татар і 11 рукапісаў. У час Першай сусветнай вайны пасля пагрозы акупацыі нямецкай арміяй заходніх ускраін Расіі ён перабіраецца ў расійскую сталіцу. З'яўляючыся сакратаром Цэнтральнага камітэта згуртавання татар Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны, Л. Крычынскі ў другой палове 1917 года выбіраецца кіраўніком Петраградскага клуба мусульман. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён, як і многія іншыя нацыянальныя дзеячы, быў вымушаны пакінуць Петраград. У 1918 годзе пераехаў на поўдзень Расіі, дзе прымае актыўны ўдзел у нацыянальным руху крымскіх татар і азербайджанцаў. Выконвае ў 1918–1919 гадах абавязкі загадчыка канцылярыі прэм'ер-міністра Крымскай рэспублікі, а ў 1919–1920 гадах быў дырэктарам канцылярыі азербайджанскага ўрада і рэдактарам асноўных урадавых дакументаў. Займаючыся тут дзяржаўнай і палітычнай дзейнасцю, ён не пакідае сваю навуковую працу па вывучэнні мусульман-




*Вокладка працы «Ластайскія ўладанні»*

скай мінуўшчыны гэтых краін. У 1920 годзе вярнуўся ў Вільню, дзе атрымаў пасаду суддзі.

Леон Крычынскі ў 1929 годзе быў абраны ў Цэнтральную Раду культурна-асветніцкага згуртавання Польшчы. У гэтым жа годзе арганізаваў народны Татарскі музей, а праз год стаў кіраўніком створанага пры ім архіва. Пры яго ўдзеле папаўняецца рэдкімі выданнямі бібліятэка Віленскага аддзела згуртавання татар. У 1932 годзе Крычынскі становіцца сябрам Польскага таварыства ўсходазнаўцаў, тады ж выдаецца першы том часопіса «Татарскі штогадовік». Як галоўны рэдактар выдання, ён вялікую ўвагу надае асвятленню ў ім гісторыка-культурнай спадчыны татарскіх насельнікаў краю, друкуе ўласныя грунтоўныя даследаванні, рознабаковыя старадаўнія дакументы, прыцягвае да супрацоўніцтва вядомых усходазнаўцаў. Яго працы таксама друкуюцца ў шматлікіх перыядычных выданнях міжваеннай Польшчы.

Падарожжы 1932 года ў Турцыю і 1934 года ў Марока далі яму багаты матэрыял для публікацыі артыкулаў пра польскіх мусульман і жыццё аднаверцаў у замежжы. За вялікія арганізацыйныя намаганні і ўклад у развіццё міжнацыянальнага супрацоўніцтва Леон Крычынскі быў адзначаны Залатым Крыжом заслугі, мараканскім афіцэрскім ордэнам, а ў 1936 годзе Польская Акадэмія літаратуры ўзнагародзіла яго Срэбным Акадэмічным лаўрам.

З 1932 па 1935 год працаваў віцэ-кіраўніком акружнога суда ў Замосці, а потым у судовай установе Гдыні. Адразу пасля пачатку Другой сусветнай вайны, у верасні 1939 года, Л. Крычынскі быў арыштаваны гестапа ў сувязі з тым, што, працуючы суддзёй у Гдыні, вёў справы супраць гітлераўскіх дыверсантаў. Пасля кароткатэрміновага знаходжання ў лагеры і гданьскай турме быў забіты ў Пясніцах каля Венгерова ў канцы 1939 ці пачатку 1940 года.

Не вытрымаў выпрабаванняў часу і радавы маёнтак Абадзішчы. У пасляваенны час сядзібны дом быў спачатку перавезены ў Карлаўшчыну каля Гальшан на патрэбы створанага там дзіцячага дома, а пасля закрыцця гэтай установы быў разабраны і перастаў існаваць. Не захаваліся да нашых дзён гаспадарчыя пабудовы маёнтка, іх у 70-я гады мінулага стагоддзя перавезлі ў іншыя месцы, не стала драўлянага крыжа на пахаваннях французскіх салдат. Толькі аднайменны тапонім, які выкарыстоўваюць мясцовыя жыхары таго кутка крэўскай старонкі, сёння нагадвае аб былой мясціне роду Крычынскіх.

# Сядзіба Шафнагеляў у Кушлянах



*Казімір Шафнагель*

Актуальным быў ва ўсе часы і не страціў значэння сёння ўжываны ў Старажытным Рыме выраз: «Заўсёды паважай сляды мінулага!». Захаваныя з даўніны матэрыяльныя прыкметы паказваюць шлях у тыя часы, калі ў нашым краі віравала непаўторнае і самабытнае жыццё. Яно ўжо ніколі не вернецца, але назаўсёды застанецца ў нашай свядомасці, а гэта значыць — будзе ўплываць на будучае.

Да такіх нязвыклых слядоў мінуўшчыны адносяцца ў прамым і пераносным сэнсе чатырнаццаць прыступак мураванай лесвіцы ў цэнтры вёскі Кушляны. Куды яны вялі і якую тайну захоўваюць? Невялікая жменька фактаў з пісьмовых крыніц і ўспамінаў старажылаў гэтай мясцовасці могуць сёння крыху асвятліць гісторыю існавання на гэтым месцы цікавага помніка архітэктуры і жыццяпіс апошніх яго ўладальнікаў.

Як распавядае ў першым томе надрукаванай у 1896 годзе краязнаўчай працы «Ашмянскі павет» Чэслаў Янкоўскі: «На ўсход ад Жупран ляжыць вялікі абшар зямлі, які здаўна носіць назву Кушляны. Быў ён калісьці і застаўся раздробленым на пэўную колькасць самастойных зямельных уладанняў, дакладнае размежаванне якіх празмерна абцяжарана агульнай назвай Кушляны. Дастаткова сказаць, што яшчэ сёння на прыгаданым кавалку зямлі маем размешчаныя побач: Кушляны, што знаходзяцца цяпер ва ўладанні Казіміра Шафнагеля і яго жонкі Марыі з Сулістроўскіх; Кушляны — Даргішкі ці Веркеляны, уласнасць Грынеўскага; Кушляны Ясевіча, Кушляны Багушэвіча…»

Паколькі паважаны даследчык спасылаўся ў сваёй працы на К. Шафнагеля, які прадставіў вядомыя яму матэрыялы і такім чынам дапамог у напісанні кнігі, таму некаторыя факты з гісторыі папярэдніх кушлянскіх уладальнікаў Сулістроўскіх не пазбаўлены цікавасці і для нас. Пасля 1833 года адкупіў гэтую частку Кушлян ад Яна Заблоцкага Ёзаф Сулістроўскі (1798–1849). Паходзіў ён з маладзечанскіх Палачанаў, у 1829 годзе ажаніўся з Эльжбетай Саракінаўнай, а ў 1834 годзе быў абраны маршалкам Ашмянскага павета. Яго сын Канстанцін Сулістроўскі, 1829 года нараджэння, абраў за рэзідэнцыю згаданную кушлянскую мясціну. Быў ён жанаты з Канстанцыяй Прашынскай, і адзіная іх дачка Марыя выйшла замуж за Казіміра Шафнагеля.



*Малюнак Ніказы Падбярэзкага, 1896 г.*



*Нямецкая паштоўка, 1915 год. Аўтар Альфрэд Кухлевінд*

Першы вядомы малюнак з выявай сядзібы датуецца 1896 годам і пададзены ў працы краязнаўца. Яго выканаў мастак і архітэктар, выпускнік Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў, удзельнік шматлікіх архітэктурных конкурсаў і мастацкіх выстаў Ніказы Леанардавіч Падбярэзкі (1874–1953). Сядзіба Шафнагеля ўяўляла на той час аднапавярховы прамавугольны ў плане мураваны будынак. Стаяў ён на высокім бутавым цокалі са скошанымі вугламі і быў накрыты двухсхільным вальмавым дахам з ацынкаванай бляхі. Цэнтральны галоўны фасад вылучаў манументальны чатырохкалонны порцік з трохвугольным франтонам і парадным ганкам. Да ўвахода вяла з чатырнаццаці прыступкаў лесвіца, каля падэшвы якой па баках узвышаліся дзве масіўныя прамавугольныя калоны. Перад ганкам была разбіта маляўнічая клумба, завершаная жвіравай дарожкай. Сцены пабудовы былі атынкаваныя і расчлянёныя вузкімі прамавугольнымі з сандрыкамі аконнымі праёмамі. Помнік сядзібна-паркавай архітэктуры ў той час уключаў акрамя сядзібы іншыя жыллёвыя і гаспадарчыя пабудовы, пейзажны парк і сад, бровар і вадзяны млын.

Як адзначыў у час напісання сваёй працы аўтар «Ашмянскага павета», пастаянна жыў у Кушлянах і ўзорна кіраваў гаспадаркай Казімір Шафнагель. Нарадзіўся ён у Бярдычаве Кіеўскай губерні 3 сакавіка 1858 года (па іншых звестках, у 1856 годзе). Яго бацька Максімілян быў вядомым купцом і банкірам у тым жа Бярдычаве, але за ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў быў сасланы ў Сібір, дзе і памёр. Род Шафнагеляў меў нямецкае паходжанне, сам К. Шафнагель неаднойчы ўжываў тытул барона. Іх прозвішча перакладалася з нямецкай мовы як «той, хто вырабляе цвікі». Па заканчэнні рэальнай гімназіі ў Варшаве малады Казімір з 1875 па 1880 год набывае веды на хімічным факультэце Палітэхнікі ў Рызе. Гэтая навучальная ўстанова з нямецкай мовай навучання вызначалася высокім узроўнем ведаў, і таму сюды з'язджалася значная колькасць навучэнцаў Паўночна-Заходняга краю. У 1879 годзе малады студэнт Шафнагель уваходзіць у склад першага прэзідыума створанага акадэмічнага студэнцкага згуртавання «Арконія». На старонках «Віленскага дзённіка» ў 1906 годзе пабачылі свет яго ўспаміны «Пачаткі «Арконіі», якія распавядалі пра гісторыю



*Сучасны выгляд прыступкаў сядзібы. Фота Уладзіміра Багданава*

стварэння згуртавання і дзе К. Шафнагель прывёў свае някепскія спробы вершаскладання часоў маладосці. Пасля заканчэння навучальнай установы з 1882 па 1885 год ён удзельнічае ў экспедыцыях па вывучэнню мхоў у розных кутках краю. Праўдападобна, што ў гэты час К. Шафнагель наведвае Кушляншчыну, знаёміцца і пасля звязвае свой лёс з Марыяй Сулістроўскай.



*Сучасны выгляд прыступкаў сядзібы. Фота Уладзіміра Прыхача*

Напачатку XX стагоддзя ўвесь абшар маёнтка Кушляны з фальваркамі Гайдзі, Марымонты, Прыдарожжа, Рудзішкі, пасяленнем Біржаны і сядзібай Рудзішкі налічвае каля 900 дзесяцін зямлі. Новы гаспадар арганізоўвае тут землекарыстанне па новых тэхналогіях, актыўна выкарыстоўвае для гэтага магчымасці торфу. Казімір Шафнагель стаяў ля вытокаў арганізаванага ў 1907 годзе Таварыства сяброў навук у Вільні. У 1908 годзе выдавецтвам гэтага таварыства была надрукавана яго кніга «Запіскі брыёлагічныя». Гэта была першая навуковая праца, якую выдалі напачатку новага стагоддзя, пасля таго як раней была закрыта віленская навуковая кнігарня Ажэшкі. Як паведамляў у адным са сваіх нумароў «Віленскі кур’ер» за 1908 год, К. Шафнагель ахвяраваў музею Таварыства сяброў навук патэнт на чын паручніка польскага войска на пергаменце за подпісамі цара Аляксандра I і вялікага князя Канстанціна, розныя прывілеі, шляхецкія і ўніверсітэцкія дыпломы, кнігу рукапісаў і 240 манет розных краін. Перад Першай сусветнай вайной Казіміру Шафнагелю належыць у Вільні камяніца пад нумарам 6 па вуліцы Антокальскай.

Падзеі вайны 1915–1918 гадоў не абмінулі кушлянскі маёнтак. У яго сценах з першых дзён ваенных дзеянняў на Смаргоншчыне арганізуецца палявы лазарэт. Выдадзеная ў 1915 годзе ў Берліне паштоўка паказвае на фоне сядзібнага дома адзін з эпізодаў жыцця той пары. У панскім садзе ствараецца могільнік памерлых у шпіталі нямецкіх салдат. Пры ўзбуйненні вайсковых могільнікаў у 30-я гады XX стагоддзя рэшткі пахаваных тут салдат перазахавалі каля сядзібы Багушэвіча. Дзве вымураваныя вайскоўцамі 10-га нямецкага армейскага корпуса каменныя калоны ў садзе маёнтка захаваліся да сённяшняга часу і нагадваюць аб тых трагічных падзеях.

У 1917–1918 гадах К. Шафнагель вызначыўся як грамадска-палітычны дзеяч. Пры яго ўдзеле ствараецца арганізацыя «Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі». У лістападзе 1917 года ў некалькіх нумарах газеты «Гоман» друкуецца зварот «Да нашай краёвай інтэлігенцыі», дзе Шафнагель сцвярджаў, што без дапамогі краёвай інтэлігенцыі не будзе выкарыстаны рэальны шанс пабудовы ўласнай беларускай дзяржавы. Ён уваходзіць у склад Беларускай рады ў Вільні, якая была абрана на беларускай канферэнцыі 25–27 студзеня 1918 года. З гэтага ж года знаны прыродазнаўца прымае ўдзел у

працы віленскага Беларускага навуковага таварыства. На жаль, пасля 1919 года Казімір Максімілянавіч адыходзіць ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў беларускім руху і пераязджае ў Варшаву. Па настроях яго дзяцей бачна, што родныя ў далейшым не падтрымалі працэс фарміравання краёвай беларускай ідэі, а пайшлі па шляху станаўлення польскай нацыянальнай ідэалогіі Ю. Пілсудскага. У 1921 годзе К. Шафнагель вяртаецца ў Кушляны, дзе і памірае 13 сакавіка 1923 года. Пахавалі ўладальніка маёнтка на мясцовым могільніку.

Пасля смерці Казіміра Шафнагеля яго спадчына была падзелена паміж яго трыма сынамі. Старэйшы сын Ян, які быў жанаты з Зосяй Ясевіч, атрымаў маёнтак у Рудзішках. Сярэдняму сыну Анатолю належаў маёнтак дзесьці на Ашмяншчыне. Аднак, не моцна трымаючыся спадчынных уладанняў, гэтыя сыны праз некаторы час пазбавіліся іх, і далейшы іх лёс нам пакуль невядомы. Мясцовыя кушлянскія жыхары больш памятаюць апошняга ўладальніка кушлянскага двара, самага малодшага сына Генрыка. Але яшчэ больш успамінаюць яго жонку Яўгенію Сняжко-Шафнагель (1898–1981). Нарадзілася будучая гаспадыня Кушлян у Кельцах. Пасля заканчэння ў 1916 годзе школы танца ў Варшаве яна працавала ў тэатрах Любліна, Радомля, Варшавы, Каліша і Вільні. Пасля шлюбу з Генрыкам Шафнагелем у 1926 годзе пераязджае ў Кушляны. Дапамагаючы Генрыку ў вядзенні гаспадаркі, Я. Сняжко-Шафнагель стварае для парабкаў і службы лепшыя ўмовы жыцця і працы ў маёнтку. У летні перыяд гэтую мясціну наведваюць шматлікія госці і віленская польскамоўная інтэлігенцыя. Па ўспамінах жыхароў, Яўгенія карысталася выключна польскай мовай і прымушала на ёй гаварыць усіх яе гасцей і прыслугу. Па даных перапісу ад 9 снежня 1931 года, маёнтак складаўся з 7 жылых пабудоў і пастаянна пражывала ў ім 69 чалавек. У міжваенны час каля сядзібы і жылых хат для парабкаў месціліся разнастайныя гаспадарчыя пабудовы: лядоўня, свірны, кароўнік, свінарнік, канюшня, майстэрня... Млын на рацэ Сікуне быў перададзены арандатару. На падворку знаходзілася студня, але вада для ўласных патрэб была прывазной.



*Выгляд магілы Казіміра Шафнагеля ў Кушлянах*

Каб пазбегнуць рэпрэсій, пасля верасня 1939 года Шафнагелі пераязджаюць у Вільню. У сядзібным доме ў гэты час працуе беларуская школа, сельскі Савет, клуб і пошта. Адзін пакой быў адведзены для школьнай настаўніцы. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Генрык Шафнагель вяртвецца зноў у Кушля-

ны, але ўжо не ў якасці гападара. Тут ён жыў да 1944 года, калі з сядзібы былі выдалены літоўскі паліцэйскі гарнізон, а сама сядзіба за некалькі тыдняў да вызвалення Смаргоншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў была спалена. Пасля загаду НКУС СССР ад 13 студзеня 1945 года ў пабудовах маёнтка быў сфарміраваны дарожна-будаўнічы батальён з нямецкіх ваеннапалонных. Мясцовыя старажылы адзначаюць вялікую смяротнасць сярод іх. Хавалі памерлых у вялікіх брацкіх магілах адразу за пабудовамі. Ацалелыя пасля пажару сцены сядзібы ў пасляваенны час былі разабраны для гаспадарчых патрэб і пабудоў. У 80-я гады XX стагоддзя ў Кушлянах адбылася спроба рэанавацыі захаваўшайся часткі былога маёнтка. Над цокальнай часткай сядзібы была абсталявана летняя танцпляцоўка, у іншай пабудове запрацавала кафэ, былі планы пабудовы спартыўнага комплексу, але паступова ўсё прыйшло ў заняпад.

Апошнія кушлянскія гаспадары пасля 1944 года назаўсёды пакідаюць Кушляны, пераязджаюць спачатку ў Вільню, а потым у Ольштын. Яўгенія Сняжко-Шафнагель вяртаецца на сцэну. У мясцовым тэатры ёю былі сыграны 113 роляў, у большасці — першага плана. Вызначылася яна не толькі як актрыса, тэатральны рэжысёр, але і як дзеяч па адбудове гэтага польскага горада. Свой апошні зямны прытулак гаспадары Кушлян знайшлі ў Ольштыне. У 1983 годзе ў друкарні «Паазер’е» выйшла кніга пад назвай «Свет Яўгеніі Сняжко-Шафнагель». У тутэйшым музеі захоўваюцца некалькі фотаздымкаў кушлянскага маёнтка і ўспаміны пра міжваеннае жыццё ў ім. Як бачна, па сённяшні дзень сляды пра ўзгаданы помнік і ўладальнікаў раскіданы па розных мясцінах і ўстановах. Нам патрэбна толькі іх своечасова заўважыць і працягнуць далейшае вывучэнне.

# Сольскія мясціны Чэслава Янкоўскага



*Чэслаў Янкоўскі*

Кожны зацікаўлены сваёй спадчынай чалавек у пошуку звестак пра родныя мясціны і іх уладальнікаў абавязкова звяртаецца да манаграфіі «Ашмянскі павет» Чэслава Янкоўскага. Пад вокладкамі гэтага чатырохтомніка быў сабраны і захоўваецца для нашчадкаў сапраўдны скарб у выглядзе гісторый амаль па ўсіх значных паселішчах нашага краю.

Трэба адзначыць, што на старонкі выдадзеных з 1896 па 1900 год кніг трапілі толькі тыя мясціны сучаснага раёна, якія адносіліся да былога Ашмянскага павета. А гэта — левабярэжная ад Вяллі частка Смаргоншчыны. Так, у першым томе ўзгадваюцца наваколлі Кушлян, Сол, Баніфацава, Рачун, Суцькава, татарскія аколіцы Даўбучак. Другі том прысвечаны Ластаі, Залессю і старажытнаму Крэву. Знаходзяцца цікавыя звесткі пра Смаргонь і яе ўладальнікаў


POWIAT OSZMIAŃSKI.

MATERJAŁY DO DZIEJÓW ZIEMI I LUDZI

ZEBRAŁ I WYDAŁ

CZESŁAW JANKOWSKI

CZĘŚĆ PIERWSZA.

PETERSBURG

KSIĘGARNIA K. GRENDYSZYŃSKIEGO

KRAKÓW — G. GEBETHNER I SPÓŁKA

*Манаграфія Чэслава Янкоўскага «Ашмянскі павет»*

у трэцім томе манаграфіі. Заключная, чацвёртая частка працы ўтрымлівае звесткі пра ўладальнікаў Мысы, радавод Крычынскіх, грунтоўны паказчых асоб і мясцін па ўсіх тамах «Ашмянскага павета». У даследаванні сустракаецца цікавы ілюстраваны матэрыял пра выгляд нашых сядзіб і касцёлаў, даўбучскай мячэці і Крэўскага замка.

Напэўна, у першую чаргу ўвагу Чэслава Янкоўскага прыцягнула захаваўшаяся на той момант багатая на значныя падзеі і вядомых людзей мінуўшчына Смаргонскага кутка павета. У прадмове да першага тома аўтар зазначыў: «Пісаў не дзеля дагаджэння ўласных амбіцый, мудрагелістасці ці няўласных дамаганняў, прыцягнуў да цяперашняй працы надзвычай мізэрныя сілы і здольнасці.(…) Здавалася мне пазітыўнай справай уратаваць ад астатняга знішчэння некалькі фактаў, дат і імён, якія захаваліся на пергаментах і бібліятэчных картках. Калі пільна праглядаў многія рарытэты, дзе-нідзе старанна схаваныя, але найчасцей закінутыя дзесьці пад стрэхі і ў аплеснявелыя скрыні, уваскрэслі перад маімі вачамі старадаўнія і налічваючыя некалькі стагоддзяў падзеі таго шматка зямлі, абмежаванага дахам, пад якім нараджаліся мае дзяды і я сам на гэты свет з'явіўся». Больш уважлівае прачытанне ўсяго даследавання прывяло да яшчэ адной цікавай высновы. Радавыя карэнні па матчынай лініі паважанага краязнаўца былі звязаны з нашым краем, і таму ён пажадаў захаваць гэты факт для гісторыі.



*Ч. Янкоўскі ў сталым узросце*

Вядома, што Чэслаў Томаш Ігнацы Янкоўскі нарадзіўся ў бацькавым маёнтку Паляны паблізу Ашмян у ноч з 8 на 9 снежня 1857 года ў сям'і Караля Янкоўскага і Ванды з Беніслаўскіх. Прасачыўшы радавод маці пісьменніка, можна даведацца, што яе прадзеды непарыўна з 1665 па 1810 год валодалі Соламі. А дзед — дэпутат да галоўнага літоўскага суда, ашмянскі земскі і межавы суддзя, ашмянскі харунжы Ёзаф Пазняк з 1804 года валодаў Баніфацавам, вёскамі Снігяны, Завозерцы, засценкамі Дэгісі, Жоўты Пясок і Пераходы, млыном і ставам у Снігянах, возерам Рыжае і адпаведнымі корчмамі. У гісторыю ён увайшоў яшчэ і з той нагоды, што стаў апошнім з роду

Пазнякоў у Сольскай старонцы краю, бо яго дзве дачкі Канстанцыя і Ганна пасля шлюбаў сталі Свянціцкай і Беніслаўскай. Дачцэ Ганне, па мужу Беніслаўскай, пераходзіць пасля смерці Ёзафа Пазняка маёнтак Баніфацава, і цалкам верагодна нараджэнне тут маці краязнаўца Ванды. Гэтую думку маглі б пацвердзіць ці абвергнуць архіўныя дакументы, датычныя роду Пазнякоў, якія знаходзіліся ва ўласным карыстанні і захоўваліся ў даследчыка. Але, на жаль, лёс іх пакуль невядомы.



*Барэльеф Ч. Янкоўскага*

Лёсы маці і сына склаліся так, што свой апошні зямны прытулак яны знайшлі не ў радзінных мясцінах. Ванда з Беніслаўскіх Янкоўская памерла ў ашмянскіх Палянах 29 снежня 1895 года, пахавана на мясцовых могілках. Паэта, журналіста, літаратурнага крытыка і культурна-грамадскага дзеяча Чэслава Янкоўскага не стала 6 кастрычніка 1929 года і пахаваны ён на віленскіх Росах. У 1933 годзе на яго магіле па праекту Баляслава Балзункевіча і Фердынанда Рушчыца ўзведзены помнік у выглядзе абеліска з урнай наверсе, барэльефным партрэтам Янкоўскага і надпісам: «Спачывае той, хто ніколі не меў спакою».

Большасць узгаданых у «Ашмянскім павеце» помнікаў дойлідства і архітэктуры не захавалася, яны не вытрымалі выпрабаванняў часу і загінулі ў ваенных віхурах мінулага стагоддзя, былі страчаны ў пасляваенныя гады. Прамільгнулі, як прамільгнуў час. Толькі пажоўклыя кніжныя старонкі сёння прамаўляюць аб адбыўшыхся тут падзеях і радаводных гісторыях гаспадароў.

Пішучы сваю працу, Чэслаў Янкоўскі марыў пра іншае. Заключныя словы аўтара «Ашмянскага павета» застаюцца актуальнымі і ў сённяшні час. «Свяціся ты, зямля наша радзінная, прыгожая і каханая. Благаслаўлёныя тыя, хто душу і жыццё далі табе і, кладучыся ў забытыя магілы, перадалі запавет сваім наступнікам прыбліжаць да сябе любоў. (…) Так, з сядзібы ў сядзібу, з края да край, з народа да народа, ад хатняга ачага да вялікіх супольных ачагоў, распаўсюджваецца і расходзіцца на ўвесь шырокі і далёкі свет, перадаецца з душы ў душу — любоў, любоў на якой, як на апоры, стаіць лепшая будучыня і жаданы трыумф асноў хрысціянства».

*24 жніўня 2011 года*

# Жыццяпіс генерала Канстанціна Крычынскага

Ва ўтульнай прывабнай лагчыне, паміж зрэдку парослых лесам маляўнічых пагоркаў, раскінулася на Смаргоншчыне старадаўняе татарскае паселішча Даўбучкі. Вядомасць гэтай мясціне надало існаванне тут да 1992 года ўнікальнай драўлянай ісламскай святыні, уваходныя прыступкі ад якой



*Герб «Радван»*

на мясцовым могільніку яшчэ сёння нагадваюць аб яе месцазнаходжанні ў мінулым. Месца існавання даўбучскай мячэці прыцягвае не толькі паломнікаў з розных куткоў нашай краіны і з-за яе межаў, даследчыкаў дойлідства, але і проста зацікаўленых сваёй спадчынай падарожнікаў.

Не меншую цікавасць для наведвальнікаў прадстаўляе сам могільнік, ці мізар, які з'яўляецца адным са старажытных татарскіх некропаляў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. А на ім — два незвычайныя, падобныя сваімі абрысамі на былую мячэць, надмагільныя помнікі. Пад адным з іх спачывае генерал-лейтэнант Канстанцін Крычынскі, другі прысвечаны яго жонцы Марыі Крычынскай з роду Ахматовічаў. Пачынаючы з апошняга дзесяцігоддзя мінулага стагоддзя неаднойчы да мяне звярталіся мясцовыя краязнаўцы і даследчыкі з суседніх рэгіёнаў з запытам пра жыццёвы лёс гэтых асоб, асабліва К. Крычынскага. Спатрэбіўся час, каб знайсці невялікую жменьку фактаў з біяграфіі пахаванага ў нашым раёне ваеннага дзеяча рускай арміі. Адначасова сапраўдным адкрыццём стала знаёмства з жыццёвым лёсам яго сыноў Леона і Альгерда, якія ў міжваенныя часы XX стагоддзя сталі сапраўднымі лідарамі грамадска-культурнага руху мусульман Заходняй Беларусі, усёй Рэчы Паспалітай і якія таксама заслугоўваюць нашай удзячнай памяці.

Княжацкі род Крычынскіх быў адным са знакамітых і старажытных татарскіх родаў у ВКЛ, карыстаўся гербам «Радван» з адменай і меў радавую мянушку Мурзаў Найманскіх. Само прозвішча пайшло ад назвы маёнтка Крычын, які існаваў у даўнейшым Аршанскім павеце, на левым беразе ракі Беразіна. Пачынаючы з 1559 года Крычынскім належаць маёнткі Даўбучкі, Каскевічы, Паніззе, Сялец, Ластая і іншыя паселішчы ў крэўскім наваколлі.

У гэтай старадаўняй татарскай асадзе, у сям'і ўладальніка Даўбучак Эльяша Крычынскага і Зоф'і з Талькоўскіх 25 кастрычніка 1847 года нарадзіўся будучы ваенны і грамадскі дзеяч Канстанцін Крычынскі. Спакон вякоў усе мужчынскія прадстаўнікі роду добрасумленна і з гонарам неслі ваенную службу. У свой час яго бацька быў гараднічым у крымскім Бахчы-Сараі, і ў 1851 годзе ён ўзгадваецца ў чыне падпалкоўніка, усе тры браты нашага героя таксама закончылі сваю вайсковую кар'еру палкоўнікамі. Прытрымліваючыся сямейных традыцый, у 1857 годзе дзесяцігадовы Канстанцін, як сын кавалера ордэна Святога Георгія 4-й ступені, быў прызначаны ў 2-і кадэцкі корпус, пасля заканчэння якога ў 1863 годзе паступае ў Паўлаўскае ваеннае вучылішча. Яго прозвішча прысутнічае ў пераліку выпускнікоў 1865 года гэтай знанай у далейшым навучальнай установы. Апынуўшыся на службе Расійскай імперыі, сваю вайсковую кар'еру афіцэр К. Крычынскі распачынае ў 18-м драгунскім палку. Як маёр ён прымае баявы ўдзел у руска-турэцкай вайне 1877–1878 гадоў, дзе атрымоўвае кантузію. У 1884 годзе ён падпалкоўнік, а ў 1892 го-

дзе — палкоўнік. З 1893 года Канстанцін Крычынскі прызначаецца павятовым ваенным начальнікам.

Прыкладна ў гэты час ён саступае сваю спадчынную частку Даўбучак брату Селіму, набывае на Валожынскай зямлі маёнтак Паўлінова і маёнтак Абадзішча на Ашмяншчыне. Згаданае Абадзішча было размешчана на правым беразе ракі Ластайкі побач з Ластаёй і Ардашамі, на самай мяжы сучасных Смаргонскага і Ашмянскага раёнаў. Па сённяшні дзень асобныя мясцовыя жыхары гэтага кутка нашага краю захавалі ў памяці назву паселішча і зрэдку ўзгадваюць яго гаспадароў. Прыпамінаюць людзі і аб крыжы, якім абадзішчаўскі ўладальнік — генерал Крычынскі пазначыў магілы загінулых у час Айчыннай вайны 1812 года французскіх салдат у Шатраўшчыне. У іншых пісьмовых крыніцах гэтую апошнюю мясціну каля 1710 года звалі Старым дваром ці Шарапанаўшчынай і пазней з яе вылучыліся Ардашы.

Напрыканцы XIX стагоддзя не абмінуў сваёй увагай гэтую мясціну Чэслаў Янкоўскі, занатаваўшы ў першым томе сваёй краязнаўчай працы «Ашмянскі павет», 1896 года выдання, наступныя звесткі. «Абозішча — нядужы фальварак, маючы каля 5 валок зямлі. Дзякуючы прыгожым пабудовам выглядае як узорны маёнтак. Быў да апошняга часу ўласнасцю Аганоўскіх, праваслаўнага роду, з даўняга часу прыбываючых на Літве.

Купіў яго ад Марэсаў, з дому Аганоўскіх, татарын Крычынскі, заплаціўшы значную суму. Новы ўласнік узвёў там жылы драўляны дом, памаляваўшы яго яркімі фарбамі, і стварыў уражанне нейкай прыгараднай віллы. Падобна, дом у Абозішчы служыць летняй рэзыдэнцыяй для прагнучых вёскі гараджан». Наконт паходжання назвы Абозішча ці Абадзішча існуюць дзве версіі. Адна з іх звязвае назву з вайсковымі абозамі, якія неаднойчы разбіваліся ў гэтай стратэгічнай мясціне. Па другой, назва Абадзішча паходзіць ад імя даўняга татарскага першанасельніка Абача.

У 1899 годзе К. Крычынскі прызначаецца на пасаду камандзіра палка ў Смаленск, куды ў наступным годзе пераязджае яго сям'я. З 1904 года ён узначальвае 2-ю брыгаду 6-й Усходне-Сібірскай стралковай дывізіі. Асобнай старонкай у біяграфіі генерал-маёра з 1904 года запісаны ўдзел у руска-японскай вайне 1905–1906 гадоў. Канстанціну Крычынскаму даручылі правядзенне складаных вайсковых аперацый на фронце, дзе ён вызначыўся не толькі як мужны камандзір, але і як аўтарытэтны ваенны дзеяч. Найвышэйшым загадам ад 4 сакавіка 1905 года ён узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава 1-й ступені з мячамі, а 26 сакавіка гэтага ж года — ордэнам Святой Ганны 1-й ступені з мячамі. За ўдзел у баявых дзеяннях К. Крычынскі адзначаны залатой зброяй. Пасля заканчэння вайсковай кампаніі з 1906 па студзень 1909 года ён узначальвае 2-ю брыгаду 32-й пяхотнай дывізіі.

Выйшаўшы ў 1913 годзе ў адстаўку, Канстанцін Крычынскі становіцца старшынёй Варшаўскага мусульманскага згуртавання дапамогі бедным мусульманам. У гады Першай сусветнай вайны згуртаванне дапамагае мусульманскім салдатам, апякуецца параненымі і займаецца добраўпарадкаваннем магіл загінулых воінаў. Як вядомы грамадскі і ваенны дзеяч, падтрымліваў сувязь

са знакавымі людзьмі свайго часу. У 1912 годзе з Францыі да яго звяртаўся Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры Генрых Сянкевіч, які ў свой твор «Пан Валадыёўскі» (1888) увёў аднаго з прадстаўнікоў роду Крычынскіх.

Памёр К. Крычынскі 5 красавіка 1924 года і пахаваны на Даўбучскім татарскім могільніку, побач з мячэццю. Пасля смерці яго жонкі Марыі Крычынскай з Ахматовічаў (09.11.1862–31.01.1932) сыны паставілі аднолькавыя надмагільныя помнікі бацьку і маці, даручыўшы братам Радкевічам за ўзнагароду даглядаць гэтыя сямейныя магілы.

# Гісторыя старога фотаздымка

Па сённяшні дзень у многіх сямейных альбомах захоўваюцца самыя розныя фотаздымкі, якія адлюстроўваюць гісторыю нашых мясцін. Некаторыя з іх невядомым чынам трапілі ў фотаальбомы, аднак беражна перадаюцца з пакалення ў пакаленне. З цягам часу яны страцілі гісторыі свайго з'яўлення, і цяпер цяжка нават згадаць, пра якія былыя падзеі распавядаюць гэтыя старыя фотадакументы.

Адзін такі рарытэтны і адначасова загадкавы фотаздымак у пачатку лета 2011 года знайшоў у сваёй роднай жупранскай староцы фотакарэспандэнт смаргонскай газеты «Светлы шлях» Міхась Разумнік. Пры першым знаёмстве са здымкам можна было адзначыць, што быў ён выкананы ў зоне нямецкай акупацыі Першай сусветнай вайны і адлюстроўваў вайсковы парад на рынкавым пляцы ў Жупранах. Пра тое, што падзея адбывалася ў ашмянскай мясціне, красамоўна сведчыў гмах жупранскага касцёла.

Даведацца пра ўсе іншыя абставіны адбыўшагася мерапрыемства дапамог вядомы сталічны фотамастак, дырэктар выдавецтва «Гальфстрым» Уладзімір Багданаў. Гэты руплівы даследчык захаваўшыхся на Беларусі да сённяшняга часу напамінаў пра тую амаль невядомую вайну даў цудоўную магчымасць пакарыстацца выдадзеным у 1923 годзе ў Берліне «Дзённікам 379-га ландверскага пяхотнага палка». Знаходзіцца там не толькі падобны фотаздымак крыху іншага ракурсу, але і невялікая жменька фактаў пра падзею.



Запіс ад 20 красавіка 1916 года ў вайсковых нямецкіх успамінах лаканічна сведчыць: «Парад у Жупранах перад камандуючым, генерал-лейтэнантам Ліцманам, які выступіў перад падначаленымі з прамовай і выказаў ім удзячнасць. Пасля праходжання войск мар-

шам другі рэзервовы корпус быў адпраўлены ў лясны лагер Асаны, а трэці рэзервовы корпус — у лясны лагер Панары, у падпарадкаванне суседняй часці». Штаб палка вярнуўся на ранейшае месца дыслакацыі пад Крэва.

Далейшае знаёмства з гісторыяй гэтага палка ўдакладніла факт, што з верасня 1915 па люты 1918 года дадзенае апалчэнскае фарміраванне трымала абарону на фронце каля Крэва і толькі ў час Нарачанскай аперацыі была ў сакавіку 1916 года перабазіравана пад Паставы. На мемарыяльным помніку ў Асанах адзначана, што полк быў пад Паставамі з 23 па 27 сакавіка, а на карце ў дзённіку — з 22 сакавіка па 13 красавіка 1916 года. Менавіта пасля вяртання з тых прынарачанскіх мясцін і прайшоў у Жупранах 20 красавіка 1916 года зафіксаваны на старым фотаздымку вайсковы парад.

У годы ваенных ліхалеццяў з Жупранаў да Асаноў праз Лусцішкі–Гудзеняты–Ордзевічы–Мірклішкі–Монтацішкі–Панарку была пабудавана чыгуначная вузкакалейка, насыпы ад якой і сёння можна часткова сустрэць у гэтых мясцінах. Захаваўся на месцы былога асаноўскага панскага маёнтка помнік загінулым у гады вайны нямецкім салдатам 379-га ландверскага пяхотнага палка.

На здымку таксама можна ўбачыць цікавыя краязнаўчыя знаходкі, звязаныя з іншымі старонкамі нашай мінулай гісторыі. Пры дэталёвым знаёмстве з фотадакументам можна адзначыць, што частка пабудоў рынкавага пляца захавалася да цяперашняга часу, у тым ліку цагляная пабудова каля сучаснага аўтобуснага прыпынка. Не шмат былых мястэчак гэтага краю могуць ганарыцца аўтэнтычнай забудовай з пачатку XX стагоддзя.

Самым цікавым аб’ектам з’яўляецца вялікі драўляны свіран з галерэяй на каменным падмурку. Краязнаўца Пётр Грынкевіч ва ўспамінах «Аўтабіяграфія і аповеды з жыцця» ў 1961 годзе узгадваў, што перад Першай сусветнай вайной у значных населеных пунктах Ашмяншчыны, у тым ліку і Жупранах, меліся грамадскія хлебныя склады, дзе захоўвалася ў дастатковай колькасці збожжа на выпадак неўраджаю. Кожны селянін павінен быў унесці восенню туды вызначаную колькасць жыта і ячменю. Вясной, каму не хапала збожжа на пасевы, мог тут яго браць у пазыку з умовай, што восенню верне сюды столькі ж, колькі ўзяў. Гэты жупранскі хлебны склад трапіў у аб’ектыў нямецкага фатографа і знаходзіўся ў цэнтры мястэчка побач з плошчай, у крайнім левым баку фотаздымка.

У час пошуку звестак аб падзеі, якая адбылася ў Жупранах амаль сто гадоў назад, выказвалася шмат розных здагадак і меркаванняў. Дакладны ж факт і канкрэтная дата захоўваліся ў даволі рэдкім замежным выданні, якое ўвёў у навуковы ўжытак паважаны даследчык У. Багданаў. Фотаздымкі іншых родных мясцін чакаюць сваіх удумлівых даследчыкаў, і таму дарэчы тут будзе прыгадаць беларускую прымаўку: «Хто шукае, той знаходзіць, хто пытае, той не блудзіць, так суладжана ў народзе, навучаюць нас так людзі».

*Ала Страшынская*

# ДОКТАР ФІЛАСОФІІ З ПАЛЯНАЎ

Імя Тамаша Грыба хоць і згадваецца ў гісторыка-дакументальнай хроніцы «Памяць» Смаргонскага раёна, на жаль, мала вядома мясцовым жыхарам. А вось пра яго жонку, Паўліну Мядзёлку, нават школьнік раскажа як пра таленавітую актрысу, першую выканаўцу ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Янкі Купалы. Пра тое, што знакаміты беларускі пясняр сімпатызаваў прыгожай актрысе, згадваюць у сваіх мемуарах многія іх сучаснікі. Аднак руку і сэрца Паўліна аддала апальнаму міністру апальнага ўрада, па паходжанні — селяніну, Тамашу Грыбу.

Гэта сёння мы ведаем, што вёсачка Паляны, дзе нарадзіўся і рос наш выдатны зямляк, знаходзіцца на тэрыторыі Жодзішкаўскага сельсавета. На самай справе вёсак і мястэчак з аднайменнай назвай даволі шмат у былой Віленскай губерні. Навуковаму супрацоўніку Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея Надзеі Маркавай давялося многа папрацаваць і павандраваць, пакуль нарэшце яна не знайшла сваякоў выдатнага беларускага дзеяча і вучонага. Знайшла тут, недалёка ад райцэнтра. Шкада толькі, што, літаральна за пару тыдняў да візіту музейнага работніка гаспадары хаты правялі генеральную ўборку на гарышчы. Пасля «чысткі» назаўжды былі страчаны шматлікія ліставанні, фотаздымкі, каштоўныя часопісы, газеты, іншыя выданні так званага міжваеннага часу. Але памяць усё роўна застаецца. Пра свайго вучонага земляка памятаюць у Палянах і сёння.

Крыху пахмурным, але незвычайна цёплым вясновым ранкам наведаліся мы ў вёсачку, каб паспрабаваць адшукаць рэшткі ўспамінаў пра сям'ю, родных і блізкіх, знаёмых і аднадумцаў Тамаша Тамашавіча Грыба. Руплівы даследчык даўніны, краязнаўца і пісьменнік Міхась Казлоўскі ў сваёй нядаўна выдадзенай кніжцы «Нашчадак слаўных крывічоў» апавядаў пра карыфеяў Беларускага Адраджэння. Кніга прысвечана жыццю і дзейнасці Адольфа Клімовіча, які паходзіць з суседняга Астравецкага раёна, але неаднаразова ў ёй згадваецца імя Тамаша Грыба. Неардынарная, цікавая і разнастайная асоба падштурхоўвае аўтара да напісання чарговай кнігі. Пачынаць яе трэба безумоўна са знаёмства з мясцінамі, дзе Тамаш нарадзіўся і рос, са знаёмства з яго каранямі.

У вёсачцы Паляны і сёння жыве пляменніца Тамаша Тамашавіча — Ірэна Баляславаўна Чырыца. Яе маці Саламея Мізула (у дзявоцтве Грыб) — родная сястра нашага героя. Усяго, па словах Ірэны Баляславаўны, у яе бабулі было шаснаццаць дзяцей, Тамаш, па ўсім відаць, быў старэйшым сынам. Маці называла яго Фомачка. Нават калі ён стаў дарослым, узмужнеў, сцвердзіўся ў жыцці, для матулі па-ранейшаму заставаўся дзіцем і, магчыма, за яго, вымушанага жыць на чужыне, найбольш балела мацярынскае сэрца. Пяшчотнымі, цёплымі пачуццямі былі прасякнуты лісты Тамаша дадому. Асобныя радкі

ўрэзаліся ў памяць Ірэны Баляславаўны. Жанчына, нягледзячы на свой узрост, а нарадзілася яна ў лістападзе 1926 года, цытуе асобныя выказванні, урыўкі з пісьмаў. Яна ўспамінае, што вельмі сумаваў дзядзька на чужыне, душой і сэрцам імкнуўся на Бацькаўшчыну, не пакідаў надзеі, што аднойчы вернецца сюды, і разам з маці яны яшчэ станчаць «Лявоніху».



*Родная пляменніца Тамаша Грыба Ірэна Баляславаўна Чырыца каля сваёй хаты*

Дарэчы, паглядзеўшы на фотаздымак роднага брата Ірэны Баляславаўны, які, па сведчанні многіх, вельмі падобны на свайго дзядзьку Тамаша, пачынаеш разумець, чаму Паўліна Мядзёлка аддала перавагу статнаму, высокаму, прыгожаму хлопцу з Палянаў. У гэтай сям'і ўсе былі незвычайна прыгожымі. Сямейная гісторыя сведчыць, што менавіта закахаўшыся ў родную пляменніцу Тамаша Грыба — Вільгельміну з Будзілак, Юліян Бабок, што вучыўся на ксяндза, вырашыў рэзка перайначыць свой лёс і пабраўся шлюбам з прыгажуняй.

Як жа атрымалася, што юнак са шматдзетнай сялянскай сям'і з глухой беларускай вёсачкі, куды складана было дабрацца ў ранейшыя часы (ды і сёння тут ні чыгуначнай, ні аўтобуснай станцый паблізу няма), здолеў атрымаць вышэйшую адукацыю і нават ступень доктара філасофскіх навук. Магчыма, тое, што быў ён старэйшым у сям'і, і, па ўсім відаць, здатным да навукі, і падштурхнула ісці ў свет, шукаць лепшай долі, самастойна прабівацца ў жыцці, асвойваць спецыяльнасць, якая магла б прынесці карысць усім блізкім, а яму даць гарантаваны заробак. Невядома пакуль, дзе ён атрымаў сярэднюю адукацыю, але, маючы на руках атэстат, хлопец едзе ў сталіцу Расійскай імперыі Санкт-Пецярбург, дзе паступае ў псіха-неўралагічны інстытут. У яго адукацыйны працэс унесла карэктывы Першая сусветная вайна.

У 1916 годзе Тамаша мабілізуюць у армію, і ён аказваецца на румынскім фронце. Рэвалюцыйныя падзеі, што адбываюцца ў краіне, абудзілі яго патрыятычныя пачуцці. Ён з'яўляецца адным з арганізатараў беларускай вайсковай арганізацыі. Прымае актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда, на якім абіраецца членам Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, народным сакратаром земляробства ва ўрадзе Я. Варонкі. Тамаш Грыб у ліку тых, хто агучыў ідэю незалежнасці Беларусі і застаўся вернымі ёй да апошніх сваіх дзён. Абвяшчэнне БНР ва ўмовах, калі нашу Бацькаўшчыну

літаральна раздзіралі на часткі сквапныя суседзі, — гэта кропка адліку нашай дзяржаўнасці. У тым, што беларусы засталіся беларусамі, а не сталі нацыянальнай меншасцю ў складзе Польшчы, Літвы ці Расіі, ёсць значная доля заслуг і Тамаша Грыба. Ён, як адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР), заставаўся адданым ідэі нацыянальнага адраджэння Беларусі, чым, безумоўна, уяўляў небяспеку для польскіх улад і для бальшавіцкага рэжыму. Неаднаразова ён арыштоўваўся польскай дэфензівай, як супрацоўнік беларускіх выданняў і як член Мінскага падпольнага паўстанцкага камітэта.

Пасля аднаго з арыштаў яго разам з паплечнікамі і жонкай Паўлінай Мядзёлкай адправілі пад аховай у Цэнтральную Польшчу. Па дарозе на захад сябры Тамаша праламалі падлогу ў вагоне і ўцяклі. Тамаш не рызыкнуў на ўцёкі, бо ў адным з суседніх вагонаў везлі ў невядомасць яго жонку, яго «мілую журавінку», як пяшчотна называў ён сваю каханую. Паўліна не ацаніла яго ахвяры і назвала мужа крыўдным словам «баязлівец».

З восені 1922 года Тамаш Грыб знаходзіцца ў эміграцыі ў Празе. У сілу розных гістарычных і палітычных абставінаў гэты горад, сталіца суседняй славянскай дзяржавы, часта станавіўся прытулкам для многіх беларусаў, пачынаючы яшчэ з Францішка Скарыны, які менавіта тут заснаваў першае ў гісторыі ўсяго ўсходняга славянства выдавецтва. У міжваенны перыяд Чэхаславакія стала цэнтрам для эмігрантаў з былой Расійскай імперыі. Урад прэзідэнта Масарыка з гуманітарных і палітычных меркаванняў аказваў ім дапамогу, адчыняў курсы, спрыяў набыццю прафесій, выдзяляў стыпендыі.

На філасофскім факультэце Пражскага Карлава ўніверсітэта Тамаш Грыб абараніў доктарскую дысертацыю «Паляне: пытанні народа і нацыянальнасці. Сацыялагічны аналіз». Нават гэта адно слова «паляне» здаецца невыпадковым у назве дысертацыі, бо нябачнай сувяззю імкнецца да аднакарэннага — Паляны, назвы далёкай вёсачкі, малой радзімы, куды імкнулася душа, але розум забараняў і папярэджваў пра небяспеку вяртання. Другая жонка Тамаша, Палута Бадунова, таксама актыўны палітычны дзеяч Беларускага Адраджэння, не паслухала мужа і голас розуму, паддалася на савецкую прапаганду і вярнулася ў Мінск. Яе палітычныя погляды ішлі не ў адным рэчышчы з «генеральнай лініяй». Жанчыну спачатку арыштавалі і выслалі са сталіцы, а праз нейкі час расстралялі.

Як бы ні даймала настальгія, Тамаш Грыб разумеў, што вяртанне на радзіму немагчыма. У Празе Тамаш Тамашавіч працаваў кіраўніком Беларускага навуковага кабінета, удзельнічаў у рабоце аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый, Беларускага таварыства імя Ф. Скарыны. У сваіх публіцыстычных працах ён з навуковай абгрунтаванасцю і філасофскай празорлівасцю прадказаў на дзесяцігоддзі наперад усе гістарычныя перакосы і трагічныя падзеі ў жыцці краіны Саветаў. У 1934–1938 гадах ён — загадчык Беларускага загранічнага архіва, складаў бібліяграфію па беларусазнаўстве, друкаваўся ў часопісах «Перавясла», «Іскры Скарыны», «Студэнцкая думка», «Золак» і іншых. Гэтыя выданні не даходзілі да роднай вёскі Паляны. Але

сюды праз нацыянальна свядомых беларусаў трапляла беларускамоўная перыёдыка з Вільні. З гэтых часопісаў і газет можна было даведацца і пра дзейнасць і жыццё асобных беларускіх дзеячоў на эміграцыі. Ірэна Чырыца ўспамінае, што былі беларускамоўныя газеты таго часу ў хаце яе дзеда, а пазней і яе тата меў стасункі з мясцовымі актывістамі — прыхільнікамі беларускай ідэі. Магчыма, дзякуючы шчыраму беларусу, ксяндзу В. Гадлеўскаму, які служыў у Жодзішкаўскім касцёле, траплялі ў сялянскія хаты «Беларуская ніва», «Крыніца», «Золак», «Шлях моладзі». Ірэна Баляславаўна запомніла той дзень, калі з адной такой газеты даведаліся аднавяскоўцы пра скон Тамаша Грыба. Запомніла яна галашэнні сваёй бабулі, якой суджана было перажыць сына, якому не было яшчэ і 43 гадоў.

Як пра любога знакамітага чалавека, пра Тамаша Грыба засталося шмат успамінаў, нават легенд. Адно прыгожае, рамантычнае паданне сведчыць, быццам пасля смерці філосафа крэміравалі, а урна з яго прахам доўгі час захоўвалася ў кватэры нейкай таямнічай не знаёмай нікому чэшскай жанчыны, якая да канца дзён кахала свайго Фомачку. Толькі пасля яе смерці урну захавалі на могілках у Празе. А яшчэ засталося чатырохрадкоўе, што любілі паўтраць беларускія адраджэнцы 20–30-х гадоў мінулага стагоддзя:

Беларусь — мая старонка,
Куток цемнаты.
Жывуць Шыла, Грыб, Мамонька,
Будзеш жыць і ты.

*Аляксандр Камінскі*

# МІЛЭЙКАЎСКІ ШЛЯХ

20 красавіка 2011 года споўнілася 600 гадоў першай пісьмовай згадцы пра вёску Мілэйкава, што на поўдні Смаргонскага раёна, Гродзенскай вобласці. Гэтая згадка, знойдзеная мною ў адной старой кнізе незадоўга перад юбілеем, стала нагодай для пошукаў іншых звестак пра мясціну, якая пакінула калісьці яскравы след і ў маёй душы.

Тое, што вёска Мілэйкава своеасаблівая і неардынарная, я зразумеў ужо падчас свайго першага знаёмства з ёй. Ляжыць яна за нейкіх сем кіламетраў ад майго роднага Крэва, але ўпершыню мне давялося пабываць там толькі пасля таго, як мяне размеркавалі пасля інстытута ў Мілэйкаўскую школу. Еду гэта я аўтобусам на месца маёй будучай працы, пільна ўглядаюся на прыдарожныя ўказальнікі. І вось дзіва: указальнікаў з рознымі назвамі процьма, а вёска нібыта адна — не паспелі праехаць Балобаны, як пачаліся Навасёлкі, адразу ж за імі — Круглянка і Баярск. Занепакоіўшыся, што праеду свой прыпынак, пытаюся ў аднаго з пасажыраў: «А да Мілэйкава яшчэ далёка?» — «Вось праедзем Баярск, а каля моста будзе мілэйкаўскі прыпынак», — адказаў той. Але бачачы, што чалавек я тут новы, на ўсялякі выпадак запытаў: «А вам да каго трэба?» — «Ды мне да школы». — «А школу мы праехалі!» — паведаміў пасажыр і крыкнуў шафёру, каб тармазіў. «Як гэта: Мілэйкава яшчэ ўперадзе, а Мілэйкаўскую школу мы праехалі?» — не мог уцяміць я. «Так, так. Мілэйкаўская школа стаіць у Баярску», — пацвердзілі астатнія пасажыры, і я выйшаў.

Крыху пазней высветлілася, што школа сапраўды раней знаходзілася ў Мілэйкаве, а калі яе перавялі ў больш прасторны будынак у Баярску, па дакументах яна так і засталася Мілэйкаўскай. Але магло стацца, што з такой назвай яна была б і тады, калі б яе першапачаткова паставілі ў Баярску. Бо Мілэйкава — гэта не толькі сама вёска. Такую назву мела і своеасаблівая вясковая агламерацыя, ці акруга, якая ўключала ў сябе і іншыя суседнія пасяленні, што раскінуліся па берагах рэчкі Крыўлянкі ўздоўж Мілэйкаўскага шляху.

А цяпер звернемся да таго дакумента, які стаў падставай для адзначэння 600-годдзя Мілэйкава. Нагадаем, што гэта дата не заснавання паселішча, а толькі першай вядомай пісьмовай згадкі пра яго. Вёскі паабапал Крыўлянкі ўзніклі нашмат раней. На думку В. Жучкевіча, вядомага беларускага тапаніміста, назва «Мілэйкава» магла ўтварыцца ад слова «мілы» ці, што больш праўдападобна, ад імя Міл, Мілэйка (беларускія варыянты імя Ніл) альбо ўтворанага ад яго прозвішча. Трэба зазначыць, што такія прозвішчы сустракаюцца і цяпер, а вёскі з гэткай жа назвай ёсць яшчэ ў Магілёўскай вобласці (Мсціслаўшчына) і на Браншчыне ў Расіі (Рагнедзінскі раён). Апроч таго, існуе процьма роднасных назваў: Мілэйкі, Мілэеўка, Мілэйкішкі…

Такім чынам, дакумент, напісаны ў Троках 20 красавіка 1411 года, паведамляе наступнае: вялікі князь літоўскі Аляксандр-Вітаўт па просьбе біскупа Мікалая і капітулы віленскай катэдры перадае ім, узамен на іншую маёмасць, некалькі вёсак, якія раней належалі сынам князя Андрэя Друцкага. Сярод названых вёсак значыцца і Мілэйкава ў Крэўскім павеце. У 1430 годзе гэтая здзелка была пацверджана каралём Ягайлам і потым мела сілу на працягу многіх стагоддзяў. Прынамсі, у канцы XVIII стагоддзя прыналежнасць Мілэйкава і ваколіц віленскаму катэдральнаму сабору пацвярджаюць тагачасныя дакументы. Такім чынам, з інвентара 1795 года даведваемся, што мілэйкаўскі маёнтак катэдры складаўся з двара, капліцы, 11 валок зямлі (1 валока — 21,36 га), лугоў на 115 вазоў сена. Яму падпарадкоўваліся 6 вёсак і 2 засценкі з 96 гаспадаркамі і 542 жыхарамі. Вясковай зямлі было 53 валокі, чыншу выплочвалася 7 881 злоты.

Наяўнасць у Мілэйкаве двара і капліцы, без сумневу, адыграла найважнейшую ролю ў вылучэнні яго з шэрагу іншых суседніх вёсак у якасці цэнтра акругі.

Гэткая працяглая прыналежнасць Мілэйкава віленскай катэдры надоўга абумовіла перавагу каталіцкай веры ў сем'ях яго насельнікаў. У сярэдзіне XIX стагоддзя па канфесійнай прыналежнасці мілэйкаўцы дзяліліся наступным чынам: 188 католікаў і толькі 24 праваслаўныя. Нават у наш час пераважная большасць жыхароў Мілэйкава і Баярска — таксама католікі. Каталіцкая каплічка дзейнічала тут да другой паловы XIX стагоддзя. Пра яе закрыццё варта распавесці асобна.

Пасля падаўлення паўстання Каліноўскага расійскі ўрад распачынае масавыя рэпрэсіі не толькі над яго ўдзельнікамі, але над усім тым, што ішло ў разрэз з яго ідэалогіяй і каланізатарскай палітыкай. Сярод усяго іншага, павялічваецца ўціск на каталіцтва. Касцёлы масава зачыняюцца ці перарабляюцца пад праваслаўныя цэрквы. Не абмінулі нягоды ні крэўскі касцёл, ні капліцу ў Мілэйкаве. І калі першы зачынілі і збіраліся перарабіць пад царкву, то мілэйкаўская капліца загадам віленскага генерал-губернатара ад 1 красавіка 1866 года была дашчэнту знішчана. Сяляне Крэўскай воласці склалі пісьмо цару, у якім гаварылася, што касцёл у Крэве быў зачынены ў выніку махлярства мясцовых чыноўнікаў шляхам падробкі подпісаў вернікаў, якія нібыта самі прасілі аб гэтым. Скардзіліся яны і на тое, што яшчэ прыдатная для службаў капліца ў Мілэйкаве была спалена жандарскім капітанам нібыта па прычыне яе трухлявасці. Але, як і варта было чакаць, ліст да цара поспеху не прынёс, і ўсё засталося так, як было запланавана.

А ў час самога паўстання мясцовыя жыхары хоць і не прадпрымалі актыўных дзеянняў, але ажыўлена абмяркоўвалі падзеі, якія адбываліся навокал. З архіўных дакументаў вядома, што 24 студзеня 1863 года сын арандатара фермы Мілэйкава Ляшчынскі чытаў сялянам «нейкія газеты на беларускай мове, накіраваныя супраць цара і ўрада», за што і патрапіў пад пільную ўвагу ўладаў.

Нягледзячы на знішчэнне каталіцкай капліцы, Мілэйкава і надалей працягвала быць цэнтрам акругі. У пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя ў гэтую акругу ўваходзілі вёскі Малявічы (53 жыхары), Навасёлкі (26), Качаны (45), Пераходы (42), Агароднікі (12), Баярск (104), гаспадарка Крыўлянка (4) і само Мілэйкава, у якім на той час налічвалася 212 жыхароў. Трэба зазначыць, што некаторыя з пералічаных вёсак маглі ў пэўныя часы адміністрацыйна і не належаць да Мілэйкаўскай акругі, але яны заўсёды цягнуліся да яе і тэрытарыяльна, і па гаспадарчых справах. Таму я палічыў патрэбным у далейшым падаваць статыстыку пра ўсе суседнія мясціны.

На падрабязнай карце 1860 года асобна пазначаны панскі дом Мілэйкава, які знаходзіўся воддаль ад вёскі, бліжэй да Навасёлкаў. Хутчэй за ўсё, уладальнікам яго быў былы міравы суддзя Філіпаў, як пра тое пісаў крыху пазней Чэслаў Янкоўскі ў сваёй кнізе «Ашмянскі павет». У статыстычным даведніку Віленскай губерні 1905 года, складзеным І. Гашкевічам, гэта месца ўжо значыцца як Круглянка, сядзіба з млыном і трымя жыхарамі. Гаспадаром млына названы Філіповіч.

У самым пачатку XX стагоддзя, як пададзена ў вышэйназваным даведніку, у Мілэйкаве пражывала ўжо 332 чалавекі, у Баярску — 338, у Навасёлках — 77, у Малявічах — 150, у Качанах — 116, у Агародніках — 42, у Пераходах — 114 (асобна пазначаны млын з 4 жыхарамі), у Крыўлянцы (іншая назва — Круглянка) — 143. Асобным пасяленнем вылучаліся два млыны Мілэйкава з 9 жыхарамі.

Школа ў Мілэйкаве з'явілася ў канцы XIX стагоддзя. У статыстычным даведніку І. Гашкевіча яна зафіксавана як народнае вучылішча. Наогул, у даволі вялікай Крэўскай воласці дзейнічалі ў той час толькі два народныя вучылішчы: у Крэве і ў Мілэйкаве. У апошнім, праўда, было ўсяго 28 вучняў (26 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі). Вядома, што з кастрычніка 1899 года тут працавала настаўніца Вера Зяновіч, а праз год сюды накіравалі Мікалая Манкевіча.

Аб тым, як узнікла Мілэйкаўская школа, ад старажылаў была запісана наступная гісторыя. Быццам бы вярнуўся з заробкаў у Амерыцы адзін з жыхароў Мілэйкава, якога звалі Вінцук. Ён вырашыў пабудаваць сабе дом, каб потым перавезці з Амерыкі сваю сям'ю. Закупіў лесу і распачаў разам з братам будоўлю. І калі дом быў ужо гатовы, з Амерыкі прыйшло пісьмо ад жонкі, што тая моцна захварэла. Вінцук прадаў дом дзяржаве пад школу і з'ехаў. У школу ў хуткім часе прыслалі з Вільні настаўніка, і яна распачала сваю працу. Казалі, веды там давалі вельмі добрыя. Праўда, у час Першай сусветнай вайны будынак школы згарэў.

Першая сусветная адзначылася ў нашай мясцовасці пажарамі і разбурэннямі. Некалькі брацкіх магілаў расійскіх воінаў, якія знаходзяцца паабапал мілэйкаўскага шляху, будуць заўжды нагадваць пра тыя трывожныя часы. У тутэйшых лясах на шляху грыбнікоў ці паляўнічых нярэдка трапляюцца рэшткі акопаў і іншых ваенных збудаванняў. Здараецца, што ад іх паходзяць некаторыя мясцовыя тапонімы, якія вызначаюць пэўныя ўрочышчы, участкі лесу. Жыхарам Мілэйкава і суседніх вёсак, да прыкладу, вядома мес-

ца ў лесе пад назвай Пяць зямлянак. І там сапраўды знаходзяцца рэшткі земляных канструкцый часоў Першай сусветнай вайны.

У ваеннай літаратуры можна знайсці згадку пра адзін з яскравых эпізодаў баявых дзеянняў, які назіраўся вясной 1916 года ля вёскі Навасёлкі. Каб нанесці шкоду свайму праціўніку, немцы вырашылі пракласці ў бок рускіх падземныя галерэі і закласці пад іх пазіцыямі міны. Рускія здагадаліся пра варожы намер і пачалі капаць сустрэчныя хады. Двума падземнымі выбухамі яны спынілі прасоўванне нямецкіх сапёраў. Праз два тыдні немцы ўзнавілі рыццё мінных галерэй. Аднак і на гэты раз рускія іх апярэдзілі, і нямецкі падземны ход быў ізноў разбураны магутным выбухам. Больш таго, атрад рускіх кінуўся ў атаку і заняў створаную выбухам варонку. Ён адбіў контратаку немцаў і ўтрымаў занятую пазіцыю.

Пасля Першай сусветнай вайны Мілэйкава разам з усёй Заходняй Беларуссю апынулася ў складзе Польшчы. Як і ў ранейшыя часы, яно было цэнтрам вясковай грамады і ўваходзіла ў Крэўскую гміну Ашмянскага павета Віленскага ваяводства. Адзіным больш-менш прыбытковым прадпрыемствам быў тут у той час вадзяны млын. Яго гаспадаром з'яўляўся С. Ліпніцкі. Ірэна Муркевіч трымала ў Баярску магазін.

У даведніку «Спіс мясцовасцей» за 1927 год знаходзім, што ў Мілэйкаве ў гэты час пражывае 991 чалавек. Праўдападобна, што дадзеная лічба адносіцца да ўсёй вясковай акругі, а не да самой вёскі. І сапраўды, у дакументацыі па выніках перапісу, які адбыўся ў снежні 1931 года, указваецца, што наша вёска (337 жыхароў) разам з Баярскам (343 жыхары) утвараюць своеасаблівы комплекс вёсак пад агульнай назвай Мілэйкава. У Навасёлках у той час пражываў 61 чалавек, у Малявічах — 164, у Агародніках — 40, у Качанах — 131, у Пераходах — 130, у Крыўлянцы (Круглянцы) — 146.

Цікава, што ў кнізе, з якой я браў гэтую статыстыку, даецца таксама інфармацыя па старых альбо варыяцыйных назвах населеных пунктаў. Гэта адсюль я даведаўся, што Круглянка і Крыўлянка — адна і тая ж вёска. Нечаканай была інфармацыя пра тое, што ранейшая назва Мілэйкава — Цягло. У які час яно так называлася, уся вёска мела такое найменне, ці толькі частка, — пакуль што застаецца загадкай. Хутчэй за ўсё, гэтая назва (ці варыянт назвы) адносіцца да часоў прыгонніцтва.

Зямельная палітыка міжваеннай Польшчы была скіравана ў бок умацнення сялянскіх гаспадарак і рассялення сялян на хутары. У Заходняй Беларусі да 1939 года было расселена каля 70 % гаспадарак. Не абмінулі гэтыя змены і вёсак мілэйкаўскай грамады. Вялікая частка іх насельнікаў таксама апынулася на хутарах. Праўда, дзякуючы наваўвядзенням і працавітасці беларускіх сялян паказчыкі прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі тут значна павялічыліся.

Затое адукацыі вясковых дзетак належнай увагі не ўдзялялася. Адзін-два класы пачатковай школы, як лічылі ўлады, для іх дастаткова. Спачатку вучылі ў прыстасаваных для гэтай мэты пакоях некаторых жылых дамоў, дзе разам займаліся з адным настаўнікам вучні розных класаў. Пазней пад школу

аддалі асобны пустуючы дом ля рэчкі. У памяці старэйшых жыхароў вёскі захавалася імя адной з тагачасных настаўніц — Таццяны Ярашэвіч.

З «запольскіх» часоў захавалася ў Мілэйкаве і адна рамантычная гісторыя пра каханне. Здарэнне, якое адбылося тут, магло стаць асновай сюжэта якога-небудзь мастацкага твора. Сюжэт гэты, праўда, не зусім унікальны, але ўсё ж неардынарны, і пра здарэнне тое памятаюць у Мілэйкаве да нашага часу. Любы мясцовы жыхар гатоў вам паказаць нават месца, дзе ўсё адбылося і дзе пахаваны адзін з герояў гісторыі.

Такім чынам, пачатак нашага апавядання светлы і аптымістычны. Жылі ў гэтай мясцовасці хлопец Мікола і дзяўчына Агата. З дзяцінства яны кахалі адно аднаго, кляліся адданасці да канца жыцця. І пакуль былі разам — так усё і адбывалася: моцнае каханне, поўны давер і светлыя планы на будучыню. І калі хлопцу надышла пара ісці ў войска, адыходзіў ён без аніякага сумнення ў тым, што, вярнуўшыся, пачнуць яны разам з Агатай ажыццяўляць усе свае планы і задумкі.

Толькі ці дажыла б наша гісторыя да сённяшніх дзён, каб усё адбывалася так, як пра тое марыў Мікола? Адслужыўшы ў войску нейкі час, атрымаў ён аднаго разу пісьмо з родных мясцін. Хтосьці са знаёмых паведамляў яму, што Агата яго забылася пра свае абяцанні і збіраецца выходзіць замуж за іншага. Пададзены быў нават дзень іх вяселля. Чорная туга агарнула хлопца. Як магла здрадзіць каханая і чаму ўсё так адбылося? Па сваёй волі робіць яна гэты крок ці па загаду бацькоў? З гэтага часу думкі ў Міколы былі толькі аб адным. І вось напярэдадні вяселля Агаты вырашае Мікола збегчы са службы, каб самому разабрацца ва ўсім альбо адпомсціць.

У родных мясцінах хлопец апынуўся якраз тады, калі сяброўкі рыхтавалі Агату да прыезду жаніха і да шлюбу. Мікола падабраўся да акна нявесты, спадзеючыся ўбачыць праз шыбу, як сумуе яна, ідучы за нялюбага, як лье слёзы. Аднак замест гэтага ён заўважыў, што маладая, наадварот, мела вельмі бадзёры выгляд і весела шчабятала з сяброўкамі.

Згараючы ад рэўнасці, Мікола кінуўся прэч. Узяўшы вінтоўку, якую прыхапіў са службы, ён засеў у альховых кустах ля дарогі, па якой павінен быў ехаць пазней шлюбны картэж. Хлопец падрыхтаваў тры патроны: для нявернай каханай, для яе жаніха і для сябе…

І вось ажыўлены картэж рухаецца па дарозе. Весела грае музыка, смяюцца госці. І раптам увесь гэты святочны шум заглушае выстрал. Нявеста падае, акрываўленая. Адразу ж грыміць новы выстрал, прызначаны для жаніха. Але куля трапляе ў іншага, у аднаго з гасцей. Убачыўшы, што прамахнуўся, Мікола выходзіць са схованкі, прыцэльваецца наноў, але, паразважаўшы, кідаецца прэч. Жаніх — за ім. Мікола хутка спыняецца і крычыць жаніху, які таксама прыпыніўся: «Не бойся, у мяне толькі адна куля. І яна не для цябе». Пры гэтым прыкладае дула вінтоўкі да свайго цела і націскае на курок.

Хто ведае, як склаўся б лёс нашых герояў, каб гэтая гісторыя мела іншую канцоўку. Грэла б іх моц кахання і надалей, альбо растталі б узвышаныя

пачуцці, наткнуўшыся на ўсе нягоды і складанасці, што чакалі наш край у бліжэйшым будучым?

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да Савецкага Саюза Мілэйкава таксама бярэ на сябе ролю цэнтральнай вёскі ў акрузе. Сярод 24 сельскіх Саветаў, якія ўзніклі на карце створанага ў студзені 1940 года Смаргонскага раёна Вілейскай вобласці, значыцца і Мілэйкаўскі. На чале яго стаў Антон Восіпавіч Страх.

Многія чакалі прыходу савецкай улады, іншыя ж, хто паспеў дасягнуць пэўных поспехаў і разжыцца, адносіліся да яе з недаверам. І сапраўды, больш заможных чакалі пры новай уладзе арышты, пазбаўленне маёмасці, ссылкі.

Калі пачалася вайна з немцамі, стала яшчэ горш. Даводзілася асцерагацца і немцаў, што стаялі на чыгунцы ля Заходняй Бярэзіны, і літоўскіх паліцаяў, пастарункі якіх знаходзіліся ў Крэве і ў Ластаі, а таксама звычайных бандытаў, якія, выдаючы сябе за партызанаў, пераживалі ў лесе ваеннае ліхалецце і жылі з набегаў на мірных жыхароў. Былі, канечне, і сапраўдныя партызаны, савецкія і польскія, якія вялі барацьбу з ворагам і абаранялі вяскоўцаў ад варожага насілля. Старэйшыя жыхары Мілэйкава ўзгадваюць, як грымелі ўзрывы на чыгунцы, як быў збіты недалёка ад вёскі нямецкі самалёт, як партызаны з-пад Ракуцева знішчылі групу немцаў, якія аднойчы наведаліся сюды, як 22 чэрвеня 1944 года ля Малявічаў адбылася сутычка з ворагам байцоў 12-й брыгады польскай Арміі Краёвай.

У час вайны сяляне былі абкладзены цяжкімі падаткамі і павіннасцямі. Кожнай гаспадарцы вызначаліся нормы па здачы захопнікам часткі ўраджаю. Вось, да прыкладу, што павінна была здаць з ураджаю 1942 года гаспадарка Пятра Руткоўскага: жыта — 110 кг, ячменю — 25 кг, аўса — 45 кг, сена — 100 кг, саломы — 65 кг, бульбы — 650 кг. Акрамя гэтага, прыходзілі загады здаваць малако, мяса, яйкі, воўну. Мясцовых сялян таксама прымушалі працаваць на нарыхтоўцы дроў, на высечцы лесу ля чыгункі, на будаўніцтве радыёстанцыі ў Шылавічах.

Тутэйшыя землі ўваходзілі ў час вайны ў склад генеральнай акругі Літва, і ўся дакументацыя вялася тут на нямецкай і літоўскай мовах. Мясцовым было цяжка разабрацца ў шматлікіх загадах і распараджэннях, за невыкананне якіх чакала пакаранне.

Спагнаннем падаткаў займаліся літоўскія паліцаі з Крэва. Жыхарка Мілэйкава Ева Іосіфаўна Кляўцова, дзелячыся ўспамінамі, расказала, як тыя аднойчы завіталі ў іх дом. Жыццё сям'і тады вісела на валаску, бо ў гэты час у іх хляве стаялі на пракорме партызанскія коні. Аднак бяда мінула іх, паліцаі коней не заўважылі. За супрацоўніцтва з партызанамі маглі пакараць не толькі сям'ю, але і ўсю вёску, як тое было з суседнім Крыўскам, палову якога немцы спалілі.

У 1944 годзе пры вызваленні Мілэйкава і суседніх вёсак загінулі два савецкія салдаты. Пасля вайны іх астанкі былі перазахаваны ў цэнтры Баярска, дзе пазней быў пастаўлены помнік у памяць вызваліцеляў і землякоў, якія загінулі на франтах.

У пасляваенны час Мілэйкава па-ранейшаму застаецца цэнтрам акругі. Тут ствараецца калгас «Краіна Саветаў». Людзей з хутароў вяртаюць у вёскі. Зямля, скаціна і сродкі апрацоўкі зямлі робяцца калгаснай маёмасцю. Працягвае працаваць вадзяны млын. І хоць праўленне калгаса размясцілася ў Баярску, усё адно між людзьмі яго называлі мілэйкаўскім.

У 1949 годзе ў Мілэйкаве пачынае працу сямігадовая школа.

Першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі наша і суседнія вёскі ўваходзілі ў склад Ракавецкага сельсавета. Пазней усю акругу далучылі да Ардашоўскага. А ўжо ў наш час, пасля чарговага ўзбуйнення, цэнтрам новастворанай адміністрацыйнай адзінкі, як і даўней, стала Крэва.

Тое ж самае было з калгасам: спачатку яго далучылі да ардашоўскай гаспадаркі, пазней, у складзе апошняй, — да крэўскай.

Напэўна, мала хто з маладзейшага пакалення ведае, што з 1944 па 1960 год нашы землі ўваходзілі ў склад Маладзечанскай вобласці. Гэтая акалічнасць, хутчэй за ўсё, тлумачыць тое, што многія выхадцы з Мілэйкаўскай акругі знайшлі сваё новае месца жыхарства ў Маладзечне. Другая немалаважная прычына — зручны праезд да гэтага горада па чыгунцы.

Пра жыццё ў пасляваенныя часы, больш ці менш аддаленыя ад сённяшніх дзён, можна даведацца і ад цяперашніх жыхароў Мілэйкаўскай акругі, і ад тых, хто па нейкіх прычынах выехаў і пражывае ў іншых мясцінах. Апошніх многа, бо моладзь не хоча заставацца ў вёсцы. Але гэта праблема не толькі Мілэйкава.

Мне давялося жыць і працаваць тут у самым пачатку 90-х. Гэта быў час, калі яшчэ не перавяліся ў вёсках гарманісты. Такія, як, напрыклад, Ромка Макей з Навасёлкаў. Талент маладога музыкі-самавука неаднойчы ратаваў школьную самадзейнасць і дапамагаў нам дабівацца поспехаў падчас шматлікіх конкурсаў і канцэртаў. Варта было падсунуць Ромку які-небудзь верш, каб той аздобіў яго музыкай, як ў яго з першай спробы нараджалася цудоўная песня. Не бракавала ў нас таксама і сваіх акцёраў, і паэтаў, і спевакоў, і танцораў. Не ведаю, ці гэта час такі быў — жылі ў нястачы, але шчыра і з надзеяй, ці гэта адметнасць мясцовасці, толькі такой канцэнтрацыі талентаў сярод школьнікаў і вяскоўцаў я больш нідзе не сустракаў. Ніколі не было праблемай падрыхтаваць і правесці ці школьны вечар, ці вялікі канцэрт для ўсёй вясковай акругі.

Пра адзін з такіх канцэртаў распавяду асобна. Дзякуючы запалу, з якім рыхтавалася і праводзілася тое грандыёзнае па вясковых мерках прадстаўленне, яно павінна помніцца і самім «артыстам», і гледачам-аднавяскоўцам.

Адбывалася ўсё наступным чынам. Неяк вясной у самых людных мясцінах Мілэйкава і суседніх вёсак пачалі з’яўляцца таямнічыя надпісы: «ВВК!», «Хутка будзе ВВК!», «Людзі! Рыхтуйцеся да ВВК!» Жыхары заінтрыгаваны. «Справа рук нейкіх сектантаў», — сцвярджалі адны. «Не, тут пахне палітыкай», — пярэчылі іншыя. Праз колькі часу на тых жа месцах з’явіліся новыя лістоўкі, якія тлумачылі, што ВВК — гэта «Вялікі Вясенні Канцэрт», што ВВК — найлепшая нагода цікава і весела правесці вяскоўцам свой вольны час. І ў рэшце

рэшт, за тыдзень да падзеі ў цэнтры Мілэйкава з’явілася маляўнічая афіша з падрабязным апісаннем плануемага прадстаўлення.

Тым часам у вучнёўскім калектыве ішла напружаная падрыхтоўка да канцэрта. Упрошваць ці прымушаць нікога не прыходзілася. Усеагульны ўздым, які панаваў у школе, рабіў самых сціплых актыўнымі, непрыкметным дапамагаў раскрыць свае таленты. Нават тыя, хто і не збіраўся выходзіць на сцэну, з задавальненнем рыхтавалі касцюмы і дэкарацыі, выконвалі іншыя даручэнні.

Канцэрт прайшоў пасьпяхова. Зала вясковага клуба была перапоўнена. Прадстаўленне складалася з трох частак. У першай вучні паказалі паўгадзінную сцэнку «Гуляем у вяселле», створаную на аснове сабраных самімі вучнямі мясцовых вясельных традыцый, паказак, песень. Другая частка складалася з мастацкіх нумароў. Школьнікі дэманстравалі ўсё, на што здольны: спявалі, танцавалі, расказвалі вершы і паказвалі фокусы. У трэцяй частцы адбылася вясёлая гульня «Марскі бой», у якой каманда школьнікаў выклікала на спаборніцтва каманду, сабраную з найбольш актыўных гледачоў. Удзельнікі лупцавалі адзін другога падушкамі, разблытвалі вузлы і галаваломкі, паказвалі свой спрыт і кемлівасць. Заўзятары ж спаборнічалі ў веданні песень на марскую тэматыку. Канцэртам былі задаволены і гледачы, і самі артысты.

Гавораць, што і цяпер жыхары Мілэйкава і Баярска з ахвотай выходзяць на сцэну мясцовага клуба.

Наступная інфармацыя да тэмы нашай размовы, можа падацца, дачынення не мае. Але гэта толькі на першы погляд.

Нейк раз, ужо ў нашы дні, у пошуках радавых каранёў і магілаў продкаў да нас завіталі два амерыканскія яўрэі. Іх цікавілі любыя звесткі пра род Мілейкоўскіх з Крэва. Пра тое, што тут нарадзіўся і жыў нейкі час Натан Мілейкоўскі, дзядуля цяперашняга прэм’ер-міністра Ізраіля Біньяміна Нетаньяху, яны ведалі. А вось тое, што іх прозвішча магло пайсці ад назвы вёскі Мілэйкава, — гэта было для нашых гасцей навіной. Прапанаваную мною версію яны ахвотна прынялі за адзіна правільную.

Якім чынам крэўскія яўрэі маглі атрымаць такое прозвішча? Мілэйкава — не горад і нават не мястэчка, сваіх яўрэяў тут быць не магло. Праўда, як расказвалі людзі старэйшага ўзросту, усё ж два прадстаўнікі гэтага народа трымалі там калісьці млын і магазін. Магчыма, такое было здавён, і гэтых людзей па назве вёскі клікалі Мілэйкаўскімі, а на польскі манер — Мілейкоўскімі. Хто ведае: ці яны самі былі выхадцамі з Крэва, ці асталяваліся там пазней, перабраўшыся з Мілэйкава, — але ў 1927 годзе, як падае даведнік «Спіс мясцовасцей», у мястэчку налічвалася некалькі сем’яў з такім ці крыху відазмененым прозвішчам. Можна сустрэць яго і на надмагільных камянях крэўскіх яўрэйскіх могілкаў.

Такім чынам, калі нашы здагадкі наконт паходжання гэтага прозвішча маюць пад сабой глебу, то продкі ізраільскага прэм’ер-міністра маюць непасрэднае дачыненне і да Мілэйкава.

Але вернемся да нашай вясковай акругі. Чым жыве яна сёння? Звернемся спачатку да статыстыкі. Так, на 1 студзеня 2010 года сітуацыя тут наступная: у Мілэйкаве налічваецца 112 жыхароў, у Баярску — 166, у Навасёлках — 23, у Круглянцы — 43, у Качанах — 10, у Малявічах — 9, у Пераходах — 32.

За апошнія дзесяцігоддзі пальму першынства перахапіў ад Мілэйкава суседні Баярск. Відаць, больш жвавому развіццю гэтай вёскі паспрыялі і асаблівасці ландшафту — больш прасторы і менш пагоркаў, і крыху лепшая дарога. Цяпер там усё: і клуб, і пошта, і фельчарска-акушэрскі пункт, і магазін, і сельскагаспадарчая майстэрня, і помнік землякам, якія загінулі ў час вайны. І лік насельніцтва там на сённяшні дзень таксама большы. Аднак таямнічая аўра, набытая Мілэйкавам за доўгія стагоддзі, працягвае ўзносіць яго над акаляючымі вёскамі і не дае яму растварыцца сярод іх. Школа ў Баярску да самага закрыцця лічылася Мілэйкаўскай. Як і раней, моладзь з суседніх вёсак, бавячы час ў баярскім клубе, называе гэта «танцамі ў Мілэйкаве». Нават у кнізе «Памяць» Смаргонскага раёна ўсе вышэй названыя гаспадарчыя і сацыяльна-культурныя аб’екты, што знаходзяцца ў Баярску, пералічаны і ў артыкуле пра вёску, якая ляжыць па іншы бок рэчкі. А гэта значыць, факт існавання вясковай акругі пад агульнай назвай Мілэйкава ўсё яшчэ ў наяўнасці.

А што няма тут цяпер школы, то гэта, магчыма, з’ява часовая. Бо не могуць перавесціся людзі ў мясціне, дзе вясной ля ракі так прыгожа пяюць салаўі.

# КНІЖНІКІ КРЭЎСКАЙ ЗЯМЛІ

Крэўскія княства і староства. Крэўскія воласць, гміна, сельсавет. Крэўскі калгас. Крэўскія парафія і прыход… Усё гэта розныя назвы аднаго і таго ж куточка зямлі, які ў розныя часы уваходзіў у склад разнастайных дзяржаўных, адміністрацыйных і гаспадарчых утварэнняў. У розныя часы межы самой Крэўшчыны па волі ўлад то звужаліся, то пашыраліся. Ды тутэйшы люд стварыў сваю адметную супольнасць, якая, нягледзячы на разнастайныя падзелы і пераўтварэнні, валодае ўласцівымі толькі ёй гаворкай, звычаямі і філасофіяй жыцця. Нават тыя, хто пераязджае сюды з іншых мясцін, у хуткім часе пачынаюць падпарадкоўвацца мясцовым асновам і парадкам.

Шматлікія легенды і паданні, што бытуюць тут з даўніх часоў, паказваюць творчы патэнцыял мясцовых жыхароў. Было б дзіўным, каб з шэрагу насельнікаў Крэва і ваколіц не выйшла б ніводнага паэта, пісьменніка ці публіцыста. Хтосьці з-за ціпласці ці па якой іншай прычыне не змог абнародаваць свае здольнасці, а хтосьці асмеліўся зрабіць гэта, унёсшы такім чынам свой уклад у справу пісьменства. Некаторыя пайшлі яшчэ далей: яны не толькі публікаваліся, але і самі бралі на сябе выдавецкія клопаты.

Чэслаў Янкоўскі ў кнізе «Ашмянскі павет», якая выйшла ў канцы XIX стагоддзя, згадвае пра Вінцэнта Рачкевіча, старасвецкага шляхціца, фальваркі якога знаходзіліся ў Міхалоўшчыне і Скірдзімах. Сучаснікі лічылі Рачкевіча дзіваком і арыгіналам. Свой вольны час ён праводзіў за кнігамі, асабліва цікавіўся працамі па гісторыі Літвы. Лічыў сябе атэістам. Перад смерцю загадаў, каб яго пахавалі не на могілках, а сярод поля, у збудаваным ім самім магільным склепе.

Жывучы ў Скірдзімах, Вінцэнт Рачкевіч напісаў працу пад назвай «Агляд асноў гісторыі Паўночнай Еўропы». У 1860 годзе яна была надрукавана ў Вільні на грошы самога аўтара. Тыраж кнігі быў невялікім, ды і той, не пушчаны ў кніжны гандаль, асеў недзе на гарышчы скірдзімскага маёнтка.

Чэслаў Янкоўскі, адзначыўшы неправінцыйную эрудыцыю аўтара і яго шчырую любоў да абранага прадмета даследвання, дае, разам з тым, невысокую ацэнку працы Рачкевіча. Па ягоных словах, гэта быў усяго толькі бязладны пераказ звестак, пачарпнутых аўтарам з іншых крыніц, у першую чаргу — з твораў Нарбута. Аўтару здавалася, як піша Янкоўскі, што ён выкладае свае асабістыя думкі; насамрэч жа гэта былі ўсяго толькі адбіткі думак іншых.

Пагаджацца з такой ацэнкай ці не — сказаць цяжка, асабліва калі кнігі Рачкевіча ў руках не трымаў. А той жа Янкоўскі, узгадваецца, даволі крытычна адносіўся і да творчасці Янкі Купалы, які быў прызнаны пазней класікам беларускай літаратуры.

У 1871 годзе ў газеце «Виленский вестник» быў надрукаваны гісторыка-этнаграфічны нарыс крэўскага святара Дамеція Плаўскага «Мястэчка Крэва». У сваёй працы аўтар не толькі пераказвае запазычаную з іншых крыніц інфармацыю, але і знаёміць чытача са сваімі назіраннямі і знаходкамі. Для

нас жа, нашчадкаў, найбольш каштоўным у нарысе з'яўляецца апісанне самога мястэчка, трапная характарыстыка яго тагачасных насельнікаў. Дзякуючы аўтару, мы можам сабе ўявіць, як апраналіся жыхары Крэва, як вялі гаспадарку, ува што верылі. Выкарыстоўваючы свае асабістыя назіранні, Плаўскі падрабязна апісвае вясельны абрад, дажынкі, дзяды. Прыводзяцца ўзоры мясцовай гаворкі і вуснай народнай творчасці.

У канцы XIX стагоддзя ў віленскай губернскай прэсе прамільгнула імя настаўніка Крэўскага народнага вучылішча Івана Сіроткі. Працуючы ў славутым мястэчку, гэты чалавек не толькі сам захапіўся яго гісторыяй, але і пачаў дзяліцца сваімі ведамі і знаходкамі з іншымі. Некаторыя звесткі, апублікаваныя ім у газеце «Виленский вестник», пазней былі выкарыстаны ў працы Ф. Пакроўскага «Археалагічная карта Віленскай губерні».

Аб чым пісаў крэўскі настаўнік? Адна з публікацый была прысвечана помнікам даўніны Крэва. Апроч усяго іншага, Сіротка звяртае ўвагу на групу старажытных курганоў, выяўленых ім недалёка ад гарадзішча, расказвае пра археалагічныя знаходкі ў Крэве. Іншая публікацыя мае больш грамадска-культурны накірунак: аўтар паведамляе аб зменах у жыцці селяніна-беларуса пасля адмены прыгоннага права, параўноўвае старое пакаленне людзей з новым. Акрамя гэтага, ён прыводзіць два «напаўнародныя» беларускія вершы, якія хадзілі тады ў сялянскім асяроддзі: адно — насмешка над панскім ігрышчам (балем), другое — своеасаблівае павучанне для маладога пакалення. Хто з'яўляецца сапраўдным аўтарам гэтых твораў — пра гэта да сённяшняга дня ідуць спрэчкі. Верш «Панскае ігрышча» хоць і змешчаны ў Багушэвічавым «Смыку беларускім», аднак аўтарам яго, хутчэй за ўсё, з'яўляецца іншы паэт — Фелікс Тапчэўскі.

У самым канцы XIX стагоддзя вядомы на той час віленскі гісторык, фалькларыст і этнограф Юльян Фаміч Крачкоўскі набыў пад Крэвам фальварак Чаркасы. Амаль на паўстагоддзя стала гэтае месца прытулкам адукаваных, творчых і энергічных людзей, некаторыя з якіх дасягнулі значных поспехаў у абраным імі родзе дзейнасці. Сам Юльян Фаміч, выпускнік Пецярбургскай духоўнай акадэміі, з'яўляецца аўтарам шматлікіх прац па гісторыі краю, даследаванняў пра абрады і побыт беларусаў. Акрамя гэтага, ім былі выдадзены некалькі тамоў актаў Віленскай археаграфічнай камісіі, старшынёй якой ён з'яўляўся, а таксама зборнік дакументаў пра гісторыю Віленскай навучальнай акругі. Дзякуючы гэтым выданням, старажытныя першакрыніцы зрабіліся больш даступнымі шырокаму колу аматараў даўніны.

Усе чацвёра дзяцей Юльяна Фаміча былі натурамі творчымі і дапытлівымі. Дачка Юлія добра спявала і пісала вершы, сын Аляксей захапляўся маляваннем і паступіў вучыцца ў Акадэмію мастацтваў на архітэктурны факультэт. Старэйшы сын Мікалай хоць і выбраў прафесію ўрача, але таксама меў некаторыя творчыя здольнасці, граў на гармоніку і прыгожа спяваў. Набольшых поспехаў дасягнуў самы малодшы сын у сям'і Ігнат. Ён з дзяцінства захапіўся культурай народаў Усходу, самастойна вывучаў іх мовы і ў далейшым стаў вядомым савецкім вучоным-арабістам, акадэмікам, якога прызнавалі і за

мяжой: ён быў абраны членам Арабскай акадэміі навук у Дамаску. Акрамя сваіх навуковых прац, а іх налічвалася больш за 450, Ігнат Юльянавіч напісаў аўтабіяграфічную аповесць «Над арабскімі рукапісамі», у якой узгадвае і Чаркасы, дзе праходзілі гады дзяцінства і юнацтва. Вучоны пераклаў Каран на рускую мову, прымаў удзел у выданні перакладаў шэдэўраў арабскай літаратуры, сярод якіх — «Тысяча і адна ноч».

Узгадаем і пра Дзмітрыя Крачкоўскага, унука Юльяна Фаміча і сына Мікалая Юльянавіча, які ў Чаркасах і нарадзіўся. Ён быў мастаком і меў нялёгкі лёс. У сталінскія часы ён, як «сацыяльна-небяспечны элемент», зведаў горыч зняволення. Да шэрагу кніжнікаў Дзмітрыя Крачкоўскага далучае тое, што нейкі час ён займаўся афармленнем літаратурна-мастацкага альманаха «Нарач», ствараў ілюстрацыі да твораў, якія там друкаваліся.

Ёсць на Крэўшчыне вёска, абраная Богам, каб даць беларусам цэлы шэраг павадыроў і настаўнікаў. Гэтая вёска — Арляняты. У цяжкі час давялося рабіць тым людзям сваю справу, складаны лёс рыхтавала ім жыццё. Але нягледзячы на ўсе перашкоды, да канца жыцця выконвалі яны сваю высакародную місію. «Высока ў буру і пагоду ты родны сцяг і крыж трымаў, між беларускага народу святую праўду засяваў», — гэтыя словы, выбітыя на сімвалічнай магіле аднаго з іх, ксяндза Адама Станкевіча, можна аднесці і да астатніх яго землякоў-паплечнікаў.

Жыццё і справы Адама Станкевіча — беларускага каталіцкага святара, аўтарытэтнага грамадска-палітычнага дзеяча, выдаўца, гісторыка і літаратуразнаўцы — варты вялікага і сур'ёзнага даследавання. Зрухі ў вывучэнні яго спадчыны ёсць: пра Адама Станкевіча ўжо пішуць, перавыдаюць яго кнігі. Мы ж паспрабуем пералічыць з большага толькі справы яго дзейнасці ў якасці аўтара і выдаўца.

Самую першую сваю карэспандэнцыю Адам Станкевіч даслаў у газету «Наша ніва» яшчэ ў 1909 годзе. У час вучобы ў Пецярбургу ён супрацоўнічаў з беларускімі выданнямі «Светач», «Дзянніца», «Гоман» і «Крыніца». У апошняй, калі яе рэдакцыя ў 1919 годзе пераехала ў Вільню, ён працаваў нейкі час у якасці рэдактара-выдаўца. «Крыніца» («Беларуская крыніца») была органам партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя, адным з заснавальнікаў і лідараў якой Адам Станкевіч і з'яўляўся. Наогул, пералік грамадскіх, асветніцкіх і культурніцкіх арганізацый і ўстаноў, якія стварыў і якімі кіраваў гэты чалавек, заняў бы шмат месца. Мы ж не будзем адыходзіць ад выбранай намі тэмы.

Такім чынам, Адам Станкевіч быў сярод заснавальнікаў беларускай друкарні імя Ф. Скарыны. У ёй выдадзена не менш за 146 беларускіх рэлігійных і свецкіх кніг. Беларускае каталіцкае выдавецтва таксама дейнічала не без яго актыўнага ўдзелу.

Адам Станкевіч напісаў 18 кніг і каля 2000 артыкулаў. Ён з'яўляецца аўтарам літаратурных партрэтаў дзеячоў айчыннай гісторыі і культуры, сярод якіх — Вітаўт, Ф. Скарына, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч і іншыя. Шэраг прац прысвечаны пытанням гісторыі беларускага народа. У прыватнасці,

ён даследаваў развіццё асветы на нашых землях, разглядаў гісторыю хрысціянства і хрысціянска-дэмакратычнага руху. У 1944 годзе ім была распачата праца над кнігай «Гісторыя Беларусі (сістэматычны нарыс)». Адам Станкевіч займаўся таксама выпускам школьных падручнікаў на беларускай мове. І канечне ж, з'яўляючыся рэлігійным дзеячом, шмат увагі ён удзяляў друкаванню і распаўсюджванню сярод беларускага насельніцтва малітоўнікаў, казанняў і спеўнікаў на роднай мове.

Самаахвярная дзейнасць ксяндза Адама была і ёсць прыкладам для многіх паплечнікаў і паслядоўнікаў, сярод якіх — яго землякі Янка і Станіслаў Станкевічы.

Янка Станкевіч яшчэ ад часоў І сусветнай вайны актыўна займаўся грамадска-палітычнай дзейнасцю. Маючы вышэйшую адукацыю (у 1926 годзе закончыў Карлаў універсітэт у Празе, атрымаў званне доктара філалогіі і гісторыі), займаўся асветніцтвам. Выкладаў у Віленскім і Варшаўскім універсітэтах, працаваў у розных арганізацыях і ўстановах, якія курыравалі адукацыйны працэс. Друкаваўся ў шэрагу заходнебеларускіх выданняў. Апынуўшыся ў эміграцыі, не спыняў сваю навукова-асветніцкую дзейнасць. Выдаваў часопісы «Веда», «Незалежнік», супрацоўнічаў з іншымі эмігранцкімі выданнямі. Асноўныя тэмы яго даследванняў — беларуская гісторыя, мовазнаўства. Многія філалагічныя працы Янкі Станкевіча перапоўнены прыкладамі, узятымі з адметнай гаворкі мясцовасці, дзе прайшло дзяцінства аўтара. Відаць, адтуль, з дзяцінства і з малой радзімы, яго цікавасць да напісаных па-беларуску арабскай вяззю «Кітабаў»: побач з Арлянятамі было нямала татарскіх паселішчаў.

Станіслаў Іосіфавіч Станкевіч таксама меў добрую адукацыю. Выкладаў у Віленскім універсітэце, у 1937–1938 гадах працаваў у Югаславіі і Балгарыі. Нейкі час з'яўляўся рэдактарам часопіса «Студэнцкая думка». Наогул, як піша пісьменнік Уладзімір Арлоў, Станіслаў Станкевіч меў смак да рэдактарскай працы. Знаходзячыся ў эміграцыі, ён выдаваў часопіс «Запісы», газеты «Раніца», «Беларус», «Бацькаўшчына». Пры апошняй працавала аднайменнае выдавецтва, якое выпускала кнігі як самога рэдактара,так і іншых беларускіх аўтараў.

Кніжнай справе аддаў сваё жыццё яшчэ адзін выхадзец з Арлянятаў — Станіслаў Лявонавіч Станкевіч, стрыечны брат Адама Станкевіча. Каб не блытаць з цёзкам па імені і прозвішчу, пра якога мы згадалі вышэй, сябры так і клікалі яго паміж сабой «Кнігаром». Адразу пасля І сусветнай вайны Станіслаў Станкевіч нейкі час працаваў сакратаром у Крэўскай гміне. У 1920 годзе пераехаў у Вільню і пачаў займацца кніжным гандлем. У яго прыватнай кнігарні на вуліцы Вострабрамскай можна было набыць кнігі на беларускай мове, беларускія падручнікі і календары, а таксама розныя канцылярскія тавары. Кнігарня Станкевіча была асяродкам беларускай культуры ў Вільні, своеасаблівым даведачным бюро, дзе можна было знайсці інфармацыю пра новыя выданні і планы выдавецтваў, пра беларускае грамадскае жыццё. Апроч кніжнага гандлю Станіслаў Станкевіч сам займаўся выдавецкай

справай. Гэта яму і паэтэсе Зосьцы Верас належыць ініцыятыва выпускаць беларускія адрыўныя календары. Яны выходзілі з 1926 года да пачатку II сусветнай вайны. У выдавецтве Станкевіча выйшлі кніжкі «Тарас на Парнасе», «Беларускі спеўнік», «Флірт для ўсіх». Выдаў ён і свае асабістыя кніжкі вершаў, якія мелі назву «Смех ня грэх» (1926) і «З майго ваконца» (1928). Вершы з гэтых зборнікаў вылучаюцца шчырасцю, народным гумарам і патрыятызмам. На жаль, застаўся нявыдадзеным і страчаным назаўжды рукапіс аўтабіяграфічнай паэмы «Лявонава доля», галоўнай паэтычнай працы Станіслава Станкевіча. У 1944 годзе ў час адступлення немцаў кнігарня Станкевіча згарэла, а сам яе гаспадар, як і многія іншыя беларускія патрыёты, трапіў у сталінскія лагеры. Праз 9 гадоў ён вярнуўся ў Вільню, дзе і пражыў да сваёй смерці.

З вёскі Копцевічы паходзіць беларускі грамадскі дзеяч і выдавецкі работнік Адам Дасюкевіч. Нягледзячы на складаныя ўмовы жыцця ў дзяцінстве, хлопец паспяхова заканчыў школу, працягваў вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі і паступіў ва ўніверсітэт імя Стэфана Баторыя. Яшчэ з гімназічных часоў Адась Дасюкевіч зрабіўся прыхільнікам ідэі беларускасці. У студэнцкія гады яго грамадская актыўнасць узмацнілася, і ён стаў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, быў абраны старшынёй Беларускага студэнцкага Саюза. Дасюкевіч уваходзіў у склад рэдкалегіі часопіса «Студэнцкая думка». З 1936 года ён з’яўляўся рэдактарам газеты «Беларуская крыніца». За вострыя публікацыі рэдактар неаднаразова выклікаўся ў суд. Погляды гэтага чалавека былі не да спадобы ні палякам, ні немцам, якія пазней захапілі наш край. У кастрычніку 1943 года Дасюкевіч быў расстраляны акупантамі ў Паставах. Там ён і пахаваны.

Вёска Чухны з’яўляецца радзімай каталіцкага святара, выдаўца і публіцыста Францішка Чарняўскага. Яшчэ ў час вучобы ў Віленскай духоўнай каталіцкай семінарыі Чарняўскі свядома звязваецца з беларускім нацыянальным рухам. Стаўшы ксяндзом, ён праводзіць службы па-беларуску, распаўсюджвае сярод вернікаў беларускія рэлігійныя кніжкі і перыядычныя выданні. З 1924 года Ф. Чарняўскі працягвае вучобу ў Рыме, затым вяртаецца на радзіму. З 1929 года пачынаецца яго місіянерская дзейнасць за мяжой. Спачатку — Францыя, затым — Бельгія, і нарэшце — ЗША, у якіх з 1957 года ён пасяляецца на сталае жыхарства. За мяжой Ф. Чарняўскі рэдагуе і выдае бюлетэнь «Божае слова». У ЗША выходзіць яго беларускі рэлігійны часопіс «Сяўбіт».

Да кніжнікаў крэўскай зямлі з поўным правам можна аднесці і пляменніка Францішка Чарняўскага, палымянага беларускага патрыёта і ксяндза Уладзіслава Чарняўскага. Дзіцячыя гады яго прайшлі ў вёсцы Біцяняты, вучыўся ён у Арлянятах, Вішнёўцы і нейкі час у Крэве. У крэўскім касцёле ў 1944 годзе адправіў ён сваю першую імшу. Большую частку жыцця Уладзіслаў Чарняўскі праслужыў у в. Вішнева Валожынскага раёна. Да шэрагу кніжнікаў яго далучае той факт, што ён з’яўляецца перакладчыкам Святога Пісання на беларускую мову. Дарэчы, гэтая высакародная справа была распачата

ксяндзом Адамам Лісоўскім, таксама нашым земляком, які з'явіўся на свет у вёсцы Каранды. Ім былі перакладзены на беларускую мову асобныя часткі Новага Запавету.

У беларускіх газетах міжваеннага перыяду раз-пораз з'яўляліся невялікія паведамленні аб клопатах і турботах жыхароў Крэва, падпісаныя псеўданімам «Крэўскі» ці літарамі «Н. Т.» Хто скрываўся пад гэтымі подпісамі, была гэта адна і тая ж асоба ці розныя, — пакуль што невядома, але тое, што гэта быў хтосьці з жыхароў мястэчка, — бясспрэчна. Сваімі допісамі гэты чалавек (ці людзі) таксама пакінуў нейкі след у справе пісьменства. Апісанне цяжкога пасляваеннага жыцця, змаганне супраць апалячвання і за беларускую школу, канфлікты мясцовых жыхароў з залішне палітызаванымі ксяндзом, гмінным пісарам ці польскім настаўнікам, — усе гэтыя звесткі дапамагаюць нам уявіць, як жылося нашым аднавяскоўцам у тыя часы.

Жыхары Крэўшчыны і ў іншыя часы нярэдка рабіліся дабраахвотнымі карэспандэнтамі мясцовай і нават рэспубліканскай прэсы. Надзённыя праблемы, асабістыя радасці ці нейкія краязнаўчыя знаходкі, — пра ўсё гэта цікава чытаць не толькі сучаснікам, але і нашчадкам. Мы не задумваемся, але і цяпер, змяшчаючы нейкія паведамленні ў тую ж раёнку, мы пакідаем нашым будучым пакаленням жывую інфармацыю пра свой час.

Недалёка ад Ракаўцаў, у фальварку Пярловая Горка, прайшлі дзіцячыя гады Надзеі Бітэль-Дабжынскай, вядомага ў Польшчы доктара эндакрыналогіі і педыятрыі. Жыццёвыя дарогі прывялі яе і ў Крэва, дзе пасля заканчэння вучобы яна працавала лекаркай. Быў цяжкі ваенны час, ёй самой прыйшлося арганізоўваць шпіталь. Пасялілася яна ў доме, дзе да вайны жыў яўрэйскі лекар. Па кнігах, што засталіся ад яго, Надзея паглыбляла свае веды. Пасля вайны пераехала ў Польшчу, дзе абараніла доктарскую дысертацыю. Напісала 69 навуковых прац. Спрабавала сябе ў вершаскладанні і ў прозе. Пісала папольску і па-беларуску. І, як прызнавалася сама Бітэль-Дабжынская, славу ёй прынеслі не навуковыя публікацыі, а аўтабіяграфічная кніжка «Як ведзьма Агрыпіха знахарству мяне вучыла». Кніга выйшла ў Гданьску ў 1991 годзе. Дзеянне ў ёй адбываецца ў Пярловай Горцы, дзе сапраўды жыла знахарка Агрыпіха, якая далучала дзяўчынку да мясцовага фальклору, да сакрэтаў народнай медыцыны. Стаўшы лекаркай, Бітэль-Дабжынская неаднойчы выкарыстоўвала ў сваёй практыцы лекі і замовы, перанятыя ад беларускай «ведзьмы», чым вельмі здзіўляла сваіх калег. Польскі пісьменнік Збігнеў Жакевіч зазначыў у пасляслоўі да кнігі, што аўтарка «ўвайшла ў глыбокія, патаемныя слаі ведаў пра душу беларускага народа» і дакладна перадала гаворку «свету Ашмянскага ўзвышша».

Дарэчы, і сам Жакевіч паходзіць з нашых мясцін. Яго дзяцінства прайшло ў фальварку Леанполле, што недалёка ад Рымцеляў. Пасля вайны пераехаў з бацькамі ў Польшчу і стаў пісьменнікам. У сваіх творах ён часта ўзгадвае дзіцячыя гады, праведзеныя тут, у адной кнізе згадвае і апісвае сваю з бацькам паездку ў Крэва да лекара.

Апынуўся ў Польшчы яшчэ адзін наш зямляк — Юзаф Грынкевіч з Крэва. І хоць не стаў ён пісьменнікам, але сумесна з іншым аўтарам выдаў кнігу ўспамінаў пра даваенную Ашмянскую гімназію, дзе ён вучыўся. Дакладней кажучы, гэта не проста мемуары, а сапраўдны даведнік па гісторыі самой гімназіі і ўсяго Ашмянскага павета. Рэдкія гістарычныя звесткі, спісы гімназістаў і выкладчыкаў, інфармацыя пра іх лёс, рарытэтныя здымкі — усё гэта можа быць карысным пры краязнаўчых пошуках. Акрамя ўсяго іншага, кніга змяшчае некалькі вершаў Грынкевіча пра роднае мястэчка.

З нашых землякоў-сучаснікаў найбольшых творчых поспехаў дасягнуў паэт і празаік Уладзімір Някляеў. І хоць шматлікія даведнікі называюць яго радзімай горад Смаргонь, насамрэч, як пацвярджае сам Някляеў, упершыню ён убачыў свет у Крэве. Тут прайшло яго дзяцінства, тут пайшоў ён у школу, на крэўскіх могілках пахаваны бацькі паэта. І хоць большая частка яго жыцця праходзіць у іншых мясцінах, паэт час ад часу вяртаецца да роднага гнязда, каб набрацца сілаў перад новымі дарогамі. І таму не дзіўна, што пад многімі яго творамі ў якасці месца напісання стаіць імя роднага мястэчка. Акрамя творчай працы, Уладзімір Някляеў адзначыў сябе і ў выдавецкай дзейнасці. Ён быў літсупрацоўнікам газеты «Знамя юности», рэдактарам бюлетэня «Тэатральны Мінск». А калі Някляеў узначальваў часопіс «Крыніца», яго тыраж дасягаў 500 000 экзэмпляраў.

Аўтарам шматлікіх прац па гісторыі і культуры Беларусі з’яўляецца Іван Трацяк, які нарадзіўся на хутары Труханава пад Ардашамі. Ён вучыўся ў Вярэбушскай школе, нейкі час быў настаўнікам у Крэве. Зараз Іван Трацяк працуе на кафедры беларускай культуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Яго публікацыі з’яўляюцца на старонках беларускіх, польскіх і расійскіх выданняў. У сваіх даследаваннях ён часта звяртаецца да малавядомых падзей з мінулага роднага краю, асвятляе жыццё і дзейнасць забытых, але вартых увагі землякоў.

Менавіта Іван Трацяк наноў адкрыў нам імя Пятра Грынкевіча, настаўніка з Крэва, які, апроч педагагічнай працы, прысвяціў сваё жыццё пошукам інфармацыі па гісторыі роднага мястэчка. Напісаў некалькі сшыткаў асабістых разваг і ўспамінаў. Зроблена было вельмі многа, але мара Пятра Іванавіча стварыць сваю кнігу пра Крэва так і не здзейснілася. Нягледзячы на гэта, ён з поўным правам займае сваё пачэснае месца сярод кніжнікаў крэўскай зямлі.

Адміністрацыйны падзел ствараюць чыноўнікі. Сапраўдныя межы Крэўскай зямлі акрэсліць немагчыма, таму прыналежнасць да жыхароў Крэўшчыны — справа ўмоўная. Асветнік, публіцыст і выдавец Казімір Контрым, напрыклад, некаторыя свае творы падпісваў псеўданімам «Пётра з-пад Крэва», хоць нарадзіўся ў мястэчку Вішнева каля Валожына. Дык чаму тады нельга аднесці да кніжнікаў крэўскай зямлі паэта і выдаўца Эдварда Адынца з суседніх Гейстунаў, паэта Юльяна Сергіевіча, які настаўнічаў у недалёкай ад нас Ленкаўшчыне, і многіх іншых? Не за далёкімі гарамі той жа Лоск, славуты колішняй сваёй друкарняй, Кушляны, дзе жыў наш класік Францішак

Багушэвіч… А межаў і не павінна быць, бо не мае межаў тая справа, якую здзяйснялі і здзяйсняюць нашы творцы і асветнікі.



*Юльян Сергіевіч*

## Восень

Восень сцюдзёная, восень імглістая
Курыць сівым туманом;
Вецер жане смяццё жаўталістае —
Сумна і пуста кругом.

Моцным цярпеннем балюча трыманая,
Як пад уціскам ярма,
Ные і плача душа надарваная —
Просіць ратунку дарма...

Сэрца нясмела, трапетатна просіцца —
Думкі усцяж туды шле —
Дзе ж гэта восень ірдзее, залоціцца
У сонечным, яркім святле?

*Тацыяна Кляшчонак*

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА СМАРГОНШЧЫНЫ Ў ТВОРЧЫМ БАЧАННІ ПОЛЬСКАГА ПІСЬМЕННІКА ЗБІГНЕВА ЖАКЕВІЧА

Наваградчыне пашчасціла мець Міцкевіча. Ён вывеў яе з небыцця, прадставіў усяму свету яе гістарычныя і прыродныя асаблівасці, складаныя характары і перапляценні лёсаў, сагрэў сыноўняй любоўю і тугой, захінуў у плашч рамантычнай паэзіі і ўзнёс сваю Айчыну на пасад мясцін укаханых, якія жывуць унікальным унутраным жыццём.

Я рада паведаміць, што сённяшняя Смаргоншчына таксама мае свайго песняра, але песняра сучаснага, які жыве і працуе на карысць гуманнасці і духоўнасці. Гэта вядомы польскі празаік Збігнеў Жакевіч, лаўрэат літаратурнай узнагароды жэнеўскай фундацыі Касцельскіх, аўтар шматлікіх твораў аб Смаргоншчыне і Віленшчыне, напрыклад «Род Абачаў» (1968), «Воўчыя лугі» (1982), «Вілія, у глыбінях мора» (1992), а таксама многіх літаратурных нарысаў.

Параўнанне з Міцкевічам тут не выпадковае. Пакаленне З. Жакевіча, якое прыйшло на свет перад Другой сусветнай вайной, было навучана ацэньваць рэчаіснасць у міцкевічаўскіх катэгорыях. Збігнеў Жакевіч успамінае: «…Гаварылася Адамам, снілася Адамам, спявалася Адамам. Кожная сядзіба лічыла сябе часткова Сапліцовам. Бо і сапраўды, дух гэтых сядзіб, хоць бы і майго «дзядуні», які звіў сваё гняздо на паўдарозе паміж Смаргонямі, дзе мядзведзі атрымлівалі адукацыю, і Залессем, дзе Агінскі не так даўно развітваўся паланезам з Радзімай, мала змяніўся з часоў Міцкевіча. Быў «літоўскі халадзец», вечаровыя суседскія гутаркі, сабакі і паляванні, хаця б на зайца, і госці з вялікай Вільні, якія частаваліся кумпякамі і «гарачым кіндзюком»… А калі я злёг у хваробе, а гэта было якраз у фальварку пад Крэвам, амаль у сэрцы Ашмяншчыны, то мне маці чытала «Пана Тадэвуша», а я думаў, што гэты твор трактуе аб нас, аб нашай ашмянскай прыродзе…» («Убачанае, затрыманае ў часе»).

І далей: «Міцкевіч паказаў апошні захоп, пасля якога гэты свет, аднак, працягваў існаваць, хаця сам паэт і апынуўся ў эміграцыі. Я апісаў апошняе нашэсце. Пасля гэтага нашэсця той Літвы ўжо няма ўвогуле», — піша З. Жакевіч.

Фармальна З. Жакевіча можна было б далучыць да шырокага кола віленскіх літаратараў, якія былі вымушаны пакінуць свае родныя мясціны ў сувязі з устанаўленнем тут новага палітычнага і дзяржаўнага рэжыму пасля

1939 года. Родныя дзеці Віленшчыны, яны ў сваёй большасці з'яўляюцца яе знаўцамі і даследчыкамі. Але З. Жакевіч вылучаецца тут як творца вельмі арыгінальны, непаўторны ў сваёй індывідуальнай манеры, рафінаваны майстар слова з шырокім і праніклівым метафізічным бачаннем свету.

Народжаны ў Вільні ў 30-я гады, выхаваны ў бацькоўскім доме ў Маладзечне і родавым маёнтку дзеда пад Крэвам, З. Жакевіч быў сведкам грозных падзей 40-х гадоў: праследаванне памешчыкаў мясцовымі сялянамі, шматлікіх вывазак і рэпрэсій супраць палякаў, ваенных дзеянняў, вельмі супярэчлівай партызанскай барацьбы. Спазнаў голад і пакуты, перажыў смерці многіх блізкіх, у тым ліку дзядулі, бабулі і бацькі. У 1946 годзе разам з маці быў рэпатрыяваны ў Польшчу.

Гэта быў час станаўлення юначага светапогляду, яго маральных і нацыянальных установак, і перажыванні дзяцінства станавіліся часам непад'ёмным цяжарам для ўражлівай юначай душы. Таму, напэўна, літаратурная творчасць становіцца для З. Жакевіча спосабам вызваліцца ад падаўляючага цяжару ўспамінаў, зразумець праблемы жыцця краіны і ўласнай сям'і. Таму і героем сваіх твораў ён заўсёды робіць сябе самога — пад рознымі імёнамі і постацямі.

Падзеі свайго дзяцінства ён падае на надзвычай шырокім фоне жыцця смаргонскага люду, ужываючы аўтэнтычныя геаграфічныя назвы, а таксама мову беларускага люду і крэсовую «пальшчызну».

«…Так, у мяне вельмі многа назваў. Гэта інкрустацыя. Яны маюць смак, арамат. Назва "Карчэўшчына", ці "Ялага", "Крэва"… У гэтым — зачараваная гісторыя. Гісторыя людзей, свету, мовы», — прызнаецца ён у інтэрв'ю для Генрыкі Добаш.

З. Жакевіч не пазбягае нацыянальных тэм. Наадварот, ён лічыць шматнацыянальнасць Віленшчыны за яе неад'емную рысу, ставіцца да гэтай з'явы з шырокай талерантнасцю.

«Там, дзе ёсць тэктанічныя пліты, ведаеш, што робіцца? Выбухоўваюць вулканы. Крэсы з'яўляюцца мяжой такой тэктанічнай пліты, якой ёсць Заходняя Еўропа. Другая пліта — гэта Расія. Мы з пакалення ў пакаленне жылі на гэтай мяжы. Адсюль духоўнае напружанне. Там немагчыма жыць беспраблемна. Там чалавек ад самага пачатку задумваецца, чаму ён паляк. А можа, беларус? Беручы яшчэ глыбей, генетычна, гэта сумесь крыві. Чым больш сумесь рознародная, тым, здаецца, багацейшая індывідуальнасць. У маёй сям'і генетычныя складнікі былі польскія, беларускія, літоўскія і татарскія — па матчыным бацьку. У некаторых сем'ях былі і яўрэйскія…»

З дзяцінства маючы адчуванне сваёй польскасці, Жакевіч усё ж усведамляе, што, хутчэй за ўсё, гэта з'яўляецца вынікам культурнай арыентацыі яго сям'і, якая, як і іншыя памешчыцкія і шляхецкія сем'і, у ходзе гісторыі схілялася да польскасці. Ён бачыць у гэтым праяву сваёй «тутэйшасці», звязвае са сваім пісьменніцкім прызваннем. Тым не менш цэлым адкрыццём робіцца не толькі адлюстраваная ў яго творах беларуская гаворка, але і крэсава-польская, а хутчэй — суадносіны гэтых гаворак паміж сабой. Беларускія

прыслоўі, вершы, анекдоты і песні, якія можна сустрэць як бы пацвярджэннем аўтарскай праўдзівасці, бо яны да сённяшняга дня вядомыя і ўжываюцца намі. Асабліва насычаны беларускім фальклорам раздзел «Прыём у парабкаў» з аповесці «У князёўскіх Драях». Выкарыстанне гэтых народных прыслоўяў дадае жыцця і гумару творам Жакевіча, ураўнаважвае іх трагізм і песімізм. «У Ваньковіча і Міцкевіча таксама гэта было, — заўважае З. Жакевіч, — гэта рыса крэсовых пісьменнікаў».

Мы ўдзячны З. Жакевічу, што ён пакінуў нам апісанне асобы свайго настаўніка ў Ленкаўшчыне, беларускага паэта і самаахвярнага нацыянальнага дзеяча Юльяна Сергіевіча, рэпрэсаванага пазней сталінскай уладай. Сергіевіч першы распазнаў вялікі літаратурны талент свайго вучня, спрабаваў зацікавіць яго беларускімі нацыянальнымі праблемамі.

З. Жакевіч як ніводзін крэсавы пісьменнік адчувае сваю арганічную повязь з гэтаю зямлёй і ўмее выказаць свае пачуцці найкарацейшай дарогай — ад сэрца да сэрца, не робячы ніякіх абагульненняў і не прад'яўляючы нікому прэтэнзій. Ён — сын гэтай зямлі, ён адзін з нас, але несправядліва выгнаны і таму лепшы за нас.

«Відаць адсюль уся Абачоўшчына і высокі бярэзнік… Аганоўскіх. Я ведаю, што ў пачатку мінулага веку Даўгялы-Аганоўскія плацілі падаткі на карысць мячэці ў Даўбучках; а вось тут побач на горцы, на могілках у Ленкаўшчыне, стаіць крыж, найвышэйшы з крыжоў, хоць і моцна пахілены. Ляжыць там маці татарскага князя, ляжыць там мая прабабка! Дык чаму ж маё сэрца гэтак сціскаецца пры думцы аб Маладзечне? Тут мая бацькаўшчына, дзедаўшчына і прабабкаўшчына… Успамінаю гэтак і адчуваю ўсім сабою повязь з гэтай зямлёй, якую наведваў толькі ад выпадку да выпадку…» («Вілія, у глыбінях мора»).

Асаблівым месцам у сваім жыцці лічыць Крэва. «І гэта ёсць месца, аб якім цяжка забыцца, бо з той пары, як пачынаецца мая памяць, кожны момант у ёй мроіцца Крэвам. А можа, крывёй? А можа, кроўным? А можа, сукровіцай ці крываўнікам, які на кроў прыкладаюць?»

«Цёмнае Крэва і грознае, вісіць яно над намі як папрок сумлення, бо, як і з нас саміх, з Крэва здзекаваліся і хавалі (харанілі), але як жа забыць самога сябе — калі без Крэва не было б ні нас, Аганоўскіх — Даўгялаў, ні Волк-Валчацкіх, ні літоўскасці, ні польскасці, а толькі адна Русь Вялікая…» («Вілія, у глыбінях мора»).

Добра ведаючы гісторыю сваіх родных мясцін, З. Жакевіч пакінуў апісанне сядзібы Міхала Клеафанса Агінскага ў Залессі падчас вайны. Гэтае месца ўражвае яго кантрастам з ваенным жыццём, таму што тут захавалася атмасфера ўзнёсласці і ціхай меланхоліі.

Ён часта ўспамінае гістарычныя асаблівасці навакольных мясцін — Лоска, Беніцы, Маладзечна, Вільні. Падкрэслівае асаблівую ролю Вільні як культурнага цэнтру краю.

«Гэта быў уласна не горад, не геаграфічны пункт, а рэальнасць, якая пераўзыходзіла ўсялякія меркі. Там была поўня і там было спаўненне…

Вастрабрамская была метафізічнай поўняй, а ўсю сакральную сферу матэрыялізавалі віленскія касцёлы. Аб іх гаварылі, да іх ездзілі, і нічога не было прыгажэйшага за віленскае барока…

Вільня таксама заспакойвала патрэбы цела, таму што каталіцкі, крэсавы люд ведаў, што яму патрэбна для жыцця. А гэта — цацкі і начоўкі, колы і каламажкі, цудоўна тканыя воўны і лён, і гэтыя вербачкі… для прывітання Пана. А для страўніка на казюковыя кірмашы, проста на месцы, — гарачая кішка, кіндзюкі, цэлыя вазы «абаранкаў», прывезеных з колішніх радзівілаўскіх Смаргоняў. А каб соладка было на сэрцы, усюды на гэтым каралеўскім кірмашы каралявалі пернікавыя сэрцы з адпаведным пажаданнем, напісаным каляровай глазурай…

…Таксама Вільня была жывой гісторыяй. Там адбываліся вялікія падзеі і «Дзяды» Міцкевіча, гэта сама эсэнцыя быцця самаісным, самасваім, «тутэйшым». Ён лічыўся лепшым за «паноў Дамброўскіх», варшаўскіх ці «каронных» палякаў, нібыта хітрых, пранырлівых, якія пільнуюць сваёй выгады. У гэтую гісторыю ўпісаліся паўстанні, і кожная шляхецкая сям'я захоўвала памяць пра якога-небудзь дзеда, які сядзеў у даліне — канаў, ішоў у кайданах у Сібір або страціў хоць і невялікую, але ўласную маёмасць…

Доўгую і моцную памяць меў віленскі люд. Не было радыё і газет, у выніку чаго памяць была не сапсаваная і не затопленая патокам інфармацыі. А моцнай памяць была таксама і таму, што найважнейшыя падзеі адбываліся тут. А тым горнам, што сплаўляў падзеі ў моцны сплаў, былі, побач з Вільняй і меншымі за яе Ашмянамі, Смаргонямі і Наваградкам — маёнткі і роды ўсіх гэтых Платэраў, Радзівілаў, Сапегаў ці Тышкевічаў, сапраўдных паноў над меншымі панкамі…» («Убачанае, затрыманае ў часе»).

І адразу ж З. Жакевіч робіць вывад: «Вільня ёсць для нас сёння горадам, які страціў сваё імя. Кожны віленчук услед за Мілашам можа паўтарыць: «Nie mam w sobie przyjaciela, czas mnie na dwoje rozdziela» («Я не сябар сам сабе, час дзеліць мяне надвая». — *Т. К.*)… Вільня, па якой я сумаваў, у нас саміх. Дух гэтага горада разам з яго людам пераляцеў на сваіх эфірных крылах у Вольны Горад Гданьск.

Інакш маецца справа з літоўцамі. Яны вярнуліся да свайго і не маюць куды выяжджаць, хіба што ў пустату нацыянальнага неіснавання. Сучасная Літва ўсведамляе сваю повязь і сувязь з Польшчай. Таму літоўскія мастакі і інтэлігенцыя здаліся мне тым адзіным Ноевым каўчэгам паміж даўнімі і новымі гадамі… Такім чынам Вільня здабывае сваё новае імя».

На жаль, З. Жакевіч не адорвае падобным прадказаннем Беларусь. Ён проста маўчыць, канстатуе змены, якія заўважае на зямлі сваіх продкаў, бядуе над лёсам архітэктурных помнікаў.

«Калісьці я туды паехаў. Потым. Няма. Нічога. Змяніўся нават краявід. На гэты раз я даехаў да маёнтка дзядулі… На месцы ручая ёсць толькі роў, вадзяного млына няма, става няма, а ўзгорак, на якім быў маёнтачак, лысы, голы, без дрэў, стаяць нейкія дзіўныя бетонныя пабудовы, крытыя бляшаным дахам. Вясковая калгасная пабудова, досыць страшная…»

«Касцёл, які быў парафіяльным храмам майго дзядулі, дзе мае бацькі бралі шлюб і дзе я быў ахрышчаны — Беніца. Цудоўная бараковая фара імя Св. Тройцы, фундаваная на пераломе XVII і XVIII стагоддзяў Коцеламі. Пры ёй аселі манахі-бернардзінцы. Герой «Дзённікаў квестара» пяра Ігнацція Ходзькі менавіта для беніцкага кляштара ездзіў збіраць квесту па навакольных сядзібах і засценках. Калі мы развіталіся з гэтай краінай у 1946 годзе, касцёл яшчэ служыў вернікам. Калі я завітаў туды ў 1968 годзе, то дзіўнае ўражанне рабілі вежы і дах касцёла, з якіх была абадрана медная бляха. Абабраны дашчэнту, касцёл выкарыстоўваўся як склад збожжа для калгаса з Маркава» («Убачанае, затрыманае ў часе»).

Так, Смаргоншчына Жакевіча ўжо не існуе. Падзеі XX стагоддзя разарвалі повязь часоў, адбылося знішчэнне пэўнай папярэдняй духоўнай цывілізацыі. Гісторыя яе пакутлівай гібелі, апісанай З. Жакевічам, — тэма сапраўды агульначалавечага значэння, якая здаўна патрабавала пяра вялікага майстра. Дзіўна, што, аддаючы належную павагу ўнікальнай гісторыі Смаргоншчыны, мы не чакалі прыходу такога майстра. Але вось ён сярод нас, і гэта неверагодна і верагодна адначасова. Праз свой асабісты боль, праз творчыя намаганні ён асвяціў і ўзвысіў гісторыю сваёй Айчыны.

Ці існуе для пісьменніка ўзнагарода большая, чым прызнанне чытача? Творы З. Жакевіча, высока ацэненыя і вядомыя ў Польшчы і па-за яе межамі, павінны нарэшце дайсці і да нас.

*Збігнеў Жакевіч*

# КРАІНА ДЗІЦЯЧЫХ ГАДОЎ НАШЫХ БАЦЬКОЎ І ДЗЯДОЎ

Я ўяўляю сабе Яна Булгака, пажылога пана з прыгожым лысым чэрапам, што сведчыць аб татарскім паходжанні роду Булгакаў, ва ўзросце шасцідзесяці шасці гадоў, як ён сядзіць за пісьмовым сталом у каханай Вільні, як яго праследуюць няшчасці, якія не пакідалі гэтай Зямлі Вялікага Пагранічча. Толькі што адышлі Саветы, якія ўваходзілі ў Вільню двойчы: у 1939 годзе і ў 1940. Цяпер у горад вярнуліся літоўцы ў саюзе з немцамі… — Цягнецца паліцэйская гадзіна, вокны зацемнены, але ён бачыць толькі сваю казачную, ідэальную «краіну дзіцячых гадоў». І нават не прадчувае, што яго кватэра — архіў мастака-фатографа на вуліцы Ажэшка, 3 — згарыць у ліпені 1944 года і ён, усімі пакаленнямі свайго роду прыпісаны да Вялікага Княства Літоўскага, у ліпені 1945 года назаўсёды пакіне горад над Віліяй, заняты, здавалася тады канчаткова, Саветамі.

Завяршаючы сваю шматгадовую пісьменніцкую працу, ён занатаваў:

«Сёння, у 1942 годзе, у канцы трэцяга года вайны, — і Селішча, і Асташын, і ўся Наваградчына, апісанная тут, ператварыліся ў безгаспадарчыя пустыні, ашалелую бойню. Зняслаўленная, закатаваная, зменена да непазнання гэта «мая зямля» штогод мяняе ўладальнікаў, а кожны часовы ўладальнік штосьці з яе забірае, вывозіць, высякае і нішчыць. Палаюць сядзібы і мястэчкі, ператвараюцца ў разваліны касцёлы, пусткай стаяць сады і палі. Утвараюцца новыя «дзікія палі» (…) Мой прыгожы «край дзіцячых гадоў» знявечаны, забіты. Па дапушчэнню Божаму правы людскія часова адменены».

Растуць старонкі машынапісу «Краю дзіцячых гадоў». Узнікае твор аб'ёмісты і расцягнуты, поўны паўтарэнняў (асабліва пры апісанні краявідаў Наваградскай зямлі). Як піша прафесар Рышард Керсноўскі, гэтыя кампазіцыйныя завіхрэнні, гэтая надмернасць і паўтарэнні «з'яўляюцца сведчаннем пастаяннага кружэння думкі аўтара вакол спраў, найважнейшых для яго, з дзядзіны эмоцый і эстэтыкі, якія ўяўляюць сабой як бы фотаздымкі аднаго і таго ж аб'екта, зробленыя з розных бакоў і пры розным асвятленні, таму не належыць трактаваць іх як знак непісьменніцкай няспрытнасці».

Гэтая надмернасць, хаця мая рука і свярбіць скараціць твор, каб ён стаў больш прыдатны для пераварвання сённяшнім чытачом, аднак, зачароўвае і прыцягвае. Ёсць нешта па-бадзёраму старасвецкае, літоўска-старапольскае ў гэтай пачуцёвай, уражлівай на бачны свет польскай мове. Гэтыя ўспаміны — скарб памяці аб краіне дзяцінства, яны ўзніклі бескарысліва, без патрэбы інтрыгавання чытача.

Ёсць у гэтым штосьці гераічнае, бо адкуль Булгак мог чэрпаць упэўненасць, што яго машынапіс ацалее? Хутка прапала другая частка «Палёў жыц-

ця ў Вільні», якая налічвала звыш 300 старонак, пісаная з лістапада 1942 года. А калі ацалее, ці дачакаецца публікацыі? (Ён дажыў свае дні ў ПНР, паміраючы ў Гіжыцку 4 лютага 1950 года, амаль да канца фатаграфуючы Вернутыя Землі).

Гэта дзякуючы сыну Булгака, Янушу, у 1952 годзе ацалелы том дзённіка быў перапісаны ў сямі экзэмплярах, затым перапісаны двойчы — усяго было выканана васямнаццаць копій. Мы здагадваемся, хто выканаў гэту сізіфаву і бескарысную працу.

«Я нарадзіўся 6.10.1876 года ў Асташыне» — пачынае свае ўспаміны Ян Булгак — «у памешчыцкім маёнтку маіх бацькоў, размешчаным у Наваградскім павеце Мінскай губерні тагачаснага расійскага захопу, у родных старонах Міцкевіча, апісаных ім у «Пане Тадэвушы». Маючы дванаццаць, у 1888 годзе, выехаў з маці ў Вільню ў школы. Такім чынам, перыяд ідэальна-анёльскіх успамінаў размяшчаецца ў межах 6–12 гадоў дзяцінства.

Успаміны Булгака блізкія мне: ён зафіксаваў гісторыю пакалення, хаця і разгромленнага паўстаннем 1863 года, але здольнага ўтрымацца ў духоўнасці і норавах часоў перадпадзелавых. Працягвала жыць памешчыцка-шляхецкая польскасць, такая спецыфічная, бо вырасла на этнічна беларускім грунце. Гэткай жа была і міцкевічаўская Наваградчына. Які ж моцны, арыгінальны і непаўторны культурны і духоўны кангламерат паўстаў на стыку гэтых дзвюх ментальнасцяў і культур. Дастаткова звярнуцца не толькі да «Пана Тадэвуша», але і да польскага кампазітара родам з Міншчыны, Станіслава Манюшкі, да паланезаў Міхала Клеафаса Агінскага, які сядзеў у сваім Залессі пад Смаргонямі, ці да Мечыслава Карловіча з Вішнева, таксама з-пад радзівілаўскіх Смаргоняў.

Успаміны Яна Булгака блізкія мне таксама і па другой прычыне, я б сказаў, сямейнай. Мой бацька Юзаф, 1881 года нараджэння, быў толькі на 5 гадоў малодшы за Булгака. Жакевічы, штосьці там страціўшы, трымаліся панскай клямкі Тышкевічаў. Булгак апісвае шляхецкія роды, якія пасля паўстання знайшлі працу, апеку ці арэнду ў радзівілаўскіх уладаннях. Мой дзед з боку маці — Антоні Аганоўскі, паміраючы ў 1943 годзе ва ўзросце 96 гадоў, называў годам свайго нараджэння 1847. Значыць, у 1863 годзе яму было 16 гадоў.

Ад дзядулі Аганоўскага, ад яго зямель і ўласнасці засталася адзіная рэч — сярэбраны кішэнны гадзіннік з царскім двухгаловым арлом на вечку і напісам «Павел Буре, поставщик двора Его Величества». Я ведаў, што дзядуля, які ніколі не расставаўся з гадзіннікам і ў апошні час насіў яго на медным ланцужку, атрымаў яго ў якасці ўзнагароды за мужнасць, праяўленую ў час руска-турэцкай вайны, якая вялася ў 1877–1878 гадах. На вечку бачны выгравіраваны надпіс: 16ЛБ.

Нядаўна Селім Хазбіевіч, вядомы сёння гісторык і дзеяч польскіх татараў, растлумачыў мне, што гэта быў элітарны 16-ы полк уланаў царскай лейбгвардыі, на чале якога стаяў польскі татарын, а полк рэкрутаваўся галоўным чынам з польскіх татараў. Гэты полк асабліва адзначыўся ў зімовай кампаніі ў бітвах на горных тэрыторыях Шыпкі. Як мы падлічылі,

дзядулю тады было 29 гадоў. Сярэбраныя гадзіннікі атрымлівалі камандзіры эскадронаў або ўзвода ўланаў, гэта значыць афіцэры. Залатыя — генералы. Так распарадзілася царыца Кацярына II. Шляхта служыла ў палках, якія сама выбірала, калі пацвярджала сваё шляхецтва, і тады была павінна аднаго сына прызначыць для службы ў царскай арміі. 16-ы полк царскай лейбгвардыі даіснаваў ажно да рэвалюцыі, потым ён уліўся ў шэрагі арміі генерала Дзянікіна.

Парадокс жыцця майго дзеда, як і ўсіх на тэрыторыі расійскага захопу, заключаўся ў тым, што ён быў цвёрдым палякам, і калі яго родная сястра выйшла замуж за рускага, чыгуначніка, ён пракляў яе з роду. Яны памірыліся толькі пасля Першай вайны, пасля бурнай размовы, якая цягнулася цэлы дзень. Калі ў 1944 годзе мела месца страшная чыгуначная катастрофа ў Вільні і ў паветра ўзляцела пара вагонаў з боепрыпасамі, сястра дзеда, старая, пражываючы ў дамах чыгуначнікаў, згарэла жыўцом.

Абодва — і мой бацька, і дзед — былі поўнасцю людзьмі XIX стагоддзя. Я сыціўся іх старасвецкай просталінейнасцю і сумленнасцю. Прымаўка майго бацькі: «Я чысты, як крышталь», — сапраўды шмат аб чым гаварыла. Паколькі граф Здзіслаў Тышкевіч зрабіў яго даверанай асобай сваіх уладанняў, бацька павінен быў ратаваць нашу маёмасць у 1944 годзе, ён ратаваў графскія паперы. Дзядуля Аганоўскі, можа, і дажыў бы да 100 гадоў, калі б не «чырвоныя партызаны», якія спалілі яго маёнтак — з такой цяжкасцю адбудаванае Татарскае Паніззе.

Я маю падставы дапускаць, што абодва яны сустракаліся з усімі тымі Булгакамі, Гацiскімі, Грамыкамі, Верашчакамі, Абламовічамі і г.д. і г.д., якіх апісвае Булгак. Таварыскае жыццё — адведзіны, госці, паездкі побач з цяжкай працай былі ўлюбёнымі заняткамі памешчыкаў і шляхты. Я запамятаў штосьці з гэтага. Мой бацька, стары халасцяк на службе ў графа Тышкевіча, пазнаёміўся з маёй маці, у той час 20-гадовай паненкай, калі заехаў з сябрамі на вяселле цёткі Эвеліны ў Паніззе. Яна выходзіла замуж за сына ўладальніка суседніх Асташак. Яго бацька быў арганістам у парафіяльным касцёле ў Беніцы. Я нядаўна даведаўся, што ён вучыў ігры на аргане дзеда нашай цудоўнай спявачкі-крэсавянкі Зоф'і Януковіч-Паблоцкай.

Дзядуля Аганоўскі, сам старэйшы за жонку на 30 гадоў, не меў нічога супраць жаніцьбы старога халасцяка са сваёй дваццацігадовай дачкой, якая не ведала жыцця і хацела любой цаной вырвацца з-пад рукі дэспатычнага бацькі (дзядуля меў у той час 66 гадоў, а мой будучы бацька — 48).

Такія сувязі і саюзы, як успамінае Булгак, былі досыць частымі, што — дададзім — не толькі згуртоўвала шляхецка-памешчыцкае грамадства, але таксама стварала дух пабрацімства і пастаяннага абнаўлення суседства. Не будзем забывацца, што польская праслойка, такая жыццяздольная культурна, складала невялікую сацыяльную групу. Стыхія беларуская, цкаваная царскімі захопнікамі, акружала палякаў морам усё больш непрыязным, хоць і не такім варожым, як на Украіне.

І ўся гэтая шляхта, паходзячы з беларускага баярства ці з татараў, гэтак, як продак Булгака — Булгак, сын Сеіда Ахмета з Крыма, або Радзівілы, —

лічылі справай гонару цытаваць, часта жартам, беларускія показкі і прымаўкі, а таксама ведаць беларускія прыпеўкі.

З хваляваннем чытаю беларусізмы старога Булгака, якія я запамятаў з дзяцінства: «Горка з’есці, ды шкада кінуць», або «Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць», або прыпеўкі пра Апанаса, які «пас валоў, а Кацярына — бычкоў».

Мой бацька таксама любіў беларускія прымаўкі, а яго беларускія прыпеўкі я запамятаў на ўсё жыццё. Яго цесць, а мой дзед, грымеў на ўвесь двор, па-беларуску лаючы слуг. Яго ўлюблёнае «Абач» (г.зн. пабач, паглядзі) стала мянушкай, дадзенай яму блізкімі, адсюль назва маёй аповесці аб Паніззі — «Род Абачаў». Маленькі Ясь Булгак быў адзіным сынам у бацькоў, дзіцём уражлівым, якога песціла хваравітая маці, якая памерла, калі ён быў яшчэ малады. Ён карыстаўся вялікай свабодай, а тыя навукі, якія яму выкладаў хатні настаўнік, нехта пан Лапушанскі, — былі павярхоўныя і мала цікавыя. Таварышам яго гульняў былі яго цяжкаваты розумам кузен і двое пазашлюбных дзяцей беларускай гаспадыні.

«Яны паказвалі вялікае веданне прыроды, большую самастойнасць і практычную спеласць. (…) Сям’я гэтая адзначалася асаблівай непрыгожасцю і поўнай адсутнасцю зграбнасці, што, зрэшты, з’яўлялася досыць распаўсюджанай рысай сярод наваградскіх сялян, у процілегласць да віленскіх, больш паланізаваных і народзістых», — піша Булгак, напэўна, нечакана для многіх даследчыкаў народнасці аўтара «Балад і рамансаў». (А.Міцкевіча. — *Т. К.*)

Але менавіта гэты люд з-па-над блізкай Свіцязі не толькі малога Адама Міцкевіча, але, як бачым, і малога Булгака набліжаў да старажытных народных крыніц Усходняй Славяншчыны.

Вялікай і балючай праблемай была сітуацыя шляхты, колішняй солі гэтай зямлі, у перыяд рэпрэсій пасля паўстання. «Лицам польского происхождения», гэта значыць палякам і каталікам, нельга было набываць зямлю, і кожная падобная трансакцыя пры яе адкрыцці станавілася несапраўднай, а яе ўдзельнікі сурова пакараныя. Паветам круцілі поп з настаўнікам, г.зн. з настаўнікам вясковай школы і паліцмайстрам яны маглі зрабіць шмат шкоды польскаму памешчыцтву». Касцёлы зачыняліся або ператвараліся ў цэрквы, маёнткі канфіскоўвалі за ўдзел ў «польском мятеже» і аддавалі ў рукі расіян. На памешчыкаў была накладзена кантрыбуцыя, якую яно пастаянна выплачвала. Выратоўвала толькі вядомае рускае хабарніцтва, дзякуючы яму, напрыклад, бацька Булгака змог утрымаць пры сваім маёнтку улюбёныя лугі малога Яся, так званую «верашчакаўскую зямлю».

Пасля забойства цара Аляксандра II у 1881 годзе сітуацыя яшчэ пагоршылася: панавала забарона не толькі набываць зямельную ўласнасць, але ўзяліся знішчаць палякаў-арандатараў. Калі радзівілаўскія землі, на якіх сядзела велізарная лічба засцянковай шляхты і нават памешчыцкіх сямей, перайшлі ў рукі намецкага роду Хоэнлоэ, арандуючая гэтыя землі польская шляхта павінна была пакінуць свае сядзібы, «якія былі аддадзены ў чужыя рукі шляхам свабоднага продажу або з малатка на аўкцыёне».

Мой дзядуля Аганоўскі свой стагектаровы маёнтачак Паніззе Татарскае набыў хітрасцю: «у спадчыну» ад свайго далёкага родзіча, таксама татарскага паходжання, Аганоўскага — плацячы яму пазычкай, дадзенай яму графам Зіберк-Платэрам, у якога «Абач» доўгія гады быў на службе. Аднак гэта адбывалася пасля 1905 года, калі настала большая свабода.

Бацьку Яна Булгака ў час паўстання 1863 года было дваццаць гадоў, маці — чатырнаццаць. «Яны былі рэлігійныя і міласэрныя, працавалі ў поце твару, мелі сціплыя запросы, але ў нацыянальных справах блыталіся з-за цемнаты і няспешнасці, а па меркаванню ўласнага дзіцяці — з-за няўмення і малой свядомасці». Яго вучылі французскай мове і ігры на фартэпіяна, нічога аб Польшчы, роднай мове і гісторыі — такой глыбокай была траўма пасля трагедыі паўстання.

З гэтай багатай здарэннямі кнігі, а ўласна альбома, аздобленага шматлікімі фатаграфіямі сядзіб і краявідаў апісваемай зямлі, аўтарства Булгака, можна зрабіць парадаксальны вывад: чым менш малога Яся мучылі вучобай, тым мацней прамаўляла да яго прырода і родная зямля, па якой ён гойсаў ні то як маладое жарабя, ні то як уражлівае адзінае дзіця, усімі органамі пачуццяў паглынаючы яго прыгажосць. Толькі віленскае навучанне зрабіла з яго вялікага польскага патрыёта, мастака-фатографа.

Я чытаў гэту вялікую кнігу, якая налічвае амаль 300 старонак альбомнага фармату з 92 фотаздымкамі, у якіх гэты вялікі мастак-фатограф, бацька польскай мастацкай фатаграфіі, увекавечыў крэсавыя сядзібы і краявіды — з вялікай самаадданасцю. Колькі ж падобных сядзіб і сядзібак я бачыў! І тую сціплую сядзібу майго дзядулі, фатаграфія якой вісіць на сцяне ў маім пакоі, з жанчынай у белай сукенцы на яе фоне — маёй маці, яна з'яўляецца як бы дадаткам да твора Булгака.

Але найбольш, тут я павінен прызнацца з пэўнай меланхоліяй сямідзесяцігадовага сёння чалавека, мяне захапіла дзяцінства Булгака, апісанае з такой шчырасцю, добразычлівасцю і памяццю, як быццам гэта было ўчора. Ну, так. Ён вандраваў па краіне той шчаслівасці, маючы больш як шэсцьдзясят гадоў, але гэта таксама была вобразная памяць, якая не сціраецца, памяць, якая з самага пачатку рабіла яго мастаком.

Таксама ён быў адзіным дзіцем, адораным надмернай любоўю маці. Усё гэта скончылася, калі малога Яся завезлі ў Вільню. Да гэтага ён насіўся па лугах, садах і парках, заглядаў у аборы, стайні і свірны, удыхаў пахі хатняй кухні, частаваўся велікоднымі прысмакамі і кал球днымі сліжыкамі. Адкуль я гэта ведаю? У мяне таксама была свая краіна адзінага дзіцяці з надмернай мацярынскай любоўю, «дзе я рэдка плакаў і ніколі не скрыгатаў зубамі, дзе чалавек па свеце бег, як па лузе» — кажучы словамі Міцкевіча. Праз гады, калі набліжалася маё пяцідзесяцігоддзе, я вярнуўся да яе ў «Воўчых лугах».

Усё скончылася для мяне, у той час сямігадовага, 17 верасня 1939 года. І на гэтым я хацеў бы скончыць гэтыя ўрыўкі ўспамінаў і рэфлексій аб маёй Беларусі.

*Пераклад Тацяны Кляшчонак*

*Таццяна Кабржыцкая*

# КРЫТЫЧНАЕ СЛОВА ПРА ПРЭЗЕНТАЦЫЮ ПЕРАКЛАДЧЫЦКАЙ УКРАІНІЯНЫ МАКСІМА ТАНКА

Максім Танк звязаны з Украінай вельмі цесна і біяграфіяй, і творчасцю. Можна вылучыць асобна кантактна-тыпалагічныя сыходжанні Максіма Танка і знакамітых украінскіх паэтаў яго пакалення. Варты спецыяльнай увагі і ўкраінска-беларускі мастацкі ўзаемапераклад, у дасягненнях якога значны след пакінуў Максім Танк.

Да высакароднай справы ўзнаўлення сродкамі роднай мовы паэтычнай думкі, рэфлексіі, пачуццяў і вобразаў украінскіх паэтаў Максім Танк далучыўся яшчэ ў перадваенныя гады. Своеасаблівай пробай перакладчыцкага пяра Максіма Танка ў галіне паэтычнай украінікі з’явіўся верш славутага ўкраінца Івана Франко «Каваль», надрукаваны ў 1938 г. Наступная праца — над творамі Тараса Шаўчэнкі. Захаваліся лісты з вучнёўскага сшытка, на якіх Максім Танк занатаваў на беларускай мове сваё мастакоўска-перакладчыцкае прачытанне твораў Кабзара ў юбілейны 1939 г. — час, калі шырока святкавалася 125 годдзе з дня нараджэння трыбуна ўкраінскага нацыянальнага адраджэння. У пазнейшыя гады Максім Танк пераклаў вершы многіх украінскіх паэтаў. Гэта творы і класікаў, і маладых творцаў. Пералік іх імёнаў досыць прадстаўнічы: Мікола Бажан, Грыцько Бойка, Расціслаў Братунь, Платон Варанько, Сава Галаваніўскі, Любамір Дзмітэрка, Любоў Забашта, Галіна Кырпа, Мікола Нагнібеда, Леанід Первамайскі, Марыя Прыгара, Мікола Рудзь, Максім Рыльскі, Уладзімір Сасюра, Міхайла Стэльмах, Сцяпан Тудар, Паўло Тычыны, Тарас Шаўчэнка, Алесь Юрэнка, Алекса Юшчанка.

Перакладчыцкая ўкраініяна Максіма Танка прадстаўлена ў 11-м томе апошняга Збору твораў Максіма Танка ў трынаццаці тамах (Мінск, 2011). Як і належыць, публікацыі суправаджаюцца адпаведным навукова-даследчым тэксталагічным каментарыем. У параўнанні з інфармацыяй, якая месціцца ў біябліяграфічным слоўніку «Беларускія пісьменнікі», перакладчыцкая ўкраініяна Максіма Танка ў апошнім Зборы твораў больш канкрэтызаваная, вызначаецца паўнатой пазіцый. Дапаўняе разуменне дачыненняў Максіма Танка з украінскімі творцамі на ніве перакладу і ліставанне беларускага паэта, змешчанае ў 12-м томе апошняга Збору твораў. Аднак, адзначаючы вялікую працу ўкладальнікаў, нельга не выказаць і некалькі заўваг.

Першае слова — пра паўнату эпісталярыя Максіма Танка. Эпісталярый з паэтычнай Украінай прадстаўлены ў Зборы твораў беларускага паэта толькі праз лісты да Рамана Лубкіўскага і Алексы Юшчанкі. Няма сумненняў, што ў Кіеве ў музеі Максіма Рыльскага, знакамітага ўкраінскага паэта і культур-

нага дзеяча, які вельмі моцнымі сяброўскімі і творчымі кантактамі быў звязаны з Беларуссю, захоўваюцца лісты ад многіх беларускіх паэтаў, у тым ліку і Максіма Танка. Аднак у Зборы твораў ліставанне з Рыльскім адсутнае. Здзіўляе і неканкрэтнасць, недапрацаванасць тлумачэнняў, звязаных з імем Рыльскага. Так, скажам, у лісце Максіма Танка да Алексы Юшчанкі ад 20. VIII. 1978 г. пішацца: «Шчыра Табе дзякую за нумар газеты «Літературна Україна», у якім прыгадалі і мае журботныя радкі пра Максіма, якога ў нас усе і любілі, і шанавалі і памяць аб якім заўсёды будзе жыць у сэрцах яго шматлікіх сяброў…». Высокія словы любові і павагі, выказаныя Максімам Танкам да названага пісьменніка, чамусьці не абавязалі беларускіх навукоўцаў, якія рыхтавалі тэксты да публікацыі і складалі да іх тлумачэнні, да простага азнаямлення з той публікацыяй ва ўкраінскім друку, пра якую ідзе мова ў лісце Максіма Танка. У каментарыі выказваецца толькі прыблізна-дапушчальнае тлумачэнне, хоць магла б змяшчацца і цытата Максіма Танка са згаданага артыкула, для чаго трэба было пазнаёміцца з яго тэкстам. Нельга не прызнаць, што сёння трымаць сувязь з літаратарамі Украіны некалькі праблематычна, аднак, мяркую, выданне «Літературна Україна» за 1970-я гг. захоўваецца ў бібліятэчных фондах Беларусі…

У Зборы твораў прадстаўлены пераклады Максіма Танка вершаў «салаўя Украіны» паэта Уладзіміра Сасюры. Прасочым, наколькі цікавым мог бы быць каментарый да тэмы «Уладзімір Сасюра і Максім Танк».

Да 100-годдзя з дня нараджэння Сасюры ў Кіеве выйшла арыгінальнае выданне — славуты верш украінскага паэта «Любіть Україну» ў перакладзе на мовы народаў свету. Сярод 69 іншамоўных узнаўленняў верша — беларускі пераклад, выкананы Максімам Танкам. Прывядзём урыўкі з арыгінала верша і яго перакладу, каб упэўніцца ў добрым узроўні перакладчыцкага майстэрства Максім Танка:

Любіть Україну, як сонце любіть,
Як вітер, і трави, і води,
В годину щасливу і в радості мить,
Любіть у годину негоди!..
Любіть Україну у сні й наяву,
Вишневу свою Україну,
Красу її, вічно живу і нову,
І мову її солов'їну…

Любіце Ўкраіну, як сонца прамень,
Як вецер, і травы, і воды…
Любіце ў святочны і радасны дзень,
Любіце ў часіну нягоды.
Любіце Ўкраіну, сваю старану,
У зелені, цвеце вішнёвым,
Яе хараство, залатую вясну,
Яе салаўіную мову…

Як пазначана ва ўкраінскім выданні ў каментарах да перакладу, складальнікі зборніка Б. Хаменка і С. Хаменка беларускі матэрыял атрымалі ад Васіля Зуёнка. Не зрабіўшы ніякіх літаратуразнаўчых пошукаў, складальнікі змясцілі пераклад Максіма Танка са спасылкай на прысланую В. Зуёнкам «Анталогію ўкраінскай савецкай паэзіі». Далейшыя тлумачэнні ў каментарыях няпоўныя і некарэктныя. Складальнікі сцвярджаюць што ўпершыню танкаўскае ўзнаўленне верша Сасюры надрукавана ў 1975 г. менавіта ў згаданай анталогіі. А тым часам у беларускага перакладу дата нараджэння зусім іншая, шлях да яго шырокага чытача быў доўгі і складаны.

На самай справе, Максім Танк, захоплены ідэйна-мастацкімі вартасцямі верша Сасюры, зрабіў пераклад яшчэ ў пасляваенныя гады і надрукаваў яго ў № 6 часопіса «Беларусь» за 1949 г. На хвалях пасляваеннага пераможнага настрою ў СССР было надрукавана некалькі перакладаў верша «Любіть Україну». Так, на рускую мову яго перакладае вядомы майстар паэтычнага перакладу Мікалай Ушакоў (Масква, 1948), праз некалькі год чытачы атрымліваюць другое рускамоўнае ўзнаўленне верша, выкананае Аляксандрам Пракоф’евым (Ленінград, 1951). Аднак артыкул у газеце «Правда» «Супраць ідэалагічных перакручванняў у літаратуры», што з’явіўся ў 1951 г., паклаў пачатак жорсткай кампаніі, скіраванай на змаганне з той свабодай выказвання любові да роднай зямлі, якую атрымалі пісьменнікі ў гады барацьбы з фашызмам. Свабода сумлення, годнасць нацыянальнага самаўсведамлення пачалі ізноў трактавацца як небяспека, як пагроза таталітарнай дзяржаўнай сістэме. Згаданы артыкул наклаў табу і на верш Уладзіміра Сасюры.

Водгукам на «праўдзінскую» публікацыю з’явілася Пастанова ЦК КП(б)У. У ёй маскоўская крытыка была прызнаная слушнай. Указвалася на дрэнны стан кіраўніцтва ідэйна-выхаваўчай работай у асяроддзі пісьменнікаў, у выніку чаго «ідэйна заганны», «нацыяналістычны» верш «Любіть Україну», які шмат друкаваўся ва Украіне, атрымаў дагэтуль высокую ацэнку з боку Максіма Рыльскага, што з’яўляўся адным з кіраўнікоў украінскай пісьменніцкай арганізацыі, быў выкраслены з літаратурнага жыцця. Пацярпеў за «залішні патрыятызм», «ідэйныя памылкі» і Максім Рыльскі. Наколькі жахлівымі былі наступствы той пастановы, сёння даведваемся з літаратуразнаўчых крыніц. Як піша ўкраінскі навуковец М. Наенка, «З асуджэннем паэта выступіла ў перыёдыцы плойма крытыкаў, у працоўных калектывах (аж да турэмных уключна) пачаўся разгляд усялякіх «літаратурных дыверсій», а са школьных чытанак і хрэстаматый вырываліся старонкі з імем Сасюры, так было ў 1948 г. з творамі М. Рыльскага і Ю. Яноўскага». Сасюру перастаюць друкаваць, перакрэсліваючы і ўвесь яго папярэдні літаратурны даробак, над ім навісае чарговая пагроза арышту.

Адгалоскі гэтай ідэалагічнай кампаніі закранулі і Беларусь. Артыкул з газеты «Правда» шырока абмяркоўваўся ў рэспубліканскім друку, быў тэмай № 1 на рознага роду ідэалагічных нарадах, сходах творчай інтэлігенцыі. Крытыкавалі і Максіма Танка як перакладчыка верша «Любіть Україну» Сасюры. І толькі слава рэвалюцыянера-падпольшчыка выратавала Танка ад сур’ёзнага пакарання.

Характарызуючы Уладзіміра Сасюру, можна з упэўненасцю гаварыць, што гэтага ўкраінскага паэта ў 20—30-я гг. XX ст. з Беларуссю звязвала асаблівая творчая актыўнасць, сяброўскія кантакты. Ён шмат пісаў пра Беларусь, неаднойчы бываў у Беларусі, тут яго шанавалі, любілі, перакладалі. Аднак менавіта згаданыя «цёмныя хмары», што навісалі над галавой паэта, сталіся прычынай таго, што выданне выбраных яго твораў у Беларусі змагло ўбачыць свет толькі ў 1960 г. Цікавыя і змястоўныя ўспаміны пра працу над выданнем перакладаў Сасюры на беларускую мову апублікаваў Мікола Аўрамчык.

У беларускім выданні «Выбранага» Уладзіміра Сасюры Максім Танк прадстаўлены пяццю перакладамі. Менавіта пяць вершаў, а не чатыры, як гэта сказана ў біябібліяграфічным даведніку «Беларускія пісьменнікі», прапанаваў Максім Танк ва ўласным перакладзе ў кнігу Сасюры. Разам з вершамі «Ці знаеш ты світанні ў полі…», «Раяль», «У сэрцах полымем шугае…», «Любіць Украіну» змешчаны яшчэ адзін верш украінскага паэта, які ў перакладзе Танка атрымаў назву «Ужо даўно паружавелі…».

Ужо даўно паружавелі,
Даспелі яблыкі ў садах.
Асенні ветразь пажаўцелы
Вятры ўзнялі ў далёкі шлях.

Зноў пад нагамі ў каляінах
Лёд малады, як шкло, хрумсціць.
Зара ў малінавай хусціне
У шыбіны акна глядзіць.

Ужо не той блакіт над намі,
Нашмат пакарацелі дні.
І дзесь ляціць зіма палямі
На белагрывым на кані.

Укладальнікі 11-га тома Збору твораў Максіма Танка гэты выдатны пераклад не зафіксавалі, не змясцілі. Узнікае пытанне: чаму? «Выбранае» Уладзіміра Сасюры яны ў руках трымалі, пра гэта сведчыць іх каментар да чатырох перакладаў Танка: «Друкуецца па перашапублікацыі — зб.: Сасюра У. Выбранае. — Мінск, 1960» (т. 11, с. 991–993). Аднак укладальнікі, відавочна, паспадзяваліся на папярэднікаў: пайшоўшы за інфармацыяй біябібліяграфічнага даведніка, беларускае выданне твораў Сасюры ўважліва не прагледзелі…

Як бачым, недакладнасці ў падачы фактаграфічнага матэрыялу да тэмы «Максім Танк як перакладчык з украінскай літаратуры» існуюць, на жаль, як з украінскага, так і з беларускага бакоў.

*Уладзімір Мароз*

# ВІЛЬНЯ МАКСІМА ТАНКА

Тое, што ў сучасных варунках Вільня ўжо незваротна ёсць сталіцай суседняй дзяржавы, аніяк не здымае, наадварот, актуалізуе пытанне беларускага сутнаснага кантэксту нашага праз вякі старадаўняга горада. Нельга дазволіць сабе занядбаць ці ўвогуле згубіць феномен «беларускай Вільні» для будучых пакаленняў, улічваючы ролю горада ў айчыннай гісторыі і культуры. Культурным знакам, нацыянальным сімвалам і міфам Вільні належыць неад’емна жыць у свядомасці беларусаў, існаваць у духоўнай беларускай прасторы. У развязанні гэтай звышзадачы, дый іншых, вызначальных на сёння для беларусаў, ці не самы высокі ды вырашальны рэй вядзе паэзія, дзе наперадзе не пазнавальны аспект перадачы інфармацыі, а эмацыйна-эстэтычны і каштоўнасны. Перажыванне і думка, адбітыя ў паэтычным тэксце, хутчэй знаходзяць дарогу да свядомасці і псіхікі чалавека.

Ва ўступным слове да яшчэ не выдадзенай кнігі «Вільня. Анталогія беларускай паэзіі XX ст.» яе ўкладальнік і аўтар каментарыеў Сяргей Дубавец робіць выснову: *«Вільня ў беларускай паэзіі — непараўнальная. Няма іншага такога ўласнага імя, чый вобраз злучаў бы найлепшыя вершы ў прадстаўнічую і дастатковую анталогію нацыянальнай паэзіі. Вільню ў гэтым сэнсе можна параўнаць хіба што з абсалютнымі вобразамі роднага слова, вёскі, маці або самой Беларусі».*

У паэтычнай песні аб Вільні ёсць свае адметныя вобразныя і шчымлівыя радкі Максіма Танка. І як можа быць іначай, калі з горадам звязана дзесяць гадоў юнацкай і маладой пары, часу чалавечага і паэтычнага сталення? Калі тут пабачылі свет яго першыя кнігі «На этапах» (1936), «Журавінавы цвет» і паэма «Нарач» (абедзве ў 1937), «Пад мачтай» (1938)? Такое нязводна застаецца ў душы. Немагчыма ўявіць спадчыну народнага песняра без вершаў аб Вільні, няхай іх за творчае жыццё напісана не так і шмат.

Першы верш, створаны ў 1936 годзе, называецца адпаведна — «Вільня». Адразу захоплівае пачатак, які сведчыць, што Максім Танк ведаў творчасць рускіх імажыністаў і яны прыцягвалі яго сваім вобразапісаннем: *«Анучай хмара сьцёрла сонца, / вясеньні першы дождж заплакаў; / на стрэхах і на шэрай гонце / разьліўся вечар сінім лякам. / І ноч прыйшла з прадмесьця вуліц, / палезла на званіцаў вышкі; / сабакай чорным вецер скуліць / пад шэрым мурам пад лукіскім».* І далей ужо сутнаснае для нас сённяшніх у сэнсе сцвярджэння аднаго з галоўных беларускіх нацыянальных сімвалаў Вільні: *«А на пліце цяжкой бэтоннай / дождж гразьзю прозьвішчы заплёскаў… / Баляду віселіц сьцюдзёных / гавора з ветрам Каліноўскі…»* Так, гэта постаць Кастуся Каліноўскага, блізкая маладому паэту па духу змагання за Бацькаўшчыну, за лепшае жыццё. Постаць, без якой немагчыма ўявіць беларускі шлях. Зразумела, так пафасна і сутнасна тады Максім Танк гэта не ўспрымаў, але, свя-

дома ці падсвядома асоба галоўнага паўстанца была для яго апірышчам, знакавым сімвалам беларушчыны.

І нарэшце, апошняя страфа верша: *«Іду, а дрэвы штось гавораць… / аблеплен гразьзю, мокрым снегам... / ну дзе ж сягоньня, родны горад, / мяне прытуліш без начлегу?»* Сам паэт называе горад «родным». Тут для яго сплялося ўсё — і радасці, і нягоды. Скрайнім увасабленнем апошніх сталася Лукішская вязніца, паэт двойчы апынаўся за яе кратамі. А найбольш яркай праявай першых, падаецца, была творчая імпрэза беларускай паэзіі і песні ў Віленскім універсітэце 15 сакавіка 1936 года. У дзённікавых нататках «Лісткі календара» аб гэтым занатавана даволі будзённа: *«Зморaны, позна вярнуўся з літаратурнага вечара дамоў. Чытаў «Спатканне», «Да дня», «У маршы», а на «біс» — «Акт першы». Калі падхапілі мяне студэнты і пачалі падкідаць, я больш за ўсё баяўся, каб хаця на маім азадку не распаўзліся старыя, яшчэ на Лукішках працёртыя штаны».* А насамрэч? Трыумф! Не згадаць, каб у савецкі час захопленыя чытачы-слухачы неслі паэта на руках. А працёртыя порткі, Лукішкі і змора — яшчэ адно сведчанне арганічнасці жыцця, дзе тую ж радасць немагчыма аддзяліць ад нягодаў.

Той пары і верш Танка «У Панарах» (1937). Асабліва заварожвае нечаканы і яркі вобраз, дзе абрысы Панараў, гор скрай Вільні, нагадваюць паэту крутыя гарбы каравана драмадэраў, якія прыпыніўся на шляху з усходу: *«Вось палае ўжо золак пажарам, / І на месцы, дзе быў караван, / Бачу я — верхавіны Панараў / выступаюць праз шэры туман».* А чаму якраз тут здарыўся супынак назаўсёды таго каравану? Бо тут для паэта граніцы *«беларускіх зямель і крыніцаў»*. Значыць, Вільня непадзельна для яго ад беларускага краю. Яскравая беларусацэнтрычнасць Максіма Танка!

Наступны верш «Вільнюс» датуецца 1945 годам. Здаецца, няшмат гадоў прайшло ад 1939-га. Але гэты час, які ўвабраў ваеннае ліхалецце, не адмераць па працягласці простай арыфметыкай. Таму ў творы яскравыя прыкметы і настальгічнасці, і абагуленасці. Прысутнічаюць практычна ўсе нацыянальныя сімвалы Вільні, актуальныя для нас і сёння: «светлы дух Скарыны», Каліноўскі, Гедымін і яго «замку гордыя руіны», «пясняр Літвы, наднёманскіх палёў, у падарожным плашчы пілігрыма» (гэта аб Міцкевічу, хоць прозвішча аўтарам і не названае), тая ж града Панар. І зноў жа сваё, асабістае, з яркай вобразнай экспрэсіяй напрыканцы: *«А ў збуджаным напеве — успамін: / Яшчэ не ўсё балючае заснула, / Яно на кожным кроку устае, / Гарыць у вераснёвай пазалоце, / Дзе вецер песні першыя мае / Рваў на Лукіскім на калючым дроце…»* Знакавая для паэта апошняя страфа, дзе сутыкаюцца пясняр з нарачанскага краю і патрыёт Вільні: *«Я гэты горад знаю з даўніх дзён. / І каб не хвойны пах бацькоўскай хаты, / І каб не нарачанскай хвалі звон / Ля курганоў, ля сосен расахатых, — / Хацеў бы я, каб мой апошні спеў / Тут, сярод гэтых незабыўных вулак, / Дзе ўпершыню ён гулка празвінеў, / Знайшоў спакой і вечны свой прытулак»*.

Цікавы момант. Інтымнае, але і патрыятычнае жаданне знайсці вечны спачын у старадаўнім месце парадаксальным чынам не стасуецца з назо-

вам верша, дзе ўжыта летувіская форма наймення горада. Бо тым самым адмаўляецца ўласная гістарычная традыцыя. Такое ж бачым і ў вершы «У Вільнюсе» (1976). Але калі ў другім выпадку, зважаючы на высокія пасады Танка таго часу, прычыну льга назваць сучасным тэрмінам «паліткарэктнасць», то да сорак пятага года дапасаваць яго складана. Магчыма, называючы родны горад Вільнюсам, паэт разумеў неадваротнасць палітычнай і геаграфічнай страты яго для Беларусі? Ці, мажліва, тут нейкі сантымент, праява павагі да сваіх летувіскіх сяброў, якіх ён меў у маладосці? Пры тым зацемім, што сутнасці стаўлення паэта да Вільні гэты нюанс абсалютна не кранае. Ён ідзе расчулены між віленскіх муроў па знаёмых вуліцах, націскае кнопку званка па вядомых яму адрасах, але былых сяброў не застае. Лірычны герой верша помніць усё, іначай чаго б грукаў у дзверы? *«Чаго ж бы кожны раз у поўнач / Блукала песня тут мая?»* Характар верша «У Вільнюсе» абсалютна самотна-настальгічны.

У анталогіі Сяргея Дубаўца няма верша «Готыка Святой Анны» (1972). Падаецца, што без яго Вільня Максіма Танка няпоўная. Верш гэты можна акрэсліць як міфалагічна-рамантычны. Пранікнёна-шчымлівы, кранальна-эмацыйны твор. *«І вось высокі касцёр палае, / Ды дзіва дзіўнае бачаць людзі: / Агонь, цалуючы, абдымае / Сваёй ахвяры і стан, і грудзі. / І застывае гатыцкім храмам, / Дзе быццам з бронзы гараць чаканнай / Званіцаў вежы, абсіды, рамы… / І вусны шэпчуць: «Святая Анна!..»* Няхай тут паганства дзіўным чынам пераплецена з хрысціянствам (прыгажосць жанчыны залічваецца да святыняў), але які магутны вобраз!

Анталагічным для паэтычнай Вільні варта лічыць і шэдэўр лірыкі Максіма Танка «Паслухайце, вясна ідзе» (1937). Тут няма ніводнай канкрэтнай віленскай назвы, але ж гэта Лукішкі, вязніца паэта. *«Паслухайце, вясна ідзе, / Звініць ў маім акне жалеза. / З вінтоўкай стражнік ноч і дзень / Пільнуе куст пахучы бэзу. / А ён расцвіў, агнём гарыць, / Такім пахучым, мяккім, сінім, / На дрот калючы, на муры, / Як хустку, полымя ускінуў».* Гэта не толькі прыгожы вобраз, знойдзены аўтарам. Калі мы да дзевяностапяцігоддзя творцы здымалі дакументальны фільм «Пясняр з нарачанскага краю», на даху старых Лукішскіх муроў убачылі карлікавае дрэва. Яно скурчылася ад марозу, як і мы каля відэакамеры, але было жывое, як жывы быў той вясновы куст бэзу, што бачыў малады вязень з-за кратаў.

Сапраўды, пералік вершаў, дзе прысутнічае Вільня, не вычэрпаецца фармальнымі прыкметамі. Ёсць шмат твораў, дзе можна адчуць атмасферу, настрой, самапачуванне аўтара. З першай кнігі «На этапах» гэта вершы «Ізноў я тут», «Да дня», «Сэзановец», «Заснула казка». Перадусім пачуцці чалавека за кратамі (усё тыя ж Лукішкі!). Герою *«спаць думкі не даюць ізноў, / плывуць за краты неўгамонна».* Неспакойна ные вецер між крат, звініць на муры чорны дрот, барабаніць у шыбы веснаход. *«У нас вясна іначай паміж крат, — / пасырэюць муры, камень, вочы, / І мацнейшы кашаль, брат»… «Ціха — / крокі дазорцы, / кашаль з апошніх этапаў, / Вершы — парваныя думкі ў руках»… «Я сэзановец — пясьняр із-за крат»… «А казка ціха дрэміць*

*на вакне / маёй сьцюдзёнай, адзінокай цэлі, / і голас снежнае мяцелі / гады мінулыя прыпамінае мне».*

Цікавыя для нас гарадскія побытавыя дэталі згадваюцца ў паэме «Мікалай Дворнікаў». Пяро «Пэлікан», якое ляжыць за пыльнай вітрынай крамы на вуліцы Вастрабрамскай. Відаць, не мог мецць такую прыладу для пісання сваіх вершаў бедны паэт, адсюль і настальгічны матыў праз гады. Рынак Лукішскі з натоўпам, дзе можна было купіць *«Казюковае зь перніка сэрца»*, вялікае, размаляванае. Тыхчасовыя шлягеры з экзатычнымі назвамі «Мой каханак — злачынец», «Месяц на Таіці», «Пантэра», мелодыі маладосці Максіма. З задавальненнем паслухалі б іх і мы, седзячы сёння ва ўтульнай віленскай кавярні.

На сканчэнне парадаксальнная выснова. Паэзія Максіма Танка, як і іншых беларускіх творцаў, спрычынілася да ўгрунтавання нацыянальных сімвалаў нашай старадаўняй сталіцы. Але сёння ўжо і самое імя народнага песняра ёсць культурным знакам беларускай Вільні. Калі ў размове ці вандроўцы па горадзе згадваць ці распавядаць аб Лукішках, няхай нават вязніца ў цэнтры горада з часам будзе перароблена, як і Пішчалаўскі замак у Мінску, дзе тры гады ад званка да званка адбыў зняволенне Якуб Колас, у экзатычны гатэль, варта абавязкова падкрэсліць, не крыўдзячы астатніх беларусаў-вязняў, у тым ліку і творчых людзей, што тут «сядзеў» паэт Максім Танк. І Вільня стане ўжо не толькі для цябе багацейшай яшчэ на адно беларускае імя.

# ТРАПІЦЬ У ВІЛЬНЮ

*З аповедаў жыцця*

Трапіць у Вільню — і яна стане тваёй, роднай. Якраз так, а не паехаць у Вільню свядома з пэўнай мэтай адкрыць для сябе яе беларускасць, начытаўшыся перад гэтым кніг, нагледзеўшыся энцыклапедый, даведнікаў ці набраўшыся звестак у сеціве. Зададзенасць можа і не прынесці плёну — ты паходзіш па вуліцах, згледзіш помнікі архітэктуры, убачыш памятныя беларускія шыльды. Усё гэта можа так і застацца для цябе звонку, не зачапіць душу крылом далучанасці. У Вільню варта трапіць без дай прычыны, адкрываць яе для сябе знутры, а не звонку.

Праўда, гэтак мне здаецца цяпер, з вышыні сталасці. Дый гаварыць аб тым проста і лёгка, бо ў мяне так і адбывалася ў жыцці. Першы раз у Вільню я акурат трапіў. Не выпадкова, але і не самахоць, не свядома.

Было гэта ў 1971 годзе, у квецені бясхмарнага студэнцкага юнацтва. Вучыліся мы яшчэ толькі на першым курсе архітэктурнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута, з нас меліся выгадаваць архітэктараўгорадабудаўнікоў. Да адукацыі ў савецкія часы ставіліся адказна. Таму і прапанавала мілая куратарка нашай групы наладзіць паездку ў Вільнюс, каб пазнаёміцца з новымі мікраараёнамі сталіцы суседняй прыбалтыйскай рэспублікі. Атрымлівалася гэта ў іх нядрэнна, быў Жырмунай, і Ладзінай ужо, здаецца, пабудавалі, атрымалі за гэты мікрараён Дзяржаўную прэмію СССР. То і выправіліся.

Ехалі якраз у Вільнюс, бо нават для мяне, якога ўжо тады аднакурснікі ўважалі за беларускага нацыяналіста проста за веданне, ды і ўжыванне калі, беларускай мовы, горад не выклікаў нейкіх адмысловых рэфлексіяў. Ды і не мог крануць, якой гісторыі Беларусі нас вучылі ў школе?! Ён успрымаўся, як Масква, скажам, Ленінград ці Талін. Ну, завіталі мы ў тыя мікрараёны. І што — знаёмыя панельныя скрыні, хіба зробленыя больш акуратна, чымся ў Мінску. Адно, што кінулася ў вочы — аздабленне ўнутранай прасторы. Падпорныя сценачкі, лесвіцы, дарожкі, зяляніна, дзе-нідзе нават паркавая скульптурка — усё гэта стварала адчуванне ўтульнасці. А ў цэлым каб уразіла — то не. Дый не ў галаве тое, далёка яшчэ будучая праца. Паглядзелі ды і паглядзелі, калі так трэба.

На зваротным шляху спыніліся на пляцы каля сабора, які порцікам з калонамі клікаў рэфлексіі з нашым Палацам прафсаюзаў. Гэта цяпер плошча Гедзімінава з конным помнікам вялікаму князю, а тады проста стаянка. Вось, можаце прагуляцца, паглядзець стары горад. Ад'езд праз гадзіну. Ледзь дaслухаўшы словы куратаркі, мы, учатырох сябры-таварышы Коля, Саша і Ваня і я, ірванулі з месца. Які там пошум стагоддзяў! Карцела знайсці прыстойнае ўтульнае месца ды выпіць на знаёмства з местам. А ў Вільні ўжо, у адрозненне ад Мінска, былі рэстаранчыкі пад даўніну, нават нехта з нас

чуў назву «Локіс». Наўзбоч універсітэта пайшлі наперад звілістымі вузкімі, нязвыклымі для мінчукоў вулачкамі. Нехта з мінакоў падказаў, дзе знайсці тое, што мы шукаем. Дапялі ўрэшце таго «Локіса». Зварочваем з вулкі ў арку, у праходзе да ўнутранага дворыка ўваход. Здаецца, нават мядзведзь стаяў каля дзвярэй.

Помніцца, што прыпыніліся не ў верхнім памяшканні, а спусціліся па вузкіх каменных сходах у скляпенне, дзе былі дзве невялікія залі і віравала сваё жыццё. Атабарыліся там, дзе стаяў вялізны масіўны дубовы стол, як і належыць ў старадаўніх корчмах-шынках. Такі стол міжволі вымагаў суседства, рабіў усіх (тры-чатыры кампаніі) адной разгульнай сябрынай, куды хутка ўліліся і мы. Потым я жартаваў, што елі там мядзведжыну. Хоць, папраўдзе, не ведаю і цяпер, ці спажываюць гэткае мяса. Але дзічына там была, пакаштавалі нешта адметнае. А выпіць узялі, натуральна, «Старкі». Мелася за саветамі такая харошая гарэлка-настойка пад даўніну, траплялася і ў нас. Стаяла нязмушаная гамана, было ўтульна і весела. Утульнасць падкрэслівала лямпа над сталом у старадаўнім абажуры. І ніякага тады нацыянальнага пытання. На гадзіннік мо хто з нас і паглядваў, але выбірацца не рупіла. Было ўжо цёмначы, калі дабеглі да аўтобуса, спазніліся амаль на паўтары гадзіны. Дасталося добра нам і ад куратаркі (а мо ўляпаліся дзе?), цвярозыя таварышы-аднакурснікі таксама лаялі і злаваліся — наперадзе дарога, няхай не з самых дальніх, але дарога. Нам жа было хмельна і ўзнёсла, не да галавы іхнія дакоры.

За студэнцкае жыццё хапіла іншых вандровак, кавярняў, рэстарацыяў, але «Локіс» у гэтым карагодзе не знік з пераліку прыемных згадак аб бестурботным юнацтве. Скончылася яно з пачаткам працоўнага жыцця, але яшчэ доўга ў гэтую жыццёвую неадваротнасць не хацелася верыць. Наступны раз у Вільню я трапіў гадоў праз восем, калі мы з Вольгай ужо пабраліся шлюбам, але наш першынец Цімох яшчэ не з'явіўся. 1979 год. Паехалі з жонкай ды яе малодшым братам туды па джынсы. Сённячы маладым і няўцям, што ў тыя часы ўсё даводзілася даставаць. Хадзіць у джынсах у Мінску было адзнакай абранасці, своеасаблівага нонканфармізму. Калі шчыра, мне чамусьці не даспадобы гэтыя порткі былі і тады, і тым больш цяпер, калі яны ледзь не на кожным. Усяго раз у жыцці я меў новыя джынсы, а сёння вымушана даношваю старыя Цімохавы. Але тады цешчы хацелася дагадзіць сваёй дачцэ і сыну. З вакзала дапялі рэчавага рынку (барахолаўкі), нейкім хлопцам аддалі дзвесце (а мо і больш) рублёў і даволі доўга чакалі з трывогай — ці прынясуць тавар? Гандаль то падпольны, можна і ў міліцыю трапіць. Прынеслі, неўпрыкмет сунулі нам у сумку — ні прымераць, ні глянуць, што за кот у торбе? Потым аказалася, што ўсё добра. А тады зайшлі ў салідную рэстарацыю недзе ў цэнтры, шыкоўна паабедалі, такім чынам адзначыўшы небяспечны шопінг. Каб гулялі па старым горадзе — не памятаю.

Жыццё кацілася сваёй каляінай — нарадзіліся дзеці, мая працоўная дзейнасць пасля архітэктуры практычна выпадкова звязалася з кінематографам, калі трапіў на працу ў Дзяркіно БССР. З сённяшняга гледзішча я бязмежна ўдзячны свайму дакументальнаму кіно за магчымасць вандровак. Седзячы

ў праектнай майстэрні, ніколі б не змог столькі паездзіць і пабачыць. Тым больш рэальна, увачавідкі дакрануцца да гісторыі сваёй роднай Беларусі (як ні пафасна гэта гучыць), якая пачала настойліва грукацца ў дзверы ўжо ў другой палове васьмідзясятых. Як былы архітэктар, я ведаў усе нашы помнікі дойлідства, і гісторыя ў камені ўжо незваротна мусіла для мяне быць дапоўнена гісторыяй падзей, постацяў, датаў. Тым больш дакументальнае кіно як нішто спрыяла гэтаму. Так і сталася ўрэшце. І Вільня ў галаве праз кнігі і публікацыі па гісторыі, праз роздум і асэнсаванне беларускага шляху ўгрунтоўвалася ўжо зусім у іншым свеце.

А потым і рэальна. Неяк падрахаваў, проста для сябе, колькі разоў я трапляў у Вільню на здымкі фільмаў. І тых, дзе быў аўтарам сцэнарыя, і рэдактарскіх. Вандровак дванаццаць! Першая здарылася ў 1988 годзе, калі толькі прыйшоў з Дзяржкіно на кінастудыю працаваць рэдактарам студыі «Летапіс». З рэжысёркай Вольгай, сталай праваслаўнай жанчынай, здымалі фільм «Куфар даўніны» (у арыгінале «Ларец древностей») аб Дзмітрыю Струкаву і яго малюнках помнікаў архітэктуры. Хто згадае, а тым больш ацэніць, што мы былі першаадкрывальнікамі гэтага імя? Толькі цяпер, больш чым праз дваццаць гадоў, выдадзены шыкоўны дарагі альбом яго спадчыны. А тады, у бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта, куды я трапіў першы раз, нам вынеслі для здымкаў яго малюнкі, акуратна перакладзеныя светлай калькай. З неахвотай вынеслі, як мне падалося, і ўсё турзалі, каб ашчадна з імі абыходзіліся. Ясная справа, але ж трэба было падладзіць іх пад камеру, падсвяціць. Дарэчы, якраз святло выклікала ў гаспадароў найбольшую трывогу — каб не перасушылі паперу, якой больш як сто гадоў, сваімі прыборамі. Малявальшчык Струкаў быў не з лепшых, але адчувалася яго захопленасць тым, што ён убачыў. Бо для расійскага чалавека тут адкрываўся іншасвет, адрозная рэальнасць. Большасць расіян і да сёння не могуць уцяміць, што Беларусь — адметная выспа. Была сярод малюнкаў і выява крыжа Еўфрасінні Полацкай, яго ён бачыў на свае вочы.

Дзейным рэдактарам я быў і на фільме аб Францішку Скарыне, які здымаў вопытны, з адметным мастацкім чуццём рэжысёр Station. У жыцці яго ўсе называлі чамусьці Славам, а не Стасам. Меркаваўся меншы аб'ём фільма, але ўдалося пашырыць да поўнаметражнага, пяцісотгадовы юбілей першадрукара дапамог. Дзякуючы гэтаму, удалося прайсці ўсімі шляхамі Скарынавымі. У выніку стужка атрымалася працягласцю гадзіну, нічога лепшага ў кіно аб нашым першадрукары пасля гэтага так і не было створана.

Кнігі Скарыны, дзякаваць Богу, ёсць і ў нашай Нацыянальнай бібліятэцы, таму ў Вільню паехалі зняць водар старога горада, тыя помнікі дойлідства, якія мог бачыць на свае вочы Францішак. Скарынаву Вільню. Найперш карцела згледзець Вострую браму. Ужо ўгнездзілася ў галаве «Пагоня» Максіма Багдановіча, дзе «…ўсё лятуць і лятуць тыя коні…». І вось збройны вершнік наяве. Старыя абшарпаныя, але велічныя сцены, сама брама, уверсе герб «Пагоня». Якраз такая атрымалася ў кадры панарама, знятая Аляксандрам, аператарам проста прыроджаным. Упершыню, і ўжо назаўсёды, я апёкся по-

лымем готыкі касцёла Святой Ганны, адчуў подых стагоддзяў каля муроў даўніх праваслаўных віленскіх храмаў, узышоў на гару Гедзіміна, дзе вежа і рэшткі сцен замка ўвачавідкі нагадвалі аб старадаўніх часах. Блукалі старымі пакручастымі віленскімі вулачкамі, па якіх хадзіў палачанін. І дворык, дзе стаіць сціплы помнічак проста першадрукару, не Скарыне. Так і накрэслілася назаўсёды: Вільня, наша старадаўняя сталіца, — горад першай беларускай кнігі. І хоць бы толькі таму яна ніколі не стане для нас чужой.

Вулачка, дзе была мяркуемая друкарня, выходзіць на пляц. Мы ўжо доўга блукаем са сваім кінематаграфічным начыннем, прытаміліся, мне захацелася крыху пагрэцца ў кавярні на рагу. Пытаюся ў хлопца, які стаяў каля ўвахода, ці льга выпіць піва ці кавы? У адказ чую непрыхаваную пагарду, нешта накшталт таго, што рускім тут не падаюць. Ды не рускія мы, беларусы. А чаму ж тады не гаворыце па-свойму, па-беларуску? Вось так, не ў брыво, а ў вока. Расхацелася мне таго піва, непрыемна стала. Хоць і звычайны «вышыбала», але ж мае рацыю. Проста была нечаканай яскравая праява агрэсіўнага нацыяналізму. Хоць можна было б ужо і зразумець: на двары 1989 год, вось-вось ляснецца той Савецкі Саюз, і кожны пачне абсталёўвацца ў сваім доме. Да разумення неадваротнасці, непазбежнасці руху падзей якраз і падштурхоўвалі такія здарэнні.

У тую ж вандроўку былі і Трокі. У параўнанні з падобнай Мірскай спарудай тут было ўсё адноўлена, замак на выспе сярод возера клікаў рэфлексіі былой велічы. Нам што для кіно? Зняць прыгожы эмацыйны кадр. Так і шукалі незвычайныя кропкі. Зрэшты, кожнага разу, калі былі ў Троках. Аднойчы праехалі ўсё мястэчка і глянулі на магутнае збудаванне зусім з іншага, нетурыстычнага боку. Праз водную роўнядзь адкрывалася цудоўная панарама з адбіткам замка ў люстры вады. Там я разгаварыўся з мясцовай жанчынай. І, што для мяне сталася дзіўным, яна размаўляла са мной на чысцюткай беларускай мове! Мясцовая жанчына, продкі яе тут жылі здавён. Як цяпер не даць веры Міколу Ермаловічу, які называў Вільню (Крывіч-горад) і Трокі славянскімі гарадамі!

Праз год паехалі ў Вільню па Тураўскае Евангелле. Фільм аб Кірыле Тураўскім быў першай з маіх сур'ёзных работ як сцэнарыста. Захоўваецца самая ранняя кніга, створаная на беларускіх землях, у бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. Праўдзіва сказаць, толькі невялікая частка яе, якая зберaглася, дзесяць пергаментных аркушаў. Сёння разумею, што такія кнігі — найкаштоўнейшыя рарытэты, якімі можа ганарыцца любая бібліятэка, да іх ставяцца адпаведна, нават дакрануцца не даюць. А тады без усялякай напругі прынеслі, мы трымалі кнігу ў руках, гарталі яе. Слава адразу прыдумаў, як зняць. Сказаў, што нам патрэбна цёмнае месца. Яго знайшлі ў падвале, прынеслі туды кнігу, мы паставілі святло. А дырэктарку фільма рэжысёр паслаў купіць свечку. Дачакаліся, балазе, храмы, дзе можна было яе набыць, былі недалёка. І вось пайшло дзейства. Камера стаяла з аднаго боку, свечка гарэла з другога. Маімі рукамі гарталіся нетаропка старонкі, яны прасвечваліся (празрыстыя, не папера ж!) у мігценні полымя, відаць былі старадаўнія кірыліцкія літары. Потым,

ужо пры завяршэнні фільма, на гэтую выяву наклалі словы Евангелля, якія гучалі паралельна голасам старога і з дзіцячых вуснаў.

Калі бачыш на свае вочы старажытнае кірыліцкае пісьмо ручной работы, душа не можа не адгукнуцца. Але толькі тады, калі настроена на адпаведную хвалю. Крыху раней, у тэксце да скарынаўскага фільма выспелілася такая фраза: «Колькі ні ўглядайся ў гэтыя літары, як ні складвай з іх словы і сказы, яны застануцца нямымі, пакуль не спазнаеш повязь часоў і падзей, лёсаў людскіх, трывог свету».

У той 1990 год са Славам (супраца наша была плённай на доўгі час) яшчэ раз дапялі Вільні, ужо па фільму «Роздум ля палітры». Тут вялося аб беларускіх мастаках XIX і пачатку XX стагоддзя. Сярод пяці персанажаў быў і Фердынанд Рушчыц. Здымалі яго карціны ў старым будынку мастацкага музея, які стаяў на пляцы старога горада. Цяпер тут гарадская ўправа. Дык вось. Адна вялікая карціна Рушчыца вісела проста на сцяне лесвічнай пляцоўкі другога паверха. «П'яны карабель». Увасабленне на палатне знакамітага верша Арцюра Рэмбо. Бач ты, нам за савецкім часам усё ўбівалі нейкую сацыяльную накіраванасць творчасці, а тут проста мастацтва ў сваёй сутнасці, як яму і належыць быць. Ды яшчэ і сведчанне таго, што ў Беларусі жылі і стваралі творы ў рэчышчы агульнаеўрапейскім. Калі мы запалілі свае прыборы і падсвяцілі карціну, як зайгралі фарбы! Ажыў п'яны карабель, ажыла вада, усё заіскрылася, уцягнула цябе ў гульню колераў. Незабыўнае ўражанне. А мы і да сёння не маем альбома Фердынанда Рушчыца! Пры мантажы на выяву карціны паклалі верш — і па-французску, і па-беларуску.

Базыльянскія муры адкрыліся мне праз філаматаў і філарэтаў, калі здымалі з Валерыем, рэжысёрам, які быў сынам беларускага пісьменніка, стужку пра Тамаша Зана. Уразіў закінуты храм з цьмянай за часам фрэскайабразом трох віленскіх пакутнікаў Іаана, Антонія і Яўфстафія (у паганстве Круглец, Няжыла і Кумец) на фасадзе. Якраз на гэтым месцы стаяў дуб, дзе іх павесілі за веру. Свята-Троіцкую царкву на пачатку 90-х гадоў аддалі ўкраінскай уніяцкай грамадзе, так і стаіць, далёка не даведзеная да ладу. Але пры чым тут украінцы да аднаго з трох самых значных асяродкаў беларускай духоўнасці? Проста нашых уніятаў няма, вось і страцілі храм. А самыя муры, дзе трымалі ў лёхах у вязніцы філаматаў, дзе ўжо ў XX стагоддзі была Віленская беларуская гімназія ды іншыя беларускія асяродкі — цяпер проста будынкі з нейкімі ўстановамі. У лёхі мы не трапілі, знялі на плёнку толькі мемарыяльную шыльду, дзе прозвішча аднаго Адама Міцкевіча. Астатнія з ім. Але ж галоўным тады быў якраз Тамаш Зан, і віну ён узяў на сябе, і пакаранне зведаў самае суровае — год ссылкі ў Сібір, куды і выправіўся акурат з гэтых муроў. Былі ў музеі Міцкевіча. Потым нетаропка здымалі ва ўніверсітэце, які з той пары стаў неад'емна тваім. Знакаміты ўнутраны дворык з шыльдамі на сценах, дзе шмат беларускіх прозвішчаў. Касцёл, які памятнымі знакамі і бюстамі таго ж Міцкевіча, Адынца, Сыракомлі ды іншых нагадвае мемарыяльную залу. Усё — наша гісторыя.

Будучы канцлер Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Леў Сапега не мог тут вучыцца, бо езуіцкая акадэмія, з якой і вырас універсітэт, толькі паўстала якраз у яго пару, пры Стэфане Баторыі. Але горад, сталіца княства, быў для Сапегі родным. Тут ён меў свой палац практычна насупраць Святой Ганны. Побач з домам пабудаваў на свае грошы велічны касцёл Святога Міхала, дзе і запаветаваў сябе пахаваць. На той час, калі мы здымалі фільм аб слынным канцлеры, у будынку касцёла быў музей архітэктуры. Але тое не замінала нам грунтоўна зафільмаваць на кінастужку надмагілле каля алтара з барэльефнай выявай постаці Сапегі. На твары — выраз уласнай годнасці. І дзве жонкі ягоныя пахаваныя тут жа.

Добра, калі не трэба нікуды спяшацца. Мы доўга таўкліся і ўнутры храма, і звонку ў маленькім дворыку з калонамі, якія стаялі асобна і ўяўлялі сабой на дзіва сучасную мадэрнісцкую кампазіцыю. Тут жа і знайшлі адметны кадр з сілуэтам Святой Ганны на заднім плане. Не спяшаліся, бо аператарам фільма быў паважаны Сяргей, выдатнейшы майстар, адзіны і непаўторны. Ён даўно прымерваўся да кожнага кадра, папраўляў штораз святло — затое вынік пераўзыходзіў усе чаканні. З рэжысёрскага боку быў тандэм — пан Рышард, якому больш падабалася ўважаць сябе за паляка, хоць маці ў яго была праваслаўная беларуска, і рускі чалавек з фінскімі каранямі Вадзім, які быў па разуменні лепшым за іншага беларуса. Праўда, апошні ў гэтую камандзіроўку не паехаў, мой харошы старшы таварыш не вельмі любіў вандраваць. Грунтоўна працавалі і ў гістарычным музеі. Каб зняць каляровы партрэт Сапегі, Сяргей, зняўшы чаравікі, залез нават за вітрыну, бо праз шкло гэта ажыццявіць было немагчыма, яно давала блікі.

Ва ўніверсітэцкай бібліятэцы, у знакамітую чытальную залу нам прынеслі Статут Вялікага Княства 1588 года, які рэдагаваў і да якога пісаў прадмову Леў Іванавіч. Як ні дзіўна, у нас няма ніводнага асобніка, добра, што факсімільнае выданне зроблена. Здымалі і Трыбунал. Таксама кнігі з яго бібліятэкі, якую пасля перадаў універсітэту сын Казімір. Якая раскоша! Да прыкладу, на адной ціснёны на скуры кніжны знак, ініцыялы, герб Сапегаў — Ліс. Адзін з надпісаў на латыні ўспрымаецца як крэда: «Марна жыве той, хто нікому не дапамагае». Здаецца, назва герба вельмі адпавядае стану рэчаў. Ну як не назваць Льва Сапегу хітрым Лісам, калі ён прыдумаў і падрыхтаваў авантуру з Ілжэдзімітрыем, ад чаго і пачаўся смутны час у Масковіі? А ўсё дзеля таго, каб мець процівагу ціску пальшчызны.

Пад канец свайго жыцця Леў Іванавіч займаўся парадкаваннем Метрыкі Вялікага Княства. У Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы нам адкрылі памяшканне, дзе яна захоўваецца. Не зала, але даволі вялікае памяшканне з паліцамі, шчыльна ўстаўленымі тоўстымі тамамі ў скураных пераплётах цёмна-вішнёвага колеру. Вялізная колькасць. Наша гісторыя! І напісана мовай, якую і я магу чытаць, як магу чытаць тэкст Статута. У такія хвіліны надаралася шкадаванне, што я не навуковец-даследчык, бо мне падабаецца корпацца ў рукапісах, старадруках, нешта згледзець праз смугу стагоддзяў. Я б змог. А кіношнікі хто? Папулярызатары. Хоць не выключаецца, што і ў

нас здараюцца адкрыцці. Потым тое шкадаванне праходзіць, бо разумееш, што кожны гісторык ёсць спецыялістам у сваім не такім ужо і вялікім абсягу, а з кіно можна зглядзець на свае вочы вельмі шмат з самых розных эпох. Ад Тураўскага Евангелля XI стагоддзя да «П’янага карабля» Фердынанда Рушчыца. Пасярэдзіне — тая ж Метрыка. Асобныя тамы яе пакрысе выдаюцца, але мне няўцям, колькі ж трэба часу, каб усё тое бачанае мною гістарычнае багацце перавесці ў сучасны выгляд.

Наступная паездка была па гісторыю значна бліжэйшую. Надышоў час стварыць фільм аб БНР, дый юбілей выдаўся — 75-годдзе. Гэта быў мой рэдактарскі фільм, а рэжысёр стаўся нечаканы — няўрымслівы Уладзімір, які лічыўся пераважна спецыялістам у спартыўным кіно. Ён па-простаму дапытваўся — а хто Ленін, хто прыдумаў тую БНР? На такое пытанне спрошчана яму і адказалі: браты Іван і Антон Луцкевічы. Група выбралася ў Вільню разам з рупліўцамі беларушчыны. Галоўная імпрэза мелася адбыцца на могілках Роса, каля помніка братам-заснавальнікам. Ехалі мы сваім мікрааўтобусам, трымаліся аўтобуса з людзьмі. Мяжа ўжо была, але пераехалі яе без асаблівых праблем.

Я першы раз трапіў на гэтыя могілкі, з-за мноства знаёмых імёнаў на плітах іх можна, няхай і з пэўнай доляй умоўнасці, назваць беларускім некропалем. Помнік братам Луцкевічам стаў на горцы, у верхнім кутку могілак. Гэта сапраўды помнік у першасным сэнсе слова, бо магіла сімвалічная, тут толькі зямля з месцаў пахавання кожнага з братоў — з польскага Закапанэ ды саратаўскага горада Аткарска. Дзве белыя мармуровыя пліты з барэльефамі, пасярэдзіне чорны высокі крыж. Там і адбылася ўрачыстасць, якую мы здымалі на кінаплёнку. Прачулыя і ўзнёслыя словы ў цішыні могілак гучалі асабліва пранікнёна. Людзей было даволі, вядомых. Запомніўся Язэп Сажыч, тагачасны старшыня рады БНР, які прыехаў на радзіму з-за акіяна. І яшчэ Данчык. Мо таму, што раней я яго не бачыў, ды і не часты госць ён у Беларусі. Каля хлопца ўсё завіхаліся дзяўчаты — анягож, жаніх зайздросны. Пасля могілак паехалі ў цэнтр, агульная вячэра была ў старой рэстарацыі «Нерынга». Зноў гучалі ўрачыстыя словы. Язэп Сажыч, больш ваяка, чым палітык, спяваў ваяцкія беларускія песні сваёй маладосці.

Таго лета яшчэ раз трапіў у Вільню. Па майму сцэнарыю здымалі стужку «Успамін пра Міколу Равенскага». Рэжысёрам быў грунтоўны Міхаіл, адзін з нашых заслужаных майстроў. Здаецца, Вільня тут была ні пры чым, але трапіць у Бельгію, дзе аўтар «Магутнага божа» правёў апошнія гады свайго жыцця, па грашовых прычынах нам не ўдалося. Таму прыходзілася здымаць натуру падобную. Тым больш, уся выява ў фільме была размыта (проста аб’ектыў падмазваўся вазелінам), такі прыём прыдумаў рэжысёр. Адзіная панарама з Вільні, каля касцёла Святой Ганны, у фільме ніяк не клікала рэфлексіяў канкрэтнага горада, проста прыгожы кадр.

Адпаведна, напругі асаблівай не было. Жылі мы, як заўсёды ў тыя часы, у гатэлі літоўскай кінастудыі. Гэта быў проста абсталяваны другі паверх будынка, дзе на першым месціліся майстэрні гаража. Столь у пакоях высачэзная,

мэбля аскетычная, выгоды на калідоры. Камфорту, так бы мовіць, вобмаль. Затое не дорага. Вечарам час вольны, вырашылі мы з кіроўцам Сяргеем, з якім ужо неаднойчы ездзілі ў блізкія і далёкія шляхі, мелі добрыя стасункі, выпіць пляшачку. Так і зрабілі пад вячэру, а харчаваліся тым, што бралі з сабою — сала там, кілбаса, хлеб, кансервы якія. Кожны эканоміў капейку ў тыя няпростыя часы. Ды тым не скончылася. У калідоры зачапіліся з пакаёўкай, маладой жанчынай. Было зразумелым, што яна таксама выпіла з сяброўкай, як і нам, ёй карцела пагаварыць. Запрасіла нас з Сяргеем на каву. Ну, а дзе кава, там і да кавы, вячэра зацягнулася. Яна бачыла, што мы ўжо ў адпаведным стане, таму, маючы нешта на ўвазе, каву моцную («дынаміт!» — так штораз паўтарала) рыхтавала некалькі разоў. Гаварыў жа наш галоўны рэдактар Самсон Германавіч, які нарадзіўся і вырас у Вільні, што літоўкі — жанчыны зацятыя ў пасцелі. Увогуле маленькая нацыя з доўгімі нажамі. Не ведаю, у пэўны начны час я сышоў, пакінуўшы разбірацца ў гэтых высновах Сярожу.

Трэба думаць, ён разабраўся, але ж назаўтра з раніцы дарога дадому! Можна ўявіць, у якім цяжкім фізічным стане (ноч практычна бяссонная ды напружаная) сеў ён за руль свайго УАЗіка. Толькі маладыя гады ратавалі. Я сядзеў з ім наперадзе, з-за салідарнасці трымаўся, хоць арганізм патрабаваў ранішняй падтрымкі. Але ў Крэве, дзе спыніліся, не вытрымаў — узяў у краме піва ды са смакам і палёгкай выпіў. Аператар, усё разумеючы, спапяліў мяне позіркам. Але прамаўчаў. Справа ў тым, што паважаны Сяргей, цёзка кіроўцы, сам перастаў браць чарку. У такіх выпадках бывае па-рознаму. Адзін потым любіць пасядзець у кампаніі, разлівае ахвотна, хоць сам і не п’е. Другі наадварот, успрымае хмурна, з нейкай зайздрасцю — вось вы можаце, а я ўжо не. Такія адносіны я скурай адчуваў ад чалавека, хоць аб людзях, якіх ужо няма з намі, дрэнна не гавораць. Дый не гавару, проста факт адзначаю. А тады стараўся весці сябе проста натуральна, як заўсёды.

Прыемнай згадкай засталося рэдактарства ў фільме «Віленскі зборнік». Я быў вельмі усцешаны, што хлопцы адрадзілі «Нашу ніву», мне падабаліся тэксты Сяргея Дубаўца, яго своеасаблівы правакуючы стыль. Чаму аб гэтым фільм не зняць? Аб беларускай Вільні пачатку і канца дваццатага стагоддзя, аб пераемнасці традыцый? Пазнаёміліся з Дубаўцом, ён напісаў сцэнар. Рэжысёрам фільма быў згаданы Вадзім, з ім і трапілі нарэшце сумесна ў Вільню. Гэта была зусім іншая справа, бо ў нас быў дасведчаны гід. Спачатку папрацавалі з камерай у рэдакцыі, яна месцілася тады ў старым аднапавярховым дамку недалёка цэнтра, акадэмічнай бібліятэкі, на набярэжнай Віліі (Нярыса). У даволі вялікім пакоі стаяла звычайная галандская печ. Каля яе і селі хлопцы дзеля прыгожага кадра — Дубавец, Сяргей Харэўскі, Алег Дзярновіч, яшчэ нехта. І звонку домік знялі.

Потым паехалі ў Зарэчча. Гэты своеасаблівы куток Вільні я адкрываў для сябе ўпершыню. І горад, і мястэчка, і вёска. З самых разнастайным складам жыхарства па нацыянальнай прыналежнасці. Завіталі да Зоі Каўшанкі, старой віленскай беларускі, якая памятала шмат падзей і людзей даваеннай пары, сама вучылася ў беларускай гімназіі ў базыльянскіх мурах. Бацька яе,

Аляксандр Коўш, быў беларускім святаром у самым наўпроставым значэнні гэтага слова, выступаў у друку за беларусізацыю праваслаўнай царквы, выкладаў Закон Божы ў гімназіі, быў настаяцелем віленскіх храмаў. Хатка спадарыні Зоі патанала ў кветках, у пакоі ўсё дыхала старым беларускім арыстакратычным духам. Знялі яе расповед, папілі гарбаты, пагаманілі. Праз год ці два дайшла вестка, што пані Зоя памерла. Падумалася — як добра, што мы паспелі яе зняць.

Назаўтра цэлы дзень была Вільня з Сяргеем Дубаўцом. Дзянёк выдаўся прыгожы, сонца рабіла горад больш кантрасным. Наладзіліся здымаць сінхрон героя каля гары Гедзіміна, за гістарычным музеем. Не заладзілася, словы ў Сяргея не складваліся ў аповед. Паспрабавалі ў іншым месцы, на мастку праз Вільню-Віленку-Вілейку. Тое ж самае, перад камерай чалавек губляўся. Так і змаглі ўзяць у фільм толькі невялікі кавалачак. Затое, дзякуючы яму, займелі магчымасць напоўніцу пераканацца, чаму Вільню называюць «ружай у даліне». Калі ёсць даліна, то мусяць быць і горы. Іх тры. Замкавая, ці Гедзімінава (раней Крывая ці Лысая), дзе ўзвышаецца вежа верхняга замка, візітоўка горада. Трохкрыжавая, дзе тры белыя вялікія крыжы (як падабаецца мне гэты манумент!) жагнаюць старое места. І гара Бекеша, не адзначаная ніякім знакам, дзе толькі звычайная мураваная пляцоўка для агляду. Калі на першую падымаліся неаднойчы, то на іншыя трапілі ўпершыню, Сяргей паказваў дарогу. Панарама старой Вільні прыгожая адусюль: старыя муры з чырвонымі дахамі, выразныя гмахі шматлікіх храмаў з вежамі і званіцамі, якія даюць непаўторны сілуэт. Сапраўды, ружа з раскрытымі дробнымі (такое ўражанне зверху) пялёсткамі. І з кожнай гары панарама мае свае адценні. Можна доўга стаяць і любавацца, заўважаць драбніцы старога горада, убіраць вачамі і душою яго прыгажосць, злавіць настрой надчасавасці.

Адкрыў для мяне Сяргей і віленскі даваенны мікраараён. Праязджалі і праходзілі тут шмат разоў, але ж няўцям. А тут гід-таварыш распавёў, што аўтарам-архітэктарам гэтага першага на, як сказалі б сёння, постсавецкай прасторы мікраараёна быў беларускі архітэктар Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Падумалася, што паўстаў ён неўзабаве пасля таго, як з'явіўся «Баўхаўз» у Германіі. Яшчэ адно сведчанне, што мы жылі ў адзінай еўрапейскай прасторы, крочылі ўпоравень з цывілізаваным часам. Пасля неяк і Сяргей Харэўскі распавёў аб Вітан-Дубейкаўскім. Ён быў сапраўды беларускім архітэктарам, пісаў тэарэтычныя работы (ляжаць рукапісы ў нашых і віленскіх архівах!), дзе спрабаваў акрэсліць паняцце нацыянальнага дойлідства. Я ведаў, што ў Дрысвятах ёсць драўляны касцёл, адметны помнік, не падобны сваёй будовай на іншыя каталіцкія храмы на Беларусі. І толькі тады ўсвядоміў, што гэта і было ўвасабленнем поглядаў Вітан-Дубейкаўскага на беларускую адрознасць.

Сяргея не адпускалі цэлы дзень. Пасля работы паехалі ў свой звычны кінастудыйны гатэльчык. У Вадзіма Мікалаевіча як рэжысёра быў самы вялікі пакой. Там і атабарыліся дзеля сяброўскай вячэры. Зноў жа — харч свой, прывезены з Мінска. Як і гарэлка. Гамонка лілася доўга, мне цікава

было супаставіць свае меркаванні аб нашым беларускім шляху з поглядамі Дубаўца. За часам размова ў дэталях не захавалася. У памяці толькі сутнасная яго выснова аб тым, што ніводзін праваслаўны беларус ніколі не называў сябе рускім. Тутэйшы, мясцовы, ліцвін, беларус. Але ніколі не рускі. А вось шмат хто з каталікоў-беларусаў ахвотна запісваюцца ў палякі. Неаспрэчна, але, з іншага боку, беларускае адраджэнне пачыналася якраз у пераважнай большасці каталіцкімі беларусамі. Вось такі парадокс. Яшчэ памятаю, Сяргей сказаў, што збірае паэтычную анталогію аб Вільні, збіраецца выдаць яе кнігаю. Я вельмі добра зразумеў гэтую ідэю, бо дома ў мяне стаяў зборнік «Санкт-Пецярбург у рускай паэзіі». Хіба што адзначыў для сябе, што ў мяне верша аб Вільні няма. Як заўсёды, выпіць забракавала, я схадзіў да шапікаў каля аўтобуснага прыпынку па пляшку, дагаманілі і яе. На развітанне перажываў за таварыша: няхай жонка цябе не лае, кіно ж здымаем, не кожны дзень такое бывае.

Назаўтра яшчэ паздымалі стары горад ужо без Дубаўца. У адным месцы нават на конную міліцыю патрапілі — такі кадр ёсць у фільме. Цікавая рэч — колькі ні хадзі па вузкіх пакручастых вулачках, ні абтоптвай іх, ні здымай, усё роўна наступным разам знойдзеш адметную кропку, дзе ўбачыш прыгожы план з мілай дэталлю ці нечаканы сілуэт на заднім плане. Што галоўнае ў фільме, дакументальным асабліва? Прыгожы кадр. Ён павінен быць не толькі інфармацыйным, але найперш эстэтычным, вобразным, каб выклікаць у чалавека непадробную эмоцыю.

Неяк злавіў сябе на думцы, што не ведаю, як называюцца віленскія вуліцы. Памятаю зрокава, у якім будынку была рэдакцыя «Нашай нівы», прыйду да яго. Пакажу дом, дзе жыў мастак Пётра Сергіевіч. А назву вуліц — не. Тым больш, у Вільні яны мяняліся не раз. Як архітэктару-горадабудаўніку па першай адукацыі мне важна зразумець структуру горада, яго будову. У любым полісе пры ўсіх своеасаблівасцях логіка агульнасці (горад як сістэма) прысутнічае. Усялякія псіхалагічныя перашкоды здымаюцца, калі ты паходзіш (лепш на адзіноце) адзін раз па горадзе, зразумееш яго ўнутраную арганічнасць. І ніколі тут ужо не заблудзішся, выйдзеш, куды трэба. Калі ёсць яшчэ прыемная нагода (чаму ты тут апынуўся?), светлыя ўспаміны, то горад ужо твой.

Раніцай проста гулялі з Вадзімам Мікалаевічам, не абцяжараныя клопатам аб здымках, маючы час да ад’езду. Ад вольнасці ў галаве прыйшла згадка аб «Локісе». Расказаў гэтую студэнцкую гісторыю рэжысёру, прапанаваў знайсці рэстарацыю майго юнацтва. Пайшлі, паблукалі, знайшлі. Вуліцу зноў не запомніў, толькі суседнюю, якая назвалася Жыдоўскай. Знайсці знайшлі, але не зайшлі — дзе тыя грошы? Сутачныя ашчаджалі дзеля сям’і, бо жылося тады ў Беларусі вельмі небагата. А дзяцей ужо трое, малодшаму Данілу і года не было. Ды не аб тым. Усё роўна настрой быў выдатны. Якраз тады прыйшлі першыя радкі верша, які дапісаўся потым, ужо ў Мінску. Ён у мяне адзіны аб Вільні, тым больш, наўпрост драматургічна звязаны з аповедам, таму варта прывесці тэкст цалкам. Называецца «Развітанне з Вільняй».

Тут чужыя не ходзяць, сваім забракуе ў кішэнях,
Смутны «Локіс» чакае, што вернемся мы ў маладосць.
Сходы клічуць уніз, дзе прыбраны сталы ў сутарэннях,
Дзе ў паўцемры бруіцца забытая ўжо весялосць.

Піва пеніцца ў куфлях, старое, як гэтыя зводы,
Пад крывавае мяса бурштынная «Старка» цячэ.
Гаманкая сябрына яднае на вечар народы,
Баль нязмушана рупіцца з кожнаю хвіляй званчэй…

Ненадзейныя згадкі — былога жыцця ані згуку,
Золкі ранак бязлюддзя адно адаб'ецца ў вачах.
Сумна слухае Вільня, як цішацца крокі па бруку,
Як знікае зусім іхні пошум у даўніх мурах.

І нарэшце заплача, самотная, на развітанне
Безнадзейна-адчайным ля Вострае брамы дажджом.
Горад свой, а чужы, калі тут не сыходзіць адхланне,
Беларускі мой шлях, мацярынскі наш страчаны дом…

Верш гэты не раз друкаваўся, у тым ліку і ў панізнікаўскай «Бацькаўшчыне». Там яго згледзеў Сяргей Дубавец і ўзяў у сваю віленскую анталогію. На пісьменніцкім з'ездзе падышоў да мяне, запытаўся, у якім годзе напісаны. Знянацку я назваў 1996-ы. Пад гэтым годам ён і з'явіўся ў анталогіі, якую Дубаўцу кнігай так і не ўдалося (спадзяюся, пакуль) выдаць, надрукаваў ён яе ў ARCHE ў 2003 годзе. Я пасля ўдакладніў для сябе дату пад вершам, глянуўшы ў рукапіс, — 1994-ы, калі мы і здымалі «Віленскі зборнік». Зрэшты, каб верш быў пад правільнай датай, усё роўна ён быў бы адзіны ў той год. Было прыемна, што і твае радкі ўплецены ў песню аб Вільні.

У процівагу таму, як Сяргей Дубавец ніякавеў перад камерай, тэкст да фільма ён напісаў і потым сам начытаў на магнітафон проста выдатна. Як рэдактару мне траплялася вельмі няшмат аўтараў, якія маглі напісаць хораша дыктарскі тэкст. Тут свая жорсткая спецыфіка — абмежаванасць па часе. Ужо зроблены мантаж фільма, слоў павінна быць не больш і не менш. Але ж і думкі не згубіць пры гэтым! Сяргей гэта зразумеў адразу. Увогуле, хлопцы засталіся задаволеныя, калі прыйшлі на кінастудыю глядзець гатовы твор. Пасядзелі ў мяне ў пакоі, выпілі па кілішку на шчаслівае заканчэнне супрацы. Сяргей Харэўскі аднекваўся ад чаркі, але потым згадаў, што ў іх, у каталікоў, можна парушаць пост, калі ў дарозе. То і палічыў выправу на Беларусьфільм дарогай. Пазней касету з фільмам я перадаў Таццяне Сапач, жонцы Дубаўца. Такім чынам пазнаёміліся. Дарэчы, у фільме гучалі яе віленскія вершы. Потым, у сярэдзіне двухтысячных, мы з Таццянай трапілі разам у журы на кінафестывалі MAGNIFICAT у Глыбокім. Быў час пагуляць па горадзе, пагаманіць. Яна расказвала, як адпачываюць штолета з Сяргеем на моры, варыянт даволі танны. Што робіць на віленскай тэлевізіі. У Мінску

аўтобус з Глыбокага сустракаў і Сяргей, сустрэліся такім чынам і з ім. А перад новым, 2011 годам з Вільні прыйшла сумная вестка — Дубаўцы трапілі ў аварыю, Таццяна разбілася насмерць. У нашым узросце даволі спакойна ўспрымаеш усё, але тут зачапіла. Ведаў гэтых людзей, любіў і паважаў іх. Не істотна, што бачыліся рэдка, але ты ведаў, што яны ёсць, што зноў можна будзе калі-небудзь сустрэцца — жыццё, яно ж такое. Дык вось, з Таццянай больш ужо не сустрэцца…

Але вернемся да храналогіі. Яшчэ раз патрапіў у Вільню ў 1997 годзе, калі здымалі з маім найлепшым таварышам па «Летапісу» Мікалаем фільм аб Афанасіі Філіповічы. О, тут ужо я сам быў сапраўдным гідам для віленскага неафіта-рэжысёра! Дом Льва Сапегі, дзе Афанасій меў занятак за хатняга настаўніка «царэвіча Дзмітравіча», уяўнага сына Марыны Мнішак. Святадухаўскі манастыр, куды ён сыйшоў у манахі: «там же, зрозумевши омыльность света того, чернцем зосталем…» Адсюль і пачаліся яго драматычныя шляхі, якія скончыліся пакутніцкай смерцю. Думалася ці не думалася, што гэта мая апошняя паездка ў Вільню, але настрой развітання прысутнічаў. Так што верш нездарма так называўся.

Сапраўды, мае кіношныя вандроўкі ў нашу старадаўнюю сталіцу перарваліся на дзесяць гадоў. Налета мне давялося сысці з кінастудыі, бо працаваць там стала невыносна. Але і з «Бярозкі» я трапляў у Вільню, праўда, ужо па сямейных справах. Выведалі, што танней паляцець у Амерыку Літоўскімі авіялініямі, то і карысталіся такім шляхам некалькі разоў, калі Цімафей прылятаў з-за акіяна на вакацыі. Першы раз паехалі ўсім сямействам на нашых старэнькіх «Жыгулях». Было тое пад канец лета 1999 года. Прыкінуў я час стаяння на мяжы, але ўсё роўна чакалі доўга, я нават папрасіў памежніка прапусціць без чаргі, бо на самалёт спознімся. Білет паказваю. Паспелі, праводзілі. Дзень яшчэ амаль наперадзе, паехалі ў горад. Пятнаццацігадовая Марынка першы раз у Вільні, Вольга пасля той паездкі па джынсы тут больш не была, а Даніла яшчэ малы, ды нешта ж запомніць.

Абышлі ўсё старое места, фатаграфаваліся. Як ні дзіўна, з ранейшых шматлікіх кінематаграфічных вандровак амаль ніводнага фотаздымка няма — не да таго было, ці што? Шкада. А тут працаваў наш стары «Зеніт». Каля Сапегава касцёла Святога Міхала Марынка зрабіла цудоўны здымак папы і мамы. Вольга абдымае мяне, галавой прыхінулася да майго пляча, на заднім плане вежы Святой Ганны. Як ён мне падабаецца! Калі задумаў сабраць свае вершы аб каханні ў адну кнігу, толькі гэты здымак і ўяўляў на першай старонцы. Дзякаваць Богу, так усё і здарылася. Фота прыдалося праз дванаццаць з гакам гадоў, стала на другой старонцы вокладкі маёй кнігі «Шляхцянка-восень», калі знайшліся грошы на выданне.

Тады ж мы яшчэ дапялі Трокаў, каб карціна для маіх сямейнікаў была поўнай. Але там маломy Данілу стала дрэнна, ванітавала — загайдала хлопца ў машыне. Ды яшчэ гарачыня. Купілі таблетак, далі хлопчыку, крыху палегчала. Сталася ўжо не да дзівосаў, паехалі дадому. А зімой трапіў адзін, ужо цягніком, сустракаць Цімоха. Калі вакацыі скончыліся, у новым годзе паехаў

праводзіць. Памятаю, што мы ўзялі квіткі на цягнік «Масква–Калінінград». Ужо на ноч добра ўзялося, хлопец задрамаў. Перад Вільняй прысунуўся да нас мытнік беларускі. Куды, чаго? Праводжу сына вучыцца за акіянам. Пачуўшы гэта, прычапіўся, што нечага не занатавалі ў дэкларацыі, што высадзіць з цягніка. Божа ты мой! Выйшлі з ім у тамбур, растлумачыў, што ў сына ўсяго восемдзесят даляраў, у мяне толькі трыццаць. Больш няма. Аддаў яму дваццатку, тады адчапіўся. А такога ветлівага з сябе паказваў! Вымагачы сраныя! Не так і грошай шкада, хоць жылі тады вельмі сціпла, нават бедна, колькі сам факт непрыемны. Доўга не мог супакоіцца. Дзякаваць Богу, Цімох больш не прылятаў, а мы з Вольгай, калі выбраліся на выпускны, скарысталіся польскім ЛОТам.

З часам непрыемная рэфлексія сышла. Я вярнуўся працаваць у кіно, зноў адкрываліся магчымасці павандраваць. Але першы раз пасля дзесяцігадовага кінаперапынку трапіў у Вільню не ад кінастудыі. Дачакаўся, нарэшце. Поўны сэрвіс. Запрашэнне зайсці ў касу, атрымаць грошы. З’ездзі, Уладзімір, калі ласка, нешта засядзеўся ты. Вось табе і на гатэль, і на жыццё. Ды яшчэ і машынай павязуць. Прыемна, што тут скажаш, бо чалавекі ўсе мы. Да таго ж, працую я ў адным месцы, а еду ад другога. Хоць, калі чэсна, у той Вільні работы вобмаль, калі мець на ўвазе сапраўдную мэту вандроўкі — здымкі фільма пра Максіма Танка, да якога я пісаў сцэнарый. Праўда, калі згадаць, колькі ты ўклаў намаганняў і напружанай творчай працы, каб сёння мець такое становішча і павагу сярод калегаў? Можна ж калі і скарыстацца сваім узроўнем.

Вільня ўскалыхнула душу. Натуральна, нешта мяняецца ў горадзе, тым больш на другім баку Віліі хмарачосы ўскінуліся, дзелавы цэнтр разбудаваўся. Але стары горад той жа. Мясціны, абходжаныя і абздыманыя неаднойчы. Мілыя сэрцу мясціны. Тая ж Святая Ганна. Толькі цяпер дайшло напоўніцу, які гэта ўсё-такі шэдэўр! У лагчыне, не на горцы, як храму павінна быць. Зразумела, горад, дзе месца было, дзе зямлю купілі. Тым не менш — ляціць, ляціць у неба. Сапраўды, сполахі полымя, як у Максіма Танка ў вершы.

Праз вуліцу, вышэй, касцёл Сапегі, за якім уздоўж вуліцы яго дом. Звонку здымалі, як згадваў раней, але пэўнасці, што гэта той будынак, не было. Ну, вычытаў, убачыў здымак у адным артыкуле. Але цяпер упэўніўся канчальна. Дом пусты, абнесены плотам, на няпэўнай па часе рэстаўрацыі. Можа, я б і не пайшоў глядзець яго дэталёва, але ж холадна, падцiснула па патрэбе. Дзе знойдзеш тую прыбіральню? Урэшце завярнуў за будаўнічы плот, там якраз закутак ад усіх вачэй. Раблю сваю невялікую справу, гляджу ў пустыя аканіцы тарца сапегаўскага дома. І што? На столі ляпніна з гербам Сапегі «Лісам». Сапраўдны! І нідзе ж дагэтуль не бачыў, каб на зводах, плаўных скляпеннях герб быў вылеплены. Чамусьці адразу захацелася здымаць кіно мастацкае гістарычнае ў такіх інтэр’ерах. Ці проста засведчыць гэтую ляпніну як кіналетапіс, бо ці застанецца які знак потым? Акром іншага, мо гэта напамінак мне, што на пенсіі збіраюся пісаць раман пра канцлера Сапегу? Адным словам, як важна ў свой час зайсці за вугал. Дзеля справядлівасці адзначу, што

потым угледзеў у двары біятуалет. Для будаўнікоў, ясная справа. Толькі ці патрапіў бы туды?

Універсітэт падаўся нейкім пустым. У студэнтаў вакацыі зімовыя. А вось Лукішская турма акрэслілася выразна толькі цяпер. На пляцы раней быў, і месца павешання Кастуся Каліноўскага здымалі. Але турма не акцэнтавалася ў свядомасці. Знялі некалькі харошых планаў, калі так можна сказаць аб змрочным, па сутнасці, збудаванні. На даху расло невялікае дрэўца. Зіма, а паклікала яно рэфлексіі аб кусце бэзу ў цудоўным танкаўскім вершы «Паслухайце, вясна ідзе…». Падняліся і на гару Гедзіміна, аператара была ініцыятыва. Мне то анігадкі, а Слава даходзіў ужо цяжкавата. Ды не пашкадавалі — зімовы стары горад зверху я бачыў упершыню. Тая ж прыгажосць, як і ў любую іншую пару, толькі своеасаблівая з-за снежнай белі. Божа, які горад страцілі!

На жаль, далей было па выслоўю «хацелі як лепш». Шыкоўны гатэль і дрэнная летувіская гарэлка. Хтосьці можа сказаць, што ў такой колькасці любая гарэлка пагоршыць здароўе. І будзе мець рацыю. Але аб'ектыўна гарэлка ўсё ж паганая па якасці спірту. Адным словам, адыходзіў некалькі дзён. Можа, не стрымаліся таму, што холадна было?

Наступным разам, быў 2010 год, трапіў у Вільню з нязвыклага боку. Здымалі фільм аб Антоніі Тызенгаўзе, я там рэдактарам, а рэжысёрам быў малады, як для мастацтва, але ўжо з вопытам, Юрый. Ён і настояў, каб я ехаў разам з групай, маючы на ўвазе мой вопыт і тое, што я ўсюды ўжо не першы раз. Вандроўка была працяглай, каля дзесяці дзён, проста фізічна цяжкай — натрэсліся ў «Газэлі» звыш меры, усе косці памялі. Анягож. З Брэста на Кракаў праз Люблін, з Кракава на Варшаву, потым Беласток, адтуль у Вільню. Дык вось, першы раз ехаў туды з Польшчы, на мяжы з Літвой ніхто не спыніў, так і праехалі. Калі ж мы дажывём, каб не спыняцца на межах?

У Вільню дапялі ўжо цёмначы, гатэльчык знайшлі ў цэнтры, недалёка ад Гедзімінава пляца. Нумар быў двухпавярховы на чатырох, але вельмі цесны. Проста шукаць нешта іншае не было ўжо часу. Нараніцу выбраліся з камерай пешшу. Ва ўніверсітэт так проста цяпер не зайсці — плаці грошы. Тым больш для здымкаў. З прахадной патэлефанавалі ў рэктарат, беларусам далі згоду. Я нічога не падказваў Юру, няхай ён свежым вокам гляне на тое, што мы ўжо здымалі неаднойчы. Але асветныя размовы вяду і маршрут трымаю, каб чалавек адчуў беларускую Вільню. На шляху да Вострай брамы заварочваем у базыльянскія муры. Адразу ж кідаецца ў вочы вялізная мемарыяльная дошка на сцяне. І каму? — Ігнату Дамейку! Усё спрэс на летувіскай мове, літоўскі вучоны. Да 200-годдзя. Божа мой! Ён тут толькі вучыўся колькі гадоў, і ўсё. Ды і які ён літоўскі вучоны, калі ён вучоны чылійскі? А народжаны беларус. Крыху загладзіла гэтую для мяне прыкрасць тое, што далей, ужо на саміх мурах, віселі не бачаныя мною раней памятныя дошкі Максіму Гарэцкаму ды Наталлі Арсенневай як выкладчыкам беларускай гімназіі. А вось сам базыльянскі храм так і стаіць у занядбаным стане.

У мяне быў ужо комплекс таго, што за столькі дзесяцігоддзяў знаёмства з Вільняй не маю ніводнага фотаздымка каля Вострай брамы. Папрасіў нашу мілую дырэктарку Таццяну выправіць відавочную недарэчнасць. Што яна і зрабіла, праўда, не без цяжкасцяў, бо ўсё не магла зразумець, які кадр я хачу. Добра, што на лічбавай камеры можна адразу ўсё паглядзець. Наступным прыпынкам быў Арсенал. Комплекс аказаўся на рэканструкцыі, але я больш хацеў паказаць панараму са схілу гары. Была ўжо позняя восень, вецер, даводзілася нават каптур курткі нацягваць на голаў. Тут Таццяна зрабіла таксама нядрэнныя здымкі нас утрох — мяне, рэжысёра і аператара Жоры. Ужо ўнізе я адзначыў для Юры, што Прачысценская царква, адметнае архітэктурнае збудаванне часоў Альгерда, — самы старадаўні праваслаўны храм у Вільні.

Далей было больш весела. Перад мостам у Зарэчча вялізная шыльда, дзе на пяці мовах (літоўскай, беларускай, польскай, рускай і жыдоўскай) напісана: «Рэспубліка Зарэчча». Так нехта дадумаўся адзначыць своеасаблівасць гэтага віленскага кутка. На парэнчах моста — мноства замкоў і замочкаў з імёнамі і датамі — знакі шлюбавання да магілы. Мода такая цяпер. У мураваным беразе Віленкі ніша са скульптуркай русалачкі. Дробязі, але надаюць чалавечы маштаб, чаго бракуе ў нашым Мінску. У сам раён не пайшлі, толькі на тым баку зайшлі ў кавярню, пагрэліся за кавай. Зарэчча і так стала для мяне значна бліжэйшым, хоць і віртуальна. Там жылі некаторы час Агнія са сваім бацькам Вайжбуном, героі нашага з Мікалаем сцэнарыя мастацкага фільма «Белая», які мы напісалі паводле аповесці Ігнацы Юзафа Крашэўскага «Апошнія дні Пана Ваяводы (Пане Каханку)». Калі ён увасобіцца на экране? Шкада, бо гісторыя кранальная. Як і гісторыя Льва Сапегі, пакуль не адлюстраваная ў мастацкім творы. Дом Сапегі стаяў ужо поўнасцю адрэстаўраваны, чысценькі. Цікава, што там размясцілі, пад гербам «Ліс» на плафоне залі?

Самае цікавае было ў цэнтры. Як звычайна, падняліся пешшу на гару Гедзіміна — панарама патрэбная была. Знялі яе Юра з Жорам, потым я папрасіў камеру, каб зрабіць свой варыянт, бо горад бачыў па-свойму. Так і не ведаю, чыя ўвайшла потым у фільм. Калі на фунікулёры спусціліся ўніз, то на пляцы перад гістарычным музеем убачылі новапаўсталы помнік Міндоўгу. Паўсфера-пастамент, на тым сядзіць кароль з каронаю на галаве. Постаць абагульненая. Пастаўлены помнік, па ўсёй логіцы, да мілёніума Літвы. А з другога боку катэдры — помнік Гедзіміну на кані. Ужо з металу, сапраўдны, бо пэўны час стаяў муляж у натуральную велічыню, правяралі, як людзі ўспрымуць. Напэўна, пагадзіліся, што тут усё добра. Ніжні замак побач інтэнсіўна ўзнаўляецца. Стаяць помнікі ды і стаяць. Але разгаварыліся аб тым з Юрам, і раптам да мяне дайшоў сэнс паўсферы-пастамента Міндоўгу. Гэтак яны пазначылі свой пуп зямлі! Вось тут наш пачатак, пачатак нашага Вялікага Княства Літоўскага, тут наш кароль Міндоўг! Ды і каранавалі яго ўвогуле таксама тут, а зусім не ў Навагрудку. Неяк Вітаўт Чаропка казаў, што па каменнай прыступцы ў падзямелле яны вырашылі (спачатку выказалі меркаванне), што Міндоўг хрысціўся тут. Усё пацягнулі на сябе, усіх нашых князёў.

На здароўе, няхай сабе цягнуць коўдру, але ж за сваю дзяржаву крыўдна. Так і прафукаем уласную гісторыю. Ужо колькі гадоў мяркуецца конны помнік Міндоўгу ў Наваградку — а да гэтага часу так і няма.

Працоўны час скончыўся, згрузілі апаратуру ў гатэлі. Час падмацавацца. Выбраліся ўтрох у стары горад, у мяне было пільнае жаданне трапіць у «Локіс». Я распавядаў Юру гісторыю са свайго студэнцкага юнацтва. А некалькі гадоў таму задумаў напісаць аповед пра сваю Вільню, у пэўным сэнсе антытэзу вершу, дзе ў назве ёсць слова «Развітанне». У нейкі момант прыйшло акрэслена: ёсць пачатак, павінна быць і заканчэнне, павінна быць у фінале рэстарацыя. Драматургія так вымагае. А тут якраз нагода спрыяльная. Спакусіў рэжысёра яшчэ і тым, што мядзведжыны адкаштуем, заінтрыгаваў яго.

Калі ж быў той першы раз у мяне? Сорак гадоў таму! Упару б усклікнуць: які ты ўжо стары, Вова! Насамрэч, нарывацца на камплімент не варта — што гады перад маладосцю душы? Вуліцу Жыдоўскую знайшлі без праблем. Ад яе ішла Шкляная, дзе і аказалася рэстарацыя. Сапраўды, вузенькая віленская вулка, праход у арку да маленькага дворыка. Уваход якраз у гэтым праходзе. Усё, як і тады, толькі мядзведзя няма каля дзвярэй. Заходзім — рэстарацыя як рэстарацыя. Адразу пытаюся ў дзяўчыны: а зала ў сутарэннях? Адказвае, што яе адчыняюць пазней. Што зробіш, селі за столік каля акна з відам на старасвецкую вулачку. У меню была дзічына разнастайная, але мядзведжыны не значылася. Заказалі каўбаскі і салянку. І «Старку», натуральна, без яе фінальны акорд аповеду будзе няпраўдзівым, няпоўным. Па-правінцыйнаму тлумачу, каб прынеслі закаркаваную. Прынеслі б і без майго напаміну, але слоў не вернеш. Афіцыянтка адкаркавала і разліла ў кілішкі. Дарэчы, рабіла гэтак і потым, сэрвіс належны. Пляшка была гранёная, моцнасць гарэлкі сорак тры градусы. Спачатку падалася не вельмі, але потым раскаштавалі. Грала ціхая музыка, людзей вобмаль, што мне было да душы. Дарэчы, спіртное тут дарагое, як і ва ўсёй Еўропе, як і ў Амерыцы. Пляшка «Старкі» выйшла ў трыццаць даляраў. Ды што зробіш, калі хочацца вярнуцца ў юнацтва? З іншага боку, мо і не варта вяртацца, аповед згубіць нейкую недаказанасць? Але ж у сутарэнні я так і не апусціўся (дарэчы, мог бы папрасіць і глянуць тую залу), так што загадка застаецца, кропку не стаўлю. Сядзелі, нязмушана гаманілі — нарэшце перадых у доўгай дарозе. Падумалася: як быў «Локіс», так і застаўся. Люблю ў горадзе стабільнасць, пазачасавасць. У нас быў мой любімы «Патсдам» — і няма яго. Як і «Нёмана» на праспекце. Ды шмат чаго не пазнаеш. Горад павінен мяняцца, але ж не настолькі, каб ты не мог потым нічога знайсці.

Той вечар у Вільні выдаўся цудоўным, нягледзячы на дождж, не слабы, але і не порсткі. Ён быў, як цяпер разумею, проста для настрою душы. Юра не хацеў у наш гатэль цеснаваты, таму пасля «Локіса» працягвалі блукаць па вулках Вільні. Зайшлі ў паб, выпілі піва. Зноў пагулялі. У прыцемках (ды ўжо цёмначы) згледзеў змрочныя (бо закінутыя) муры касцёла і кляштара. Кажу рэжысёру, што гэта, напэўна, Святаянскія муры, дзе сядзеў у вязніцы

Каліноўскі, і дошка памятная павінна быць. Так і ёсць, не змыліўся — дошка вісела за плаўна скругленым рагом. Ці не адна з першых (калі не першая) беларуская дошка ў Вільні, зробленая яшчэ за савецкім часам. У вузкай вуліцы зноў зайшлі ў нейкую рэстарацыю, там ужо хто што хацеў. Рэжысёру і па дзявятай гадзіне не сядзелася ў нумары ў гатэлі. Пайшлі там у скляпенні ў бар, дзе яшчэ пасядзелі, пагаманілі, на адвітанне з Вільняй выпілі гарэлкі. Ад выдатнага настрою нават вершы пісаць пацягнула, занатаваў дзве страфы. На большае моцы ўжо не было. Так завяршыўся цудоўны вечар. Назаўтра нас чакаў шопінг у знакамітым сярод беларусаў «Акропалісе» і дарога дадому.

На наступны год Юрый здымаў, ужо па майму сцэнарыю, фільм аб Міхале Бабpоўскім, прафесары Віленскага ўніверсітэта, святары, вучоным, духоўным настаўніку філаматаў. Постаць гэтая, шырока не вядомая нават для шчырых беларусаў, была героем майго рамана, бо дзесяць гадоў таму мы ставілі крыж на яго магіле ў Шарашове. Тады я пісаў аб ім, нават у беластоцкай «Ніве» друкавалі матэрыял. Крыху больш стала вядома гэтае імя для грамадскасці, калі ў 2007 годзе Супрасльскі рукапіс разам з імем адкрывальніка ўключаны ў спіс Памяці свету ЮНЕСКА, дзе зафіксаваны самыя каштоўныя гістарычныя дакументы ў гісторыі чалавецтва. Надышоў час і фільм зрабіць аб гэтым чалавеку з драматычным лёсам, назва якога сталася «Старажытнае слова. Лёс Міхала Бабpоўскага».

Зноў выпадала вялікая вандроўка, бо за Супрасльскім кодэксам (еўрапейская назва помніка) трэба было дапяць Любляны, Варшавы, Санкт-Пецярбурга. І, натуральна, Беласток, Супрасль, Вільня. Група так і аб’ездзіла ўсё, а мне месца не знайшлося, грошы ашчадзілі. З астатнім ладна, а вось тое, што я не трапіў у Вільню, выклікала шкадаванне. Ім жа ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта вынеслі ўсё — і лісты, і кнігі Бабpоўскага. Юра, на жаль, без мяне толкам не разабраўся, проста адзняў усё старонне, без акцэнту. А націск трэба было зрабіць на Кароткім зборніку навукі хрысціянскай, катэхізісе для рымска-каталіцкіх юнакоў-беларусаў, які напісаны, падрыхтаваны Міхалам Кірылавічам і выдадзены, не без цяжкасцяў, у 1835 годзе. Гэта ж першая беларуская кніга ў XIX стагоддзі на беларускай мове! «Сялянскія песні» Яна Чачота з’явіліся годам пазней. Першая кніга пасля двух стагоддзяў практычнай адсутнасці кніжнага ўвасаблення беларускага слова! Нават калі больш нічога не засталося б, адной гэтай кнігай Бабpоўскі заслужыў нашу ўдзячную памяць. Яна на лацінцы, але чытаеш — чыстая беларуская мова! Вось і шкада мне, што гэтую кнігу я не змог патрымаць у руках, не змог пабачыць лісты, напісаныя яго рукой акуратным каліграфічным почыркам.

І ўсё ж у тым годзе ў Вільню трапіў. Была ў пашпарце дармовая шэнгенская віза — не прападаць жа ёй. А тэрмін сканчаўся. Думаў крутнуцца на дзень на электрычцы, хоць кавы купіць таннейшай. Тут і Марыне закарцела. Узяла візу, праўда, за шэсцьдзясят еўра. І пасунуліся машынай а пятай раніцы. Здаецца — якая дарога? Бліжэй нават, чым да Даманава, дзе жывуць мае бацькі. Але ж мяжа. Усё глядзелі на сайце чэргі, яны самыя вялікія якраз

там. Пад’ехалі, палічыў, дваццаць шостыя. Здаецца, у разумных межах. Дзе там! Паўтары гадзіны стаялі мёртва, а ўсяго выйшла тры гадзіны.

У Вільні былі ўжо пасля дванаццатай. Машыну ўдала паставіў каля Вострай брамы. Часу забрала, пакуль грошы памянялі каля рынку. Рушылі ў стары горад. Пакланіліся Маці Божай Вастрабрамскай. У мяне было адчуванне, што першы раз падняўся да цудадзейнага абраза, хоць праходзіў тут неаднойчы. Потым пачаліся музеі і галерэі, якія і хацела наведаць Марына. У адной з галерэй графікі нешта запыталася яна ў дзяўчыны. А тая і кажа, што ёй прасцей размаўляць на ангельскай мове, чым на рускай. Так Марыне і давялося весці дыялог. Вось табе і маеш — для пакалення нашых дзяцей гэта будзе ўжо сапраўднае замежжа! Нязвыклая для мяне рэальнасць.

Не люблю змешваць у адно розныя рэчы. Але ж Марына яшчэ і шопінг зрабіць мела ў планах. Так і атрымалася, што ў «Акропаліс» трапілі позна. Крама агромністая, хадзіць — не перахадзіць. Добра хоць, купілі ёй нешта з адзення. Забеглі па каву, ды назад ужо па восьмай. На мяжы былі а палове дзясятай. І што б вы думалі — стаім мёртва ды ўсё! Ужо і за поўнач, а руху няма. Потым высветлілася, што ў летувісаў камп’ютары адключыліся, ад рукі запісвалі людзей і машыны. Шэсць гадзін нэндзіліся, дамоў прыехалі а палове шостай раніцы. Вось табе і побач Вільня! Дурноцце страшэннае — якія межы ў наш час? Псіхалагічна ў цябе іх няма аніяк. А цябе не пускаюць. У Вільню не прарвацца! Мы хоць паспелі яе зрабіць сваёй, роднай. А дзецям як? Пытанні рытарычныя. Будзем захоўваць нашу гістарычную сталіцу ў духоўнай беларускай прасторы, не будзем, нягледзячы ні на што, развітвацца з горадам. Галоўнае — імкнуцца трапіць у Вільню.

*Міхась Казлоўскі*

# МАКСІМ ТАНК І ПЯТРО БІТЭЛЬ:

## *да гісторыі перакладу паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш»*

У 1950 годзе Пятро Бітэль быў нечакана арыштаваны і «пасля адпаведнай, ажно гадавой, следчай апрацоўкі ў Мінскай турме» высланы ў Кемераўскую вобласць. Наперадзе яго чакалі «надзвычай цяжкія ўмовы лагернага жыцця, паганы харч і непасільная праца ў брыгадзе, у якой з 40 чалавек восем не працавала», бо належалі да так званых «законнікаў», альбо інакш кажучы звычайных крымінальнікаў, зладзеяў і бандытаў. Каб як-небудзь аблегчыць яго лёс, землякі-беларусы дамагліся ягонага пераводу ў іншую брыгаду. Там ён і пазнаёміўся, а затым пасябраваў з двума надзвычай цікавымі людзьмі: адным з якіх быў паляк Станіслаў Шаль, на колькі гадоў старэйшы за Бітэля мужчына, а другім — беларус, вельмі жвавы, непаседлівы, шчыры, дапытлівы і сімпатычны Лявон Мазура, родам з Дзятлава. Яны то і натхнілі Бітэля на пераклад паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» на беларускую мову. А адбылося гэта так. Дзесьці напрадвесні 1953 года на імя Станіслава Шаля прыйшла пасылка, на дне якой знаходзілася салідная кніга — Збор твораў А. Міцкевіча, выдадзеная ў Варшаве. Натхнёны просьбамі сяброў-беларусаў, і ў першую чаргу Лявонам Мазурам, які вельмі кепска ведаў польскую мову, Пятро Бітэль узяўся за гэту складаную і ў лагерных умовах вельмі небяспечную перакладчыцкую справу. У якасці першапачатковага пісьмовага матэрыялу быў выкарыстаны папяровы мяшок ад цэменту і ««скрутак нейкага кабелю, на якім з-пад гумовай ізаляцыі вызірала нешта накшталт волава», потым, праўда, з'явіўся аловак і сшытак, якія ўдалося дастаць ад вольнанаёмных. Ад таго часу кожныя выхадныя дні, хаваючыся ад канвою і наглядчыкаў, Пятро Бітэль пачаў занатоўваць «дробненька ў кожную лінеечку вынікі сваёй тыднёвай перакладчыцкай працы». Але і такая звышасцярога не дапамагала: прыйшлося спазнаць за парушэнне лагернага рэжыму і карцар, і канфіскацыю ўсяго напісанага.

Тым часам памёр Сталін, і ўмовы лагернага жыцця значна палепшыліся: была знята забарона на пісанне лістоў, з'явіліся пісьмовыя пераклады, знікла неабходнасць хавацца з перакладзеным. У 1955 годзе праз аднаго сябра з Вілейшчыны, якога перад гэтым рэабілітавалі, П. Бітэль перадаў вынік сваёй працы, а менавіта пераклад рукапісу паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», у Мінск, з надзеяй, што ён патрапіць у рукі каму-небудзь з беларускіх пісьменнікаў, «а ў першую чаргу, калі ўдасца, Я. Коласу». Праз нейкі час сябра паведаміў, што да Коласа яго не дапусцілі, а рукапіс забраў Максім Лужанін. Прайшоў яшчэ нейкі адрэзак часу, пакуль не выявілася, што пераклад перададзены М. Танку. Потым быў выклік да лагернага начальства і знаёмства з

лістом-рэцэнзіяй, які прыйшоў на імя Бітэля ад Праўлення Саюза Савецкіх пісьменнікаў, за подпісам М. Танка. У ім паэт пісаў:

*Правление Союза Советских Писателей,*
*БССР, гор. Минск, ул. Энгельса № 27*

*3.12.1955*

*Рецензия*

*По поручению секретариата Союза Писателей Белорусской ССР я ознакомился с белорусским переводом т. Бителя П. И. известной поэмы Адама Мицкевича «Пан Тадеуш»*

*Несмотря на то, что отдельные места ещё требуют некоторой доработки и поправки, в основном переводчику удалось передать на белорусском языке неповторимую прелесть этого классического произведения польской и мировой литературы.*

*Перевод поэмы сделан на высоком художественном уровне и является одним из лучших переводов этой поэмы А. Мицкевича.*

*Максим Танк.*

Можна толькі ўявіць, што перажываў у той момант бяспраўны зэк савецкай сістэмы Пятро Бітэль, калі трымаў у руках ліст, падпісаны самім Максімам Танкам. Таму адразу напісаў ліст з падзякай за сумленную ацэненую працу і са спробай апраўдаць свайго хібы «адсутнасцю неабходных слоўнікаў і дапаможнікаў». У адказ атрымаў ад Максіма Танка «Русско-белорусский словарь». У чарговым сваім лісце, які Бітэль даслаў на імя Танка, уклаў уласны верш з просьбай даць яму кваліфікаваную ацэнку. Адказ не прымусіў сябе доўга чакаць. У ім Максім Танк пісаў: «Паважаны тав. Бітэль! Я рад, што Вы атрымалі маю рэцэнзію на Ваш пераклад паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Шкада, што не змаглі мы выкарыстаць яго і надрукаваць ў аднатомніку А. Міцкевіча, які выйшаў на беларускай мове. Пераклады і праўкі Вашы, як я пісаў Вам і раней, знаходзяцца на перахаванні ў Саюзе Пісьменнікаў БССР. З вырашэннем Вашае справы напэўна вырашыцца справа і друкавання перакладаў. Вельмі цяжка гаварыць у пісьме аб якасці Вашага перакладу. Таму я і даў агульнае заключэнне і не закранаў усіх тых дробных недахопаў, якія там маюцца. У працэсе рэдагавання трэба было б зверыць кожны радок перакладу з арыгіналам. Так, я прачытаў некалькі частак, пазнаёміў сяброў з Вашай работай, і мы прыйшлі да адной думкі, што праца Ваша заслугоўвае высокай ацэнкі».

У заключэнні ліста даецца некалькі крытычных заўваг адносна якасці дасланых вершаў. Потым былі яшчэ доўгія месяцы зняволення і, нарэшце, доўгачаканае вызваленне. Прыезд у Мінск, які рыхтаваўся да паховінаў Я. Коласа, асабістае знаёмства П. Бітэля з Я. Брылем і Максімам Танкам, безумоўна, працяг іхняга ліставання. У чарговым лісце, які быў напісаны на паштовай картцы, Максім Танк пісаў: «Мінск 15. IX. 56. Паважаны Пётр Іванавіч! Пераклад Ваш «Пана Тадэвуша» рэдакцыя «Полымя» атрымала. Зараз мы яго чакаем, некаторыя радкі выпраўляем. Тыя мясціны, якія Вы

памецілі, скароцім. Відаць, усяго набярэцца, толькі з першае кнігі, каля 700 радкоў. Думаю, што нам удасца гэта надрукаваць у 11-м нумары «Полымя». З прывітаннем Максім Танк» Ліст быў адпраўлены ў Маладзечанскую вобласць, Валожынскі раён, вёску Люташ, дзе ў той час Пятро Іванавіч Бітэль пражываў разам са сваёй сям'ёй.

Але надрукаваць у тую паслясталінскую эпоху хоць бы нейкую частку з паэмы Адама Міцкевіча Пятру Бітэлю не ўдалося. Не дапамагло нават заступніцтва і шчырае спрыянне Максіма Танка, бо трэба прызнаць, што не ўсё было падуладна нават яму, вядомаму і аўтарытэтнаму, паважанаму і заслужанаму. Урывак з першай часткі «Пана Тадэвуша» быў змешчаны толькі ў 1965 годзе ў зборніку «Дзень паэзіі-65». Але гэта ўжо зусім іншая эпоха, а значыць і гісторыя.



***Юльян Сергіевіч***

## З вясною

Бярыце сабе золата —
мне дайце сталь,
няхай пазвоніць молатам
па ёй каваль!

Хай хутка пастараецца
зрабіць нарог —
зямля ўжо прачынаецца
на дзірванох.

Там снегам бура веяла,
марозам злым,
а летам гора сеяла
сівы палын...

Ды хутка з плугам выеду
я на кані
араць гаркую злыбеду
пад карані...

*1930-я гг.*

*Вячаслаў Рагойша*

# З СУЗОР'Я КУПАЛЫ І КОЛАСА

Пачатак паэтычнага XX ст. для беларусаў азораны сонцадайнасцю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Другая палова і канец стагоддзя асветлены паэтычным выпраменьваннем яшчэ аднаго генія — Максіма Танка (1912–1995). Здзейснілася прадказанне Рыгора Шырмы, выказанае ім у прадмове да зборніка паэта «На этапах» (1936): «Думаецца, што нам яшчэ прыйдзецца быць сведкамі, калі ягоны талент падымецца да вялікага сузор'я Купалы — Коласа» [7, с. 80]. Пры гэтым, аднак, не будзем прымяншаць значэння і іншых беларускіх паэтычных «свяціл» — ад Максіма Багдановіча і Алеся Гаруна да Аркадзя Куляшова і Пімена Панчанкі. Аднак па ідэйна-мастацкай глыбіні і ўсёахопнасці паэтычнага выяўлення рэчаіснасці ў беларускай літаратуры мінулага стагоддзя паставіць з М. Танкам побач мала каго можна. Скажам, з паэтычнага даробку паэта можна лёгка вылучыць і пры жаданні выдаць асобныя вялікія тамы выдатных вершаў грамадзянскіх, патрыятычных, пейзажных, філасофска-медытатыўных, інтымных, сатырычных, дзіцячых… Ніхто, відаць, з такой паўнатой не выявіў у лірыцы духоўны космас беларуса паслякупалаўскага перыяду нашай гісторыі, як аўтар «Нарачанскіх соснаў». Прычым багаццю і непаўторнасці гэтага космасу арганічна адпавядае надзвычайнае багацце вершаванай формы ў галіне паэтычнай вобразнасці, метрыкі і рытмікі, строфікі, сінтаксісу, кампазіцыі… Паэт, які, як і Янка Купала або Максім Горкі, у выніку цяжкіх жыццёвых абставін не меў магчымасці закончыць нават звычайную гімназію, здабыў шляхам самаадукацыі такія глыбокія веды ў галіне культуралогіі, гісторыі і тэорыі літаратуры, што стаў паўнапраўным акадэмікам, літаратурным першапраходцам, заканадаўцам паэтычнага стылю.

Лёс распарадзіўся так, што М. Танк пражыў усё роўна як дзве эпохі. Першую — у міжваеннай капіталістычнай унітарнай Польшчы, дзе звыш трох мільёнаў беларусаў не мелі нават сваёй культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Другую — у сацыялістычнай Савецкай Беларусі, што на правах асобнай, фармальна «свабоднай», рэспублікі ўваходзіла ў склад таксама ўнітарнага СССР. Мяжа — 17 верасня 1939 года — не толькі аддзяліла адну ад другой гэтыя дзве дзяржавы, дзве сацыяльна-палітычныя сістэмы, але прадвызначыла розную культурную арыентацыю, іншыя ўмовы і свайго ўласна-творчага, і агульнанароднага, нацыянальна-беларускага самасцвярджэння. Што да апошняга, то і ў першую, і ў другую эпоху мэта ў паэта была адна і тая ж: праз нацыянальнае самаўсведамленне — да дзяржаўнага самасцвярджэння, умовы — прыблізна аднолькавыя: нацыянальна свядомым беларускім мастакам, па словах самога М. Танка, «заўсёды нешта пагражала». Ды і сродкі для дасягнення мэты заставаліся падобныя: роднае мастацкае слова…

Да ролі народнага і нацыянальнага «заступніка» Яўген Скурко рыхтаваўся змоладу. Ва ўмовах Заходняй Беларусі ён не толькі актыўна займаўся палітыкай, удзельнічаў у камуністычным падполлі, выяўляў сябе як грамадзянін, але і актыўна пашыраў запас літаратурных ведаў, удасканальваў сваё паэтычнае майстэрства. Гэта, у прыватнасці, зафіксавана ў дзённіку паэта заходнебеларускага перыяду — «Лістках календара». На яго старонках — назвы дзясяткаў твораў, у тым ліку фальклорных, сотні прозвішчаў беларускіх, рускіх, польскіх, украінскіх, заходнееўрапейскіх пісьменнікаў, з творчасцю якіх літаральна штодзень знаёміўся малады літаратар. Прычым яму быў даступны не толькі польскі і заходнееўрапейскі друк, але і савецкі — дзякуючы атрыманаму дазволу працаваць у славянскім аддзеле ўніверсітэцкай бібліятэкі ў Вільні. Ён мог супастаўляць творы, напісаныя рознымі метадамі, у рэчышчы розных літаратурных і стылёвых напрамкаў, арыентавацца на лепшае, нягледзячы на тое, дзе, на якой мове яно было напісана. Пад канец жыцця М. Танк падкрэсліваў, што вершы пачаў быў пісаць «са злосці», бо ў тагачаснай заходнебеларускай літаратуры было шмат «муры», якая і яго справакавала ўзяцца за пяро. Як бы там ні было, але ўжо тое, што малады паэт мог адрозніць сапраўднае мастацтва ад яго падробкі («мура́»), сведчыць пра яго тонкі эстэтычны густ. У станаўленні ж гэтага густу яму пасадзейнічала беларуская народна-паэтычная творчасць, якую ён увабраў, як і родную беларускую мову, з малаком маці. Фальклор, які, па словах паэта, «ўратаваў ад забыцця і нашу мову, і мінуўшчыну, а яна — нашу будучыню», ён ведаў настолькі глыбока, што вольна спрачаўся нават са знаўцамі фальклорнай паэтыкі. Вучоба ў народнай творчасці (як і ў многіх прафесійных літаратараў) пазначылася літаральна на ўсёй яго арыгінальнай паэзіі.

Разам з тым варта зазначыць: у творчасці М. Танка ніколі не было чыста фармалістычнага штукарства, пошукаў «формы дзеля формы», чым грашылі (і сёння грашаць) некаторыя вершатворцы, прадстаўнікі т. зв. «чыстага мастацтва», «панэстэтызму», мадэрнізму і постмадэрнізму. Яшчэ ў маладыя гады, калі паэтаў звычайна разбірае фармалістычны сверб, Яўген Скурко, пазнаёміўшыся з асобнымі вершаванымі практыкаваннямі рускага паэта Веліміра Хлебнікава, зусім па-сталаму мудра запісаў у сваім дзённіку (7.4.1935): «Ледзь змусіў сябе дачытаць Хлебнікава. Мне здаецца, што падобнымі эксперыментамі могуць займацца паэты, перад якімі ніколі не стаяла пытанне: быць ці не быць іх мове? Аж зайздросна, што ёсць на свеце пісьменнікі, якіх ніколі не трывожыла гэта праблема» [3, с. 21]. Перад М.Танкам з падлеткавага ўзросту і да апошніх дзён жыцця стаяла пытанне: быць ці не быць беларускай мове, а значыць — і беларусам як нацыі, урэшце — і Беларусі як дзяржаве…

У той жа час некарэктным было б сцвярджаць, што М. Танк абыякава ставіўся да пошукаў у галіне тэхнікі паэтычнага мастацтва, вершаванай формы. Так, у яго заўсёды, пачынаючы з першых вершаваных спроб, на першым месцы быў сэнс як увасабленне тых думак і пачуццяў, якія хацеў і мог ён выявіць. Іншая справа, што ў розны час, у адпаведнасці з асабістым творчым

вопытам, эстэтычнымі ўпадабаннямі, featured рознымі літаратурнымі ўплывамі, нават пэўнымі экстралітаратурнымі варункамі, паэтычны сэнс «апранаўся» ў тую ці іншую адмысловую форму. Прычым гэта пазначалася на ўсіх складніках паэтычнага пісьма — тропіцы, рытміцы і метрыцы, строфіцы, эўфоніі… Увогуле, паэт усе свае шэсць дзясяткаў творчых гадоў знаходзіўся ў няспынным творчым пошуку, пра што ён сам выразна сказаў:

Вершы мае — часовыя прыстанішчы,
Якія будую ўсё жыццё.
Але пасля таго, як заб'ю
Апошні цвік у рытмы,
Устаўлю вокны ў строфы,
Навешу дзверы на цэзурах,
Прымацую клямку да pointe —
У гэтым доме
Ўжо мяне не шукайце [4, с. 388].

М. Танк яшчэ ў пару творчай маладосці ўсвядоміў неабходнасць настойлівых пошукаў у галіне вершаванай формы, прычым пошукаў не дзеля саміх пошукаў, а дзеля лепшага, глыбейшага ўвасаблення пэўнага паэтычнага сэнсу. Імкнучыся адшукаць найбольш арганічную форму для выяўлення *дадзенага* сэнсу, ён, разам з тым, не забываў пра амбівалентнасць асобных кампанентаў формы. Ужо ў сталыя гады паэт так скажа пра рыфму ў вершы «Рыфма» (1993): «Ты можаш быць / І мікельанджэлаўскім / Ударам кулака / У ашчэр / Яго славутага «Сатыра». / І можаш быць / Тым фігавым лістком, / За якім еўнухі / Скрываюць сваю немач» [4, с. 408].

У другой палове 50-х гг. XX ст., пасля лёсаноснага XX з'езда КПСС, які праазаніраваў грамадскую атмасферу ў савецкай краіне і, апрача ўсяго, значна пашырыў свабоду мастацкага самавыяўлення, М. Танк апублікаваў сваё паэтычнае прызнанне:

Перш непакоіўся,
Як сваю думку ўпрыгожыць.
І, як дзікун той,
Стараўся абвешаць яе
Цацкамі,
Рознакалёрнымі стужкамі,
Пацеркамі —
Старым і аджыўшым
Свой час рэквізітам.
Быццам зары ці траве
Патрэбны хімічныя фарбы,
Грому — літаўры і трубы.
Толькі шкада змарнаванага часу.
Сёння стараюся забыць

Вобразы каменнага веку,
У якім я радзіўся;
Словы бронзавага веку,
У якім я хрысціўся;
Забыць багоў жалезнага веку,
З якімі не раз я спрачаўся, —
Каб у наш час
Міжпланетных палётаў
І вершу даць строгую
Форму ракеты
І вывесці беспамылкова на трасу —
Да сэрца [4, с. 372].

Несумненна, не трэба гэтыя радкі ўспрымаць даслоўна. Перад намі — паэтычная гіпербала. Бо хоць юны паэт з гонарам сцвярджаў: «У мяне кожны радок — гэта метафара», — усё ж ён і ў давераснёўскі час, у т. зв. «каменны век», не быў тым «дзікуном», які дбаў толькі аб тым, каб «сваю думку ўпрыгожыць», абвешаць «цацкамі, рознакалёрнымі стужкамі, пацеркамі…», а не аб сутнасці самой думкі.

І ўсё ж з часам і ў паэтыцы М. Танка змены адбываліся. Гэта пазначылася на вобразнасці, стылістыцы, эўфоніі, рытміцы яго верша… Ён і для сябе і для іншых вершатворцаў канчаткова сцвердзіў: «Сапраўдная паэзія пачынаецца не ад слоўнай і рытмічнай эквілібрыстыкі, але — ад думкі». Метафара, няхай сабе і непаўторна-індывідуальная, нечаканая, стала выглядаць далёка не з кожнага яго радка. Метафарычны стыль яго ранняй паэзіі ўсё часцей стаў нагадваць аўталагічны, дзе на першым месцы — паэзія «слоў простых». Затое кожны ашчаджаны вобраз-троп (параўнанне, метафара, эпітэт і г. д.), як своеасаблівая «страла ў сутнасць» (М. Рыльскі), стаў з'яўляцца там і тады, дзе ён сапраўды вельмі патрэбны, дзе без яго не абысціся. Прычым канкрэтна-пачуццёвая вобразнасць у значнай ступені саступіла сваё месца ўмоўна-асацыятыўнай, разлічанай на веды, жыццёвую дасведчанасць успрымальніка паэзіі, магчымасці яго лагічна-вобразнага мыслення. Максім Танк пачаў часта і вольна звяртацца да алюзій, рэмінісцэнцый. У той жа час значна радзей сталі гучаць «званочкі рыфмаў», пашырыў свае ўладанні белы верш. Што да рытмікі і метрыкі, то абумоўленая творчай сталасцю паэта шырыня і філасафічная заглыбленасць яго мастацкага свету запатрабавала і тут пэўных карэктываў. «Калісьці хапала мне / Ямбаў, харэяў, / Адмераных, / Строгіх радкоў. / А зараз пішу / У рытме свайго / Арытмічнага сэрца, / Зямлі і падзей», — так выказаўся ён у вершы «Калісьці хапала мне…» [4, с. 401].

Праўда, калі быць абсалютна дакладным, то і да памятнага верасня 1939 г. паэтычнае сэрца М. Танка нярэдка «давала збоі» ў выглядзе парушэння рытмічнага суладдзя сілаба-тонікі. Так, яшчэ ў першым яго зборніку «На этапах» (1936) свабодныя формы верша, па маіх падліках, занялі 4 % [1, с. 190]. Не менш іх было ў кнігах «Журавінавы цвет» (1937) і «Пад мачтай»

(1938). Аднак у савецкі перыяд творчасці ажно да сярэдзіны 50-х гг. XX ст. да свабодных формаў верша, да верлібра М. Танк не звяртаўся. Не мог звяртацца. Верлібр яшчэ ў канцы 1920-х — 1930-я гг. з усёй савецкай паэзіі быў бязлітасна выкаранены (нярэдка разам са сваімі стваральнікамі) — як заходняя «мода», «мёртванароджанае дзіця», што з'явілася, як пісалася ў крытыцы, з «індывідуалістычных тэндэнцый дробнай буржуазіі Амерыкі і Заходняй Еўропы» (І. Маца). Такія экстралітаратурныя ўмовы, аднак, не спалохалі беларускага паэта. Вершаваныя аналагі рытму «зямлі і падзей», як і свайго «арытмічнага сэрца», ён пачаў шукаць у рытміцы народна-паэтычнай тонікі, у рытмічнай разняволенасці традыцыйнага сілаба-танічнага верша. Ніводны з беларускіх паэтаў першай паловы XX ст. (як, зрэшты, і другой паловы) не можа параўнацца з М. Танкам па важкасці метра-рытмічнага рэпертуару. Апрача дзясяткаў памераў «чыстай» сілаба-тонікі, усіх відаў танічнага верша, імітацый антычных гекзаметраў і пентаметраў, тут мы знойдзем трохскладовікі і двухскладовікі з пераменнай анакрузай, густа пірыхіізаваныя вершы, радкі з цэзурамі, з цэзураванымі нарашчэннямі і ўсячэннямі, з пропускамі складоў на метрычна слабых і нават метрычна моцных месцах у вершаваных радках… Усё гэта па-свойму расхіствала ўсталяваныя межы сілаба-тонікі, рыхтавала глебу для арганічнага з'яўлення ў творчасці паэта свабоднага верша. І як толькі пасля XX з'езда КПСС наступіла т. зв. «хрушчоўская адліга», М. Танк адным з першых ва ўсёй тагачаснай савецкай паэзіі звярнуўся да верлібра. Так, калі ў зборніку «След бліскавіцы» (1957) свабодных вершаў не было зусім, то ў кнізе «Мой хлеб надзённы» (1962) іх налічвалася ўжо 6 %, у «Глытку вады» (1964) — 16 %, а ў «Перапісцы з зямлёй» (1967) — ажно 32 % [1, с. 190]. Паколькі ж М. Танк заслужана ўваходзіў у лік самых паважаных тагачасных савецкіх паэтаў і яго кнігі тут жа перакладаліся на рускую мову, станавіліся вядомымі ва ўсіх кутках агромністай краіны, беларускі паэт адчувальна паўплываў на нараджэнне або адраджэнне верлібра не толькі ў роднай беларускай, але і ва ўсёй савецкай паэзіі. Менавіта ягоная творчасць адкрыла рытмічныя шлюзы верлібра, якія да таго часу былі наглуха зачынены. Побач з ім ці неўзабаве пасля яго да верлібра звярнуліся Пімен Панчанка, Сяргей Дзяргай, Анатоль Вярцінскі, Алег Лойка, Алесь Разанаў у беларускай паэзіі, Мікалай Рыленкаў, Уладзімір Салаухін, Яўген Вінакураў, Віктар Бокаў — у рускай, Іван Драч, Мікола Вінграноўскі, Ліна Кастэнка, Уладзімір Лучук — ва ўкраінскай, Яан Крос, Дэбора Ваарандзі — у эстонскай, Эдуардас Межалайціс, Юсцінас Марцінкявічус — у літоўскай…

Разам з тым М. Танк, у адрозненне ад некаторых сваіх равеснікаў і маладзейшых калег, цалкам не спакусіўся адноснай лёгкасцю напісання верлібраў (як жа, не трэба падшукваць рыфмы, захоўваць вершаваны памер!). Не стаў ён і паталяць модзе некаторых заходніх краін, той жа блізкай яму Польшчы, паэты якіх амаль цалкам перайшлі на верлібр. Ва ўсіх яго кнігах 1970-х — пачатку 1990-х гг. свабодны верш мае ганаровае, але не дамінуючае месца, займаючы прыблізна адну трэць папяровай плошчы. Паэт, пры ўсім наватарстве, цвёрда трымаўся ў сваёй творчасці нацыянальных беларускіх трады-

цый — як у змесце, так і ў форме. Мераючы «ўсе вартасці, ісціны… мужыцкім аршынам — працай», успрыняўшы як «хлеб надзённы» непакой і клопаты за родную зямлю, яе «ўраджай, спакойны сон, / За дрэва кожнае ў гаях, / За весніх песень перазвон», М. Танк паважна ставіўся і да народна-песеннай тонікі, і да купалаўска-коласаўскіх традыцый літаратурнага сілаба-танічнага верша. Ён выдатна разумеў: рытма-інтанацыйныя, а таксама эўфанічныя і страфічныя мажлівасці, якія можа даць нашым паэтам родная беларуская мова і народна-песенная творчасць, літаратурнай беларускай паэзіяй за нейкія паўтары сотні гадоў яе сілаба-танічнага развіцця яшчэ далёка не вычарпаны. У гэтым сэнсе паказальны яго апошні прыжыццёвы зборнік вершаў «Errata» [5] — складзены самім паэтам і пры яго жыцці (13.3.1995) здадзены ў набор, хоць і выдадзены тады, калі паэта ўжо не стала (1996). *Errata* — кнігавыдавецкі тэрмін, уклейка ў канцы кнігі, на якой пазначаюцца заўважаныя апіскі і памылкі друку. Зразумела, гэтае слова трэба тут успрымаць не ў тэрміналагічным, а ў метафарычным сэнсе. Па сутнасці, перад намі своеасаблівы апошні творчы запавет М. Танка. У тым ліку — і ў галіне вершаванай тэхнікі. Што ж нам кажа гэты запавет? А тую самую ісціну, якую ён выказаў яшчэ ў пачатку 1960-х гг.: «Вельмі цяжка на падставе тэмы акрэсліць, у якую форму яна павінна пераліцца. Адны вершы без рыфмы, без пявучасці, характэрнай для беларускай паэзіі, не могуць існаваць. Ёсць вершы — гэта датычыць і маёй паэзіі, — якія рыфмаваць не мела б сэнсу. Паэт павінен быць у пастаянных пошуках» [цыт па: 6].

Увогуле, не толькі падрахункам усіх ранейшых уласных творчых пошукаў, але і своеасаблівым запаветам сённяшнім маладым паэтам гучаць іранічныя словы мудрага, сталага Максіма Танка: «Калі вы будзеце, сябры, / Зноў развважаць / Аб зачацці бязгрэшным / Паэзіі, / Аб непарушнасці / Канонаў жанравых / І граматычных форм, / Аб тым, якімі мусяць быць / Элегіі, рамансы, оды, / Ці аб тым, / Якім памерам / Трэба пісаць вершы, — / Паклічце і мяне. / Бо як некалі / Маэстра Дунікоўскі гаварыў: / «Я ўжо чалавек стары / І хацеў бы / Памерці ад смеху» («Калі вы будзеце…» [4, с. 403]).

## Літаратура

1. Рагойша, В. Паэтыка Максіма Танка / В. П. Рагойша. — Мінск : Выд. БДУ, 1968.

2. Танк, М. Збор твораў : у 13 т. / Максім Танк ; падрыхт. тэкстаў і камент. С. У. Калядка і Т. У. Мархель. — Мінск : Бел. навука, 2006. — Т. 1 : Вершы (1930–1939).

3. Танк, М. Лісткі календара / Максім Танк. — Мінск : Беларусь, 1970.

4. Танк, М. Мне пару крыл дало юнацтва… : выбр. лірыка / Максім Танк ; уклад. В. Рагойшы. — Мінск : Маст. літ., 2003.

5. Танк, М. Errata : Вершы. Пераклады / Максім Танк. — Мінск : Маст. літ., 1996.

6. Швед, В. Зачараваныя паэзіяй Танка / В. Швед // Ніва (Беласток). — 1964. — 1 сак.

7. Шырма, Р. Песня — душа народа / Рыгор Шырма. — Мінск : Маст. літ., 1993.

*Людміла Шніп*

# ШТРЫХІ ДА БІЯГРАФІІ МАКСІМА ТАНКА

Сёння працягваецца пераацэнка літаратурнай спадчыны савецкага перыяду, і як бы да гэтага ні ставіцца, працэс гэты непазбежны, сам час, а не людскія амбіцыі, давядзе яго да лагічнага канца. Не ўсе гэтую праверку вытрымліваюць… Але што тычыцца Максіма Танка, мала хто сумняваецца, што лепшыя яго творы застануцца ў гісторыі літаратуры. Успомніць хаця б верш у перакладзе Якава Хелемскага «Готыка Святой Ганны», які стаўся не толькі песняй у выкананні Уладзіміра Мулявіна, але і папулярным жорсткім гарадскім рамансам, і, страціўшы аўтарства, дасюль актыўна пяецца пад гітару падлеткамі і моладдзю.

Для мяне Максім Танк таксама найперш — не бронзавы стод, не савецкі паэт, уганараваны званнямі і пасадамі, а малады патрыёт з Вільні, які выступаў на літаратурных вечарах, збіраючы захопленыя натоўпы, які ў 1931 годзе напісаў водпаведзь на выказванне тагачаснага польскага міністра асветы наконт таго, што праз дзесяць гадоў у Польшчы нават са свечкамі не знойдзецца ніводнага беларуса:

Калі няма на свеце маёй мовы,
Майго народа і мяне самога, —
Дык для каго будуеце, панове,
Канцлагеры, катоўні і астрогі?

Гэта рамантычны юнак, які выбіраў «ударныя» псеўданімы — Бура, Граніт, урэшце Танк — і быў гатовы за свае ідэалы да катоўняў і астрогаў — і прайшоў іх.

Гэта паэт, які, апынуўшыся на тэрыторыі Савецкай Беларусі, павінен увасабляць інтэлігенцыю Заходняй Беларусі, шчаслівую ад уз’яднання з савецкай дзяржавай, і балюча адчувае двухсэнсоўнасць сваёй ролі. У яго начуе падвяселены Янка Купала, які прачынаецца сярод ночы і час ад часу паўтарае:

«— Якая гэта Ная (?) ляжыць ля мяне?

— Дзядзька Янка, гэта — я, Максім.

— А, гэта — вызвалены брат…».

Можна сказаць, што Максіму Танку пашанцавала, бо яго абралі на ролю «вызваленага брата», у адрозненне ад няшчаснага сухотніка Уладзіміра Жылкі альбо саліднага навукоўца Браніслава Тарашкевіча. Але паэта з Заходняй Беларусі, вядома, сістэма актыўна перавыхоўвае. Па ўспамінах сына Максіма Танка, «дома заўсёды стаяла катомка з сухарамі. Прыязджаў

«варанок» — звычайна ў гадзіну ці дзве ночы — яго везлі «куды трэба»… з кіраўніком ведамства пагуляць у більярд. У таго рука спакойная, моцна кій трымае — а ў бацькі рукі дрыжаць… У працэсе гульні нібыта між іншым гучалі пытанні: «Яўген Іванавіч, а што вы думаеце аб гэтым, аб тым…» Пагулялі — дзякуй — бліжэй да раніцы адвязуць дадому. Вось такая час ад часу была муштроўка».

І гэта менавіта Максім Танк, старшыня Саюза пісьменнікаў БССР, напісаў у Стэплаг, зэку Н-447 ліст, у якім хваліў ягоны пераклад на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш». Зэкам быў беларускі паэт Пятро Бітэль, які, перадаючы сваю зробленую падпольна працу з адным з вызваленых таварышаў у Мінск, не асабліва спадзяваўся на нейкі рэзананс. Прынамсі, да Якуба Коласа пасланца з паэмай не дапусцілі.

Мне давялося пісаць некалькі матэрыялаў пра Максіма Танка ў сааўтарстве са слынным гісторыкам Віталём Уладзіміравічам Скалабанам, які сышоў з жыцця ў 2011 годзе. Гэта Віталь Уладзіміравіч знайшоў рукапіс сцэнарыя мастацкага фільма «Бура над Нараччу», напісаны Максімам Танкам, які, як лічылася, загінуў падчас вайны. Некаторыя з нашых матэрыялаў тычыліся знаходак, зробленых Віталём Уладзіміравічам у Маскве, падчас сустрэч з Марыянай Фёдараўнай Мадоравай.

Марыяна Фёдараўна — дачка мастака Фёдара Мадорава, аўтара партрэтаў беларускіх дзяржаўных дзеячаў. У красавіку 1942 года сямнаццацігадовую Марыяну прынялі на працу ў якасці тэхнічнага сакратара прыёмнай у кіраўніцтве ЦК Кампартыі Беларусі. Тут бывалі партызанскія камандзіры, якіх дастаўлялі самалётамі, прыходзілі і беларускія літаратары і журналісты, што апынуліся ў Маскве. Так пазнаёміўся з Марыянай Мадоравай Максім Танк.

Марыяна Фёдараўна перадала на Беларусь некалькі аўтографаў Максіма Танка. Вось верш, напісаны на аркушы са сшытка ў лінейку:

## Мар’яне

Апала зорка, і на міг
Здалося мне, што недзе ты,
Сярод сузор’я залатых,
Мільгнула у трыснік густы.
Я ў човен кінуў два вяслы,
Бярэма снасцяў рыбака
І, ўзняўшы ветразі, паплыў
Цябе і клікаць, і шукаць.
Але на гладзі вадзяной,
Аж па крутыя берагі,
Убачыў я перад сабой
Адны кругі, адны кругі…

Гэты верш адыграў сумную ролю ў лёсе Максіма Танка. Паэт апублікаваў яго ў 1946 годзе, у № 7 часопіса «Беларусь» з нязначнымі праўкамі.

«Мільгнула» папраўлена на «мігнула», «бярэма» на «бярэмя», «Аж па крутыя берагі» — на «Аж пад крутыя берагі». Галоўнае несупадзенне было ў адсутнасці пасвячэння «Мар'яне». Публікацыя супала са з'яўленнем пастановы ЦК ВКП(б) «О журналах «Звезда» и «Ленинград», пасля якой пачалі выкрываць безыдэйнасць на месцах, і верш, які пісаўся для Марыяны Мадоравай, трапіў пад раздачу. 7 студзеня 1946 года ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'явіўся артыкул Якуба Коласа «Актуальныя праблемы»:

«Спынімся яшчэ на пары вершаў нашых двух маладых і таленавітых паэтаў: Максіма Танка і Пімена Панчанкі. Вершы змешчаны ў тым жа 7-м нумары «Беларусі». Не скажу, што гэта вершы слабыя. Наадварот, з боку паэтычнага майстэрства іх можна пахваліць. Я не хачу ўчыняць і ганення над імі. Няхай яны зоймуць сваё месца ў зборніках твораў паэтаў, але ў часопісах, разлічаных на масавага чытача, змяшчаць іх не варта. Вось верш Максіма Танка «Апала зорка»:

[…] Але, на гладзі вадзяной,
Аж пад крутыя берагі,
Убачыў я перад сабой
Адны кругі, адны кругі.

І болей нічога не ўбачыў пясняр.

Нотка безнадзейнасці, песімізму і ўпадніцтва гучыць у гэтым вершы. А нам гэтага не трэба; мы ў пачатку вялікай дарогі аднаўлення, перад намі шырокія далі. У нас ёсць сілы прыйсці да гэтых даляў, і няма нам падставы ўпадаць у безнадзейнасць».

Калі Марыяна Фёдараўна даведалася ад Віталя Уладзіміравіча Скалабана, якія наступствы меў для паэта прысвечаны ёй верш, яна адрэагавала вельмі эмацыйна: «Гэта значыць, я Максіму такую свінню падклала!», і дадала, што Ахматава і Зошчанка — тыя, каму Максім пакланяўся.

Нягледзячы на сяброўскія адносіны, Марыяна Фёдараўна не прымала знакі ўвагі беларускага паэта ўсур'ёз, тым болей ён быў нашмат старэйшы, меў сям'ю — жонка знаходзілася ў эвакуацыі.

«Я такая была дурніца. Я лічыла, што паэт на тое і паэт, каб пісаць такія вершы. У мяне зусім не было разумення, што гэта нешта сур'ёзнае», — расказвае Марыяна Фёдараўна. Нашмат больш, чым Максім Танк, ёй падабаўся дзяржаўны і партыйны дзеяч Сяргей Прытыцкі. Потым яна, ужо актрыса, выйшла замуж за легендарнага генерала Патапава, які быў вызвалены з фашысцкага палону. Але пра Максіма Танка Марыяна Фёдараўна захавала самыя лепшыя ўспаміны і нават сцвярджае: «…самым высакародным, самым блізкім, самым надзейным чалавекам у маім жыцці быў Максім».

Яшчэ адзін верш на рускай мове ў гонар Марыяны Мадоравай Максім Танк напісаў, калі чакаў яе, седзячы ў тэатры. Але дзяўчына не прыйшла — па яе словах, у гэты час яна была занятая тым, што разгружала прывезеныя ёй на кватэру дровы, найвялікшую каштоўнасць у галодныя ваенныя часы. Верш гучыць наступным чынам (арфаграфія арыгінала):

Марианна, Марианна…
Золотые шепчут ели
В предутреннем тумане
И волна, что на отмели
Пеной звезды осыпает,
И крылатых чаек стая
Надо мною пролетая
Это имя повторяют.
Кто сказал, что б вечно пели
Эти волны в океане,
Чайки, золотые ели:
Марианна, Марианна!
Мне и так под небом этим
Не найти нигде покоя.
Ты стоишь передо мною
В несказанном блеске, свете.
И хоть знаю: ты как солнце
Выжжешь в сердце моем раны,
Век смотрел бы в твои очи,
Марианна, Марианна!..

*Максим*
*Москва 18–III–43 г.*

Аўтограф гэтага верша паэт напісаў на першай старонцы нататніка, падоранага ім Марыяне Мадоравай. Гэты нататнік таксама перададзены Марыянай Фёдараўнай на Беларусь і захоўваецца ў Нацыянальным архіве-музеі літаратуры і мастацтва.

Яшчэ Марыяна Мадорава перадала на Беларусь рукапіс паэмы «Янук Сяліба» і яе выданне 1943 года. У канцы паэмы, напісанай ад рукі на лістах у лінейку, прысвячэнне: *«На добрую память Марыяне Ф. Модоровой — страніцы паэмы, напісанай у Маскве, песні, навеяныя сумам па далёкай радзіме, радасць сустрэчы з сябрамі.*
*Максім Танк*
*Масква 4–2–43 г.».*

На шмуцтытуле кніжкі «Янук Сяліба» аўтар таксама напісаў верш:

## Мар'яне

Я імя тваё напісаў на граніце,
Дзе высяцца кручы, прыбрэжныя горы,
Каб вечна яго азаралі зарніцы
І песцілі хвалі паўдзённага мора.
Я хмельную чару абвіў Тваім імем,
Каб вусны заўсёды яго цалавалі,

Калі запалае віно залатымі
Праменнямі сонца ў празрыстым крышталі.
Разойдуцца хутка дарог каляіны…
І хто, апроч скалаў і хмельнае чары
Мне скажа ў далёкай, у роднай краіне,
Што знаў я цябе наяву, а не ў марах?

Яшчэ адзін верш, прысвечаны Марыяне Мадоравай, — на шмуцтытуле зборніка «Вастрыце зброю», які быў выдадзены ў 1945 годзе ў Мінску і падораны аўтарам той жа асобе. Верш шмат разоў друкаваўся, але без прысвячэння:

## Мар’яне

Я не ведаў, хто ты,
Хоць слядоў шукаў
На густых чаротах,
Між купальскіх траў.
Позірк твой гарачы
Я начной парой
Ў кожнай зорцы бачыў,
Кветцы палявой.
Вуснаў тваіх дотык
Адчуваў я нат
Праз дажджы і слоту,
Ў позні лістапад.
Да твайго прыходу
Абяцалі мне
З вечара да ўсходу
Салаўі звінець,
Вырай жураўліны
За ракой трубіць,
І ўсе арабіны
Ў белым цвеце быць.

Яшчэ адзін верш для Марыяны Фёдараўны Максім Танк напісаў на шмуцтытуле кнігі Генрыха Мана «Юность короля Генриха Четвертого» (Масква : Художественная литература, 1939).

## Мар’яне

Ты папрасіла напісаць
Хоць пару слоў табе на памяць.
Ды словы ўсе агнём гараць:
На мармур кінь — яго апаляць,
Як апалілі сэрца мне…

А ты ўсё роўна не паверыш,
Што, нат і ў роднай старане,
Дзень без Цябе — днём будзе шэрым.
Я быў бы шчаслiў, калі б смеў,
Таксама не паверыць ў гэта
І твой чароўны, звонкі смех,
Калі смяялася з паэта.
Але, відаць, ўжо лёс такі:
Хто з песняй дружыць — дружыць з горам;
І там, дзе хвалі, чаўнакі —
Ёсць мачты скрышаныя ў моры.

Віталь Уладзіміравіч Скалабан часта гаварыў пра тое, колькі каштоўных матэрыялаў па беларускай гісторыі захоўваецца ў прыватных архівах і колькі такіх матэрыялаў гіне, бо не заўсёды спадчыннікі надаюць значэнне старым паперам і фотаздымкам. Маскоўскія знаходкі Віталя Уладзіміравіча дадаюць жывых штрыхоў у вобраз народнага паэта, чыя біяграфія здаецца складзенай з біяграфій некалькіх розных чалавек. Наколькі ўдалося паэту захаваць сваю індывідуальнасць і тэрыторыю ўнутранай волі ў таталітарнай дзяржаве, варта меркаваць не толькі па хрэстаматыйных зборніках, але і па такіх знаходках.

*Роза Шэрая*

# ПАЯДНАНЫЯ ЛЁСАМ

## Міхал Клеафас Агінскі і яго сляды на Вілейшчыне

У гісторыі нашай культуры незабыўны след пакінуў кампазітар, дзяржаўны дзеяч, прадстаўнік мясцовай знаці княжацкага роду Міхал Клеафас Агінскі. Яго жыццё, творчае, імклівае, было поўнае супярэчнасцей і патрыятычных памкненняў.

Генеалагічнае дрэва Агінскіх узыходзіла ад самога Уладзіміра Хрысціцеля. Далёкі прашчур Дзмітрый Глушчонак з пятнаццатага стагоддзя асеў у Агінах (Агінтах) на Беларусі. Род Глушчонкаў узяў сабе больш мілагучнае імя — Агінскія па назове маёнтка, пазней перайшоўшы ў каталіцкую веру. Гэты род шмат сродкаў і асабістага часу траціў на дабрачынныя справы.

25 верасня 1765 года ў сям'і дыпламата Рэчы Паспалітай, князя Анджэя і Паўліны Агінскіх нарадзіўся сын — Міхал Клеафас. 26 верасня немаўля было ахрышчана — Міхалэк.

Яшчэ ў чатырохгадовым узросце Міхал Клеафас з годнасцю выказаў перад каралём Рэчы Паспалітай Станіславам Панятоўскім мару пра сваю будучыню — служыць Радзіме. Мара дзяцінства здзейснілася, пацвердзілася ўсім яго жыццём. Ён вельмі любіў сваю радзіму, выступаў за інтарэсы свайго народа.

Разам са сваім настаўнікам музыкі Восіпам Казлоўскім Міхал Клеафас наведваў рэзідэнцыю свайго багатага родзіча Міхала Казіміра Агінскага ў Слоніме, які там трымаў тэатр і быў добрым музыкам. У 1776 годзе Міхал Казімір пазнаёміўся з італьянскай прымадоннай Ганнай Давія дэ Бярнуці. Мастак Дзмітрый Лявіцкі пакінуў для гісторыі партрэт абаяльнай актрысы. Відаць, у юным узросце Міхал Клеафас Агінскі меў магчымасць слухаць спявачку, якая выступала ў тэатры ў Слоніме і была каханкай Міхала Казіміра Агінскага.

Запала ў сэрца дзяўчына-акторка,
Француженка Давія Ганна, спявачка, танцорка.
Міхал ёй спрые ў нізкім паклоне.
Слонім. Тэатр. Ужо сэрца ў палоне.

Яна заляцанкі прымала прыязна.
Ўслаўляла каханне ў операх страсна.
Дарыла пагляды, усмешкі, уздыхі
Не толькі Міхалу, а й іншым паціху.

Ў Гародні ўтрыманкай была Тызенгаўса.
Ён, ўзроставы пан, пазіраў вельмі ласа.
Згубіў галаву з-за яе Безбародка —
Спусціў князь рублі на яе беззваротна.

Яна ж успрымала за флірт, нават лёгкі,
Збірала з паклоннікаў злоты, рублёўкі…
Вярнулася ў Слонім. Ў тэатры Міхала
Казіміра Агінскага ў капэле спявала.

Шлях доўгі прайшла дэ Бярнуці-спакусніца,
Артыстка, жанчына і крыху распусніца.
Такой напісаў яе Дзмітрый Лявіцкі,
Мастак-партрэтыст, што знаў яе блізка.

Услед за бацькам, дыпламатам пры апошнім каралі Рэчы Паспалітай, Міхал Клеафас абраў палітычную кар'еру. Здольнасці і спрыт, сумленнасць і прынцыповасць садзейнічалі таму, што член фінансавай камісіі М.К. Агінскі пры праверцы пастоў на таможнях выявіў шэраг злоўжыванняў, чаканку фальшывых манет з удзелам расійскага пасла ў Рэчы Паспалітай. У час Чатырохгадовага сейма (1788–1792) заслужыў ордэн Святога Станіслава і Белага Арла за актыўны ўдзел пры прыняцці рэформ і складанні Канстытуцыі.

Кацярына II, якую насцярожыла прыняцце Канстытуцыі, што магла б вывесці Рэч Паспалітую з палітычнага крызісу і паставіць на шлях буржуазных рэформ, у 1792 годзе ўвяла сваё статысячнае войска, а потым паспрыяла другому раздзелу Рэчы Паспалітай, у выніку якога былі адрэзаны ад дзяржавы значныя землі. Да Расіі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друя–Пінск.

З грудзей патрыётаў рваўся крык пратэсту. У 1794 годзе ўспыхнула паўстанне, на чале якога стаў прадстаўнік старадаўняга беларускага роду Андрэй Тадэвуш Касцюшка. Міхал Агінскі ахвяраваў паўстанню не толькі сваю маёмасць, але працу і жыццё. Ён узброіў за свае сродкі атрад і сам кіраваў ім. 24 красавіка ў вызваленай ад расійскіх войск Вільні на плошчы каля ратушы быў зачытаны «Акт Паўстання народа Вялікага княства Літоўскага». Сярод тых, хто падпісаў яго, быў стараста вілейскі Юзаф Пац, які меў званне генерал-лейтэнант. Ён быў прызначаны членам Найвышэйшай Літоўскай Рады і ўведзены ў склад вайсковай дэпутацыі. У многіх гарадах і мястэчках паўстанцы ўзялі ўладу ў свае рукі. Сярод паўстанцаў быў прадстаўнік Вілейшчыны І. Козел, ён займаўся забеспячэннем харчавання. 12–16 чэрвеня рэйд на Міншчыну ўзначальваў былы падскарбій літоўскі Міхал Клеафас Агінскі. За галаву Агінскага ўлады абяцалі вялікую ўзнагароду. У Даўгінаве невядомай групай паўстанцаў быў зроблены напад на прыбыўшы з Мінска Ізюмскі легкаконны полк, які панёс значныя страты. Для кантролю за сітуацыяй туды ўлады накіравалі атрад сілай батальёна Маскоўскага грэнадзёрскага і Пскоўскага драгунскага палкоў, а да іх прыбыцця — два эскадроны

з пушкай Санкт-Пецярбургскага палка. Мястэчка Даўгінава ператварылася ў вельмі ўмацаваны пункт. Паўстанцы ў сваёй большасці былі ўзброены слаба: вялікая колькасць сялян-касіянераў змагаліся дзідамі і косамі. На ўвесь атрад Агінскага меліся толькі дзве невялікія гарматы. І толькі некаторыя паўстанцы былі ўзброены стрэльбамі. Рэйд Агінскага на Дзвінск 13 жніўня закончыўся няўдала. Пасля паражэння паўстання Міхал разам з корпусам Дамброўскага перайшоў прускую граніцу. Затым была чужына: Аўстрыя, Італія, Францыя… Жыў нейкі час не пад сваім прозвішчам.

У 1771 годзе ў час падарожжа Анджэя Агінскага ў Вену з дыпламатычнай місіяй Міхал, які падарожнічаў разам з бацькам, упершыню адчуў ні то страх, ні то непрыязь да Аляксандра Суворава, які ўразіў дзіцяце сваёй знешнасцю і паводзінамі. Напэўна, гэта была фатальная сустрэча. Пасля разгрому паўстання лёс зноў звёў яго з Суворавым, які настойліва раіў выгнанцу звярнуцца з пакаяннем да Кацярыны II, але горды граф не пайшоў на паклон да царыцы.

Пасля перамогі над паўстанцамі імператрыца беларускія землі раздавала царскім военачальнікам. Вілейка была падаравана мінскаму генерал-губернатару Карнееву, Ілья, адзін з маёнткаў М.К. Агінскага — фельдмаршалу М. І. Салтыкову, Касцяневічы з суседнімі вёскамі — брыгадзіру Бардакову. На ўдзельнікаў паўстання абрушыліся рэпрэсіі. Былі арыштаваны і знаходзіліся пад следствам Ян Козел з Сэрвачы, пробашч з Даўгінаўскага касцёла Ф. Леліговіч, яго брат вікарый Т. Леліговіч. Павел І, які падпісаў амністыю ўсім паўстанцам, не дараваў Міхалу Агінскаму. Толькі цар Аляксандр І дазволіў Міхалу Клеафасу Агінскаму вярнуцца на радзіму, прапанаваў яму пасаду сенатара, на якой Міхал Клеафас імкнуўся правесці праект заснавання на землях Беларусі аўтаномнага Вялікага Княства Літоўскага. На жаль, Аляксандр І не прыняў гэты праект.

Граф Францішак Ксаверый Агінскі падарыў яму маёнтак Залессе недалёка ад Смаргоні, дзе няўрымслівы чалавек з творчай натурай у гэтым багатым на краявіды месцы пражыў каля дваццаці гадоў. Там быў створаны знакаміты паланэз Агінскага, зроблены запісы ваенных маршаў, патрыятычных песень, якія нараджала яго памяць і палымяная душа, там збіраліся адукаваныя цікавыя людзі, сябры і аднадумцы. Там нарадзіліся «Паўночныя Афіны».

Імя Міхала Клеафаса Агінскага ўпісана ў гісторыю Вілейшчыны. На абсягах Ільянскай акругі шэраг вёсак належаў падскарбію літоўскаму Міхалу Клеафасу Агінскаму: Каўшэвічы, Казлы, Лёпаўшчына, Дварэц, Забар'е, Барысаўшчына, Дубавое, Малявічы, Уладыкі, Шыпкі і Шыпкі Зарэчныя, Боркі, Любча. Усе гэтыя вёскі былі канфіскаваны ў казну ў 1794 годзе за ўдзел у паўстанні Тадэвуша Касцюшкі.

У слыннага кампазітара быў на Вілейшчыне яшчэ адзін маёнтак — Ганута, які стаў належаць яму з 1814 года, перайшоўшы ад дзядзькі Францішка Агінскага. Ганута месцілася за 10 кіламетраў ад Залесся ўверх па Віліі. Там была створана карцінная галерэя, туды запрашаліся знатныя госці з нава-

кольных мясцін, ладзіліся балі і канцэрты. Зараз гэта вёска значыцца сярод тых, якія не існуюць.

І хоць перамогі на той час ён не спазнаў (паўстанне, у якім ён удзельнічаў, пацярпела паражэнне), але ён стаў пераможцам у сваёй музыцы. Думаю, няма сярод беларусаў чалавека, які б не пазнаў па гучанні славуты, надзвычай пяшчотны паланэз Агінскага «Развітанне з Радзімай».

## Менашэ бен Ёзэф з Іллі

Прозвішча Іліера Менашэ зацікавіла мяне ў 2005 годзе, калі з'явілася думка сабраць матэрыял для кнігі «Вілейшчына літаратурная». Першым, да каго я звярнулася, вядома, перабраўшы даступныя мне крыніцы, быў наш зямляк Ілірык Вараўка, вучоны лінгвіст, які пражывае ў Польшчы (г. Згаржэлец). Тыя першыя звесткі выкарыстаў У.С. Кажамяка ў сваім артыкуле.

Сёлета спадар Ілірык разам з братам наведаў сваю Радзіму, каб прывесці ў належны парадак магілы сваіх продкаў, пахаваных на могілках суседняй вёскі Асцюковічы. Тыя патрыятычныя пачуцці, што пранёс вучоны праз доўгія гады ростані з радзімай, прывялі яго ўжо не ў першы раз у нашу школу. Ды не толькі ў нашу. Спадар Ілірык прывёз цікавы матэрыял пра нашых землякоў — братоў Адамовічаў, якія на пачатку XX стагоддзя пакінулі радзіму ў пошуках лепшай долі. Туга па радзіме падштурхнула іх на стварэнне самалёта, на якім яны меркавалі пераляцець Атлантыку. Гэты матэрыял наш зямляк перадаў у многія школы мікраграёна. Алеся Ігараўна Сэсарава, маладая настаўніца замежнай мовы, псіхолаг, разам са сваімі гурткоўцамі вырашыла скарыстаць гэты матэрыял для пошукавай краязнаўчай работы.

У гэту сустрэчу лета 2010 года багаты матэрыял пра Менашэ з Іллі я атрымала з рук спадара Ілірыка. Гэта сустрэча прымусіла сур'ёзна вывучыць матэрыял пра яўрэйскага тлумача і ў поўнай меры адчуць адказнасць за тое, як увойдзе ў беларускамоўны абіход яго імя і яго ільскія ідэі. Гэтую адказнасць маю і перад вучоным Ілірыкам Вараўкам, які паклапаціўся, каб я мела магчымасць мець зносіны з Ларай Лемперт — навуковым супрацоўнікам Віленскага ўніверсітэта, аўтарам больш як 10 кніг на тэму віленскіх яўрэяў, незакранальным аўтарытэтам у тэме «Гаон Віленскі і яго атачэнне», даслаў артыкул Розенфельда, у якім аўтар сцвярджае, што Менашэ з Іллі быў сапраўдным карыфеем талмудычных ведаў, пісаў кнігі і быў вядомы ў рабінскім свеце.

Вучоныя з Польшчы трактуюць імя Менашэ наступным чынам: бен Порат — празванне — даў Іліеру яго біёграф Плюнгянскі; Ільер (або Іліер) таксама не сапраўднае прозвішча, так яго, магчыма, называлі па месцу жыхарства (Ілля, Іля, Элея). Сягоння па-беларуску варта яго прадставіць так: Менашэ бен Ёзэф з Ілы або Ілі), званым Менашэ Ільскім.

Нарадзіўся будучы вучоны ў Смаргоні ў прыстойнай сям'і «даіона», які, безумоўна, марыў у будучым бачыць свайго сына рабінам. Уяўляю гэтага незвычайнага хлопчыка з дапытлівым позіркам на акаляючы свет, які, нібы

губка, набрыняўся малітвамі, ведамі пра жыццё суседзяў, знаёмых, засвоіў сутнасць кодэксу «Choschen Misehpat». Шмат часу ўдзяляў самаадукацыі, вывучаў талмуд і талмудысцкую літаратуру. Такі хлопчык, безумоўна, меў багаты ўнутраны свет. Ва ўспамінах яго ёсць такія радкі: «Я з цікаўнасцю спыняўся перад кожнай новай з'явай, імкнучыся зразумець яе сутнасць». Яго ў раннім узросце хвалявалі пытанні жыцця і смерці, здавалася дзікунствам жаданне людзей браць верх адных над другімі. Не па-дзіцячаму разважаў ён пра лёс людзей, якія часам не маюць самага неабходнага для жыцця, чаму ёсць бязмерна багатыя і бясконца бедныя. У сваіх разважаннях ён наблізіўся да думкі: ці правільна сказана ў святых пісаннях, што Гасподзь, ствараючы свет, зрабіў гэтым дабро для ўсяго жывога.

Упершыню яго ажанілі з нялюбай у трынаццаць гадоў. Але гэты шлюб хутка распаўся. У хуткім часе ільскі купец сасватаў Менашэ для сваёй дачкі. Так сын Ёзэфа з'явіўся ў нашым мястэчку і да яго імя дабавілася празванне Іліер. Услед за вучонымі з Польшчы (І. Вараўкам і Ларай Лемперт) назавём яго Менашэ бен Ёзэф з Ілі, або прасцей Менашэ Ільскім. Як піша Ілірык Вараўка: «Не зможам запытацца ў самога Менашэ, як хоча звацца, але можам шанаваць погляд людзей з яго народа і яго культуры. І то тых, якія яго чытаюць і знаюць яго творы».

Відаць, шлюб быў шчаслівы, бо звілістыя дарогі жыцця вучонага спыніліся ў нашай Іллі. Ёсць могільнік на паўночным баку мястэчка з надмагільнымі камянямі, якія ад часу ўраслі ў зямлю. Вучні нашай школы, шануючы гістарычную памяць, абгарадзілі яго, бываюць час ад часу, з цікаўнасцю разглядаюць незнаёмыя літары, угадваючы, пад якім каменем знайшла супакой няўрымслівая натура шукальніка ісціны.

Р. Менашэ вывучаў тору, поўнасцю прысвяціўшы сябе навуцы; ён мог так заглыбіцца ў свае думкі-разважанні, што не заўважаў нічога вакол. У яго з'явіліся вучні, прыязджалі талмудысты, каб пазнаёміцца з ягонай сістэмай вывучэння торы, у якой сам настаўнік знаходзіў просты сэнс рэчаў і з гэтым поглядам імкнуўся пазнаёміць іншых. Як сам аўтар зазначае, што менавіта просты, здаровы сэнс з'яўляецца той асновай, на якой магчымы росквіт загадкавых і таемных тлумачэнняў.

Далёка не ўсе з акружэння Ільскага філосафа пагаджаліся з такімі поглядамі. Дык і не дзіва, што аднадумцаў і сяброў у яго было нямнога. Разумеў яго і падтрымліваў уладальнік багатай бібліятэкі з мястэчка Вязынь (Вязіна) Іосіф Мазель (Вязінер). Менашэ Ільскі часта карыстаўся не толькі бібліятэкай сябра, але і яго павозкай, якую Мазель Вязінер пасылаў у Іллю, як толькі набываліся новыя кнігі. Мецэнат часта купляў кнігі для сябра, бо вучоны не абмяжоўваўся толькі рэлігійнымі. Яго цікавілі творы Арыстоцеля, Платона і іншых карыфееў грэчаскай філасофіі. Бібліятэка Вязінера і яе гаспадар годныя памяці. На сайце Шапіры аўтар прызнаецца да прадзеда Мазеля Вязынскага (Вязінер).

Ілля таго часу, магчыма, дзякуючы Менашэ бен Ёзэфу Ільскаму, была цэнтрам яўрэйскіх грамадскіх спраў, бо яго біёграф сведчыць, што сюды

збіраліся відныя талмудысты, каб абмеркаваць надзённыя пытанні. Там жа разглядаўся данос кагальнага пісца пра вольныя тлумачэнні талмуда ільскім філосафам. Варожа настроены сход хацеў нават накласці на ільскага мудраца «херэм», але ўмяшаўся Іосіф Мазель з Вязыні. Пасля няўдалай спробы ўгаварыць р. Менашэ прынесці павінную перад сходам сябра і мецэнат упрасіў яго пайсці да быўшага там багацея і талмудыста Ёшуа Цэйцельса. Пасля працяглай размовы з «вінаваўцам» Ё. Цэйцельс зразумеў яго погляды і нават у нейкай ступені падзяляў іх, пазней некалькі разоў станавіўся яму заступнікам. Але асобы асяроддзя, у якім вёў асветніцкую працу р. Менашэ, далёка не ўсе падзялялі яго погляды: адны станавіліся на абарону тых бясспрэчных аўтарытэтаў, якіх быццам бы ў нейкай ступені дыскрымінаваў ільскі тлумач, другія наогул баяліся крытычнай думкі, а былі сярод іх проста любіцелі інтрыгі.

Гэта быў час ( канец XVIII — першая палова XIX стагоддзя), калі ўсё яўрэйства знаходзілася пад моцным уціскам Віленскага Гаона і не кожны знаходзіў у сабе мужнасць адкрыта выказваць свае незалежныя погляды. Менашэ з Іллі меў прыязныя адносіны з Гаонам, погляды іх у некаторых пытаннях супадалі. Ёзэф бен Менашэ, прыкладна трыццацігадовы чалавек у росквіце фізічнай і разумовай моцы, быў прыхільнікам асветы, дазваляў сабе свабодна думаць, незалежна выказвацца пры тлумачэнні яўрэйскіх святынь. У час ганення супроць хасідаў р. Менашэ не прыняў на веру іх абвінавачанні і асабіста азнаёміўся з хасідзізмам на месцы ў Лядах. Калі ён вярнуўся адтуль у Вільню, Гаон адмовіўся падаць яму руку, далей прыязныя адносіны насілі толькі знешні выгляд.

Адкрыты для ўсіх, р. Менашэ Ільскі нёс сваю мудрасць усім. Пасільную падтрымку мелі ад яго беднякі. Разумеючы важнасць выхавання для будучыні, ён шмат увагі аддаваў яўрэйскім дзецям.

Надзея заглыбіцца ў навуку, даць спакой скрыўджанай душы скіравалі ільскага праўдашукальніка за мяжу. У Бродах ён сустрэўся з вядомым рабінам Екаўке, іншымі вучонымі, але аднадумцам для іх не стаў. Крыху працаваў настаўнікам у Брэст-Літоўску ў мясцовага рабіна А.Л. Кацэнельбогіна, выступаў з павучальным словам у розных мястэчках, але выкрыццё розных недахопаў у асяродку сваіх адзінаверцаў не давалі ні славы, ні заробкаў. Мара аддацца вучобе ў Берліне таксама не здзейснілася: адзінаверцы пастараліся, каб яму адмовілі ў выдачы візы. Нейкі час самастойна займаўся матэматыкай, нямецкай і польскай мовамі ў Іллі.

У самым пачатку XIX стагоддзя на прастол уступіў імператар Аляксандр I. У гэты час прызначаецца камітэт па яўрэйскаму пытанню, ствараецца Статут аб яўрэях, згодна з якім яўрэі заахвочваюцца да заняткаў земляробствам, атрымліваюць права сяліцца нават у сталіцы, дзеці — вучыцца ў навучальных установах або ў яўрэйскіх школах, але павінны выканаць патрабаванне — да 1807–1808 гадоў выселіцца з вёсак, не займацца гандлем гарэлкай, не трымаць карчму і шынкі. Яўрэі выказалі сваю незадаволенасць. У 1807

годзе ў Парыжы быў скліканы яўрэйскі сінедрыён, да удзелу ў ім былі запрошаны яўрэі розных краін. Баючыся падкопаў Напалеона, рускі ўрад спыніў высяленне яўрэяў з вёсак і стварыў новы камітэт па яўрэйскаму пытанню.

Ёзэф бен Менашэ сачыў за падзеямі па газетах і часопісах, якія месціліся ў бібліятэцы Мазеля Вязінера. Безумоўна, быў знаёмы з Адозвай, якая захавалася сярод рэшты бібліятэкі бібліяфіла з Вязыні. Ільскі праўдашукальнік з крыўдай за свой народ звярнуўся да ўрада, каб сказаць, што яўрэі не такі адсталы народ, яны не цураюцца навукі, сярод іх шмат развітых людзей. Кніга, напісаная ім у форме пісьма, сцвярджала шэраг адкрыццяў яўрэйскіх вучоных з вобласці вышэйшай матэматыкі, закраналіся пытанні стратэгіі. Заставалася толькі перавесці яе на рускую мову і прадставіць Сенату. Але кнізе, як і яе аўтару, не пашчасціла. Іосіф Вязінер і іншыя прадстаўнікі яўрэйскага грамадства пабаяліся паказацца ў вачах рускага ўрада разумнай, кемлівай, вучонай нацыяй і наклікаць на сябе яшчэ большую незадаволенасць і ўціск. Кнігу прымусілі спаліць, што і было зроблена, хаця аўтару было не па сэрцу, што яго сародзічаў лічаць людзьмі недалёкімі, неразвітымі. Разам з тым ён не аднойчы выказваўся, што яўрэям на самай справе не пашкодзіла б заняцца карыснымі справамі, у тым ліку і земляробствам. Уважліва вывучыўшы будову малацілкі і веялкі ў смаргонскага купца, ён вынайшаў механічны плуг, але спонсара на яго выраб не знайшоў, бо беларускія памешчыкі не мелі даверу да яўрэйскага вынаходніцтва, баяліся пусціць грошы на вецер. Была ім вынайдзена і машынка для размолвання табакі, але багач-яўрэй пашкадаваў грошы на развіццё гэтай справы. Хаця адзін з яго біёграфаў сцвярджае, што сям'я Менашэ пазней існавала на даходы ад размолу нюхацельнай табакі. Баяліся яўрэі ветру перамен. Вынаходнік з Іллі добра разумеў цяжкасці аднавяскоўцаў, бачыў гаротныя сем'і; разумеў, што калі так будзе прадаўжацца, то яўрэйская галеча яшчэ больш узрасце, і чым далей, тым цяжэй будзе змагацца з ёй. Багацеі думаюць пра нажыву, рабіны занятыя разладам паміж хасідамі і міснагідамі, грамадскія дзеячы бяруць з іх прыклад…

У 1807 годзе р. Менашэ зноў бярэцца за пяро. Ён ставіць перад сабой мэту: прымірыць паміж сабой варагуючыя групы, што выраслі ў яўрэйскім асяродку; паказаць, што веды не супрацьстаяць веры, што неразумныя фантазіі прыносяць шкоду, а гультайства з'яўляецца бядотай, што губіць чалавека і штурхае яго на самую нізкую прыступку; будзіць народ да працы і да здзяйсненняў. Кніга «Pescher Dabar» выйшла і была разасланая па яўрэйскіх гарадах рабінам, грамадскім дзеячам, паважаным людзям. Аўтар кнігі папракае прадстаўнікоў равінізму ў тым, што іх клопаты пра народ нязначныя, яны больш скіраваныя на павелічэнне рэлігійных абрадаў. Неабходна выбітным прадстаўнікам новага пакалення кожны год збірацца для ўстанаўлення ўнутраных рэформаў. Яўрэйскі цэнзар Юзаф Разенсон чытаў рукапіс у прысутнасці аднаго Віленскага вучонага, які зазначыў, што ён падзяляе думкі аўтара «Pescher Dabar», але баіцца выказацца, бо рабіны праклянуць, а народ закідае камянямі. На што Разенсон з горыччу зазначыў, што ён не вельмі ўпэўнены ў шчаслівым лёсе гэтай кнігі. Насамрэч, кніга была

забаронена для ўжывання. Захаваўся адзіны экзэмпляр, які знаходзіцца ў Брытанскім музеі.

Але цяжкасці і расчараванні не зламалі творцу, ён прадаўжае настойліва працаваць над стварэннем кнігі «Alfe Menasche», здае яе ў друк у Вільні, але ўтрымальнік друкарні і яго ўплывовы сябра Вязінер вырашылі яе лёс: спалілі ўжо надрукаваныя лісты і рукапіс. Часткова тэкст гэтай кнігі захаваў унук Ёзэфа бен Менашэ — спадар Спацер са Смаргоні, а ў 1905 годзе другая частка была апублікавана праўнукам.

Усе творы, над якімі настойліва і ўпарта працаваў ільскі вучоны на працягу дзесяці гадоў, тычацца галоўным чынам матэрыяльнага становішча. Яму балюча было бачыць галечу і пакуты, ён настойліва прапаноўваў шляхі выйсця з такога жахлівага становішча. Акрамя палітыка-эканамічных палажэнняў ён звяртае ўвагу на неабходнасць навукі ў жыцці чалавека, прыводзіць доказы, што навука медыцыны дапускаецца яўрэйскім веравучэннем, дае парады, якімі псіхалагічнымі якасцямі павінен валодаць кіраўнік, паказвае месца і ролю багатага, адукаванага чалавека ў грамадстве. Хацеў свае працы прадставіць да выбараў яўрэйскіх дэпутатаў у Вільні на з'ездзе прадстаўнікоў ад 12 губерняў.

Прагрэсіўны аўтар ішоў уперад раней свайго часу. Яго чытачы маральна яшчэ не былі гатовы падтрымаць перадавыя ідэі, прапаноўваемыя грамадству. Віленскі рабін Саул Кацэнельбоген прымусіў аўтара выкрасліць месцы аб тым, што рабіны маюць права адмяняць вядомыя пастановы, бо да гэтага часу ні адзін прававерны яўрэй яшчэ не асмельваўся выказаць такую думку. На меркаванне аўтара, той, хто пастаўлены кіраваць простым людам, павінен быць сумленным, адказным, адукаваным. Але часцей бывае, што кожны прымае на веру тое, што яму кажуць. Так яно адбываецца пры вывучэнні торы, нават у справах малітвы. Галоўнае — традыцыя, уласны розум — нішто. Менашэ прыводзіць прыклады відавочных памылак у малітве «Kol Nidre». З асцярожнасцю заўважае, што не сам асабіста ён імкнецца што-небудзь паправіць у абрадах ці малітвах, ён заклікае сабрацца вучоных і ўнесці неабходныя папраўкі. Надзеі на тое, што яго зразумеюць і вучоны свет ухваліць, зноў не спраўдзіліся. Але працавітасць, настойлівасць і жаданне палепшыць і аблегчыць жыццё людзей і далей кіравалі яго пяром.

У 1827 годзе ў Смаргоні ён прыняў на сябе пост рабіна, кожны дзень больш за год ён сумленна даваў урокі па Талмуду слухачам розных узростаў, клапаціўся пра беднякоў і хворых, дабіваўся праўды, каб рэкруцкую павіннасць дзеці багатых яўрэяў адбывалі нараўне з беднымі (яўрэяў з 1827 года сталі прызываць у армію з дванаццаці гадоў). Заправілы горада зрабілі яму заўвагу, што рабін не павінен умешвацца ў такія пытанні. Пакрыўджаны Менашэ пакінуў пост рабіна і вярнуўся ў Іллю. Ён па-ранейшаму заставаўся пісьменікам-прамоўцам, але ўсё пісанае заставалася толькі на паперы. Ніводнага напісанага радка ён больш не надрукаваў. Да 1884 года рукапісы захоўваліся ў родных, пакуль скрынка з імі не згарэла. Нястомны барацьбіт за лепшае жыццё сародзічаў пахаваны ў Іллі. Ён памёр ад халеры 4 av-а 5591 года, або 14 ліпеня 1831 года.

Свет пабачыў яго кнігі: «Бінат Мікра» (Разуменне Пісання), «Сама дзехаей» (Эліксір жыцця), «Алфей Менашэ» (Тысячы Менашэ), «Дзерэх апшат» (Шлях простага разумення). Гэтыя кнігі нават па загалоўках могуць скіраваць думку на тое, што зямляк наш быў не толькі вучоным, не толькі пісьменнікам, але і тонкім псіхолагам і педагогам.



*Юльян Сергіевіч*

## Музыка

Граюць гуслі-самагуды
Мілым тонам пераліўным,
Гэты звон чуваць усюды,
Вабіць гукам сваім дзіўным.
Звоняць гуслі-самагуды...
Гэты гучны звон-пяянне
Сыноў зморанага люду
Заклікае да яднання.
Хто пачуў той звон-пяянне,
Кроў адвагай закіпела,
Выйсці дружна на змаганне,
Стаць напроціў крыўды смела.
Гэты спевы, гэты гукі
Маё сэрца закранулі,
І цудоўнай песні рукі
У душы струны нацягнулі.
У гэтых струнах адазвалась
Тых магутных гукаў рэха,
І ў адказ ім ціха рвалась
Песня — ўся мая пацеха.
Дык жа з Богам! Гэй, каціся
Сярод вёскі, крыўды поўнай,
Апраніся, прыбярыся
У тон музыкі чароўнай.
Той, якая пацяшае
Сэрца беднае ад болю
І гаротных прабуджае
З векавечнае нядолі.

*1927*

*Янка Бабёр*

# ЗЭЛЬВЕНСКАЯ СУСТРЭЧА

Іх знаёмства адбылося ў пачатку 70-х гадоў: работніка Маладзечанскага лакаматыўнага дэпо Яўгена Язэпавіча Шута, 1925 года нараджэння, ураджэнца Вілейшчыны, і вядомай, да таго ж апальнай паэткі, Ларысы Геніюш. У той час Шут працаваў машыністам і вадзіў пасажырскія цягнікі ў Полацк. Аднойчы прыехаўшы ў гэты старажытны беларускі горад, убачыў на вітрыне кнігарні прыгожа выдадзеную кніжку Ларысы Геніюш «Невадам з Нёмана». Набываць ці не набываць гэты томік, сумненняў не было — абавязкова набываць! З яе творчасцю ён быў знаёмы яшчэ з часоў вайны, калі з неспатольнай прагай і адчуваннем першаадкрыцця літаральна глытаў беларускую перыёдыку тае пары. Некаторыя з тых выданняў захоўваў, рабіў выразкі найбольш упадабаных вершаў і артыкулаў.

І таму калі ў чарговы свой водпуск прыехаў адпачываць у санаторый, які знаходзіўся ў мястэчку Рось Гродзенскай вобласці, то жаданне з’ездзіць у Зэльву і пазнаёміцца з любімай паэткай узяло верх над прыроджанай вясковай сціпласцю і далікатнасцю. 20 жніўня 1973 года сеў у аўтобус, даехаў да Зэльвы, зайшоў у краму мэблі і распытаў у прадаўцоў, дзе жыве сям’я Геніюшаў. Крыху паблукаў па гарадку, і вось ён, дом № 7 на Савецкай вуліцы. На панадворку сядзелі дзве жанчыны. У адной з іх пазнаў гаспадыню. Падышоў, прадставіўся, потым пацалаваў ёй руку, павітаўся з другой кабетай. У гэты час у Зэльве знаходзіўся сын Ларысы Геніюш Юрка з сям’ёй. Гаспадыня запрасіла ў дом нечаканага госця. Не паспеў Яўген Шут прысесці і належным чынам агледзецца, як у хату прыбег нейкі малады і вельмі рухавы чалавек. Адзінае, што паспела зрабіць гаспадыня, то, улавіўшы момант, папярэдзіць госця, каб той маўчаў і не ўступаў ні ў якія гаворкі з прыйшоўшым. Убачыўшы ў руках Шута зборнік вершаў Ларысы Геніюш, незнаёмец рабіў неаднаразовыя спробы паглядзець, што гэта за выданне. Потым пра той выпадак Яўген Язэпавіч неаднаразова згадваў: «Пабачыўшы, што яму ўжо вельмі хочацца тую кнігу паглядзець, я яе падаў, але размову не ўступаў і працягваў абыякава глядзець на яго. Пасядзеўшы так з хвілін дваццаць, мужчына знік, як і з’явіўся. А ў мяне ў душы засталося пачуццё нейкай агіды і бруду».

Пасля адыходу незнаёмца гаспадыня пачала гутарку з госцем. Распытала пра сям’ю, месца нараджэння, ці ведае ён яе сяброў Міколу Ермаловіча, Генадзя Каханоўскага з Маладзечна. У адказ Яўген Шут прызнаўся ў любові да яе паэзіі і падараваў Ларысе Геніюш артыкул, змешчаны ў нейкім беларускамоўным выданні часоў вайны. Гаспадыня падзякавала за падарунак, які яна, дарэчы, не чытала раней, падпісала прывезеную кнігу. «Я. Шуту на сардэчны ўспамін ад аўтаркі. Зэльва, жнівень 1973 г.» — такі надпіс застаўся на тытульнай старонцы зборніка. Потым гаспадыня запрасіла госця на абед. І колькі ні адмаўляўся Яўген Язэпавіч, але за стол вымушаны

быў сесці. За шчырымі размовамі, успамінамі час праляцеў вельмі хутка. Прыйшла пара збірацца ў зваротную дарогу. Юрка Геніюш правёў госця да аўтобуснай станцыі, дапамог купіць білет. Больш Яўген Язэпавіч Шут ніколі не сустракаўся з зэльвенскай гаспадыняй, але памяць аб ёй захаваў на ўсё жыццё. Як і тую дзіцячую кнігу «Казкі для Міхаські» з аўтографам, якую ён атрымаў ад Ларысы Геніюш у якасці зваротнага падарунка ў тую першую і апошнюю іх сустрэчу. Але знаёмства на гэтым не скончылася, яно працягвалася ў ліставанні, якое мы з вялікай радасцю прапануем нашаму шаноўнаму і дапытліваму чытачу.

*Зэльва, 31/XII, 73 г.*

Шчыра паважаны Сябра!

Дзякуй Вам вялікі за памяць, за сьвяточныя прывітаньні! Дзякуй за ліста і цікавыя выразкі з Вашай газеты[1]. Мы часта і хораша Вас успамінаем. У сына ўсё, пакуль, добра. Многа працуе. Часта піша ў «Ніву» пад псеўдонімам «Ларс»[2]. Вельмі шкадую, што Вы не пазнаёміліся з нашым Міхасём[3]. Адна наша знаёмая назвала яго «Вясняны дзень». Хату нашую ставіў дзед майго мужа[4]. Ён меў двох сыноў (сам быў царк. стар. з Зэльві) Андрэя і Пятра. Старшаму Андрэю дастаўся кусок хаты ад вуліцы. Пятру — наш канец. Дочка Андрэя выехала у Польшчу і вось канец ад вуліцы — хата дзяржаўная. Жыве там былы парт. пэрс. пенсіянер рэсп. маштабу. Цэлае лета яны былі п'яныя, цяпер ён хварэе. Аб іх мне пісаць не хочацца… У нашым раёне няма нічога нават з бел. фальклёру. Тут афіцыяльна дык зусім не чутно нашай мовы. Становішча яе — зусім сіроцкае. Цэлы час хварэе мой муж: то ляжыць, то цяжка ходзіць. Цяпер ужо другі тыдзень у пасьцелі. Сяння крыху падняўся і зноў лёг. У яго грыпа, хворае сэрца, век. Уся мая ўвага звернена цяпер на яго. Было дрэнна. Цяжка кашляе і многа прымае лекаў. Вельмі хоча жыць. Я счарнела з гора. Яму ўжо лепш, але калі ўстае, дык чуе, што хворы, хістаецца. Так што ў Вязынку прыехаць ніяк не зможам. Я адна баюся ехаць і не дарам. Мы ўвесь час тут штучна адзінокія і да гэтага ўжо прывыклі. Найгорай было, калі муж моцна хварэў. Даруйце ласкава, што пасылаю Вам звычайную нейкую паштоўку. Беларускіх паштовак сёлета няма ў нас зусім! Няма ўжо і расійскіх. Вельмі хацелася б мне Вас адведаць, пабыць крыху ў Вашай сям'і. Рознае бывае ў жыцьці, дык можа і гэта зьдзейсьніцца. Калі б Вы былі ў нашай старонцы, дык заязджайце да нас, як да сваіх. 9/XII памёр у Вільні наш добры знаёмы Янка Шутовіч — вельмі смуткуем па ім[5]. Я цяпер нічога не пішу. Паслала толькі далёкім сябром пару віншаваньняў вершам. Сумняваюся, аднак, ці яны дойдуць. Шлю Вам тры з іх на памяць. Пішэця нам. Выйшла вельмі харошая кніжка, раджу купіць: «Наша родная мова», аўтар Крывіцкі. Калі ў Вас няма, дык я Вам вышлю. Толькі баюся, каб Вы цераз мяне не мелі бяды… Застаемся са шчырай павагай да Вас

*Геніюшы.*

## Братом

Сьнег навокал, на сэрцы сумна,
Зноў калядны наблізіўся час,
Толькі нашыя птушкі і думы
Вылятаюць праз далеч да Вас.
А той сьнег на палеткі кладзецца,
Застывае ў сумётах тугіх,
А туга бесканечна прадзецца,
Пакуль памяць жыве аб сваіх.
Лёс адсёк ад камля наша гольле,
На чужой прыжылося зямлі.
Ўсё ж камель не забудзе ніколі,
Тых, што з нашых карэньняў ўзрасьлі.
Якіх песьняй сваёй калыхалі
Ў ціхіх хатах, гдзе хлеб, як пірог,
Гдзе бацькі, што ад працы прысталі,
І спрадвечны у покуці Бог.
Калі ўвечар запалім ялінку,
Сядзям дружна сям'ёй ля стала,
Ў сэрцы жалем заныюць «Галінкі»,
Якіх годы чакаем дарма.
Багацей на стале і у хаце,
Толькі меней нас стала ў сям'і,
Шмат каго не далічыцца Маці,
Выціраючы вочы сваі.
Гдзе ні ёсьць Вы, хто мову Айчыны
На дарогах жыцьця захаваў,
Ўсім мы дзьверы і сэрцы адчынім,
Калі час той сустрэчы настаў.
Мы чакаем і верым ў сустрэчу,
Ясназорай надзеяй жывем,
Сьцеражэм мы агонь ў хатніх печах,
Ў нашых сэрцах агонь сьцеражэм!
А пакуль Вы не з намі тут сяньня.
Мы ад хатаў, ад сэрцаў, ад ніў
Шлем праз далеч свае пажаданьні,
Ўсім, хто Маці свае не забыў!
З Новым Годам! Са Сьвятам Калядным!
Каб ў здароўі з надзеяй жылі,
Будзе Сьвята, сустрэчы і радасьць,
Будзе шчасьце на нашай ЗЯМЛІ!

*Ларыса Геніюш, 1973 г., Зэльва*



З Новым Годам, са Сьвятам, Браты на чужыне,
Наш вятрамі далёка аднесены куст,
Ў гэты дзень за сьвяточным сталом са сваімі
Прыгадайце і Маці сваю — Беларусь.
У нас сьнег і мароз, сталі ночы даўгія,
Ды бушуе мяцеліца каля варот,
І мы шчасьця жадаем для Вас, дарагія,
Ў гэты дзень, ў гэты нованароджаны год!
Бо якія б між намі ні склаліся далі,
Мы ў застольлі заўсёды п’ем чарку за Вас,
Доўга сьлед Ваш па сьцежках сьнягі замяталі,
Ўсё ж у сэрцах замесьці не ўладны нат час!
Плачуць Маці, сястронкі дрыжаць, як асіны,
І вясною пытаюцца першых буслоў,
Ці не згледзелі Брата, не ўбачылі Сына
На нялёгкай і любай дарозе дамоў?
А жыцьцё уцякае, такое кароткае,
Сум зьвівае часамі нутро, як драты,
З Новым Годам, каханыя, з новым шчасьцем, далёкія
З яснай, лепшаю доляй, з сустрэчай, Браты!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Каляда, Каляда, прачынаюцца зоры,
Неба будзе здавацца ялінкай ў агнях,
Ў гэты вечар ў зямлі бесканечнай прасторах,
Як у храме сьвятым, — цішыня.
Шчасьцем Маці Марыя, радзіўшая Сына,
Ля Дзіцятка праменіць няземскай красой,
Ўскалыхнула нямую жывёлу навіна,
Забляялі ягняткі Дзіцятку на сон.
Не ў багатых харомах, а ў яcьлях убогіх
Нарадзілася праўда, любоў і дабро,
Ясна сьвеціць зара, і на зорку дарога
Ў Бэтлеем гэтай ноччу вядзе мудрацоў.
Заміраем душой ля Дзіцятка на сене,
Над маленькай галоўкай праменьні сьвятла,
Прыйдзе час — і за нас ускладуць Яму церні,
І закапае кроў са сьвятога чала.
Прыйдзе Дзень, уваскрэсьне і зло пераможа
Ва ўсясільнай любові сьвятое Ягня,
Гэты Бог, гэты Сын чалавечы і Божы,
Сьмерць прыняўшы страшную «за друзі свая».
Сьвеціць, зьзяе зара, як калісьць ў Бэтлееме,

Усё неба здаецца ялінкай ў агнях
Ля Прачыстай Марыі Дзіцятка на сене,
А на божай зямлі — цішыня.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Ларыса Геніюш, Зэльва*

*1973–74 г. Зэльва*

Паважаны сябра Яўген, Вас і Вашую мілую Сямейку шчыра вітаем з Калянымі Сьвятамі! Жадаем Вам многа здароўя, шчасьця і ўсякай памыснасьці ў наступаючым Новым Годзе! Жадаем Вам шчасьліва езьдзіць, добрых навінаў, надзеяў і ўсяго, ўсяго добрага.

*Вашыя Геніюшы.*

*Зэльва, 4/V, 74 г.*

Дарагі і паважаны Сябра!

Вялікае дзякуй за памяць, за мілага ліста. Зіма была для нас цяжкай і нездароўе мужа, ды і маё ніяк не дазваляе нам пакінуць хату. Ды ёсьць яшчэ не меней паважныя другія прычыны. Мне вельмі хацелася б пабыць у Вашай прыязнай хаце, пазнаць усю Сямейку і разам паехаць у Вязынку, але гэта не рэальна сяньня для нас. Няхай слухаюць Янка Купала і нашыя суродзічы, якія туды збяруцца, другія вершы, якія лягчэй скласьці і высказаць у сяньняшні час. Час праверыць і перабярэ паэзію, і калі маім вершам будзе наканавана гучэць у Вязынцы — яны будуць гучэць!

Гэта не гордасьць мая, дарагі Сябра, гэта лёс мой такі, а можа, такая праўда. Навучылася хадзіць па сьцяжынах жыцьця і абмінаць капканы. Вы шчасьлівы, што Вам іх не ставяць. Аб Вашым візыце ў нас застаўся мілы ўспамін, і я Вам заўсёды буду ўдзячнай за кавалачак сэрца, які Вы прынесьлі ў наш дом. Дзеці і ўнукі сёлета не прыедуць. Міхася будуць аддаваць у ліцэй, і гэта не вельмі лёгкая справа. Пішуць яны нам в. мала. Адчуваецца, што яны не супраць, каб мець болей «модных», болей «памяркоўных» бацькоў. Стараемся зразумець іх. Вось атмасфера ля нас. Можа, добры лёс зноў Вас закіне ў нашу старану, дык заходзьце абавязкова да нас. Сьвяты адны і другія прайшлі спакойна, у хаце. Часам даходзяць да нас харошыя лісты харошых людзей, і нам тады неяк цяплей на душы. Муж яшчэ ўсё працуе. Кашляе моцна, але вясна, хоць халодная, сухая да немагчымасьці, крышку яго ажывіла. Ёсьць час і прычыны да роздуму. Паэты заўсёды крыху глядзяць наперад, і рэчаіснасьць для іх ужо — этап пройдзены. Часам думаю, як Вам езьдзіцца ля Вязынкі, наогул па нашай роднай зямельцы. Вам дана болей убачыць, болей пачуць, як іншым людзям. Дзякуй Вам, што ў час грубага практыцызму, таннай эфэктнасьці, няшчырасьці захавалі чыстую любоў да Я. Купалы, да Вязынкі і да ўсяго сапраўды вартаснага на нашай зямлі.

Жадаю Вам і Вашай Сямейцы ўсяго добрага, усяго сьветлага і галоўнае — добрага здароўя для ўсіх.

З павагай да Вас

*Ларыса і Янка Геніюшы.*

Напішэце нам калі, будзем в. радыя.

*1974–75 г. Зэльва*

Паважаны і дарагі Сябра!

Сардэчна вітаем Вас і ўсю Вашу сямейку з Новым Годам і жадам Вам ў ім шчасьця, здароўя і ўсякай памыснасьці!

Вітаем Вас таксама з Калляднымі Сьвятамі, калі:

«Ў сьнягах белапенных наша ўся Беларусь
Жменю свежага сена пакладзе пад абрус
І зьбярэ ў застольлі ўсю Сямейку, сыноў,
І па кожным застогне,
Хто за стол не прыйшоў…»

Няхай усё ў Вас будзе добра.

*Вашыя Геніюшы.*

Далучаю ліста. Л. Г.

*Зэльва 4/I, 75 г.*

Дарагі Сябра!

Дзякуй Вам вялікае за памяць, за мілыя здымкі ля помніка Я. Купалы і русалак. Калі былі ў нас дзеці і ўнукі, дык і муж звазіў іх у Менск і таксама зрабіў здымкі ля гэтага помніка. Мы іх так і парассылалі па сьвеце. Сёлета нашыя не прыязджалі, але вось цяпер, дык будзем іх чакаць, напэўна, у ліпені. У іх усё добра, але на тое, што сыну апэравалі палец, які недзе прабіў, а Міхасю (які ўжо вырас вышэй за бацька) апэравалі калена — вынікі дзю-до, якім ён, на маё гора, займаецца. Горай у нас. Нядаўна толькі муж вярнуўся з Гродна, гдзе ляжаў у больніцы. Крышку яго падлячылі, але цяжка в. яму хадзіць і дыхаць. Я моцна перажыла гэта ўсё, але пакуль што ўсё нейк абышлося.

Жыццё нашае в. ізаляванае ад людзей і я проста рада, што хоць Вашыя здымкі і пажаданні дайшлі шчасьліва. Дзеці ужо больш як тыдзень званілі і пыталіся, ці дайшлі іх лісты, — а іх няма і сяння…

Што ж, болей напісаць нельга, бо ж ліста не атрымаеце. Жывем як у мяшку, і толькі часам даходзяць да нас весткі, ад якіх не радасна… Многа памерла дарагіх нашых сябровак, як Паўліна Мядзёлка[6], Алеся Смоліч[7], Вэраніка Клімовіч[8], Юлея Бібіло[9], Надзея Шнаркевіч[10]. Адно гэта можа чалавека збіць з ног.

Я спадзяюся, што калі прыедуць нашыя, дык, можа, дазволяць нам з імі паехаць хоць у Вязынку. Заехалі б тады, напэўна, да Вас (падумаўшы). Многа было б чаго Вам сказаць, але галавы не вешаем і верым, што з зубраў валы не атрымаюцца.

Летась у нас «навагодняя вясна», без каплі сьнегу! Ад вечных дажджоў ломіць косьці, і толькі тое добра, што не сьлізка на вуліцах. Муж яшчэ крышку працуе, бо так парадзілі яму ў Гродне. З людзьмі весялей яму крыху, ды і паветра і рух рух яму в. патрэбныя. Прыязджайце да нас летам. Калі б мы не змаглі іначай Вас бачыць.

Дзякуй вялікае за здымкі, гдзе ў Вас такі натхнёны выгляд. Хочацца, каб і нашыя Міхасі[11] пазнаёміліся з сабою. Яшчэ раз вітаем Вас і ўсю Вашу сямейку і жадаем найлепшага!

*Геніюш.*

*Зэльва, 30/V, 75 г.*

Дарагі і паважаны Сябра!

Некалі я абяцала Вам, што сёлета прыеду да Вас, каб разам наведаць Вязынку. Жаль, жыцьцё блытае нашыя намеры, як само хоча. Зімою хварэлі мы абое. Муж ляжаў пару тыдняў у Гродне. Цяпер ён зноў захварэў. Ляжыць удома ўжо трэці тыдзень. Ад самага найгоршага яго адратавалі, але засталася яшчэ слабасьць і нейкая ўжо хвараблівая бездапаможнасьць. Нельга нават думаць, каб пакінуць яго аднаго без апекі.

Дзеці і ўнукі прыедуць у жніўні, хоць сын яшчэ няпэўны, ці яго пусьцяць. Нявестка нашая сав. грамадзянка, дык яе з дзецьмі пусьцяць напэўна.

Жывем па-ранейшаму вельмі самотныя. Заўсёды з вялікай прыхільнасьцю ўспамінаем Вас. Наш Міхасёк 1/VI ўжо скончыць 16 гадкоў. Вырас на 180 см. Алесік[12] цягнецца ўгору таксама. Абодва нядрэнна вучацца. Чакаем іх вельмі, бо ўносяць у нашую хату бадзёрасьць і мalady свой радасны дух. Прыедуць на коратка, бо ў іх школа распачынаецца 20 жніўня.

Спадзяёмся, што ў Вас ўсё добра, ад здароўя пачынаючы. Вясна атрымалася даволі цёплая, і хоць гэта стварае лепшы настрой. Калі б давялося Вам быць у нашым баку, дык не мінайце хаты!

Са шчырасьцю да Вас

*Геніюшы.*

# Заўвагі

[1] Гутарка вядзецца пра маладзечанскую газету «Святло камунізму» (цяпер «Маладзечанская газета»).

[2] Размова ідзе пра Юрку Геніюша (1935–1985), сына Л. Геніюш, які жыў у Беластоку, дзе працаваў лекарам і займаўся літаратурнай творчасцю.

[3] Размова ідзе пра Міхася Геніюша (1959), унука Л. Геніюш.

[4] Янка Геніюш (1902–1979), муж Л. Геніюш, зэльвенскі лекар і грамадскі дзеяч.

[5] Янка Шутовіч (1904–1973), заходнебеларускі грамадскі і палітычны дзеяч, рэдактар-выдавец часопіса «Калосьсе».

[6] Паўліна Мядзёлка (1893–1974), грамадская актывістка, адна з першых выканаўцаў ролі Паўлінкі ў аднайменнай п’есе Янкі Купалы. Жыла ў Будславе Мядзельскага раёна.

[7] Алеся Смоліч, жонка прафесара Аркадзя Смоліча, аўтара кнігі «Геаграфія Беларусі», якая вытрымала некалькі перавыданняў і была вельмі прыхільна сустрэта чытачамі.

[8] Вераніка Клімовіч (1910–1974), жонка Адольфа Клімовіча, вядомага палітычнага і грамадскага дзеяча ў Заходняй Беларусі.

[9] Юлія Бібіла (1897–1974), беларускі савецкі бібліёграф і грамадскі дзеяч.

[10] Надзея Шнаркевіч (1897–1974), рэдактар заходнебеларускага часопіса «Жаноцкая справа», жонка педагога і грамадскага дзеяча Язэпа Шнаркевіча.

[11] Сын Яўгена Шута, як і ўнук Л. Геніюш, меў імя Міхась.

[12] Другі ўнук Л. Геніюш.

*Віктар Шніп*

# НАРАЧАНСКАЯ ВАНДРОЎКА

## Нарач. Першы дзень…

4.08.2011. На Маскоўскі аўтавакзал на таксі з Людмілай ехалі моўчкі (Максім наогул паехаў на метро), нібыта пасварыліся. Замест чаканага камфартабельнага аўтобуса, які быў абяцаны пры куплі самых дарагіх білетаў (40 тысяч) на Нарач, на прыпынку нас чакала звычайная маршрутка. Пасажыраў набралася 12 чалавек, з якіх два казахі і два лысыя п'яніцы. Казахі ўсю дарогу баяліся праехаць Мядзел, а п'яніцы пілі гарэлку, запіваючы мінералкай, і прыставалі да дзяўчыны, якая сядзела паперадзе іх. Першы прыпынак быў у Ілы. Гледзячы расклад, прыклеены каля білетнай касы, стары з нашай маршруткі сказаў мне: «А я ў Красным працаваў…» — «Там побач Ракуцёўшчына, дзе некалькі месяцаў жыў Максім Багдановіч…» — дабавіў я. «Так…» — працягнуў стары размову, якая тут жа перарвалася, бо нас паклікалі ехаць далей. На прыпынку ў Мядзелі выйшлі казахі. І як толькі наша маршрутка скранулася з места, больш шабутны п'яніца закрычаў: «Стойце! Казахаў забыліся!» — «Яны прыехалі!» — паведаміў шафёр. ««Ага! Паглядзіце, казахі ўжо пад дрэвам моляцца! Відаць, да нас хутка Назарбаеў прыедзе!» — дадаў спакайнейшы п'яніца. У курортны пасёлак Нарач заехалі за дзве з паловай гадзіны. Гаспадыня кватэры, дзе мы сабраліся адпачываць, сустрэла нас на прыпынку. Жыллё нам спадабалася. Пераапрануўшыся і перакусіўшы, пайшлі да Нарачы, каля якой Максім прапанаваў паглядзець санаторый «Нарачанскі бераг», дзе мы адпачывалі восем гадоў назад. І мы пайшлі, і, прыйшоўшы да санаторыя, нібыта трапілі ў 2003 год — каля будынка на лавачках інтэлігентныя старыя, побач каля іх бегаюць шустрыя дзеці і стаіць гіпсавы Ленін. На танцпляцоўцы расійская папса, якую мы чулі і ў 2003 годзе. Дзяўчаткі танцуюць, а хлопцы глядзяць, старэйшыя кураць. Нічога новага. У кватэру вярнуліся, калі ўжо сцямнелася…

## Нарач. Другі дзень…

5.08.2011. Пакуль Люда і Максім спалі, зрабіўшы сняданак, схадзіў у краму. Купіў алею за 17 700, які ў Мінску каштуе 13 тысяч. Усё астатняе, здаецца, не даражэйшае…

З дому выйшлі ў 12 гадзін. Пайшлі па беразе Нарачы. Прыпыніліся каля старых пісьменніцкіх лецішчаў. Праходзячы каля нас, пажылы мужчына сказаў: «Гэта дачы нашых пісьменнікаў: Лынькова, Куляшова і Танка…»

Ужо другі дзень бачу на Нарачы човен пад белым ветразем. Адчуванне, нібыта на чаўне няма людзей…

Малькі ў вадзе, чыстай каля берага, як брудныя ільдзінкі…

Каля аддзялення «Беларусбанка» цэлы дзень чарга. У чарзе адныя і тыя ж людзі — скупляюць валюту. Праз дарогу каля будынка, дзе пахаронныя паслугі, лавачкі таксама не пустуюць — тут спыняюцца маршруткі з новымі адпачываючымі, якім прапануюцца кватэры, а я напачатку, гледзячы на кучу людзей, падумаў, што нехта памёр…

На пляжах стаяць знакі з папярэджаннем, што нельга карміць качак і лебедзяў. А гэтых птушак і не бачна…

Усе баяцца купацца, бо ў вадзе, кажуць, ёсць нейкая зараза ад птушак. Але многія купаюцца…

## Нарач. Трэці дзень…

6.08.2011. Сніўся Анатоль Сыс. Ён мне чытаў свае новыя вершы. Казаў, каб пасылаў усіх на хер, хто будзе вучыць, як жыць…

Разбудзіў тэлефонны званок ад мастака Алеся Квяткоўскага. Ён цяпер з жонкай у сяброў у Вілейцы. Пахваліўся, што амаль усю ноч спявалі песні на вершы Сыса, Адамовіча, Рублеўскай і мае…

З акна праз дарогу бачу, як на сваю будоўлю на новенькай машыне прыехаў мужчына гадоў сарака. Фундамент ужо зроблены, а каля яго навернуты кучы пяску і цэглы. Па-гаспадарску пахадзіўшы па будоўлі, мужчына сеў у машыну і паехаў…

Хадзілі ў вёску Нарач, якая раней называлася Кабыльнік. Нас цікавілі храмы. Царква была збудавана ў 1875 годзе. Мураўёўка. Усе абвесткі па-руску. Замкнутая. Касцёл быў збудаваны ў 1901 годзе. Адчынены. Усе абвесткі па-беларуску. Каля касцёла пахаваны ксяндзы. Адзін у 1922 годзе. Пражыў 27 гадоў. Другі ў 1942 ва ўзросце 42 гады. Відаць, быў расстраляны партызанамі ці немцамі. На тэрыторыі пры храме стаіць скульптура Яну Паўлу II.

У цэнтры вёскі Нарач, дзе мог стаяць гіпсавы Ленін, сціплы помнік землякам, якія загінулі ў партызанах і на фронце. Надпісы па-беларуску…

Вяртаючыся з вёскі Нарач, дзівіліся яе велічыні. Асабліва ўразілі шыкоўныя леціщчы, якія абляпілі вёску…

Прыпыніліся каля верталётнай пляцоўкі. Можна палётаць над Нараччу. 10 хвілін каштуе 700 тысяч…

Пад вечар хадзіў з Людай да Нарачы. Ветрана. Хвалі, як на моры. На чорным небакраі човен пад белым ветразем, як прывід…

Вечар. У краме людна. Шмат моладзі. Усе купляюць гарэлку і піва. А мы сок і малако…

# Нарач. Чацвёрты дзень…

7.08.2011. Люда купалася ў Нарачы, а я не палез у ваду, бо ўсё яшчэ баліць зуб. Тэмпература паветра была 24 градусы, а вады — 21. Пакуль я чакаў Люду з вады, над Нараччу лётаў верталёт — відаць, нехта не пашкадаваў 700 тысяч…

У траіх каталіся на катамаране. Нядорага — за гадзіну 10 тысяч. Заплывалі далёка за буйкі, дзе глыбака і вялікія хвалі. Гледзячы толькі на ваду, я ўяўляў, што мы сярод бяскрайняга мора…

Часта сустракаюцца маладыя кітайцы. Сярод іх ёсць вельмі сімпатычныя кітаянкі…

Нарачанскія хлопцы прапанавалі купіць рыбу. Мы адмовіліся. Але калі б яны прапанавалі парыбачыць, то мы б з радасцю ў іх узялі вудачкі…

У газетным кіёску пацікавіліся, ці прадаюцца якія-небудзь беларускамоўныя літаратурныя выданні. Не прадаюцца…

# Нарач. Пяты дзень…

8.08.2011. Прачнуўся ад шуму дажджу за акном. Адчыніў фортку — і ў пакой заляцеў матылёк…

Калі дождж прыціх, з Людай пайшлі да Нарачы. На пляжах пуста. На вадзе каля берага плавалі качкі, якіх нельга карміць…

Ідучы па пантоне, назіралі за рыбамі. Следам за намі на пантонны астравок прыйшлі хлопец з дзяўчынай. Ён яе абдымаў і называў «сонейкам», а дзяўчына ўсё пыталася: «Ці любіш мяне?»…

Пахадзілі па тэрыторыі санаторыя «Нарач». Паназіралі, як на лавачцы пад дрэвамі хлопчык пазіраваў мастачцы. І потым яшчэ ўбачылі лысага з вялікім жыватом мужчыну, які нёс згорнуты ў трубку гатовы партрэт сына і, гледзячы далёка перад сабой, задаволена ўсміхаўся, а хлопчык, як сабачка, плёўся следам…

# Нарач. Шосты дзень…

9.08.2011. Выбраліся на экскурсію. Першы прыпынак быў на страусінай ферме. Праўда, там толькі два страусы, таму гэта ферма больш свінаферма, бо ў загонах дзясяткі свіней розных парод…

Праязджалі каля вёскі Агароднікі, дзе нарадзіўся Уладзімір Дубоўка. Экскурсаводка падрабязна пераказала ўсю біяграфію рэпрэсаванага паэта. Нават зачытала асобныя радкі з вершаў…

Вёска Лучаі, як маёнтак, упершыню ў летапісах упамінаецца ў 1542 годзе. На сённяшні дзень Лучаі — даволі немалая вёска. Касцёл святога Тадэвуша, нібыта чакаў нас, быў адчынены, і на ўвесь двор гучала арганная музыка. Мы

думалі, што гэта іграе арган. Ды не! Магнітафонны запіс. Ксяндза Мікалая не было, і мы ўсе вольна адчувалі сябе ў храме, які ў свой час быў распісаны мастаком Казімірам Анташэўскім. З касцёла выходзілі пад песню «Авэ Марыя» на словы Пазьняка…

У Паставах наш аўтобус спыніўся на цэнтральнай плошчы, на якой у гарвыканкам «ідзе» гіпсавы Ленін. Царква зачынена. З яе на рыштаваннях мужчына са шланга змываў пабелку, і пырскі бруднай вады вылятаі аж на вуліцу. І мы пайшлі ў касцёл святога Антонія Падуанскага 1880–1887 гг. і беззаганнага зачацця Прасвятой Дзевы Марыі. На касцёле вісіць шыльда, якая паведамляе ўсім, што будынак ахоўваецца дзяржавай. Герб жа дзяржавы зацёрты да непазнавальнасці. У касцёле ўсё па-беларуску. Мы якраз прыехалі перад службай і, вяртаючыся ў аўтобус, бачылі, што ў касцёл ідзе шмат моладзі…

Напрыканцы вандроўкі, экскурсаводка расказвала пра Тызенгаўзаў. І было вельмі прыемна чуць апладысменты, калі яна скончыла свой распавед пра нашых слаўных землякоў і прачытала верш пра Беларусь Анатоля Грачанікава…

## Нарач. Сёмы дзень…

10.08.2011. Захацеў купіць якую-небудзь газету. Падышоў да кіёска, а там стаіць маладая кіяскёрка, усміхаецца і корміць грудное дзіця…

З Людай пайшлі па беразе Нарачы ў бок Мядзела. Прайшоўшы метраў пяцьдзясят, вярнуліся да дарогі, — сцяжына, па якой мы хадзілі восем гадоў назад, зарасла трыснягом і кустамі…

…І ўсё ж праз кусты прабраліся да Нарачанскага берага, на якім высяцца векавыя сосны…

У трыснягу знайшлі замаскіраваны вялікі човен. Магчыма, кантрабандысцкі. Паплаваць на ім не змаглі, бо човен быў прывязаны да ўбітага ў нарачанскае дно жалезнага кала…

Праз гадзіну па беразе Нарачы дайшлі да дарогі з аўтастанцыяй, адкуль можна паехаць у Мінск. А потым, згледзеўшы ўказальнік, з якога даведаліся, што праз 400 метраў знаходзіцца рыбны магазін, пайшлі па рыбу. На жаль, у рыбным магазіне нарачанскіх вугроў не было…

Які ўжо дзень у адпачынку, а я ўсё ніяк не магу расслабіцца — старасць і нямогласць бацькоў, як бомба, якая можа ў любы момант узарвацца, у маёй галаве і ў сэрцы…

## Нарач. Восьмы дзень…

11.08.2011. Пахаладала. 15 градусаў. Змрочна. Але ўсё роўна адпачываючыя ходзяць каля Нарачы, як каля сваёй здзейсненай мары…

Сніўся памерлы аднакласнік Сашка Балотнік. Я хадзіў да яго дапамагчы ўключыць у хаце святло. Не дапамог…

Глядзелі дакументальны фільм пра Отта Юльевіча Шмідта. З выгляду замухрышка, але добры авантурыст і шчасліўчык, які ўмеў забалабоніць усё і ўсіх і ў тым ліку самога Сталіна. Калі «Чалюскінец» затануў і больш за сто чалавек высадзіліся на льдзіну, Отта Юльевіч не даў нікому замерзнуць і так стараўся абагрэць усіх, што амаль усе жанчыны (іх было дзесяць) зацяжаралі. Не абмінуў Шмідт і прыбіральшчыцу…

Упершыню за сем гадоў працы ў выдавецтве ўжо тыдзень адпачываю за межамі горада. А так, звычайна, даводзілася амаль кожны дзень забягаць на працу і вырашаць нейкія творчыя пытанні, якія б маглі вырашыцца і без мяне…

Люда з Максімам ходзяць у санаторый «Белая Русь» у басейн. Хваляцца, што там вельмі добра…

## Нарач. Дзявяты дзень…

12.08.2011. Адпачынак на Нарачы адпачынкам, а дома ўсё роўна лепей пры любым надвор'і…

Сёння не выспаўся. Нічога страшнага. У нашым жыцці сон — не самае галоўнае…

Раніца. Цяплее. Ужо 17 градусаў. Сіноптыкі абяцаюць 20. Буду чакаць, бо ўчарашнія 15 мяне замардавалі…

Ужо 22 градусы, і мая душа пачынае вызваляцца са змроку ўчарашняга дня і холаду мінулай ночы…

Сяджу адзін у чужой кватэры на пятым паверсе, як у вежы рэстаўраванага на сучасны лад замка…

Навальніца. Жадання пабегаць босым пад дажджом ужо няма…

На Нарачы хвалі, як на беларускім моры…

З Людай прайшлі каля лецішчаў Лынькова, Куляшова і Танка. Угледаліся ў зарослыя двары, нібыта спадзяваліся ўбачыць старых гаспадароў…

Цямнее. Старыя і пажылыя вяртаюцца ад Нарачы па сваіх дамах, а моладзь, нягледзячы на дождж, ідзе да вады…

## Нарач. Дзясяты дзень…

13.08.2011. Адпачываць можна і нікуды не выязджаючы з Нарачы, што многія і робяць, седзячы ў шашлычных. Мы ж прыехалі, каб спазнаваць мясціны, у якіх цяпер часова жывём. На жаль, цікавых экскурсій для адпачываючых прапаноўваецца малавата…

Па дарозе ў вёску Княгініна ад экскурсаводкі даведаўся, што раней наш курортны пасёлак называўся мястэчкам Купа. І гэтае мястэчка было не менш слаўнае, чым цяпер, маючы назву курортны пасёлак Нарач…

Вёска Княгініна вядомая з XV стагоддзя. У ёй Троіцкая царква збудавана ў канцы XVII стагоддзя. Храм драўляны, невялікі, захаваліся вельмі старыя іконы. У царкве каля сценкі стаіць прыгожы крыж з пазнакай: «Жертва воина Константина Дубяго. 25 марта 1914 года». Каля храма пахаваны а. Мітрафан (1864.V.25–1928.X.1) і ягоная жонка Алена (1864.V.20–1949.IX.13), а таксама мітрафорны протаіерэй Мікалай Башко (1927.29.03–1996.28.02)…

Праязджаючы каля Пількаўшчыны, экскурсаводка паведаміла, што гэта родная вёска Максіма Танка, і прачытала ягоны верш пра Нарач. На жаль, наведванне магілы паэта не ўваходзіць у экскурсійны маршрут…

У Будславе мы з Людмілай і Максімам ужо былі два гады назад. Частка касцёла цяпер рэстаўруецца, а так нічога не змянілася. Праўда, сёння сам храм мне падаўся не такім вялізарным, якім я ўбачыў яго ўпершыню…

Непадалёку ад касцёла каля крамы на праезджай частцы дарогі ляжалі два п’яныя мужыкі. «Паломнікі…» — вырвалася з душы…

Крыху ад’ехаўшыся ад Будслава, экскурсаводка падзякавала за ўвагу і сціхла. І амаль гадзіну мы ехалі дамоў сярод цікавых мясцін, чытаючы ўказальнікі…

## Нарач. Адзінаццаты дзень…

14.08.2011. У доме, дзе мы кватаруем, на другім паверсе мае кватэру паэт-гумарыст Уладзімір Ермалаеў. Ён учора вечарам прыехаў з Мінска і, адпачыўшы, сёння нас запрасіў да сябе пакаштаваць кавуна. Мы з радасцю пайшлі, бо крыху засумавалі без гутарак з творчымі людзьмі. Павінен быў да нас далучыцца Мікола Шабовіч, які жыве каля Нарачы ў 30 кіламетрах ад нас, але не паехаў, бо пабаяўся кепскага надвор’я. І, відаць, правільна зрабіў, што не паехаў, бо, як толькі мы селі за стол, пачалася страшная залева, якая ў двары пазатоплівала машыны. Пазней мы даведаліся, што ў Мінскай вобласці наогул быў вялікі буран і град. І пакуль бушавала навальніца, Уладзімір Фаміч чытаў нам свае пародыі, і ўсім нам было весела і светла…

Некалькі дзён назад мне снілася вёска. Прыйшоўшы да сажалкі, што на перакрыжаванні, я сустрэў Уладзіміра Ермалаева, які выдаваў ровары пакатацца. На роварах ужо каталіся мае памерлыя аднакласнікі Сашка Балотнік і Вова Звярок. І так хутка яны ездзілі па вуліцы, што аж страшна было. І я ад страху прачнуўся. Сёння, гасцюючы ў Ермалаева, я ўбачыў у яго два ровары, і Уладзімір Фаміч, згледзеўшы, куды я гляджу, сказаў: «Можаце ўзяць пакатацца…»

# Нарач. Дванаццаты дзень…

15.08.2011. Яшчэ ў першы дзень кватаравання заўважыў, што ў ложка, на якім сплю, няма адной ножкі, а замест яе пакладзены тры кніжкі. Сёння пачытаў назвы: першая кніжка — падручнік для 4-га класа па англійскай мове, другая — нейкая таксама замежная і трэцяя — «Судьбы книг. В. Сажин. Книги горькой правды»…

Уладзімір Ермалаеў спецыяльна для Людмілы і мяне прынёс з бібліятэкі кніжку Генадзя Малышава і Алега Карзеёнка «Нарочанское эхо Вердена. К 90-летию Нарочанской трагедии Первой мировой войны (18.03–28.03.1916)». На жаль, дзе гэтая кніжка выйшла і якім накладам — невядома. А зацікавіла мяне гэтае выданне найбольш таму, што ў 1914 годзе на вайне загінуў мой прадзед Яська Шніп…

Першую сусветную вайну ў рускай арміі называлі Еўрапейскай вайной…

У кніжцы шмат фотаздымкаў з фронту, які праходзіў па Нарачанскім краі. Гледзячы на здымак з подпісам «Тоска по женщине. Художник (разведчик Алексеев) и его скульптура из сырого песка», згадаў Геніка Лойку з яго легендарнымі скульптурамі…

У Свята-Ільінскай царкве ў вёсцы Кабыльнік (цяпер Нарач) быў нямецкі шпіталь 21-га армейскага корпуса…

За час Еўрапейскай вайны было збіта 12 250 самалётаў (нямецкіх і рускіх). Большасць паветраных баёў адбылася ў беларускім небе…

У 80-я гады мінулага стагоддзя каля вёскі Беркаўшчына Княгінінскага сельсавета (цяпер вёскі не існуе) было знішчана пахаванне рускіх салдат, якія загінулі ў час газавай атакі: спачатку бульдозерамі знеслі драўляныя крыжы, а потым экскаватарамі бралі пясок на падсыпку дарогі да птушкафермаў… У вёсцы Варашылкі прама на нямецкім пахаванні пабудаваны дом, каля дома валяецца каменная пліта з нямецкім надпісам…

Над Нараччу кожны дзень лётае па некалькі разоў верталёт. А гэта значыць, што ў адпачываючых грошы яшчэ не скончыліся…

# Нарач. Трынаццаты дзень…

16.08.2011. Першае, што сёння зрабіў, — павіншаваў сваю малодшую сястру Валю з днём народзін…

Вужык, як шнурок з бацінка велікана, перапоўз лясную сцяжыну…

У паветры запахла школай. У гэткі час у дзяцінстве перад 1 вераснем мяне стрыг бацька. Стрыг пад нуль, і я прыходзіў у школу калючы, як вожык…

Па тратуары два мужыкі валакуць газонакасілку. Старэйшы кажа: «Ты ведаеш, а ў нашай працы на Нарачы ёсць вялікі плюс!» — «Які ж?» — пытаецца маладзейшы і чуе: «Вельмі многа прыгожых маладых жанчын!»

## Нарач. Чатырнаццаты дзень…

17.08.2011. І дамоў не хочацца, і на Нарачы ўжо амаль усё аблазілі. І я гляджу праз акно на Нарачанскія сосны і сумую па першых днях адпачынку…

Уладзімір Ермалаеў усё прапануе і прапануе пакатацца на яго роварах. А я ніяк не магу забыцца пра сон, дзе на яго роварах каталіся мае аднакласнікі, якія памерлі, Сашка Балотнік і Вова Звярок…

Сніўся сон пра пісьменніцкі з'езд, на які я прыйшоў з малым дзіцём у пялёнках. У зале змрочна. Я прысеў з краю, дзе святлей. Да мяне падышоў карэспандэнт з «Нашай нівы» і даў пачытаць выступленне памерлага Кастуся Тарасава, у якім ён хваліць мае «Сабачыя гісторыі»…

У кніжцы Генадзя Малышава пра Еўрапейскую вайну і Нарачанскую трагедыю (18.03–28.03.1916) ёсць і старонка пра каханне, дзякуючы якому не згубіўся журнал ваенных дзеянняў ад 19 ліпеня 1914 года з імёнамі 202 Георгіеўскіх кавалераў 22-га Ніжагародскага палка. Журнал захавала Лідзія Ільінічна Дунец, 1918 года нараджэння, якая яшчэ нядаўна жыла ў доме, збудаваным яе бацькам у 1902 годзе ў вёсцы Баяры Мядзельскага раёна. У Еўрапейскую вайну, па словах Лідзіі Ільінічны, у іх доме кватараваў палкоўнік, які і пакінуў журнал. Аднак журнал, відаць, захоўваўся не таму, што ў ім спіс Георгіеўскіх кавалераў, а таму, што ў ім запісана чатырохрадкоўе, прысвечанае Лідзе Дунец: «Я помню всё: и голос милый, / И ласки, ласки без конца. / Я буду помнить до могилы / Черты любимого лица. К. 23.06.40 г.». Як не спрабаваў Генадзь Малышаў даведацца ў 87-гадовай гаспадыні журнала, хто ж хаваецца за «К», яна так і не прызналася. І ўсё ж бабуля расказала, што яна адналюбка і, калі «К» прысвячаў ёй вершы, яна кахала другога, а той другі быў закаханы не ў яе. Так Лідзія Дунец і не выйшла замуж. На жаль, не ўсе старонкі журнала захаваліся. Магчыма, сярод Георгіеўскіх кавалераў быў і мой прадзед Яська Шніп…

Пад вечар патэлефанаваў Уладзімір Ермалаеў і папрасіў, каб да яго тэрмінова зайшоў наш Максім. «Відаць, хоча, каб хлапец яму дапамог нешта зрабіць…» — падумаў я. І калі Максім праз пару хвілін вярнуўся, мы даведаліся, што Ермалаеў яго пазнаёміў з дзяўчатамі і ён ужо сёння вечарам з імі ідзе на танцы…

## Нарач. Пятнаццаты дзень…

18.08.2011. Чацвер. У нядзелю збіраемся вярнуцца дамоў. Мне ў панядзелак на працу, а Людміле 29 жніўня. Праўда, цяпер, калі Максім пазнаёміўся з дзяўчатамі, можа так атрымацца, давядзецца ехаць у Мінск аднаму…

У курортным пасёлку ўжо тыдзень жывуць і ходзяць па вуліцах шумнай і вясёлай кампаніяй маладзенькія цыганкі. Старэйшай недзе гадоў дваццаць, а меншай паўгода, і яе цыганкі па чарзе носяць з сабой. Усе чыста і модна апранутыя, сімпатычныя і не прыстаюць пагадаць…

Вельмі шмат пажылых расіян. Ходзяць парамі і ўспамінаюць маладыя гады…

Які ўжо дзень бачу п'янага расіяніна. Ён прыстае да ўсіх, каб разам выпіць. Ахвотных з ім піць няма, і ён п'е адзін…

У нарачанскіх белых чаек белае гаўно…

У лесе вельмі шмат сыраежак і смецця…

# Нарач. Шаснаццаты дзень…

19.08.2011. Білетаў на выязную экскурсію не было, і мы вырашылі схадзіць на каталіцкія могілкі ў вёску Кабыльнік (цяпер Нарач). І каб дарэмна не блукаць, выйшаўшы з курортнага пасёлка, я ў першага сустрэчнага запытаўся: «А дзе тут старыя могілкі?» Мужчына аказаўся гаваркім. Расказаўшы, як ісці да могілак, ён ні з таго ні з сяго сказаў: «Хопіць нам дзвюх моў: беларускай і польскай. А без рускай мы не памром!»

Амаль у самым цэнтры могілак пад соснамі стаіць манумент салдатам 21-га армейскага корпуса нямецкай арміі, а каля яго ладны пляц з цэментовымі крыжамі. Захавалася недзе каля 350…

Успамінаючы свайго прадзеда Яську Шніпа, які загінуў у час Еўрапейскай вайны ў 1914 годзе і ляжыць недзе ў брацкай магіле, я вырашыў запісаць напамяць некалькі прозвішчаў немцаў. Магчыма, сярод гэтых немцаў ёсць і тыя, у баі з якімі загінуў мой прадзед…

Вюрстэр Густаў. Загінуў 8.10.1915

Мюлер Густаў. Загінуў 1.02.1916

Расне Вальтэр. Загінуў 20.03.1916

Залеўскі Ёган. Загінуў 22.03.1916

Зуттэ Хайнрых. Загінуў 11.04.1916

Карл. Загінуў 8.07.1916

Эрдман Ёган. Загінуў 6.05.1917

За дзесяць дзён баёў каля Нарачы (18.03–28.03.1916) з боку рускіх загінула каля ста тысяч салдат і афіцэраў, а з нямецкага — каля 40 тысяч…

На сучасных помніках шмат надпісаў па-беларуску. Я запісаў некаторыя: «Мітуневіч Ванда.11.1.1926–5.03.2003», «Ворса Леанарда Вікенцьеўна. 18.02.1918–25.04.2009» і побач яе муж «Ворса Валерый Іосіфавіч. 16.04.1915–7.01.2001», Шніткоўскі Міхал «17.09.1906–3.10.2002», «Памёр у веку 96 гадоў. Божа, будзь да яго міласэрны», Ліхадзіеўскі Вацлаў Іванавіч «1912–1972», ад удзячных вучняў і ўнукаў…

Шмат пахавана людзей, якія пражылі па 90 і болей гадоў. Сярод іх Ганна Дунец. Пражыла 105 гадоў. Магчыма, яна маці або сваячніца Лідзіі Дунец, у якой захаваўся журнал Георгіеўскіх кавалераў Еўрапейскай вайны…

У цэнтры старых пахаванняў разбураны склеп, які зарос травой і мохам. Захавалася пліта з надпісам «Свентаржыцкая Францыска. Памерла ў 1844 годзе». За пагнутай і паржавелай агароджай помнік: «Юзэф Бачкоўскі. Памёр у 1858 годзе».

Каля аднаго з уваходаў на могілкі прыгожы помнік на дзве магілы з пашкоджанымі фотаздымкамі, на якім напісана: «Збігнеў Каласінскі. Харцар 10-й Віленскай дружыны. Загінуў на возеры Нарач 23 чэрвеня 1933 года, ратуючы калегаў. Матка і саюз асаднікаў». І тут жа: «Ян Панек. Сакратар рады ваяводскага саюза асаднікаў. Кавалер крыжа храбрых. Загінуў на возеры Нарач 11 ліпеня 1935 года»…

Па могілках з Людай хадзілі амаль дзве гадзіны. Дамоў ісці не спяшаліся, але дробны дождж напомніў, што пара вяртацца, пакуль надвор'е нядрэннае і не сцямнела…

У вёсцы Нарач зайшлі ў касцёл. Якраз трапілі на віншаванне пробашча з імянінамі. Прыемна было чуць беларускую мову. Я сябе адчуваў чамусьці ў XIX стагоддзі…

А царква і сёння на замку…

Вярнуліся дамоў а палове дзявятай. Недзе праз гадзіну пайшоў вялікі дождж…

## Нарач. Сямнаццаты дзень…

20.08.2011. Усю ноч ішоў дождж. І наш дом, нібы карабель, плыў праз зялёнае сасновае мора…

Чарга каля аддзялення «Беларусбанка» не прападае. Прыезджыя здаюць валюту, а мясцовыя тут жа купляюць. Усё па спіску, які ў сябе трымае мажная дзелавая жанчына. Кожны дзень па чарзе ў абменніку можна, калі пашанцуе, купіць як мінімум 100 даляраў і 3 тысячы расійскіх рублёў…

Па дарозе ў санаторый «Белая Русь», там, дзе сустрэліся з вужыкам, бачылі вавёрку. «Відаць, у іх тут партал з аднаго лесу ў наш…» — пракаментаваў Максім…

Амаль кожны дзень ходзім у басейн плаваць. Сёння натрапілі на нейкую паўп'яную кампанію маладых мужыкоў і жанчын, і ў басейне было, як у танным бардэлі…

У белых лебедзяў чорныя ногі…

## Нарач. Васямнаццаты дзень…

21.08.2011. Дзень пачаўся з таго, што даведаліся пра смерць Віталя Скалабана…

Ідзе дождж. І мы збіраемся дамоў у Мінск. Жадання вяртацца аніякага — мне заўтра на працу…

Да прыпынку нас правёў Уладзімір Ермалаеў. Ён усё дзівіцца, як гэта Людміла можа пісаць так цікава гістарычныя творы…

У Мядзелі перад намі села маладая сям'я з дзяўчынкай, у якой увесь твар у кропках з зялёнкі. Малая хварэе на вятранку, і ў яе тэмпература за 38…

Чым бліжэй пад’язджалі да Мінска, тым больш неба хмурылася, а на душы весялела з таго, што мы нядрэнна адпачылі…

Зайшлі ў сваю кватэру, як у падводную лодку…



***Юльян Сергіевіч***

## Сон месяца

У нязмераных сялібах
месяц сніў прыгожы сон —
і пісаў яго на шыбах
замарожаных акон.
Разглядаючы галіны
іскрацветаў у акне,
я разгадаваў сон дзіўны
аб далёкай старане.
Месяц ясны! Ці не там ты,
дзе мяне узгадаваў,
сабраў гэтыя брыльянты
і на ўцеху мне прыслаў?
І, злучыўшы адной казкай
родны Край і гэта шкло,
сваёй ціхай, соннай ласкай
навакол разбіў святло...
Над маёй старонкай любай
ты цяпер туды глядзіш,
дзе над бацькавай магілай
прад табой схіліўся крыж.
Ці глядзіш ласкавым светам
маёй хатцы у акно,
ці прыбраў іскрыстым цветам,
калі ёсць яшчэ яно?
Памажы маёй матулі
сабраць думкі ў галаве;
заспяваць мне «люлі-люлі»,
калі шчэ яна жыве!
Можа, песня гэта ўсціша
жаль, узбураны віхром,
сэрца й думкі закалыша
маладым дзіцячым сном...

*Лідзія Гардынец*

# ПАЭМА ПЯТРА ІВАНАВІЧА БІТЭЛЯ «ЗАМКІ І ЛЮДЗІ»

Я самы просты чалавек,
Я жыць хацеў бы ў гэткі век,
Бо я ўсё ж веру ў светлы час,
У час братэрства, ў час спакойны,
Калі, хоць, можа, і не ўраз,
Але навек заціхнуць войны.

Гэта радкі з паэмы Пятра Іванавіча Бітэля «Замкі і людзі». Словамі маладога дружынніка Вайдзілы паэт выказаў свае найвялікшыя мары і спадзяванні. На долю аўтара твора таксама выпала некалькі войнаў, няпросты час сталінскіх рэпрэсій, а разам з імі ўсе тыя беды і няшчасці, што суправаджаюць іх. Прайшоўшы гэтым суровым і жорсткім шляхам, пазнаўшы яго поўнай мерай, паэт добра разумеў галоўную каштоўнасць жыцця.

Першая кніга Пятра Іванавіча, а гэта якраз паэма «Замкі і людзі», выйшла ў 1968 годзе. Яе аўтару было тады 56 гадоў. Ён прысвяціў яе сваёй жонцы Ніне Пятроўне. Што яшчэ ён мог падараваць самаму дарагому і блізкаму чалавеку? Толькі вось гэта багацце — яркае святло свайго сэрца. Ніна Пятроўна годна вытрымала і суровыя ваенныя гады побач з мужам, і жыццё ў разлуцы з кляймом «жонкі ворага народа». Вытрымала і зберагла іх сямейнае цяпло і светлае пачуццё адданасці, якое надавала сілы жыць і працаваць.

Падзеі паэмы адбываюцца ў далёкім XIV стагоддзі на землях Літоўскага княства:

Век чатырнаццаты: ў тыя часіны
Кожны для кожнага вораг заўзяты;
Нельга знайсці ні дарог, ні сцяжыны,
Дзе б мог спакойна бядняк ці багаты
Ехаць, ісці або стаць на папасы.
Бойся і лесу, і рэчкі, і хаты…

Я не ведаю матываў, якія прымусілі паэта ўзяцца за гэту працу, тым больш дзіўна, што ў тую безгістарычную эпоху Пятро Іванавіч звярнуўся іменна да гістарычнай тэматыкі. Канешне яго цікавілі і хвалявалі такія далёкія ад нас часы. Як гісторык па адукацыі ён не мог не знаць, што і яго роднае мястэчка Вішнева, у XIV стагоддзі яшчэ паселішча Вішнёў, уваходзіла ў склад Крэўскага княства і належала Альгерду, а затым сыну яго Ягайлу. І ўсё ж выбар тэмы чалавекам, які прайшоў сталінскія лагеры, яшчэ нават не рэабілітаваны (гэта

здарылася толькі ў 1978 годзе), не можа не здзіўляць і адначасова выклікаць пачуццё павагі да аўтара.

Галоўныя героі паэмы — гістарычныя асобы. Князі Альгерд, Кейстут, Ягайла, Вітаўт тым ці іншым бокам адыгралі значную ролю ў станаўленні ВКЛ, і таму іх вобразам толькі мастацкага ўяўлення паэта было б недастаткова без гістарычнай дакладнасці. І тое, і другое ў паэме прысутнічае. Характары герояў чытаюцца выразна і ярка. Вось, напрыклад, як малюе аўтар братоў Альгерда і Кейстута:

Альгерд несупынна ў раз'ездах, паходах,
Ён валадарыў жалезнай рукой —
Строгім суддзёй быў у братніх нязгодах,
Страшным у бітвах з крыжакам, з Ардой;
Ворагаў меў, дый сяброў меў багата,
Многіх любіў, ды найболей бярог
Кейстута з Трок, маладзейшага брата,
Сябра баёў і бясконцых дарог.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Але характар быў розны у брацціяў:
Слава Альгерда цягнула ў паход,
Кейстута болей маніла багацце —
Золатам мераў ён вартасць турбот.

Малады князь Ягайла ўстае перад намі ў карціне свайго першага ваеннага паходу. Як мне падалося, паэт малюе гэты вобраз з асаблівым цяплом і надзеяй:

У дружыне княжай кожны раз
Ягайла юны вылучаўся.
Бялявы тварам, спрытны, стройны.
Ягайлу толькі дваццаць год,
І першы раз яшчэ у паход
Вядзе атрад ён самастойна
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хлапцу не церпіцца сустрэцца
З Дзімітрам ў полі ці ў гаі,
І сняцца ўсцяж яму баі,
І прагай славы сэрца б'ецца.

Я ўчытваюся ў радкі, дзе аўтар апісвае бітву пад Масквой:

Бой разгарэўся страшны, люты —
Хто сек, хто біў або калоў.
І звон мячоў, і енк пакуты
Зліліся ў страшны гул без слоў.

Усё змяшалася ў тумане —
Яздок і конь, чужы і свой…

Вельмі падобна на лермантаўскае «Барадзіно», але здзівіла не гэта. «Літва сустрэлася з Масквой» — аказваецца, было і такое!

Чым далей паглыбляешся ў змест паэмы, тым выразней бачыцца сам аўтар і як выдатны псіхолаг — так ярка паказаў ён розныя бакі чалавечай натуры, і самыя лепшыя — адвага, спрыт, годнасць, высакароднасць, і нізкія — прагнасць, хлусня, здрада.

Шырокі спектр ведаў Пятра Іванавіча дапамог яму напісаць твор, які стаў своеасаблівай рэстаўрацыяй старажытнага мінулага роднага краю. Паэма прыцягвае чытача сваёй гістарычнай пазнавальнасцю. З цікавасцю чытаюцца радкі пра станаўленне Вільні:

Не спадзяваўся знатны Гедымін,
Сярод лясоў будуючы сталіцу,
Што неўзабаве ўжо ягоны сын
Сталіцай гэтай будзе ганарыцца.
Мінула год не так ужо і шмат,
А замак распасцёрся пад гарою,
Як быццам волат паміж немаўлят,
Між гарадскіх забудаванняў рою.
Пабеглі вуліцы ва ўсе бакі…

Не менш уражваюць апісанні старажытных замкаў:

— Што гэта там сярод вады
За мур такі высокі?
— Хавай нас, Божа, ад бяды!
Вядома — гэта ж Трокі!
— Ого, брат! Замак на вадзе!
Нішто сабе сяліба!
— Ну што ты, браце! Абы-дзе
Такую стрэнеш хіба!
— Якія брамы, вежы, мур!
Якая цэгла, камень!
— Не возьмеш гэтых сцен і «тур»,
Брат, голымі рукамі!

Аўтару ўдалося перадаць своеасаблівы каларыт таго далёкага часу. Вее даўніной у малюнках жыцця старажытнай вёскі, у сцэнах быту народа.

Даволі моцнае ў паэме і фальклорнае гучанне, а гэта не толькі песні асобных герояў (песні вайдалотаў-язычнікаў, песня дзеда, песня Тэклі), але і цэлыя раздзелы. Такая чуйнасць да слова, такая стылізацыя пад фальклор удаецца далёка не кожнаму паэту:

А далёкая дарожанька
Праз бары-лясы дрымучыя
Адабрала сілу ножанькам,
Валоў, конікаў замучыла,
Граззю, пылам надакучыла.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Вось дубровачка цяністая
Каля шляху сустракаецца,
Вось крынічанька празрыстая
Цераз травы праціскаецца,
Звоніць шклянымі маністамі:
«Вы людцы-купцы багатыя,
У цянёчку затрымайцеся
З коньмі, з сілаю рагатаю,
Адпачніце, пакупайцеся,
Гай няхай вам служыць хатаю…»

На мой погляд, гэта толькі ўпрыгожвае твор, такая тут гучыць народная сардэчнасць, непадробнасць радка.

У беларускім фальклоры вельмі часта сустракаецца тэма, матыў кахання беднага, прыгоннага хлопца і багатай дзяўчыны, ці наадварот. Прысутнічае яна і ў паэме «Замкі і людзі» — дружыннік князя Ягайлы Вайдзіла і сястра яго Марына, бедная дзяўчына Ярына, пра якую паэт сказаў: «княгіням роўная сялянка», і князь Альгерд. Праўда, у паэме матыў гэты ўсё ж губляецца сярод яркіх вобразаў гістарычных асоб, што таксама не характэрна для беларускай літаратуры таго часу.

Пасля выхаду ў свет першай кнігі было зразумела, што наступная не прымусіць доўга чакаць. І ўсё ж гэта адбылося толькі праз 16 гадоў. Час не спрыяў паэту.

Выдатны гісторык і этнограф, псіхолаг і фальклnetwork, паэт і перакладчык Пятро Іванавіч Бітэль, на вялікі жаль, яшчэ і сёння не заняў дастойнае месца ў беларускай літаратуры, але вельмі хочацца верыць, што яно чакае яго.

І на заканчэнне хачу прачытаць свой верш, прысвечаны паэту-земляку:

Чорнага бязвер’я стылі здані,
Груганні размножаны зарок,
Па цяжкіх шляхах выпрабаванняў
Ты прайшоў з Радзімай крок у крок.
І замест настаўніцкага чына
І пяра, што прагнула рукі,
Нёс сваю цяжкую ношу сына
Праз завеі, турмы, руднікі.
Прад бядой не паў, зламаны, ніцма,
Не адрокся веры, не прадаў.

Позна разгарэлася зарніца,
Позна дзень іскрынкай заіграў.
Час развеяў цёмнай ночы здані.
Хіба ж лёсу выкажаш папрок?
Па цяжкіх шляхах выпрабаванняў
Ты прайшоў з Радзімай крок у крок.

*Аксана Ярашонак*

# ВЕРШЫ

## Чорна-белы верш

Чорнае дрэва — у белым сумёце.
З чорнага коміна — белы уздых.
Недзе шаша чорнай стужкай праходзе,
Лес пад бялюткім уборам заціх.

Сціплыя фарбы зіма абірае:
Чорную туш, акварэль і гуаш.
Побач на даху варона старая
Годна завершыць выдатны пейзаж.

## Калыханка для дарослых

Уцякае за аблокі
Сонечны прамень.
Разамлелы да знямогі,
Спачывае дзень.

Вось ужо густая цемра
Паглынае нас.
Ноч — прычына для натхнення
Ноч — кахання час.

І паэты да світання
Будуць рыфмаваць,
А шчаслівых закаханых,
Хай ахопіць жарсць.

## Пейзаж з дзяўчынкамі

Марозна-белы далягляд.
Халоднае дыханне ранку.
Заснежаны прыціхлы сад.
Варвара з Юляю на санках.



Дажджынкі — на твар і адзенне…
Псуецца настрой наш калядны.
Глабальнаму пацяпленню
Надвор'е цяпер падуладна.

А хочацца, быццам дзіцяці,
Схавацца у пульхных сумётах.
Ды лужы на голым асфальце
У раз адбіваюць ахвоту.

## Прадчуванне

Краплістым шматгалоссем
Струменіць красавік.
Вось і сумёт апошні
У шэрым брудзе знік.

І хоць халаднавата
Ад дажджавой смугі,
Ужо чакаюць свята
Вярба і пірагі.



Вясна… Пакуль што каляндарная.
Прастор сумётамі спавіты.
Ды ўжо часцей адліга радуе
І далягляд глядзіць блакітам.

Вясна… Пакуль яшчэ нясмелая,
Яшчэ не радуе сіноптык.
Сумуюць дрэвы заінелыя,
Ды больш ласкавы сонца дотык.

Халодная і непрывабная,
Сагрэе стомленыя сэрцы
Вясна, ужо зусім сапраўдная.
Мы дачакаліся, здаецца.



Лужы, мокрадзь, парасоны
Ад світання да цямна.
І настрой, надзіва сонны…
Што ж… Такая вось вясна.



Каляроваю крэйдай дзяўчынка
На асфальце малюе вясну:
Вось рамонкі ля вузкай сцяжынкі,
Вось праменьчык прасторы крануў.
І няхай сёння ранак халодны
І па лужах мароз паласнуў,
Каляроваю крэйдай натхнёна
Намалюе дзяўчынка вясну.



Над дымящимся стаканом
Остывающего чая,
Слава Богу, понемногу
Будто вечер, засыпаю.

*А. Фет*

Змрочна па-восеньску,
Ціха і зімна.
Пояць да млоснасці
Коміны дымам.

Дождж ашалелы
Сцежку запэцкаў.
Хмарка прысела
Ў садзе суседскім.

Халаднавата.
Мроіцца лета.
Стыне гарбата,
Быццам у Фета.



Дакранаючыся пуантамі
Да халоднага тратуара,
Так няспешна сняжынкі падалі
З-пад высокай ссівелай хмары.

Накрывалі пяшчотна вуліцы,
Кожны дах аздаблялі з густам
І, прахожых у твар цалуючы,
Раставалі на цёплых вуснах,

Завірухаю хваляваліся,
І кружыліся нада мною,
І шапталі усё:
Спяшаешся
Красавік называць вясною!

*Людміла Рублеўская*

# АВАНТУРЫ ПРАНЦІША ВЫРВІЧА, ШКАЛЯРА І ШПЕГА

*(Раздзелы з аповесці прыгодніцкай і фантасмагарычнай)*

Медны шэлег — гэта вам не срэбны грош… І тым болей не чырвоны талер.

Але каб вызначыць, куды далей рушыць з гэтага няўтульнага раздарожжа, дзе толькі і ёсць што тры асіны, пахілены драўляны крыж ды вялізная, як саксонскі ложак караля Аўгуста, і бяздонная, як кішэні ягоных амаратаў, лужына, дык і мядзяк прыдасца.

Пранцысь — учорашні навучэнец Менскага езуіцкага калегіума, а сёння — прайдзісвет, галадранец, валацуга, галыганец ды як яго там яшчэ ўшаноўвала гандлярка піражкамі на Ніжнім рынку, і што наперадзе — невядома, бо ў васямнаццаць гадоў нават святы Францішак Асізскі меў у галаве вецер, а ў руках — чарку віна…

Праўда, віном, салодкім і спакусным, нібы яблык у руцэ прабабулі Евы, як відаць, пачаставацца Пранцысю выпадзе яшчэ не хутка… Маем на ўвазе — за ўласны кошт.

Але дзе-небудзь ды знойдзецца халяўны келіх для не дужа моцнага, але ладнага блакітнавокага шкаляра з усмешлівымі вуснамі і ўпартым русявым чубам…

Дзе?

Пранцысь падкінуў шэлег уверх. Шэлег вярнуўся назад нібыта неахвотна, некалькі разоў перакруціўшыся ў паветры — ясная справа, кампаніі, нават такой жа мядзянай, у торбе гаспадара яму не прадбачылася. Баявіты вершнік з мечам на цьмяным твары манеты скакаў у бок Валожына. А можа, Варшавы… Ці Дрэздэна…

А чаму б шкаляру, які дасканала авалодаў кухоннай лацінкай, не дайсці да Дрэздэна ці нават Рыма? Паўсюль знойдзецца таўсманная гандлярка піражкамі, якая час ад часу страчвае пільнасць дзеля вельмі карыснага для разгону флегмы і спальвання лішняй жоўці перабрэху з суседкамі па кірмашы і ўжо, ясная справа, не здольная дагнаць жвавага, як вадкае срэбра, нашчадка згалелага шляхецкага роду Вырвічаў герба «Гіпацэнтаўр» — на якім некалькі стагоддзяў кентаўр з сімпатычным, дужа рахманым тварам замахваецца мячом на ўласны хвост, што ператварыўся ў ікластага цмока. Бацька, пан Даніла Вырвіч, а ён часам прыпадабняўся пасля карчмы пабітаму цмоку, гаварыў, выява на іхнім гербе азначае, што ў кожным хаваецца і анёл, і пакорлівая жывёла, і драпежны звер, і трэба заўсёды мець пры сабе бліскучы меч шляхецкай годнасці ды адвагі, каб застацца чалавекам…

Асіны мілажальна зашаргацелі вузкімі лістамі, нібыта касцельныя дэвоткі заскавыталі ў спіну: ой, прападзе, скруціць голаў, загубіць душу сваю грэшную неслух чубаты…

А Працысь перахрысціўся на пахілены крыж з парэшткамі аброчнага ручніка, гадоў дваццаць таму вытканага зляканай, што не павядуць да шлюбу, альбо што не вернецца са слаўнага каралеўскага войска ейны чалавек, ткаляй… Паправіў на галаве шляхецкую шапку з сапраўдным, хаця і паедзеным моллю собалем і жаўтаватым дыяментавым гузам — адзінае, што старэйшы пан Вырвіч змог падарыць сыну-студыёзусу, акрамя пацямнелага ад часу прадзедавага залатога сыкгнета ды шаблі з выгравіраваным на дзяржальне гербам «Гіпацэнтаўр». Старанна начышчаны Гіпацэнтаўр быў ганебна пакінуты ў канвенце — інтэрнаце калегіума падчас тэрміновай рэтырацыі… Пранціш здушыў горкі ўздых пры ўспаміне пра страчаную шляхецкую зброю і рушыў — туды, куды вецер дзьме, лятуць першыя восеньскія лісты і аблокі і птушкі Сімург і мроі недавучаных шкаляроў езуіцкага калегіума.

## *Раздзел 1*
## Як Пранцысь купіў алхіміка

Карэта была шыкоўнай — і бруднай. Бруднай, як мужыцкі скураны поршань. З-за наліплай гразі нельга было разгледзець нават герб на дзверцы карэты. А коні сытыя, імклівыя… Бруд фантанамі з-пад капытоў… Эх, калі б тут кустоў’е на ўзбочыне, ды прыцемак, ды коні трохі замарудзіліся…Тут бы Пранцысь і прычапіўся да экіпажа, і, з дапамогай святога Франтасія, даехаў бы хоць да Каменнай Горкі. Але было светла, а фурман злосна пазіраў па баках, як пугач у пошуках неасцярожлівай мышы. Пранцысь тужліва глядзеў услед карэце, калі раптам… Няўжо святы Франтасій паспрыяў? — фурман, пачуўшы вокліч гаспадара, нацягнуў лейцы… Карэта спынілася. Але ўмудроны шкаляр не спяшаўся падбегчы — мала што заманецца панам? Можа, злосць на кім спагнаць захацелася… Ведама, шляхціц да шляхціца павінен звяртацца «пане браце», як да роўні, незалежна, ці ты магнат, ці «шарачок», у якога нямашака ніводнага прыгоннага. Але насамрэч шыты золатам кунтуш аблезламу собалю не роўня. З братамі Валадковічамі, кумпанамі Радзівілаў, спаткаешся не ў добры час, не дай Гасподзь — сто і адзін бізун гарантаваны… Ні за трэску, а для форсу. А з акенца карэты між тым высунулася вусатае аблічча падарожнага. Твар чырвоны, вусы пшанічныя даўжэзныя, на шапцы дыяментавы гуз амаль са сліву, а ад злосці ледзь не агнём дыхае. Чырванатвары спыніўся позіркам на Пранцысевай шляхецкай шапцы, недарэчна спалучанай са шкалярскай мантыяй… Не прамінуў залаты сыкгнет, што цьмяна паблісквbooў на Пранцысевым пальцы — нездарма шляхціц хутчэй здохне з голаду, чым застанецца без адзнакаў свайго звання. Хлопец у чарговы раз пашкадаваў, што не мае шаблі. Эх, дзе ты, шабелька… Няхай чор-

ная, не парадная, у похвах са скуры вугра… Без каня — таксама кепска, але заўсёды можна сылгаць, што прайграў вернага дрыкганта ў карты. А шляхціц без шаблі — усё роўна што голы.

— Гэй, ты, гіцаль! Шкаляр! Табе кажу, не лужыне. Падыдзі. Фартуну сваю лаві!

Ага, фартуну… Такі чырванатвары хіба кулаком у пысу адорыць.

Але Пранцысь асцярожна наблізіўся, гатовы ўвобмірг адскочыць.

— Што, у езуітаў вучышся? — слізгануў падарожны позіркам па Пранцысевай апратцы. — Шляхціц?

— Шляхціц! — ганарыста адказаў Пранцысь, паклаўшы руку з сыкгнетам на ўяўную шаблю.

— А грошы маеш, лабідуда? Стаяць! — раўнуў, заўважыўшы, што Пранцысь пры недалікатным пытанні пра грошы адскочыў на тры лужыны, а Пранцысь у сваю чаргу заўважыў самае прыкрае, што пабачыць можна на пустэльным восеньскім гасцінцы, а менавіта рулю настаўленага на яго пісталета. Тут не пабегаеш надта… Ды і фурман вунь які пагрозны, і таксама з пісталетам за поясам — гэты не прамарудзіць пагнацца па гаспадарскім загадзе.

— Ты што думаеш, пан Агалінскі рабаваць цябе будзе? Я прадаць адну каштоўную рэч жадаю. Ну хоць які ламаны паўгрош маецца?

Пранцысь неахвотна палез у кішэню.

— Вось… Шэлег…

— Матка Боска Чанстахоўска! Цэлы шэлег! — пісталет затросся ў руцэ чырванатварага — так зарагатаў. — Чуеш, зоркавед? Я прадам цябе за цэлы шэлег! — дадаў ён, павярнуўшыся да кагосьці ў карэце.

Потым зноў запытаўся ў падарожнага:

— Як цябе завуць? Імя скажы!

— Пранцысь Вырвіч, са слаўнага роду Вырвічаў з Падняводдзя, герба «Гіпацэнтаўр»!

— Няхай будзе Вырвіч… Запісвай… — апошняе зноў было сказана да невядомага ў карэце.

Пранцысь тужліва пазіраў па баках, выглядаючы ратунку. Раптам дзверцы з захляпаным гразёй гербам расчыніліся, і князь Агалінскі вывалак з карэты хударлявага немаладога тыпуса ў доўгай чорнай апратцы, падобнай да мантыі выкладчыка калегіума, з паголеным па нямецкім звычаі тварам. Спадар паглядаў калючымі цёмнымі вачыма з-пад адрослых чорных пасмаў гэтак ненавісна, што Пранцысю падалося, што зараз пачуе звыклы вокліч: «Гэта самы лянівы студыёзус ад Тыбра да Барысфена! А розаг бярозавых яму…» Між тым пан Агалінскі ледзь не адарваў магутнай рукою тыпуса ад зямлі за каршэнь, хоць той быў вышэй пана на паўгалавы, і штурхнуў яго проста пад ногі шкаляру, у бруд.

— Давай шэлег, васпан!

Пранцысь працягнуў на далоні сваю апошнюю каштоўнасць… Агалінскі ўзяў двума пальцамі:

— Вось! Неба сведка, слова шляхціца: ад гэтага часу паскуднік Бутрымус належыць табе, рабі з ім што хочаш, — і палез ізноў у карэту, выкрыкваючы

на развітанне насмешна. — Ото, шчасце, хлопча, займеў. Гэта муж вучоны, алхімік. Ён табе золата наварыць, засыплешся! Не забывайся толькі бакі яму падпраўляць калацінай, чарнакніжніку праклятаму!

З карэты вылецеў папяровы скрутак проста ў твар Пранцішу, той ледзь паспеў яго схапіць.

Фурман таксама падарыў ашалеламу Пранцысю на развітанне надта гадкую ўсмешку, тузануў лейцы…

Толькі калі карэта аддалілася на адлегласць свісту, Пранцысь трохі ачомаўся і перавёў позірк на сваё новае ўладанне.

Чалавек моўчкі ўзняўся на ногі і абтрос доўгую чорную світку. Ягоны нос нагадваў дзюбу драпежнай птушкі, вусны пагардліва падціснутыя… Так што Пранцысю падалося, што гэта не ён купіў валасатага прайдзісвета, а зусім надварот. Ці не варта ўцячы падалей ад гэтага тыпуса, пакуль не позна? А раптам ён і праўда чараўнік… Пранціш разгарнуў звітак: гэта была аформленая, як належыць, папера на ўладанне слугою мужчынскага полу Баўтрамеем Лёднікам, майстрам навук таемных, доктарам ды талмачом, які з прычыны немагчымасці выплаціць доўг у дзвесце дукатаў даў прысягу служыць свайму пану пажыццёва, без платы і права сысці, і пан можа распараджацца ім, як яму заўгодна. Імя Пранціша крыху крыва ўпісалі на належнае месца, атрамант яшчэ не прасох, і апошняя літара прозвішча мела размазаны хвосцік, нібыта яе затрымалі, калі збіралася ўцякаць з падазронага аркуша.

Між тым алхімік утаропіўся ў свайго новага гаспадара змрочным пранізлівым позіркам. Маўчанне зацягнулася, як варшаўскі сойм. Яго парушыў Бутрымус.

— Ну?

Пранцысь разгубіўся.

— Рабіць што збіраецца мой гаспадар? Тут начаваць, ці як? Пан Пранціш, матка Боска… Толькі бязмозгага хлапчыскі мне не хапала за ўладальніка.

Голас зоркаведа ажно рыпеў ад пагарды. Вырвіч пакрыўдзіўся. Урэшце, гэта не яго толькі што прадалі, як лапатнага мужыка, а фанабэрыстага доктара. Трэба паказаць яму, хто на якім шастку начаваць будзе!

— Куды скажу, Бутрымус, туды і пойдзем… У бліжэйшую карчму, напрыклад.

— Было б дарэчы, каб вы называлі мяне доктарам, — змрочна прамовіў Пранцысеў слуга. — Доктарскага звання мяне ніхто не пазбаўляў, гэтак жа, як Платон не перастаў быць філосафам, калі яго гэтаксама прадалі ў рабства. — Памаўчаў, неахвотна працягнуў: — Карчма — гэта някепска. Апошні раз я еў… Даўно, карацей. Але за што там баляваць? Вы ж, як я разумею, апошні шэлег на маю каштоўную персону патрацілі?

Пранцысь збянтэжана хмыкнуў. Праўда, грошай няма. А пан абавязаны клапаціцца пра сваіх слугаў. Якая павага да пана-галадранца, які і сабе кавалак хлеба не купіць? Праўда, цяпер Пранціш быў багацейшы за свайго татачку на цэлага слугу! У пана Данілы Вырвіча ніводнага халопа не засталося, калі не лічыць старой Агаты, усё спляжылася на карчомку.

— А ў вас… у цябе ёсць грошы?

Доктар абварыў юнака поглядам.

— Каб у мяне былі грошы, мяне б тут не было. Ну што ж, рушым у карчму.

І падыбаў у бок Валожына, як чорны бусел з перабітымі крыллямі, не зважаючы ўвагі на шкаляра. Пранцысь разгубіўся. А што, калі доктар накінецца, світак аб куплі адбярэ, парве, уцячэ? Худзючы, але жылісты і злосны, як хорт. Пранцысь так бы і ўчыніў на ягоным месцы. Ясна, што халопскае становішча гэтаму тыпусу ўнове.

Але шкаляр — гэта вам не тлусты карась, якога можна прыціснуць у нераце. Галоўнае, не спалохаць гэтага… Бутрымуса. Дайсці з ім да люднага месца. А там — перапрадаць хоць каму. Ён жа вучоны, лячыць, відаць, умее, зоркі чытаць… І Пранцысь бадзёра дагнаў свайго слугу, які абыякава расплюхваў нагамі восеньскую калатэчу.

— Пан Агалінскі казаў, ты золата рабіць умееш. Гэта ты яго падманваў, відаць? Наш прафесар Кумоцкі казаў, што гэта байкі ды круцельства, насамрэч нікому не ўдалося зрабіць ані крупачкі штучнага золата!

Доктар падараваў шкаляру яшчэ адзін востры пагардлівы позірк, хоць замест цвіка ў сцяну ўбівай, прыпыніўся, пакорпаўся ў таемных кішэнях свайго балахона і дастаў маленькую шкляную бутэлечку, не больш за мезенец.

Пранцысь прагна ўгледзеўся… У бутэлечцы цямнела нешта падобнае да чорнага вугалю. Доктар патрос змесціва, і шкаляр заўважыў у чорным залатыя іскрынкі. Калі гэта золата, дык за яго і булкі не дадуць… Вусны Бутрымуса перакрывіла горкая ўсмешка.

— Так, лёс злосна жартуе з тых, хто аддаецца гардыні розуму і лічыць, што яму пад сілу зацугляць Богам створаныя стыхіі… У гэтым мізэрным сасудзе, хлопча, дзесяць гадоў майго вартага жалю жыцця, уся мая радавая маёмасць і ўрэшце мае годнасць і воля… Шчопаць золата, змяшанага з попелам… Я сапраўды каштую не больш за шэлег.

Зверху сыпанулі дробныя, як празрыстыя макавінкі, кроплі дажджу. Бутрымус схаваў бутэлечку ў кішэню і рушыў далей, і ляцеў за ім восеньскі вецер, як местачковы падшыванец за юрадам, і дражніўся празрыстым языком, і тузаў за крысо… А Пранціш падумаў тое, што заўсёды думае ўпэўненая ў сабе, дужая маладосць пры сутыкненні з нечым сталым расчараваннем: «Я ніколі такім не стану. Са мной нічога падобнага не здарыцца».

Словы даводзілася выцягваць з алхіміка, як пчаліны мёд з корсты — асцярожліва, рашуча і з рызыкай быць уджаленым.

Бутрым Лёднік быў сынам полацкага гарбара. Той меў маленькую майстэрню па вырабе скураў і вялікія надзеі на пашырэнне справы. Але адзіны сын, які атрымаў гучнае імя Баўтрамей, бацьку моцна расчараваў, бо ад смуроду сырых скураў увесь пакрываўся балячкамі ды млеў, як паненка пасля дзесяці мазурак. Адзінае, на што быў прыдатны, — змешваць розныя солі ды вадкасці… Але гарбара з яго не выйшла б ніколі, хоць з самога ўсю скуру злупі. Давялося аддаць недарэку ў вучні да дурнаватага ўладальніка лаўкі кніжнай ды майстэрні пераплётнай купца Івана Рэніча. Дабрэнны чалавек,

але дзівак: ідзе па вуліцы, у кнігу нос уткнуўшы, па начах у трубу на зоры глядзіць, яшчарак ды іншых пачварак у слоіках са спіртам трымае, ды яшчэ вока ўвесь час тузаецца, быццам на яго нябачная муха садзіцца. Адно слова — няма каму клёку дадаць, бо як з дачкой малой застаўся, так новую кабету ў дом і не ўпусціў. Жонка ад недарэкі самым ганебным чынам збегла з заезджым уланам. Дык Рэніч, замест таго каб падаць у суд на распусную кабету ды каб за валасы дамоў прыцягнулі, па закону змусілі адказваць за пералюбства, толькі выцер слязу ды адмахнуўся ад прапаноў: няхай, маўляў, жыве спадарыня Рэніч, як хоча, як ёй шчасней. А яшчэ падазрона, што з габрэямі сябруе, з аптэкарам Лейбам колькі вечароў за вучонымі размовамі правялі! Кажа — усе мы Божыя істоты, усім Гасподзь адну зямлю даў, у адным горадзе пасяліў, на адзін рынак ходзім — і няма чаго нам дзяліць, калі ворагі нашу зямлю падзяліць марань. Няйначай, кабаліст і чарнакніжнік.

Вось тут, сярод цяжэнных фаліянтаў ды ўтульных томікаў ін-кварта, псалтыраў з залатымі буквіцамі ды філасофскіх трактатаў з загадкавымі малюнкамі Бутрым сябе і знайшоў, бо да навукі кніжнай аказаўся вельмі кемны і ў стварэнні атрамантаў розных… Трактат Тэафіла «Аб разнастайных штукарствах» вывучыў ён на памяць гадоў у дванаццаць, і ўмеў скласці фарбу «посх» першага і другога роду, і фарбу вірыдонавую, і аўрыпігмент… І вывучыў, «чым валодаюць грэкі ў адносінах да розных фарбаў і сумесяў, што ведаюць у Таскане пра фініфць ды розныя віды чарнення і чым вылучаюцца арабы ў сваіх каваных, ліцейных альбо чаканных вырабах, якой разнастайнасцю сасудаў, гем, разной косткі з золатам і срэбрам знакамітая Італія, як любяць у Францыі розныя прыкрасы ў вокнах і як пашанотныя ў Германіі вытанчаныя працы з золата, срэбра, медзі, жалеза, дрэва і каменя». А аптэкар Лейба навучыў яго разбірацца ў зёлках ды мікстурах, і складаць тынктуры, і распавёў пра суадносіны ў арганізме вадкасцяў, іначай — гумораў, а менавіта крыві, жоўтай жоўці, чорнай жоўці і флегмы, а яшчэ навучаў лаціне і старагэбрайскаму…

Іван Рэніч здольнасці хлапца заўважыў, сэрцам да яго прыхінуўся, цяпер было яму разам з кім глядзець на зоры і вывучаць заспіртаваных яшчарак. Бутрым засвоіў усе пераплётныя ўменні і мог працаваць надалей на гаспадара. Але прагу да ведаў Рэніч лічыў галоўнай вартасцю чалавека, таму вылучыў грошы на навучанне юнага Бутрыма, а нешта дадаў і аптэкар Лейба. Давялося гарбару змірыцца з тым, што сын пойдзе па вучонай частцы. Скончыў Лёднік Полацкі калегіум, атрымліваючы на кожным курсе залаты медаль, тады рушыў ва ўніверсітэт у Празе, скончыў там факультэт мастацтваў, вывучаючы сем вольных навукаў ды царыцу навук — філасофію, тады перабраўся ў Лейпцыг, паступіў на медыцынскі факультэт… Новыя і новыя веды п’янілі мацней за віно. Здабыў доктарскі ланцуг на грудзі, але больш, чым богаўгодная лекарская справа, захапілі яго навукі таемныя. А найперш — алхімія. Знайсці філасофскі камень! Якая высокая мэта жыцця! А што ж, нават іншы палачанін, славуты Францішак, сын Скарынін, некалькі гадоў жыцця на здабыванне таго каменя спляжыў, перад тым як пачаў кніжкі

друкаваць. Год за годам Бутрым набліжаўся да разгадкі… Падарожнічаў, знаёміўся са славутымі мыслярамі і алхімікамі, бачыў такое, што зямному воку бачыць не належыць. І на вайне давялося пабываць, і чуму сустрэць, з палону ўцякаць, і ў палацах красавацца… Нават да шалёнага Марціна Радзівіла, які заняўся чарнакніжніцтвам ды склікаў да сябе ўсіх знаўцаў навук таемных, патрапіў… І ледзь ацалеў, бо стомлены харастром шматлікіх «кадэтак» князь захацеў чагось незямнога. І чамусьці ўзяў у галаву, а хутчэй наплявузгаў яму ад зайздрасці хтось з вучоных калегаў, што малады Лёднік можа выклікаць для суцяшэння пана Сільфіду, паветранага духа прыгажосці незвычайнай, які надорвае зямнога каханка здольнасцю лётаць ды мову птаства разумець… Толькі вось не хоча Баўтрамей прызнацца ў гэтым сваім уменні, каб адзінаасобна вабнотамі духаў паветраных цешыцца. Так што калі не менш шалёны брат Марціна Геранім Радзівіл, па мянушцы Жорсткі, разам з другім братам, гетманам Міхалам Радзівілам ды пляменнікам Каралем узялі штурмам Марцінаў замак, а вучоную хеўру разагналі, Бутрымус успрыняў гэта як ратунак, бо гаспадар усур'ёз збіраўся пусціць упартага алхіміка на інгрэдыенты для доследаў.

Пакуль муж вучоны швэндаўся па свеце, і маладосць прайшла, і бацькоў забрала чорная воспа — толку, што сын на лекара вывучыўся. Але часу гараваць не было. Алхімік засеў у бацькоўскім апусцелым доме і пачаў Вялікае Дзеянне — здабываць філасофскі камень… На рэдкія складнікі спляжыліся і свае, і бацькоўскія грошы. Дом і майстэрня пайшлі ў заклад. І гэтага не хапіла. А таемны працэс быў ужо на той стадыі, калі нельга адыходзіцца ад палаючага тыглю, калі нельга перарываць справу. Бутрым паступова перастаў лекаваць нават самых багатых кліентаў. І ўрэшце заклаў аднаму з іх — пану Агалінскаму — апошняе, што меў: сябе самога, паабяцаўшы, што вось-вось зможа ператвараць жалеза і волава ў самае чыстае на свеце золата, і тады расплаціцца з панам з лішкам. А іначай будзе служыць яму да скону.

Агалінскі чакаў цэлы год. Урэшце золата зблiснула ў вугалях тыглю… Але калі пан усвядоміў, колькі будзе каштаваць адна манета з такога штучнага золата і колькі гадоў трэба збіраць на яе бліскучага металу, — уз'ятрыўся і запатрабаваў доўг. І Лёднік перастаў быць вольным чалавекам.

У жаху Бутрым азірнуўся на свой лёс… І зразумеў, што гэта — Божае пакаранне. Ён даў сабе слова, што больш ніколі не пойдзе супраць Божага промыслу, не стане не толькі займацца алхіміяй, але і нават складаць гараскопы, назаўсёды адрачэцца ад чараўніцтва і гадання.

Пану Агалінскаму гэтыя перамены дужа не спадабаліся. Выходзіла, што не толькі золата, але і прадказанняў паводле зорак ад Бутрыма не дачакацца. Агалінскі пагразіўся, што аддасць упартага зоркаведа служыць на стайню. Але раскаяны алхімік толькі нудзіў пра Божую волю і грэх чарадзейства, чытаў каноны святому Кіпрыяну, які калісьці ўласныя магічныя кнігі спаліў, і ніякія ўгаворы, нават па скабах ды па спіне, на яго не дзейнічалі. А паколькі знаўцам атрутаў разнастайных Лёднік быў выбітным, у здольнасці да сурокаў ды чорных замоваў яго таксама моцна падазравалі, дык Агалінскі пачаў ба-

яцца кусок у горла класці. Тады і дакляраваў пан на гарачую галаву, што прадасць бескарыснага даўжніка першаму ж мінаку на гэтай дарозе. Вось і атрымалася тое, што атрымалася…

Пранціш хуценька прыкінуў: каб у карчме ягоны слуга пачаў складаць за грошы гараскопы, можна было б някепска зарабіць… Хто ж не хоча зазірнуць у будучыню! Нават Пранцішаў бацька, п’янтос і бuяш, на кожнае вялікае свята замаўляў сабе прадказанне ў аптэкара з бліжэйшага мястэчка, які падрабляў зоркаведам. Але ж калі гэты ўпарты Лёднік астралогію адрынуў, можна скарыстаць ягоныя іншыя ўменні…

— Слухай, Бутрым, а ты навукі лекарскай не забыўся?

Алхімік пагардліва хмыкнуў.

— А што, пан расхварэўся?

— Не дачакаешся! А вось у карчме, куды мы прыйдзем, хворыя абавязкова знойдуцца. Грошай і заробім! Толькі вось што… — Пранціш у роздуме ўскалмаціў русявы чуб, які выбіваўся з-пад шапкі, нібыта мала прарабіў тае работы вецер. — Хто ж паверыць, што славуты доктар — слуга шкаляра… Каб да цябе пацыенты пайшлі, трэба важнасці напусціць. Ты, галоўнае, маўчы і рэцэпты паразумней ды падзіўней выпісвай на лаціне. А я сам усё скажу.

Бутрым змрочна акінуў позіркам жвавую постаць свайго гаспадара, зазірнуў у ягоныя блакітныя вочы, гэткія сумленныя, што хацелася адразу абмацаць свае кішэні, і тужліва ўздыхнуў.

— Нешта прадказвае мне, я сто разоў пашкадую, што пан Агалінскі не адправіў мяне служыць на стайню.

## *Раздзел 2*
## Як Бутрым Лёднік і Пранціш Вырвіч у карчме балявалі

Калі б Пранціша спыталі, у чым глыбокі філасофскі сэнс існавання прыдарожнай карчмы, шкаляр не задумваючыся б адказаў: у тым жа, у чым сэнс перлінаў, знізаных на нітку. Навошта нітка, калі на ёй не будзе перлінаў?

Гэтая карчма пад гучнай шыльдай «Рым» не была самай шыкоўнай… Тры абадраныя таполі ціснуліся да век не фарбаваных сценаў, нібыта п’яныя госці. Затое ля самой карчмы стаяла ажно некалькі экіпажаў — ад сціплай таратайкі да дыхтоўнай карэты, хаця і без гербаў. А гэта быў добры знак — будзе з каго браць даніну!

Паветра ў карчомцы можна было рэзаць нажом. Адразу чулася, што любімыя стравы заўсёднікаў — капуста і шкваркі, а улюбёныя напоі — піва і гарэліца. Шкляны бог меў тут сталую паству. «Тры! Васьмёрка! Венера! Сабачыя вочы!» — выкрыквалі гульцы ў косткі. Сляпы спявак, худы, як чараціна, з выцягнутым бледным тварам, выводзіў тонкім голасам «Дароту» ў суправаджэнні скрыпкі ды басэтлі. Стары шляхцюк з абвіслымі вусамі,

у сармацкім строі, футра якога пабіла моль, як Міхал Глінскі — татараў, пацягваў піва з самай кіслай мінай. Маладая слічная карчмарка з чорнымі валасамі, прыбранымі пад сляпуча белы каптур, пачціва выслухоўвала ягонае шляхецкае буркатанне пра падзенне нораваў.

Лекар і ягоны «асістэнт» сціпла ўселіся за кутні столік, ледзь не млеючы ад спакусных пахаў, і Вырвіч пачаў выведку. Пяцёра мужыкоў, падобна, з Гарадзеншчыны, гэтак падазрона паглядалі па баках, відаць, спалоханыя чуткамі пра неверагодных прайдзісветаў, што чакаюць сумленнага хрысціяніна ў кожнай карчомцы, што спадзеву развесці гэтых дзікуноў на нешта было мала. Ад гарадзенцаў вельмі заўважна патыхала казліным лоем, якім прасталюдцы, выпраўляючыся ў шлях, змазваюць адзежу ад паразітаў. А вось трое шляхцюкоў, апантана занятыя гульнёй у косткі, былі вельмі абнадзейваючай кампаніяй, дыяментавыя гузы на іхніх шапках паблісквалі, як жарынкі, і не паспрабаваць абчысціць іхнія кішэні проста грэх… Праўда, не відаць было нікога, падобнага да асобы, што магла б прыехаць у шыкоўнай карэце без гербаў, якая стаяла ля карчмы. Шляхціц у пабітым моллю футры да такіх відавочна не адносіўся. Напэўна, асабліва важныя госці адпачывалі на другім паверсе, дзе мелася пара пакойчыкаў. Можа, тым гасцям удасца збыць алхіміка? Пранціш, як хлопец сумленны, не супраць быў падшукаць лекару прыстойных гаспадароў. А той малец за століком пад самай лесвіцай, падобны да «юрысты з палестры», дробнага чыноўніка, які выконвае чарнавую працу ў судзе, неадменна віж: вунь як прыкідваецца, нібы яму абыякава, што вакол яго гавораць, а сам так і шнырыць бляклымі вачыма, вышукваючы крамолы. Гэтага трэба асцерагацца… Невядома, на каго працуе. 1759 год ад Нараджэння Хрыстова, часіны смутныя, маскоўскія войскі раз'язджаюць па краіне, адны магнаты хаўрусуюцца з расейцамі, другія інтрыгуюць супраць, соймы зрываюцца адзін за адным… У Прусіі вайна, кароль-саксонец уцёк са свайго Дрэздэна ў Варшаву. З уласным народам зладзіць не можа, а да тутэйшага яму і зусім як да сухой ігрушы… Ён нават па-польску, седзячы на польскім троне, не навучыўся гаварыць, не кажучы пра беларускую мову. А суседзі, слабасць уладаў адчуваючы, не супраць зноў прайсціся па ліцвінскіх землях. Бо землі гэтыя — спаконвек на скрыжаванні, здабываюць іх, як філасофскі камень, зацята, стагоддзямі, не шкадуючы сродкаў і жыццяў чалавечых, і калі б з костак і крыві выраслі белыя дрэвы з чырвоным лісцем, як у бабулінай казцы, дык пушчы і лясы зямлі гэтай нагадвалі б чырвонае мора…

Пранцысь азірнуўся на Лёдніка: той сядзеў, выпрастаўшы спіну, як быццам рыхтаваўся прымаць іспыты, і нат па баках не глядзеў, і здаваўся ў сваёй чорнай адзежы тут гэткім жа звычным, як гармата на таку. Чарнявая карчмарка, якая сноўгала між сталамі са збанамі піва, як лёгкі чоўнік між чаратоў, падазрона слізганула вачыма па цёмнай фігуры ў куце… Пранціш зразумеў, што трэба пачынаць сваю справу. Сарваў шапку з аблезлым собалем і ўрачыста махнуў ёю, нібы выклікаў бога паўночнага ветру.

— Шаноўнае панства! Толькі сёння, праездам у Парыж з Лемберка — вядомы лекар пан Баўтрамеюс Лёднік, майстар ацаленняў, знаны алхімік і зор-

кавед, які лячыў каралёў ды князёў. Любую хваробу ён пазнае і лекі ад яе прызначыць! Мяне ацаліў за адзін дзень ад самай акрутнай ліхаманкі! Усяго тры шэлегі за кансультацыю!

Лёднік падціснуў вусны, быццам яго абзывалі вісельнікам, але есці, відаць, хацеў і ён, таму дастаў з кішэняў сваёй упэцканай чорнай світкі паперкі і аловак і паклаў перад сабой на стол, рыхтуючыся выпісваць рэцэпты.

— Пане-браце, а ад нарываў у горле пан лекар дапаможа? — насцярожана папытаўся стары шляхцюк, адсунуўшы келіх піва.

— Ад усяго! — упэўнена сцвердзіў Пранціш. — Тры шэлегі!

Да заезжага эскулапа пацягнуліся кліенты. За старым шляхцюком, які, відаць, усё яшчэ замест шкарпэтак загадваў насыпаць у свае боты нацярушаную салому, — гульцы ў косткі, за імі — чорнабароды рамізнік, у якога круціла рукі перад дажджом, тады — дзве кабеты-кухаркі… Нават сімпатычная карчмарачка доўга сядзела перад алхімікам, і той цярпліва правяраў ейны пульс па чарзе на абедзвюх руках. Грошы браў Пранціш, і хутка яму ўжо не падалася добрай ідэя прадаць лекара. Калі вось так вадзіць яго па карчомках ды засценках, як цыганы мядзведзя, дык можна някепска жыць! Лёднік абслугоўваў хворых найлепшым чынам. Важна выслухоўваў, абмацваў, сурова дапытваў і выпісваў мудрагелістыя рэцэпты, каму oleum mentha, каму unguentum commune, каму syropus koraiba. Пад ягоным паглядам людзі мізарнелі, як шкаляры, але і ў выратаванне лёгка верылі, па тым жа прынцыпе, чаму лічыцца, што чым гарчэйшыя лекі, тым мацнейшыя. Лёднік аднаму возніку нават руку пашкоджаную спрытна на месца ўставіў, пакруціўшы ды тузануўшы. Адразу відно было, што лекару не ўнове ніякія раны.

Пранціш замовіў піва і свіных скабак з капустай столькі, колькі маглі з'есці двое дужа галодных мужчын. Вядома, з лекарам побач не сеў — дзе гэта бачылі, каб шляхціц еў за адным сталом са слугою! Асабліва сагравала думка, што фанабэрыстаму доктару, напэўна, даводзілася сядаць за адзін стол з такімі радавітымі асобамі, якія Пранціша, сына збяднелага шляхцюка-апойкі, і на ганак не пусцілі б… Каб не даводзілася выяўляць з сябе асістэнта, Пранціш паказаў бы халопу ягонае месца! А пакуль проста прыстроіўся па-далей… Заўважыў, што слуга ягоны, перш чым падсунуць да сябе талерку, перахрысціўся па праваслаўным звычаі, шчопаццю.

Піва было не самым паганым, не заяц зварыў, але Пранцысь прыкмеціў, што маладая карчмарка, якую, як увішны шкаляр даведаўся, звалі Адэля, некалькі разоў бегала наверх са збаночкам, куды налівала віно з адмысловай бочачкі. Віно, як відаць, куды лепшае, чым тое піва. Пранцысь вырашыў, што лепшы спосаб пакаштаваць добрае пітво — падлабуніцца да карчмаркі. Але тая толькі зморшчыла кірпаценькі носік: маўляў, шаную вашу мосць, але не пра васпана далікатэсы, тытулаванымі панамі выкупленыя.

Між тым Адэля ў чарговы раз, пацокваючы па прыступках чырвонымі абцасікамі, што гэтак спакусна паказваліся з-пад фальбонаў спадніцы, пабегла наверх, на гэты раз не так хутка, бо срэбны тазік у яе руках быў поўны

цёплай вады. Дакладна наверсе высакародная дама… Пранцысю так і карцела паглядзець на таямнічую незнаёмку. А можа, праз Адэлю прапанаваць ёй паслугі свайго лекара, вось і будзе падстава для візіту?

Вырвіч азірнуўся. Лёднік змрочна ўтаропіўся ў келіх, нібыта хацеў убачыць скрозь яго сваю вартую жалю будучыню… Але ў келіху ўсяго толькі пенілася не самае лепшае піва. Музыкі завялі чарговую песню, заплакала скрыпка, загула басэтля, задрыжэлі па кутах вечаровыя цені, якія не магло разагнаць дрогкае полымя бледных свечачак, што рыхтаваліся стаць бруднымі лужынамі воску.

Куды едзеш, Рамане?
Ой, вір-вір, бом-бом.
На кірмаш, васпане!
Ой, вір-вір, бом-бом.

Алхімік правёў доўгімі пальцамі па худым твары, нібыта не пазнаваў сам сябе. Палез у кішэню і дастаў маленькую шкляную бутэлечку… Пранцысь ведаў, што ў ёй.

А што вязеш, Рамане?
Ой, вір-вір, бом-бом.
Воз дзяўчат, васпане!
Ой, вір-вір, бом-бом.
Пачым цэніш, Рамане?
Ой, вір-вір, бом-бом.
Па чырвонцу, васпане!
Ой, вір-вір, бом-бом.

Скрыпка галасіла, нібыта была жывой істотай, якая страціла самае дарагое. Нават за суседнім сталом на імгненне прыціхлі галасы гульцоў у косткі. Бутрым паднёс блізка да вачэй бутэлечку, страсянуў, углядаючыся ў сваё апошняе золата… Нават здалёк Пранцысь бачыў, як крывяцца ягоныя вусны.

Куды едзеш, Рамане?
Ой, вір-вір, бом-бом.
На кірмаш, васпане!
Ой, вір-вір, бом-бом.
А што вязеш, Рамане?
Ой, вір-вір, бом-бом.
Воз хлапцоў, васпане!
Ой, вір-вір, бом-бом.
Пачым цэніш, Рамане?
Ой, вір-вір, бом-бом.
Па талеру, васпане!
Ой, вір-вір, бом-бом.

Каго прадаюць за талер, а каго і за шэлег, усім ёсць цана ў гэтым не лепшым са светаў… Басэтля глуха падтаквала высокаму голасу сляпога спевака. Пранціш намацаў у кішэні вежачку — кубак з астрагаламі, косткамі для гульні. Можа, далучыцца да кампаніі? Часам удавалася ж выйграваць ды мухляваць, калі не натрапіш на мацнейшага махляра. У калегіуме ён ды адзін шчаўлік з малодшага курсу, Міхась Міцкевіч, таксама з небагатай шляхецкай сям'і, былі самымі моцнымі гульцамі. Міцкевіч, праўда, асаблівыя здольнасці меў: мог тры разы запар выкінуць «венеру» — усе шасцёркі, і ніхто падлавіць не мог на ашуканстве. Той шчаўлік цвёрда збіраўся, як падрасце, ехаць у Лемберк, каб павучыцца ў лепшых шулераў і пасля каралёў абыгрываць. Пранцысь жа марыў стаць славутым ваяром і здабыць багацце і тытулы шабляй, якую, дарэчы, таксама ў бліжэйшы час варта было раздабыць. Выпітае піва прыемна круціла галаву і змушала да подзвігаў.

Чарнявая карчмарка зноў спусцілася ўніз і наліла ў збан з маленькай бочачкі адмысловага віна. Пранцысь зараз жа падскочыў да маладзіцы, як бусел да наладаванай жабкамі калюгі, залапатаў, зажартаваў… Але карчмарка і сама мела язычок востры, як шабля каралеўскага ўлана, і блакітныя вочы Пранцыся ніяк не маглі прабіцца да ейнага загартаванага досведам карчмарскага рамяства сэрца. Гэта яна шляхціцу адмаўляе? Эх, была б у яго шабля!

Збанок у руце Адэлі прыцягваў, як гарачая смала — парушынку… Кабета спрытна абмінула нахабнага юнака і рушыла, аглядаючы сваю гаспадарку, як гетман — поле бітвы. Параўнялася са сталом, дзе сядзеў Лёднік… Нешта ціха таму сказала… І — што такое? Паставіла перад Пранцысевым слугою запаветны збаночак!

Шкаляра ажно працяла ад злосці. Баўтрамей падняў на кабету цёмныя вочы:

— Выбачайце, пані, я цяпер не магу дазволіць сабе такайскае.

— Гэта пачастунак ад мяне пану лекару!

А прамовіла з якой удаванай сарамяжнасцю! І нават нібы няўзнак прыхінулася да чарадзея! Пранцысь нічога не мог зразумець. Ён, Вырвіч — юны, вясёлы, гожы, а добрае віно дастаецца на дарэмшчыну старому змрочнаму чарнакніжніку з дзюбатым носам! Што ён, прысушвае кабетаў лацінкай? Альбо носіць пры сабе мяса маладога жарабяці, высушанае ў новым паліваным гаршку, ці валасы з канца воўчага хваста, а можа, уласную кроў, выпушчаную ў пятніцу, змяшаную з заечымі ядрамі і вантробай галубіцы, у парашок ператвораную, кабетам падсыпае?

Яшчэ трохі пашаптаўшыся з лекарам, Адэля сышла, нават не зірнуўшы на блакітнавокага чубатага шкаляра. Лёднік праводзіў яе вачыма, няспешна наліў віна, чырвонага і густога, як кроў, у свой апусцелы келіх, нават нейкі мройны выраз на твары з'явіўся… Успомніў залатыя свае дзянькі, відаць, калі не такое шчэ віно смакаваў. А смалы табе гарачай!

Пранцысь ірвануўся наперад і цопнуў келіх проста з-пад носу алхіміка. Гледзячы ў вочы свайму слузе, няспешна выпіў. Ад злосці нават не раскаштаваў добра. Але віно, здаецца, выбітнае… І мацнейшае за піва. Па-

радкам мацнейшае. Бразнуў пусты келіх аб стол. Лёднік, нібыта вывучаючы рэдкую хваробу, глядзеў на гаспадара. Зноў наліў поўны келіх. Працягнуў руку…

Пранцысь зноў апярэдзіў слугу. Павольна паднёс келіх да вуснаў, выпіў, не адрываючы позірку ад чорных вачэй, у якіх болей за ўсё на свеце хацелася пабачыць замест прыхаванай жарынкі насмешкі — праўдзівую крыўду. Але трымаць позірк на адной кропцы станавілася ўсё цяжэй, аблічча паскудніка Баўтрамея пачало нейкім незразумелым чынам дваіцца.

Пусты келіх ляснуў аб дубовы стол. Лёднік зноў прамаўчаў, пасядзеў, апусціўшы галаву. Пранцысь, крыху пагойдваючыся, навісаў над ім пагрозна, як цыклоп над Улісам. А што — ён, пан Вырвіч герба «Гіпацэнтаўр», моцны, вялікі… Уга, які зух! Што перад ім нейкі доктар, няхай той і ў Празе вучыўся! У галаве гралі скрыпкі і дуды, падлога пахіствалася ў такт музыцы, так што давялося абаперціся абедзвюма рукамі аб стол.

Алхімік, як нічога не было, напоўніў келіх. Пранцысь зноў паспеў першы, хаця і расплюхаў каштоўнай вадкасці… Але ягоную руку раптам імкліва перахапіла, як абцугамі, рука лекара. Лёднік холадна прамовіў, не гледзячы на шкаляра.

— Думаю, васпану ўжо досыць.

— Ды як т-ты пасмеў! Ды я ц-цябе… Хам… Біз-зуноў пакашт… шту…

Язык, аднак, не паспяваў за абуранымі думкамі, свет навокал загайдаўся, як адлюстраванне ў веснавой вадзе. Вырвіч толькі ўсвядоміў, што нехта ўзваліў яго на плячо самым ганебным чынам, як мяшок з гарохам, і некуды панёс. Ды яшчэ нізкі голас дзесьці побач бурчэў:

— Дурное хлапчыска…

На гэтым доўгі дзень прыгодаў для Пранцыся Вырвіча завяршыўся.

## *Раздзел 3*

## Як Пранціш пазнаёміўся з ваевадзянкай і ледзь не страціў алхіміка

Раніца пачалася з галаўнога болю. Гэткая нармальная шляхецкая раніца. Пранціш ледзь прадраў свае калісьці ясныя блакітныя вочы. Ён ляжаў у ложку, не самым шыкоўным, але ўсё-ткі ў ложку, а не на падлозе… Хаця і на адвечным для прыдарожнай карчмы сенніку. Падобна, ім вылучылі, як ганаровым гасцям, пакойчык на другім паверсе. Адэліна ласка? Памяць патроху вярталася, і гэта не радавала. Няўжо яго сюды прынёс Лёднік? Пранціш упомніў, як выхопліваў келіхі з-пад аб'ёмістага носа доктара з радасным адчуваннем, што гэта сапраўдны подзвіг, і шчокі загарэліся ад сораму. А дзе той доктар? Ці не збег? Вырвіч паспрабаваў прыўзняцца, але ад гэтага свет паплыў купальскім карагодам, нават водбліскі вогнішча прымсціліся… А Божачкі, як галава баліць!

— Што, нашукаўся пан ін віна верытас? — насмешны голас побач успрыняўся з палёгкай. Шкаляр павярнуў галаву, ад чаго ўваччу сцямнела. Калі туман разамгліўся, Пранціш зразумеў, што доктар, ужо без сваёй чорнай мантыі, у адной белай кашулі і саксонскіх нагавіцах, мяшае ў кубку нейкі адвар, ад якога ідзе пах сабачае мяты.

— І часта пан Вырвіч даходзіць да такога стану? — насмешна прарыпеў алхімік.

— Я не люблю быць такім… Такім, як мой бацька…

Вырвіч адразу пашкадаваў сваіх словаў… Што значыць, п’яны рот на замку не трымае, embritas et amor cuncta sekreta produnt. Але Лёднік нават не хмыкнуў. Толькі папытаўся, працягваючы нешта калбаціць у кубку:

— А вось што мне цікава… Пан мой такі баявіты, а без шаблі. Відаць, у геройскай сечы сваю зброю пакінуў?

— Ага, у сечы… — вось жа ўмее людзей цвеліць. — У канвенце забыўся.

— Значыць, уцякаць давялося… Няўжо дачку якога прафесара спакусіў?

Злыя словы Лёдніка, аднак, гучэлі хутчэй буркатліва, чым з’едліва, тым болей сам ён тыцнуў гаспадару пад нос гліняны кубак з адварам.

— Падымайся… Пі…

І нават дапамог прыўзняцца. Пранціш таропка глынуў гарачую вохкую вадкасць — смажыла страшэнна… Уваччу амаль адразу праяснілася, сцішыўся галаўны боль. Добра мець свайго лекара!

Між тым Лёднік глядзеў на юнака неяк дзіўна.

— І ты не папытаўся, што ў кубку? Не загадаў мне адпіць самому? А калі б я табе атруту падліў?

— А што, ты мог? — весела папытаўся Вырвіч, адкідваючыся на сяннік. Алхімік моўчкі стаяў над ім, худы твар яго яшчэ больш выцягнуўся… І Пранціш раптам зразумеў, што лекар не звык, каб яму вось так верылі. Відаць, сярод не самых лёгкіх бліжніх туляўся…

— Можаш быць спакойны, пан Францыск, я падаваў людзям толькі лекі… — голас алхіміка гучэў глухавата, нібыта ён усё яшчэ быў уражаны.

— А я і не пераймаўся! — Пранціш салодка пацягнуўся. Ведае ж алхімік сваю справу! Нават млосць прайшла… Эх, як добра, калі цябе не будзяць ледзь не з першымі пеўнямі, каб уставаць на ўрокі… Зараз бы шаблю ў рукі, ды на каня, ды каб за табой вернае войска! Дзе тая шабля з выгравіраваным на дзяржальне гіпацэнтаўрам…

— Дарэчы, я не Францыск, а Франтасій!

Лёднік шчыра здзівіўся.

— Таксама праваслаўны?

— Вырвічы веры не мяняюць! — горда паведаміў Пранціш. — А мой святы абаронца, пакутнік Франтасій, уга які святы! Яму і ягоным паплечнікам рымляне ў галовы цвікоў набілі, а потым адсеклі. Дык пакутнікі галовы паднялі і да свайго біскупа Франтона развітацца прыйшлі. Вось што вера ўчыняе!

Вырвіч пазяхнуў, але спаць больш не хацелася. Лёднік завязваў мяшэчкі з сухімі зёлкамі, з якіх варыў адвар, і маўчаў, як мур. Трэба ж, які нецікаўны… Альбо назнарок прыкідваецца.

— Ніякіх дачок прафесарскіх я не спакушаў, бо не патрапіліся, — лена парушыў маўчанне Пранціш. — А ўцякаць давялося… з-за Вараняці.

— Птушку на лекцыю прыцягнуў? — буркатнуў лекар. — Блазнота…

— Вараня — так сябрука майго празвалі… Ну не тое што сябрука… Як з такім сябраваць… Ён гарбунок быў. Хворы такі, смешны… Але разумны, халера.

Пранцысь заплюшчыў вочы, каб аднавіць да рысачкі твар беднага Вараняці.

Насамрэч звалі яго Дзянісій. Быў ён з сям'і небагатай, але ўсё-ткі не такой беднай, як Вырвіч, які патрапіў на вучобу толькі дзякуючы хроснаму-пісару. Абодва былі з праваслаўных сем'яў, езуіты бралі на вучобу ўсіх, разлічваючы, што да канца вучобы кожны схізматык пераканаецца ў правільнасці каталіцкай веры.

З Пранцішам увогуле прыкрасць здарылася — сярод ягоных аднакурснікаў апынуўся сын пана з суседняга маёнтка, які не аднойчы бачыў, як Пранцысеў бацька вывозіць на сваё поле гной, урачыста ўторкнуўшы ў кучу на возе шаблю. Калі шляхціц пры шаблі — значыць, няма шляхецкаму гонару ганьбы! Вырвічу жыцця не стала — дражнілі яго Гнаявіком, нос заціскалі, побач стоячы… Толькі Пранцысь нікому крыўды не спускаў. Нават калі не асіліць адразу, калі самога наб'юць купай — пасля ўсё роўна дастане, па адным асочыць… Хадзіў увесь час пабіты, сядзеў на аслінай лаўцы, скураной дысцыпліны каштаваў — адмысловага бізуна… Затое кпіць з яго насмельваліся толькі за вочы. А з Вараняці не здзекаваўся толькі лянівы. А ён і слова нікому не скажа, толькі ўсміхаецца, вачасты, вастраносенькі, бледны, аж свіціцца… І не плакаў ніколі, і не скардзіўся… Затое ў вучобе — першы. Усё ці над кніжкай, ці над сшыткам угнецца, піша нешта, шкрэбае пяром… Аднойчы Пранцысь пабачыў, як некалькі студэнтаў прыціснулі Дзянісія да сцяны і пачалі яму «горб раўняць». А той толькі глядзіць на ўсе вочы ды вусны падціскае, каб не крыкнуць… І нешта Пранцыся як за сэрца рукой схапіла. І ён разагнаў блазнюкоў, атрымаўшы сам кухталёў. Сышоў, вядома, не чакаючы падзякі ад Вараняці… А на наступны дзень той падказаў яму ўсе спражэнні лацінскага дзеяслова «глядзець». Так і завязалася між імі сяброўства — не сяброўства. Проста Пранцысь не мог бачыць, як Вараня б'юць, а той рабіў за яго ўрокі ды расказваў столькі дзівосных гісторый, што каб на лекцыях такое распавядалі — Пранцысь першым вучнем быў бы. Вараня недзе прачытаў трактат Альберта Вялікага «Кніга таямніцаў». І яны ўсур'ёз абмяркоўвалі, дзе ўзяць спецыю пад назвай фізаліс і тлушч дэльфіна. Бо калі зляпіць з сумесі гэтых рэчываў зернейкі, патрымаць над агнём, разведзеным на каровіным гноі, і дым ад гэтай радасці запоўніць памяшканне, усе, хто знаходзіцца там, здадуцца адзін аднаму волатамі ў абліччах коней ды сланоў. Вось бы такі цуд учыніць на занятках па лаціне! А яшчэ можна ўзяць кроў асла, тлушч марскога зайца і кветку клёну, змяшаць, падпаліць каля ўласнага ложка… І ў сне пабачыш, што цябе чакае ў прышласці. Пранціш і Вараняў доўга гадалі, што гэна за пачвара марскі заяц, але замяняць на другія інгрэдыенты не наважыліся.

Але сустракаліся яны дзеля гутарак толькі тады, калі ніхто не бачыў, — Пранцысь ужо меў сваю банду, некалькі хлапцоў, асабліва адпетых, якімі верхаводзіў, і баяўся, што яму пашкодзіць у іхніх вачох такое нявартае сяброўства. А Вараня пакорліва прымаў гэткае стаўленне. Ані ценю ваяўнічасці ў ім не было. Падобна, і зброю ў руках трымаць не ўмеў, нават палку-пальцату, на якіх спаконвеку біліся шкаляры, адточваючы высакароднае мастацтва фехтавання. Адзіная ягоная зброя была — дзіўны бронзавы стрыжань, падобны да цвіка, які Вараня выкарыстоўваў у якасці закладкі да кніжак. Аднойчы ён патлумачыў Пранцысю, што гэта не проста цвік, а сціло — старажытнагрэцкая прылада для пісання! Ім выводзілі літары на васковых таблічках, і Вараня таксама спрабаваў тым сцілом надрапваць на мяккіх ліпавых дошчачках вершы — сцвярджаў, што такім чынам найлепей адчувае мудрасць антычных паэтаў. Пранцысь падумаў, што сцілом зусім не абавязкова карыстаўся старажытны паэт, ім мог падлічваць прыбытак які-небудзь афінскі гандляр зелянінай або калупаць абрыдлыя ўрокі такі шкаляр, як яны… Ці ўвогуле гэтая штуковіна не мае ніякага дачынення да Грэцыі, а беднага калеку менскі купчына проста падмануў… Занадта яна была таненькая, у пальцах ледзь утрымаеш, такой пісаць нязручна. Але Пранцысь прамаўчаў пра свае сумнівы, справядліва лічачы, што адбіраць у немаўляці бразготку занадта жорстка.

Настаўнік лаціны пан Баніфацыюс, які ліслівіў перад багатымі спадчыннікамі, дужа не любіў Вараня, які ў ягоных вачах абражаў сармацкі ідэал шляхецтва. Пранцыся пан таксама не любіў і не раз лупіў па руках скураной дысцыплінай. Але Вараня раздражняў яго асабліва, бо мог даць адказ на любое найскладанае пытанне, так што прычапіцца не было за што. І калі аднойчы хлопцы на ўроку лаціны выпусцілі ў класным пакоі варону, пан Баніфацый звінаваціў ва ўсім беднага Вараня — на што блазнюкі і разлічвалі. І адправіў небараку ў карцар, папярэдне бязлітасна адхвастаўшы.

А Пранцысь змаўчаў… Не паспрабаваў абараніць Вараня… Даносіць на таварышаў — гэта ж ганьба! А ўзяць на сябе… Значыць, прызнацца, што лёс брыдкага калекі табе неабыякавы, што Гнаявік да гною цягнецца.

У карцэры бедны Вараня так застудзіўся, што ўжо і не ачомаўся. І так перхаў, як у бочку, а тут… Згарэў за тры дні. Пранцысю толькі і засталося, што ягоны сшытачак з крамзолямі… Урыўкі гісторый, вершыкі, незразумелыя формулы… Сваякоў у Вараняці не мелася, ніхто з-за ягонае смерці не ўстурбаваўся.

Пранцысь зразумеў, што значыць насамрэч пагарджаць сабою. Ён мусіў нешта зрабіць, каб зменшыць пачуццё віны і гневу. І аднойчы пан Баніфацыюс, прыйшоўшы позна ў свой пакой, пачуў вакол лопат крылаў і страшнае крумканне. Свечка згасла. Вакол лётала нячыстая сіла, гарлала, біла крыламі па лысай галаве, напоўненай спражэннямі лацінскіх дзеясловаў… Калі на дзікія крыкі настаўніка прыбеглі, ён мог толькі хрыпець ды, лежачы на падлозе, рукамі ад сябе нешта адганяў… Гэтае «нешта» пры запаленым святле выявілася цалкам матэрыяльным: па пакоі лётала дзясяткі тры ашалелых ад

зняволення і чалавечай прысутнасці варон, пер'е круцілася чорнай завірухай, ну і абгадзілі істоты Божыя ўсё, што маглі.

Хто напусціў птушак у пакой, выявілася хутка: у кожным класе меліся свае «цэнзары», прызначаныя рэктарам, яны не лічылі за ганьбу выкрываць таварышаў. Па Пранцыся прыбеглі цэлай пагоняй, як за літоўскім ваўком… Але Вырвіча так проста не зловіш! Эх, каб толькі дзядоўскую шаблю паспеў прыхапіць, свайго Гіпацэнтаўра…

Так што назад, у Менск, дарогі няма.

— І як жа спадар тых воронаў столькі налавіў? — зацікаўлена спытаўся Лёднік.

— А нератам! — зарагатаў Пранцысь. — Як рыбаў нябесных! Сцягнуў стары нерат на Свіслачы, пайшоў на могілкі, пачапіў на дрэвах… Цэлы мех птушкамі наладаваў! Будзе цяпер гад памятаць пра Вараня!

Бутрымус амаль з павагай пасміхнуўся.

— А сшытак сябрука твайго пры табе?

— Вось… — Пранцысь дастаў патрапаную зялёную кніжыцу. Лёднік нечакана з пашанотай пагладзіў скураную вокладку, усеўся на крэсла і паглыбіўся ў чытво, ледзь не водзячы доўгім носам па старонках. Праз нейкі час нібыта стамлёна адкінуўся, заплюшчыўшы вочы, і са скрухай прамовіў:

— Гасподзь забірае лепшых… — памаўчаў, ціха папрасіў: — Можна я пакуль пакіну гэтыя запісы пры сабе?

Пранцысь дазволіў… Вараня хацеў бы, напэўна, каб нейкі знаўца ацаніў ягоныя мудраванні.

Унізе ажывала карчма. Чуліся нечыя сонныя галасы, застукаў каваль у кузні… Вось ужо нехта лена лаецца на бліжняга свайго, а той, пазяхаючы, адбрэхваецца, і добрай раніцы, родная зямелька…

— Пайду здабуду пану ежы… — прабуркатаў Лёднік, захінуўся ў свой чорны балахон і выйшаў за дзверы. Шкаляр з цяжкасцю ўстаў з ложка, страсянуў галавою… Ну трэба ж, як разгаварыўся са слугою — бы на споведзі. Але шкадавання не было. Затое патроху, як пухірыкі са дна куфля са свежым півам, падымалася п'янкое прадчуванне чагосьці незвычайнага, небяспечнага і цікавага, бо прыгода, пазбаўленая небяспекі, — як зацірка без солі… Пранцысь нават схапіў качаргу, што прытулілася ў куце, і некалькі разоў удаў фехтавальныя рухі… Незаўважна перайшоў ад высакародных прыёмаў фехтавання на мячах і шаблях да шкалярскага змагання на палках-пальцатах, у якім Вырвічу не было роўных. Вось так табе, злыдзень, а ў пячонку не хочаш? А вось проста ў сэрца! Кубак упаў і закаціўся пад ложак, пакідаючы цёмную дарожку недапітага адвару, нібыта хацеў схавацца ад ваяўнічага пана.

— Я сказаў, з пакоя не выходзь! Дурное дзяўчо! Адвязу да цёткі ў кляштар, а там сабе скручвай галаву і другім тлумі! Мала ў Варшаве нарабіла! Пакуль я за цябе галавой перад тваім высакародным братам адказваю, будзеш, паненка, сядзець ціха, як смажаны фазан у пірагу!

Голас належаў чалавеку грубаму і звыкламу выкрыкваць вайсковыя каманды. Але Пранціш, вядома, адразу высунуў на калідор цікаўны нос… Не-

знаёмец у чорным капелюшы з высокай тулляй, абвязанай блакітнай стужкай, у чорным каптане, з-пад якога бачыліся бялюткія карункавыя манжэты і каўнер-жорнаў, спускаўся па лесвіцы, прыступкі рыпелі пад ягонымі цяжкімі крокамі, пабразгвалі шпоры… Вырвіч з хваляваннем утаропіўся на непаглядныя, пасечаныя п'янымі пастаяльцамі дзверы суседняга пакоя, за якімі, па-добна, пакутвала чароўная дама…

Раптам у адтуліне замка тых дзвярэй паказалася шпілька, бязладна закруцілася, як вусік хрушча, нешта шчоўкнула, і дзверы прыадчыніліся. У шчыліне зблісьнула блакітнае вока. Пранціша ўважліва, без усялякай боязі, вывучалі, і ён пастараўся надаць твару як мага больш самавіты, варты даверу, выраз. Відаць, гэта ўдалося, бо дзверы прыадчыніліся шырэй, і Пранцысь пабачыў самае чароўнае аблічча, якое толькі магло прымроіцца шкаляру. Праўда, тварык паненкі з трошку кірпатым носікам і пышнымі цёмнымі валасамі, сабранымі ў высокую прычоску, упрыгожаную блакітнымі стужкамі, зусім не быў млява-рахманы, як належала прыстойнай чароўнай даме, а самы што ні на ёсць круцельскі. Аблічча гэтае Пранцішу было знаёма: ён бачыў яго ў ганаровай ложы школьнага тэатру, падчас прэм'еры п'есы «Брама неўміручасці» аўтарства двух шкаляроў з апошняга курса, а насамрэч — Вараняці-Дзянісія. П'еса распавядала пра бязвінна загінулых благаверных князёў Барыса і Глеба ды праслаўляла слаўныя роды фундатараў школы, у тым ліку ваяводы князя Багінскага, які ўдастоіў сваім наведваннем калегіум. Князь нядаўна вярнуўся з Францыі і прывёз з сабой найноўшыя павевы французскай моды. Так што ўся зала, да абурэння айцоў езуітаў, глядзела не столькі на сцэну, колькі на расшыты перлінамі жустакор, вадаспады карункаў ды закручаны баранчыкам парык ваяводы. Вось ля яснавяльможнага Багінскага, мажнога, круглатварага, і свяцілася прыгажосцю гэтая кветка, паненка Паланэйка Багінская, ягоная малодшая сястра, якая таксама прываблівала пагляд падобнай да вялізнага торта з крэмавымі кветкамі сукенкай-рагоўкай на абручах з кітовага вуса, з наймаднейшай ружова-блакітнай тканіны ў дробныя букецікі, як у фаварыткі французскага караля мадам Пампадур. Сукенка была «лакцёвай» — у ёй нельга апусціць рукі, даводзілася трымаць іх сагнутымі ў локцях, не ў кожныя дзверы ўвойдзеш, а з шоўку, што пайшоў на гэты ўбор, можна было пашыць прынамсі тры сукенкі звычных памераў. Малады князь Міхал меў ажно шэсць сясцёр і выгадаваўся, як адны казалі, сярод музаў, другія — сярод гарпій. Характарам мяккі, найбольш музыцы ды маляванню хацеў жыццё прысвяціць… Але дзе там! Радня ў палітыку калом пхае, як смаргонскага мядзведзя на кірмашовы пляц. Стаў ваяводам, а яны пад'южваюць — а чым ты не кароль? Паслалі Багінскага ад саксонскага двара з дыпламатычнай місіяй у Санкт-Пецярбург, падбілі ўключыцца ў барацьбу за схільнае да любові сэрца маладой жонкі наследніка трону Кацярыны — яна, маўляў, усё будзе вырашаць у будучым, а не ейны нягеглы мужык… Стаць каханкам расійскай царыцы — трывалая прыступка да ўласнага трону! Толькі дарэмна, не запалілася прынцэса ад гэтага агню. Відаць, ёй не падабаліся мяккія ды нерашучыя, хаця і ўмеў князь выдатна граць на флейце, сачыняў

музыку і маляваў карціны не горш за італьянскіх майстроў. Больш да сэрца прыйшоўся будучай царыцы польскі пасол, прыгажун Станіслаў Панятоўскі. І цяпер князь Міхал казаў усім выглядам пра сваё разбітае сэрца і рамантычныя марэнні.

Вось Паланэя Багінская па характары цалкам магла б царыцай стаць. Фанабэрый было ў паненкі-кветкі, як пчолаў вакол раскіданага вулля, так што шкаляры толькі здалёк насмельваліся аблізваць спакуснае цуда позіркамі — не па галаве шапка. Пранцысь, якому выпаў сумніўны гонар іграць у п'есе падступнага князя Святаполка, асабліва запомніў дзве чорныя мушкі з тафты, якімі паненка ўпрыгожыла набелены тварык — над правым брывом і злева каля носіка, што азначала, што сэрца паненкі свабоднае, але падступіцца да яе цяжка. Тады яе цёмныя валасы былі схаваныя пад высокім напудраным парыком, у якім гняздзіліся па-майстэрску выкананыя мініяцюрныя блакітныя птушачкі…

І цяпер нібыта тыя птушачкі шчабяталі вакол русявай галавы Пранцыся. Ён нават не адразу скеміў, што паненка Паланэя яму шэпча:

— Гэй, ты што, глухі? Хочаш зарабіць дзесяць дукатаў?

Пранцысь страсянуў чубам: вось і яшчэ адна прапанова, ад якой немагчыма адмовіцца… І ад якой, ясна, таксама давядзецца займець на сваю шкалярскую галаву перуноў. Але галоўнае — не здрадзіць ідэалам куртуазнасці! Так, схіліцца ў паклоне, руку пакласці на нябачную шаблю…

— Няхай ваша мосць вельмішаноўная панна толькі выкажа сваю просьбу, і я выканаю яе як мага больш пільна і дасканала, не прамарудзячы ані хвілі дзеля ясных вочак найяснейшае панны і дзеля палкага жадання майго сэрца служыць яснай панне!

Гаворка Пранцыся цякла, як вадкі мёд, ён нават заганарыўся сабою. Але паненка такога мёду каштавала, як відаць, не лыжкамі, а збанамі, таму толькі нецярпліва нахмурыла чорныя броўкі.

— Найяснейшая панна хоча, каб пан узяў у яе ліст і перадаў асабіта ў рукі ваяводы полацкага Аляксандра Сапегі, які зараз мяшкуе ў Слуцку, а за гэта пан атрымае дзесяць дукатаў ад мяне, а можа, яшчэ нешта ад шчодрасці пана Аляксандра.

Пранцысь адчуў укус расчаравання: той Сапега, падобна, быў амаратам панны Паланэйкі, а быць пасыльным у амурных справах — гэта ж зусім іншае, чым самому амуры круціць… Панне, відаць¸ не спадабаліся ваганні хлопца, таму што яна зморшчыла носік і прагаварыла пагардліва:

— Пан баіцца расейцаў альбо Тераніма Радзівіла? Калі так — то…

— Нікога я не баюся! — паспешліва выгукнуў Пранцысь, скеміўшы, што справы хутчэй не пра амуры, а пра палітыку, ад якой хаця Вырвічы і былі ўбаку, але ж магнатаў, што хаўрусаваліся з расейцамі, Вырвіч-старэйшы не любіў, параўноўваючы іх з сабакам, якога прыкарміў злодзей, каб залезці беспакаранна на гаспадарскі двор. — Я з вялікай прыемнасцю выканаю волю панны…

Паланэйка сумніўна зірнула ў дужа сумленныя блакітныя вочы Пранціша, дастала з-за карсажу складзены ўдвая канверцік і аддала суразмоўцу.

— Толькі асабіста ў рукі пану ваяводзе! І глядзі, пану Герману Ватману ні слова — гэта той, што мяне суправаджае. Ён дужа небяспечны чалавек.

Вырвіч запытальна зірнуў на ваевадзянку, узважваючы на далані паперку… Дзяўчына дадала да канверціка самае істотнае — мяшэчак з манетамі. Потым, відаць, скеміўшы, што цяпер з пасланцом, які валодае ейнай таямніцай, належыць быць пяшчотней, усміхнулася, ад чаго Пранцыся як алеем па душы памазала, і нават прыклала да вуснаў і адняла пальчыкі, нібыта намякаючы на магчымы пацалунак… З самой Паланэяй Багінскай! А чаму б у такім разе баявітаму шкаляру не атрымаць аванс? Пранцысь ірвануўся да паненкі, але дзверы зачыніліся рыхтых перад носам Вырвіча.

— Напачатку — паслуга, потым — удзячнасць! — прагаварыў за дзвярыма дзявочы галасок.

Калі б у людзей маглі вырастаць крылы, Пранціш адчуў бы за спінай іхні лопат, бо ледзь над падлогай не прыўзняўся… У прыгоды будзе працяг! Падумаеш, у Слуцак! Ды хоць бы і ў краіну маўраў!

Між тым на лесвіцы пачуліся цяжкія крокі і бразганне шпораў… Падымаўся відочна не Лёднік, і Пранціш хуценька нырнуў у свой пакой. Там ён пратаньчыў з кута ў кут мазурку і паваліўся на ложак, прыціскаючы да твару канверцік, які захоўваў пах дарагой парфумы. Вось будзе чым пахваліцца Лёдніку! Хаця не, няма чаго раскрываць слузе таемныя справы гаспадара — хай толькі падзівіцца, што той раздабыў за раніцу дзесяць дукатаў ды мае нейкія важныя, звязанныя з першымі асобамі каралеўства справы! На гэта варта, вядома, намякнуць… Вось толькі дзе той лекар падзеўся? Можа, з Адэляй вуркоча? Цяпер Пранцыся гэта не крыўдзіла. Карчмарка — слузе, ваевадзянка — гаспадару! О так!

Лёднік абяцаў ежы здабыць… Карчма ўжо ва ўсе прасмаленыя сцены гудзе, і ўяўляюцца ва ўсёй неміласэрнай духмянай смакаце гарачыя клёцкі, палітыя смятанай…

Пранціш пераканаўся, што страшны невядомы Ватман замкнуўся ў пакоі з падахоўнай ваевадзянкай, шлях вольны, і рушыў уніз.

Найперш ён яшчэ зверху забачыў Адэлю, што моўчкі стаяла каля лесвіцы, схаваўшы рукі пад фартух, нібыта яны ў яе змерзлі. Дастаткова было аднаго позірку на яе твар, каб зразумець, што здарылася нешта жахлівае. Твар быў застылы, нават з усмешкай, але такой, якую зацюканы шкаляр адрасуе цэнзарам, што стаяць ля ганебнай лаўкі з розгамі ў руках, чакаючы, пакуль ён спусціць нагавіцы ды ўкладзецца зручненька.

Сышоўшы яшчэ на некалькі прыступак, Пранцысь пабачыў і тых, каму Адэля ўсміхалася пакорліва-прыніжана. Трое былі ў мундзірах кароннага войска, адзін у парыку і чорным камзоле, з такой надзьмутай, пагардлівай пысай, што вакол уяўлялася адразу зала чарговага сойму, галасы якога купленыя загадзя. Тут жа, бы пацук вакол пасткі з кавалкам сала, круціўся і віж, якога Пранцысь згледзеў учора ў карчме.

А самае непрыемнае, што паміж двух жаўнераў стаяў Лёднік. Спакойна гэтак стаяў, скрывіўшы вусны і ўнурыўшы голаў, як быццам ужо развітаўся з белым светам. Доўгія цёмныя валасы звісалі па баках ягонага худога твару, нібыта ўладальнік хацеў імі адгарадзіцца ад сваіх нялітасцівых бліжніх.

— А гэта ягоны асістэнт! — раптам заблагаў віж, паказваючы на Пранцыся пальцам з доўгім жоўтым пазногцем. — Таксама чарнакніжнік!

Вырвіч спыніўся на ніжняй прыступцы лесвіцы, гатовы рынуцца наверх.

— Гэты хлапчыска ні пры чым! — ганарыста закінуў галаву Бутрым. — Я яго толькі ўчора на дарозе сустрэў, намовіў падзарабіць. Ён пра мяне толкам нічога і не ведае…

— Хто кляцьбе ведзьмака верыць, пэўне, штораніцу дурнап'яну сабе ў гарбату дадае, — сурова прамовіў падобны да худога пеўня пан у чорным камзоле. Павярнуўся, абшарыў вачыма Пранцыся, яшчэ больш скрывіўся. — Ты хто?

— Я — шляхціц, Пранцысь Вырвіч герба «Гіпацэнтаўр», — урачыста абвесціў Вырвіч, яшчэ трохі пасоўваючыся назад. Што-што, а ўцякаць шкаляр навучыўся так, што ногі самі за яго думалі.

— «Гіпацэнтаўр»? — недаверліва працягнуў Юдыцкі. — Вырвічы карыстаюцца гербам «Далега».

— Мы — старэйшая галіна, з Падняводдзя, маем права на абодва гербы, — годна патлумачыў Пранціш. — Мы з бацькам — апошнія з роду. А што кепскага зрабіў гэты… чалавек? Ён жа проста лекар! У яго і дыплом ёсць!

Важны зарагатаў, як па арэхах абцасамі прайшоўся.

— Лекар! Цела, можа, ён і вылечыць, а душу загубіць! Чарнакніжнік ён!

— Тут свае дактары маюцца! — віскнуў віж. — З паперамі належнымі, якія тутэйшых кліентаў прымаюць па дамоўленасці з уладамі! Ян Гутнік, Людвіг Высакоўскі… Вы, паважаны пан суддзя Юдыцкі, Высакоўскага павінны памятаць, ён вам яшчэ скулу на сцягне прыпальваў, калі вы з палявання вярталіся… А гэты гіцаль сумленных дактароў заробку пазбаўляе!

Вось яно што… Значыць, Лёднік па намове Пранцыся проста заступіў на чужую тэрыторыю! Гэта ж толькі здаецца, што дастаткова ўмельства мець ды патрэбу ў хлебе штодзённым… А паспрабуй нават на рынку з шапкай жабрацкай прысесці — тут жа «законныя» жабракі налятуць, у каршэнь «захопніка» натаўкуць. А не дай Бог таму яшчэ пару капеек ад літасцівых мінакоў перападзе…

Лёднік, відаць, таксама гэта разумеў, бо нават не зрабіў спробы абараніцца і засведчыць аб сваёй высокай абазнанасці ды еўрапейскай адукацыі і паныла вывучаў зацярушаную бруднай саломай падлогу, нібыта спіну безнадзейна хворага.

— А можа, мы проста кампенсуем шаноўным дактарам страты, якія міжволі, не хочучы, ім нанеслі? — пранікліва прагаварыў Пранцысь. Насы віжа і жаўнераў адразу павярнуліся да шкаляра, нібыта на пах смажанага вепрука. Ага, грошы ўсе любяць! Пранцысь белазуба ўсміхнуўся, хаця пры

думцы, што давядзецца страціць толькі што набытыя дукаты, аж душа пераварочвалася, змінаючы свае пёры.

Але пан у чорным сурдуце, які, як высветлілася, быў сумнавядомым суддзёй Юдыцкім, якому Радзівілы даручалі самыя брудныя справы, быў непахісны, што азначала, што ён спадзяецца атрымаць куды болей у іншым месцы, чым ад недавучанага шкаляра ды бадзяжнага лекара. Пан драпежна ўгледзеўся ў твар Лёдніка.

— Кампенсацыі тут малавата… Такое багамерзкае аблічча не забудзешся. Цябе, даражэнькі, дзесяць гадоў таму я бачыў у Чарнаўчыцах пры двары няшчаснага князя Марціна Радзівіла, сярод іншых чарнакніжнікаў, якія яго з розуму звялі д'ябальскімі штукарствамі. А яго княжаская мосць пан Геранім Радзівіл гэтых ведзьмакоў загадаў лавіць ды ў вязніцу да яго везці.

Лёднік, хаця і не паварушыўся, але збляднеў. Трапіць у сутарэнні Радзівіла Жорсткага — усё роўна што ў пекла… Ніхто адтуль не выходзіў жывым, вязні розных званняў гнілі жыўцом. А пана яшчэ і падбадзёрвалі крыкі ды стогны зняволеных — таму майстэрства катаванняў цанілася ў ягоных замках вышэй нат за кухарскае.

— Калі васпан мяне памятае, дык мусіць і памятаць, дзе мяне знайшлі, калі пан Геранім замак свайго брата захапіў, — змрочна прагаварыў Лёднік. — У сутарэнні на ланцугу я сядзеў. Бо якраз адмовіўся па загадзе пана чарнакніжніцтвам займацца.

Юдыцкі толькі пакрывіўся.

— Гэта суд вызначыць. Вось улоў у мяне на чарнакніжнікаў… Нядаўна з Полацку адну вядзьмарку забіраў, таксама лекаркай сябе называе. Кніжкамі гандлюе, цьху! І ясна якімі, калі звар'яцелы брат пана Гераніма ў ейнага бацькі кніжкі замаўляў. Вучоная баба! Куды свет коціцца!

Лёднік раптам неяк страпянуўся, зіркнуў цёмнымі вачыма — гэта было, як з абцерханых, някідкіх похваў на хвілю паказалася дасканала вострае, смяротна небяспечнае лязо — адзін з жаўнераў нават мімаволі — спрацаваў інстынкт старога воя — перацяў палонніка на спіне, праўда, той як і не заўважыў.

— А ці не прыпомніць пан імя тае лекаркі?

— А табе нашто? — Юдыцкі задаволена пагладзіў доўгія вусы. — Не ўсё адно, каму суседняя пятля дастанецца? Саламея яе завуць, Рэнічаўна.

— Сумленнага чалавека асляпіла саламандравымі слёзамі! — ўгодліва падказаў віж. — Страшной сілы вядзьмарка!

— Што за блёкат! — на шчоках Лёдніка ажно праступілі чырвоныя плямы — так усхадзіўся. — Саламандравымі слёзамі завецца звычайнае расчынне карбанату натрыю, ад яго ніякае шкоды не можа быць…

— Ты пра сябе думай! — абсёк яго Юдыцкі. — Сваіх грахоў хапае. Усё, час адпраўляцца! — жаўнеры зараз жа схапілі Лёдніка пад пахі і штурханулі да выхаду з карчмы. Адэля старалася не глядзець на алхіміка, дый астатнія сведкі зашыліся па кутах так, што ні відаць, ні чуваць. Каму ахвота падпасці пад падазрэнне? Учора ж вядзьмак многіх лекаваў…

Юдыцкі на развітанне холадна кіўнуў Пранцысю.

— Няхай пан наступным разам пільней выбірае сабе знаёмых.

Лёднік жа нават вачэй не падняў. Вараня калісьці гэтак жа пакорліва ішоў у карцар, нават вачыма не просячы аб спагадзе ды паратунку. Суд… Які там суд? Ясна, суддзя прадасць алхіміка Гераніму Радзівілу, а той у сваёй вотчыне што хоча, то і робіць. А жыць як з гэтым? Адзінае выйсце… Вырвіч узляцеў па лесвіцы ў іхні пакой… Потым — кулём — назад. З паперынай у руках. На хвілю падалося, што дзверы суседняга пакоя прыадчыніліся і зблiснула ў шчыліне цікаўнае блакітнае вока.

— Стойце! Лёднік не можа быць пакараны! Ён мой слуга, халоп мой, мне належыць! Я яму загадаў — вось ён і лячыў… У яго нічога свайго няма! Толькі я маю права яго пакараць!

Суддзя ўзяў паперыну, уважліва прачытаў, яго адтапыраныя вусны варушыліся, як два бледныя вусені… Пранцысь сустрэўся поглядам з Лёднікам — і скалануўся. Столькі застарэлага болю, сораму, прыніжанай годнасці… Вырвіч усвядоміў, што гэтаму чалавеку лягчэй было б пайсці на катаванні і ў пятлю, чымся прылюдна пачуць аб сваім рабскім становішчы. Праўда, выгляд у алхіміка стаўся яшчэ больш фанабэрысты, чым у суддзі.

Юдыцкі скруціў шорсткую паперу і вярнуў гаспадару.

— Тут юрыдычны казус: з аднаго боку, названы Лёднік знаходзіцца ў залежнасці ад волі пана, і ягоная маёмасць належыць пану Вырвічу. Але гэтае становішча было дасягнутае па добрай волі самога Лёдніка, за нявыплачаную пазыку. А паводле Статута Вялікага Княства Літоўскага, раздзел дванаццаты, артыкул дзевятнаццаты, калі вольны чалавек у голад прадае сябе ў няволю і дае на тое адпаведны ліст, не можа нават у такім выпадку стаць кметам. І ўжо ва ўсялякім выпадку мусіць сам адказваць са свае ўчынкі! Калі ж пан Вырвіч прызнае, што таксама датычны да ягоных злачынстваў…

— Ды не слухайце вы дурнога хлапчыску! — узарваўся Лёднік, чый спакой садзьмула, як саламяную труху. — Я — лекар, я быў у Марціна Шалёнага, я лячыў у гэтай карчме, на што, між іншым, згодна з клятвай Гіпакрата і сваім дыпломам, выдадзеным у Лейпцыгскім універсітэце, маю поўнае права. А з ім, з гэтым падшыванцам, — я казаў — мы ўчора толькі сустрэліся! Ён да мяне датычны не болей, чым шабля да бота!

— Лекар — мая маёмасць! — не здаваўся Пранцысь. — Пан Агалінскі перадаў мне права спагнаць з яго пазыку ў дзвесце дукатаў. Пакуль не атрымаю гэтых грошай, лекар — толькі ў маёй уладзе!

— Вось як… Практычны малады чалавек, ухваляю, — Юдыцкі дэманстратыўна задумаўся. — Але будзем шчырымі — пан Вырвіч заплаціў за гэтага чарнакніжніка аніяк не дзве сотні дукатаў. А… колькі?

— Колькі меў пры сабе! — цалкам праўдзіва адказаў Пранціш. Суддзя расцягнуў бледныя вусны ва ўсмешцы.

— Вялікая, пэўне, сума… Дык вось, зробім усё паводле закону. Я заплачу пану за ягонага слугу дваццаць дукатаў, і ён пазбавіцца гэткага небяспечнага суседства і можа сам быць абсалютна вольны.

Прапанова, аб якой Пранціш учора толькі марыў. Але цяпер выкрыкнуў з усяе моцы:

— Мой слуга не прадаецца!

Твар суддзі пайшоў плямамі.

— Тады пан Вырвіч адправіцца разам з намі і будзе адказваць за ўдзел у ведзьмакоўскіх рытуалах!

Лёднік ірвануўся з рук жаўнераў, спальваючы вачыма свайго гаспадара.

— Табе езуіты хоць трохі клёку пакінулі, хлопча, ці ўсё розгамі выкалацілі? Згаджайся на прапанову суддзі!

— Не! — зацяўся Пранціш, у чарговы раз пашкадаваўшы, што не мае шаблі. — Доктара не прадам! Ён нічога кепскага не зрабіў!

Юдыцкі расцягнуў вусны ў брыдкай усмешцы.

— Тады паехалі ў Слуцак!

Раптам Лёднік затросся ад нейкага дзіўнага смеху, жаўнеры, што трымалі яго, ажно паразірнулся — ці не звар'яцеў? А той прагаварыў:

— Падобна, я не толькі сабе няшчасці прыношу, але і ўсім, хто са мной звяжацца… Прапаную скарыстаць мяне ў якасці бясхібнай зброі! Перадайце мяне, пан Юдыцкі, свайму найгоршаму ворагу.

Пранціш таксама хіхікнуў, а Юдыцкі пачырванеў ад злосці, што адразу заўважылі ягоныя жаўнеры, і паспяшаліся ўзнагародзіць нахабнага чарнакніжніка за гнеў начальніка кухталямі.

Вырвіч ганарліва ўскінуў галаву, паправіў шапку з аблезлым, але гарнастаевым, футрам… Усё роўна ва ўласную хуткую пагібель ён не верыў, як не можа паверыць маладая плотка ў тое, што недзе на свеце ёсць месца, дзе няма вады. На лесвіцы пачуліся цяжкія крокі і бразганне шпораў. Пранцысь павярнуўся і пабачыў здаровага, як мядзведзь, чалавека з дзіўна белымі валасамі, брывамі і вейкамі, ад чаго ягоны ружовы твар, спаласаваны шнарамі, з перабітым носам, здаваўся ненатуральна вялізным, як надзьмутым. Вочы пана былі таксама светлыя, бялёса-блакітныя, але час ад часу выяўляліся цёмнымі, пачварна барвовымі і бяздоннымі. На незнаёмцы красаваліся дарагі камзол са срэбнымі галунамі, чорны капялюш з высокай тулляй і батфорты, похвы ягонай шаблі-серпанціны пры левым боку блішчэлі каштоўнымі камянямі… Такія асабліва выгінастыя шаблі турэцкай работы выбіраліся толькі для смяротных двубояў. І хацелася быць як мага далей ад гэтага воя, які, падобна, можа раздушыць, як казюрку, нават за недастаткова пакорлівы пагляд. Уяўляліся навокал стрэлы гарматаў, уланы, што лятуць у атаку, ды ашклянелыя вочы забітых жаўнераў, якія ўглядаюцца ў неба з запозненым пытаннем: «Ці варта яно таго было?»… Пранцысь адразу скеміў, што звераватага аблічча пан не хто іншы, як Герман Ватман, спадарожнік ваевадзянкі.

Юдыцкага перасмыкнула, як паляўнічага пры ўсведамленні, што набоі ў ружжы скончыліся, а мядзведзь дакладна ведае, каго валіць.

— Пан Герман Ватман! Верны хорт Багінскіх!

— Пан Юдыцкі! Верны хорт Радзівілаў!

Паны ашчэрыліся, удаючы прывітальныя ўсмешкі. Ясна было, што біцца яны не будуць, не маючы адмысловага загаду гаспадароў. У магнатаў, вядома, свае рахубы: то згаворваюцца, то варагуюць, то зноў разам дамагаюцца нейкае справы, а потым нацкоўваюць адно на аднаго сваіх кляўрэтаў. Ватман акінуў цёмным позіркам двух злачынцаў, узятых пад варту.

— Багаты ўлоў, Юдыцкі!

— Справа тычыцца вядзьмарства, Ватман. Не лезь.

— Была ахвота.

— А твой гаспадар усё каралю не наважваецца дулю паказаць?

— Мой гаспадар пра сваю прысягу памятае. А твой усё з русалкамі селядцоў нараджае? — адрэзаў Ватман, нагадваючы пра адну з вядомых баек, што любіў расказваць пра сябе ўладальнік Нясвіжа Караль Радзівіл Пане Каханку.

— Затое нікому зад не ліжа. Ні расейцам, ні саксонцам, — не паступіўся суддзя.

Судовы «кручок» Юдыцкі і ландскнехт Ватман з'ядалі адзін аднаго вачмі, запанавала такая ціша, што чуваць было, як дзумкае апошняя восеньская муха. Нарэшце Ватман скрывіў рот.

— Не згубі парык па дарозе, суддзя!

Развярнуўся і падняўся наверх, ад чаго не толькі Юдыцкі, але і жаўнеры з віжом не стрымалі ўздыху палёгкі. З драўляных прыступак ад кожнага кроку сыпаўся пыл. Зверху апякун ваевадзянкі яшчэ раз азірнуўся, Пранцысю падалося, што на гэтым іх знаёмства не скончыцца.

## *Раздзел 4*
## Як Пранціш і Лёднік не даехалі да Радзівілаў на булён

«Пуць кароценькі. Салодка дзерава к горкаму не прыстане, к чалавеку пуць не прыстане…» — прыгаворвала калісьці старая Агата, Пранцішава нянька, калі выпраўляла маладога гаспадара ў далёкую дарогу.

Нічога добрага ў тае дарозе людзі паспалітыя земляў тутэйшых не бачылі. Усё, што патрэбнае самавітаму гаспадару, маецца і тут, вунь ад таго балота да таго гаю… А далей — іншасвет, нават з вёскі за лесам дзеўку ўзяць — век чужаніцай пражыве, выглядзяць суседзі ў небаракі не тыя звычаі: не тая хада, не так юшку варыць… І ўжо зусім прапашчы чалавек, што ад уласнае хаты сам цягнецца ў дарогу, як старац альбо пагарэлец… Гэна ж толькі ў роднай хацінцы дух агменю Сопуха жыве, перад якім належыць крыжам класціся… Думаеш — каханачка, ажно — печка-гліняначка, а ў чужой хаце і жывая ды гарачая кабета не сагрэе.

І калі ўжо беларусін спакусіўся ды пацягнуўся ў дарогу, і спыну яму нямашака, дык чаго дзівіцца, што шлях ягоны адны зайцы перабягаць будуць ды самотны восеньскі дождж у калюгах скакаць перад ім стане?

У карэце для перавозкі асабліва важных і радавітых злачынцаў было цесна, як у клетцы для курэй. Замкнёныя на вялізны замок краты, якія аддзялялі месца для вязняў ад месца для іх турэмшчыкаў, гэтае падабенства ўзмацнялі, і Пранціш ведаў, што лёс яго і ягонага слугі не надта адрозніваецца ад лёсу спамянутых хатніх птушак… Адна надзея — шляхецкае становішча Пранціша не дасць ціха пусціць арыштаваных на начынне для пірагоў, бо шляхціца можа судзіць толькі шляхецкі суд, і законы для яго асаблівыя… Не дарэмна ж іх з лекарам не пагрузілі на калёсы, не пагналі, беражы, Прасвятая Багародзіца, пешкі, а пасадзілі ў гэтую карэту… Калі што, дык не бізуны і турма шляхціца чакаюць, а заключэнне ў вежу. Найбольш цяпер вярэдзіла Пранцыся — каб зноў не пачалі абшукваць. Дукатаў, вядома, шкада… А калі знойдуць ліст ваеводзянкі? Вырвіч паспеў перахаваць яго разам з дукатамі ў бот… Шкада будзе, калі забяруць і нататнік Вараняці — праўда, лекар таксама не першы год на свеце жыве, мусіў таксама кудысь сунуць падазроныя паперы…

А праз краты на вокнах карэты, як на злосць, свяціла ласкавае сонейка — нібыта старая дзеўка восень яшчэ спадзявалася залучыць бліскучымі фальшывымі ўсмешкамі залётнага жаніха… Нехта з жаўнераў, што ехалі конна абапал карэты, завёў жартоўную песню з даволі сумным для палоннікаў сэнсам:

Ехаў мазур да млына,
Ехаў мазур,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Да млына.
Здохла ў яго кабыла,
Здохла ў яго,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Кабыла.
Як стаў мазур дзяліці,
Як стаў мазур,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Дзяліці.
Са скуры будзе ёй шуба,
Са скуры будзе,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Ёй шуба.
З грыўкі будзе ёй каўнер.
З грыўкі будзе,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Ёй каўнер.

Пранцысь проста ўвачавідкі ўявіў, як з яго ды Лёдніка лупяць скуру… У засценках Гераніма Радзівіла як ёсць разбяруць на часткі абодвух, не паглядзяць, хто якога звання… Простых ворагаў князь загадваў зашываць у мядзведжыя скуры ды сабакамі цкаваць. Але і паддобрывацца да яго небяспечна. Адзін слуга дужа хацеў перад панам выслужыцца, сказаў, што мае адзінае жаданне — заўсёды быць на вачах у гаспадара… Дык той загадаў яго павесіць пад сваім акном — каб спраўдзілася мара небаракі. Тры жонкі ад князя збеглі, напакутаваўшыся… Нават звар'яцелы брат Гераніма Марцін, над якім Гераніму апякунства даверылі, зараз сядзіць у Слуцкім замку, кажуць, на хлебе ды вадзе.

— З хвоста будзе ёй каса,
З хвоста будзе,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Ёй каса.

Краты былі густыя, з іржавых палос, між імі не пралезла б рука. На жалезе засталіся драпіны нібыта ад пазногцяў шматлікіх вязняў, у пісягах Пранцысю ўяўлялася запеклая кроў, хаця была гэта, напэўна, іржа.

— З вочак будуць гузічкі,
З вочак будуць,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Гузічкі.
З зубоў будуць пацеркі,
З зубоў будуць,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Пацеркі, —

з хрыпатай насмешкай выпяваў жаўнер.

Лёднік, не зважаючы на песню, свідраваў вачыма вузкі жоўты твар Юдыцкага з блізка пасаджанымі вачыма — суддзя сядзеў насупраць, надзейна аддзелены кратамі, і драмаў, яго бледныя вусны вяла варушыліся, нібыта суддзі снілася, што ён каштуе нешта нясмачнае. Але калі кола карэты падскочыла на чарговай выбоіне, Юдыцкі адплюшчыў насцярожаныя вочы. Лёднік адразу ж задаў пытанне, беражліва, але настойліва, як бортнік прыладжвае да вулля дымар:

— Ці не мог бы літасцівы пан падрабязней распавесці пра спамянутую панну Саламею Рэніч? Чаму яе судзяць не ў Полацку, не ў гродскім судзе? Чым зацікавіла яна так пана Гераніма?

Юдыцкі абурана цыкнуў скрозь зубы, як на надакучлівае кацяня.

— Гэты паскуднік што, вырашыў, што мае права задаваць пытанні мне, шляхціцу і суддзі? Пан Вырвіч, я патрабую, каб вы зараз жа пакаралі свайго непачцівага слугу!

Вырвіч раздражнёна пхнуў Лёдніка ў плячо.

— І праўда, маўчаў бы ты… — і ветліва звярнуўся да суддзі. — Прашу прабачыць, літасцівы пан, гэтага недарэку. Ён жа ўсяго толькі слуга пажыццёвы. А вось мне цікава паразмаўляць з такім мудрым чалавекам, як пан суддзя Юдыцкі. Пэўна, гісторыя той Саламеі з Полацку дужа страхотная? Упрыгожце нам дарогу сваімі цікавымі расповедамі!

Пранціш гаварыў гэтак умольна, як звычайна выпрошваў дармовы келіх у прыгожай шынкарачкі. Блакітныя вочы выпраменьвалі такое шчырае захапленне мудрасцю пана суддзі, што той здаўся, напыжыўся, як верабей у сцюжу, і паважна-паблажліва адшкадаваў словаў:

— Што ж, маладому чалавеку, накшталт вас, карысна будзе паслухаць…

Вырвіч адчуў, як Лёднік коратка ўздыхнуў, зразумеўшы Пранцысеву тактыку: да бабкі не хадзі, ясна, як яму карціць даведацца пра тую Саламею. Карэта пачала падскокваць на карэннях дрэў, сумная кавалькада ўехала ў лес. Голле час ад часу стукала па карэце, драпала яе бакі, нібыта лясун праганяў і не ў змозе быў прагнаць нежаданых гасцей.

— Судзіць паненку будуць за тое, што паюка князя Гераніма асляпіла. Але карані, карані ўчынкаў глыбей! Норавы заняпалі ў нашым княстве! — звягліва прамовіў Юдыцкі. — Белагаловыя не павінны заставацца без мужчын! Калі ўдава ці сірата — апекуноў ёй давайце… А то атрымліваецца абы-што. Паненка застаецца без бацькоў і не хоча выходзіць замуж. Хаця лічыцца першай прыгажуняй места, specie formosa… Не хоча, і ўсё! І ніхто не прымусіць. Жаніхі шалеюць, сваты вяртаюцца з гарбузамі, ідуць чуткі пра таемнае каханне — але ніхто адсачыць не можа. Паводзіцца паненка бездакорна, ходзіць у царкву… Але ж у кляштар не ідзе, як княжна Еўфрасіння! Прадае кніжкі ў бацькавай краме і, прабач, святы Ёсафат, займаецца навукай! Казалі, што яна пераапраналася ў мужчынскую адзежу і слухала лекцыі ў калегіуме. Калі праўда — задраў бы спадніцу ды сам адхвастаў… — Юдыцкі нават прыцмокнуў бледнымі вуснамі, відаць, уявіўшы спакусную карціну хвастання паненкі, і ўздыхнуў: — Вось толькі з судом князь не спяшаецца. Каб толькі па дабраце сваёй не дараваў ведзьме, каб яна яго, змяя беласкурая, не счаравала. Можа, ой, можа…

— Але навошта тая купчыха пану Гераніму? — папытаўся Вырвіч.

— Не вашага гэта розуму справа, — надзьмуўся Юдыцкі, але, відаць, цікава і незразумела было і яму — чаму столькі клопату з-за нейкай дзеўкі, таму што суддзя задумаўся і, памаўчаўшы, пачаў разважаць:

— З-за прыгожых вочак — наўрад… Ейнае ведзьміна майстэрства скарыстаць — дык ягамосць пан Геранім ведзьмаў блізка да сябе не падпускае. Ведама мне толькі, што пан Марцін да бацькі гэтай Саламеі прыязджаў і доўгую гаворку меў. А як Рэніч памёр, то да самой панны ліст прыслаў. Значыць, нешта такое бацька ёй у спадчыну пакінуў. І, відаць, важнае — бо чамусьці Трыбунал вырашыў умяшацца.

— Гэта вы пра князя Аляксандра Сапегу? — здагадаўся Пранцысь. Юдыцкі скрывіўся, быццам раскусіў гнілы арэх.

— Так, пра ваяводу полацкага. Сапегі здабылі ад Трыбуналу грамату з патрабаваннем аддаць Рэніч пад іх апеку, — суддзя чмыхнуў вострым носам, як быццам учуў пах пажару. — Нібыта князь Геранім не мае права ў вотчынным судзе судзіць полацкую мяшчанку… Аляксандр Сапега ў Слуцак заявіўся, трыста жаўнераў прывёў… Нібыта дзеля перагавораў. Занялі дом ля Віленскай брамы, жаруць, п'юць, мешчукоў задзіраюць. Жаўнеры пана Гераніма напагатове — чым перагаворы гаспадароў скончацца, невядома. Гэх… Ёсць такая дзева-птушка — Сірын, што зачароўвае людзей спевамі сваімі… І няхай птушка яна што ні на ёсць райская, а сны навявае зямныя ды грэшныя, і душа ў яе пакутлівая. Карацей, не схацела дзеўка мужчынскае рукі над сабою — спазнае руку следства.

— Але калі пан суддзя ведае, што панна Саламея невіноўная… — падаў голас Пранцысь. Юдыцкі разрагатаўся так, што стукнуўся патыліцай у дашчаную сцяну карэты, аж з парыка ягонага паднялося дымнае воблачка.

— Невіноўная? Дзева-птушка, хімера, мужабаба! Я ж табе, хлопча, толькі што сказаў, што такія, як яна, — самая шкода для дзяржавы! А што, калі на яе гледзячы, другія белагаловыя волі захочуць? Не, у пятлю дурную блудніцу — і ўсё!

— Мярзотнік! У Саламеі ў адным мезенцы розуму больш, чым хаваецца пад тваім вашывым парыком! — Лёднік кінуўся на краты, ажно з іх пасыпалася ржа, але так атрымаў похвамі судзейскай шаблі ў лоб, што, заліўшыся крывёй, абсунуўся назад на лаву. Пранцысь зараз жа наваліўся на свайго наравістага слугу, каб спыніць ягоныя далейшыя шалёныя ўчынкі. Але язык лекара ён падрэзаць не мог, і той пастараўся адказаць на ўдар:

— У вас, пан Юдыцкі, пячонка хворая, жоўць у крыві разлітая, а яшчэ мужчынскай сілы гады са два як няма. Вы кабету сапраўды толькі адхвастаць можаце!

Ой-ёй… Залілі агонь алеем. Пранцысь нават не наважыўся прамовіць: «Ды не слухайце вы гэтага дурня…».

— Адкажаш за ўсё, лайно! — сычэў Юдыцкі, аж трасучыся ад злосці, як кола на брукаванцы. — Падзякуй, што лязом не ткнуў, — трэба цябе цэленькім здаць, каб каты больш задавальнення атрымалі. І ты, смаркач, расплацішся… Мы яшчэ праверым, які ты шляхціц! Гэй! — суддзя пастукаў у акно карэты, яна прыпынілася, і пан вылез, не жадаючы падзяляць адну прастору з дзёрзкімі зняволенымі.

З вочак будуць гузічкі…

З кішак будзе каўбаса…

Пранцысь асыпаў Лёдніка справядлівай лаянкай, але той больш не спрабаваў выломваць краты… Застыў, закрыўшы твар рукамі, — зноў злавіў сусветную нуду.

— Моцна ж ты дапамог і нам, і тае паненцы! — крыкнуў наастачу Пранціш, праклінаючы тое імгненне, калі знайшоў у сваёй кішэні апошні шэлег.

— Гэта я яе загубіў, — глуха прагаварыў Лёднік, адвярнуўшы твар з разбітым ілбом ад гаспадара.

— Ну, што панна Саламея — дачка таго друкара, у якога ты рос, я і сам здагадаўся, — сярдзіта прамовіў Пранцысь. — Відаць, амуры з дзеўкай развёў!

— Не мяркуй па сабе… — раздражнёна буркатнуў Лёднік, крыху робячыся падобным да сябе звычнага. — Яна ж малая была… Мне — дзесяць, ёй — пяць… Яе бацька дабрадзеем маім быў, настаўнікам. Як я мог на яго дачку пажадлівым вокам глядзець?

Уздыхнуў… Потым загаварыў, нібыта язык ад марознага жалеза адрываючы.

Маленькая Саламея, адзіная дачка кнігара Сымона Рэніча, пястунка ды разумніца, за бацькавым вучнем ценем хадзіла… Можа, таму, што іншых дзяцей у доме не бывала? І Бутрым, які таксама дома рос адзін-адзінюткі, ды яшчэ на поліўцы з кухталёў, патроху прывык да шчабятання побач і ставіўся да паненкі, як да малодшай сястрычкі. Чытаць яе вучыў… І дазваляў перамешваць фарбы ў ступках… Нават разважаў пры малой услых над сваімі доследамі — які ні ёсць, а слухач. І толькі калі падчас чарговых вакацыяў Лёднік вярнуўся дахаты і давялося даць у нос суседскаму хлапцу, што гэтак апантана закідваў чатырнаццацігадовую Саламейку калючымі шарыкамі дзядоўніку — вядома, найлепшы сродак заляцання, — Бутрым заўважыў, якія сінія-сінія вочы ў ягонай сяброўкі, якая белая скура, чорныя бліскучыя косы, а постава… Не дзіцячая постава. А калі яна ўсміхаецца, дык ямінка чамусьці толькі на адной шчочцы, левай… Дакрануцца да тае ямінкі хочацца — аж да млосці… І пажадана вуснамі…

Лёднік зараз жа забараніў сабе падобныя думкі. Па-першае, паненка яму не пара, ды і як абразіць настаўніка, без якога згніў бы Бутрым у няведанні ды смуродзе гарбарні… Па-другое — Лёднік ужо ахвяраваў сваё жыццё Вялікай Навуцы, у служэнні якой, як вядома, складаныя пяшчотныя пачуцці толькі замінішча. Але калі Бутрым ад'язджаў ва ўніверсітэт, Саламейка перастрэла яго ў весніцах, і вочы яе гарэлі нясцерпным сінім агнём, і заявіла яна, што сэрца ейнае аддадзена Бутрыму, і ніхто іншы ёй не заўладае, і будзе яна чакаць столькі, колькі Бог пакладзе і лёс Бутрымаў. І Лёднік так разгубіўся, што атрымаўся ў іх першы, няўмелы і самы лепшы ў жыцці пацалунак…

Ён нават не паабяцаў ёй нічога. Жыццё закруціла маладзёна ў віхурах сваіх, як чоўнік легкадумны, што ўзнамерыўся па месяцавай срэбнай дарожцы на хвалях да самога Месяца даплысці… Падманам будзе сказаць, што Лёднік часта ўспамінаў сінявокую палачанку… Не да таго было — вучоба, распластаныя ў анатамічным тэатры трупы, доўгія дыспуты, студэнцкія застоллі, гарачыя даступныя кабеты. Але і нельга сцвярджаць, што ён на яе забыўся… Бо ўсведамленне «мяне чакаюць» павінна быць у кожнага, нават самага жорсткага чалавека, і на агеньчык гэтага пачуцця можна выйсці з самага цёмнага лабірынту.

Сплылі гады, як сухое лісце па восеньскай вадзе, і вярнуўся Лёднік у заняпалы Полацк, дзе пошасць забрала і ягоных бацькоў, і бацьку панны Рэніч. Доктар прыйшоў у такі знаёмы дом, пацікавіцца, чым можа дапамагчы дачцэ

свайго настаўніка… І яна стаяла і глядзела на яго ганарыстымі сінімі вачыма, і яму страшэнна карцела папытацца, ці ўсё яшчэ ён уладарыць ейным сэрцам, і не насмельваўся…

А яна проста сказала:

— Мне — нічога не трэба. Але нічога і не змянілася. Я чакаю.

Ён не хацеў траціць сябе на нешта акрым таемных навук… І больш не бачыўся з паннай. Нават калі патрапіў у страшэнную нястачу з-за свае апантанасці — не пайшоў да яе… Бо ведаў, што спляжыць і ейнае майно, і ейнае жыццё. І Бутрым зрабіў усё, каб да Саламеі не дайшлі чуткі пра ягоную дамову з панам Агалінскім — выкупіла б… А ён таго не варты.

Але ніхто яшчэ не змог уберагчы трэску ў сэрцы вогнішча.

— Калі б я ажаніўся з ёю — яна б загінула… Не ажаніўся — усё роўна загубіў яе.

Пранцысю дужа не спадабалася адчайная нянавісць да сябе, што гучэла ў голасе алхіміка. Нібыта зараз ён разаб’е сваю ўпартую галаву аб іржавыя краты. А той яшчэ дастаў запаветную шкеліцу з алхімічным золатам і панылa разглядаў, як увасоблены дакор.

— Загубіў — дык ратуй! Чаго дарэмна плакацца?

Для хлапца ўсё выглядала гранічна проста.

І Лёднік прыжмурыў цёмныя вочы, нібы пабачыў сонца, і схаваў сваю шкеліцу…

— Дзіця мудрэйшае за цара Саламона, так… Твая праўда, пан Вырвіч. Відаць, Гасподзь не дарэмна паслаў цябе на дарогу да Валожына.

Доктар дастаў з кішэні хустачку, акуратна прамакнуў драпіну на лбе, якая пачала ўжо зацягвацца, абцёр твар і агледзеўся вакол зусім іншым позіркам — як кухар глядзіць на тушку каплуна.

— Зброя ёсць? — папытаўся. — Можа, хоць сцізорык які прыхаваў?

Пранціш паматаў галавой. Акрым як зберагчы ліст ваеваўдзянкі, нічога яго не цікавіла падчас арышту. Алхімік палез у свой бот і дастаў нататнік Вараняці. Потым з сілай тузануў вокладку — Пранціш не паспеў яго спыніць — і вынуў з карэньчыка кнігі жалезны востры стрыжань. Вырвічу ажно дух заняло: гэта ж старажытнагрэцкае сціло Вараняці, з якім той так насіўся! Вось дык Лёднік, што значыць вучоны! За раніцу вынюхаў скарб, а Пранціш колькі нататнік з сабой цягаў — нават да канца прачытаць не даў рады.

Між тым Бутрым нахіліўся і пачаў асцярожна калупацца сцілом у замку кратаў з такім выразам твару, нібыта рабіў складаную непрыемную аперацыю на гнайніку. Невядома, як хутка яго чакаў бы поспех і якім чынам намерваўся лекар, узброены сцілом, справіцца з жаўнерамі, але пачулася вар’яцкае галёканне, коні панесліся, фурман гарлаў, як падпечаны… Вязні стукаліся аб сцены, як дзве бульбіны ў гаршку, што коціцца з гары.

Што б ні здарылася, у гэтым для іх была надзея. Тым больш што Юдыцкі лаяўся, зрываючы голас, пагражаў камусьці каралеўскім судом і радзівілаўскай помстай…

Карэта тузанулася, рэзка пахілілася набок, відаць, страціўшы кола, яшчэ трохі працягнулася па зямлі і спынілася… Зараз жа дзверы расчыніліся: жаўнер Юдыцкага, на чыім мяккім твары заблукала абыякавая бязлітасная ўсмешка, трымаў два пісталеты скіраванымі на вязняў і не збіраўся траціць час на пагрозы альбо малітвы… Вось яна, смерць хуткая і неспадзяваная. Пранцысь, да свайго расчаравання, не паспеў прыняць мужнай паставы, хаця б горда скрыжаваць рукі на грудзёх, як належала сустракаць апошнюю хвілю носьбіту герба «Гіпацэнтаўр». А вось лекар паспеў нібыта чорная вужака слізнуць наперад і, наколькі мог у цеснай клетцы, захінуць сабой маладога гаспадара… А яшчэ зрабіў пры гэтым нейкі дзіўны маланкавы рух рукою ад шыі. Стрэлы з пісталетаў прагучэлі, але разам з крыкам болю.

Пранцысь усвядоміў, што жывы… І нават не паранены. І Лёднік стаяў на нагах на пахіленым дне карэты… А вось жаўнер, енчучы, трымаўся рукамі, што згубілі пісталеты, за вока, з якога тырчэла жалезная спіца… Старажытнагрэцкае сціло, якім, магчыма, пісаў на васковых дошчачках вершы кучаравы паэт, а магчыма, нехта таксама даставаў вочы бліжняму свайму. Паранены выкуліўся з карэты… Але зараз жа замест яго з'явіўся новы персанаж з тым жа атрыбутам, а менавіта настаўленым на зняволеных пасажыраў пісталетам. Твар незнаёмца быў завязаны шалікам, зверху яго прыкрывалі шырокія брылы капелюша… Разбойнік? Прыхадзень ссунуў шалік. Белыя бровы і вейкі, спаласаваны шнарамі ружовы твар, дзіўныя бяздонныя вочы… Пан Герман Ватман! Пранціш мімаволі сунуў руку ў халяву бота, дзе быў прыхаваны ліст Багінскай. І не ўцячы, і не абараніцца… Лёднік прасычэў скрозь зубы нешта падобнае да «Не кароста, дык адзёр» і зноў паспрабаваў захінуць сабой Пранціша.

Пачуўся стрэл… Але пан Ватман, якога, падобна, дужа забаўляў спалох пасажыраў, цэліў не ў іх, а ў замок на кратах. Куля перабіла дужку, краты нарэшце з незадаволеным рыпеннем адчыніліся. Але вязні неяк не спяшаліся выходзіць, надта няпэўным выглядала іх становішча. Ватман усміхаўся са злой весялосцю.

— Ну што, кураняткі, па-ранейшаму хочацца да Радзівілаў на булён? Я б параіў не спяшацца на кухню. А ты, хлапчыска, падзякуй адной пекнай неслухмянай паненцы… Яна прасіла табе перадаць — выконвай даручанае. І асцярожней — наступны раз, можа, сам цябе прыдушу, калі пад руку пападзешся ды не на той бок станеш.

Сунуў пісталет за пояс і выскачыў з карэты. Лёднік і Пранцысь насцярожана высунуліся за ім. Вакол былі сляды сапраўднай баталіі. Два жаўнеры — ці мёртвыя, ці непрытомныя — ляжалі ў кустах спінай уверх, у карэце застаўся запрэжаным адзін конь, які ўжо і не спрабаваў зрушыць яе з месца. Ні двух другіх жаўнераў, у тым ліку і параненага ў вока, ні пана Юдыцкага не было. Ватман падхапіў канцом шаблі з зямлі нешта бела-шэрае, калматае, падобнае да здохлай курыцы.

— Ну, суддзя, усё-ткі згубіў свой парык!

Ватман грэбліва кінуў судзейскае ўпрыгожванне на куст ядлоўцу, парык пачапіўся якраз на вершаліну, ад чаго куст адразу прыпадобніўся да прывіду з зялёным цёмным тварам.

— Бывайце, чарадзейнічкі!

Пранціш агаламшана глядзеў услед Ватману, які скакаў на белым дрыкганце прэч, у той бок, адкуль яны прыехалі… Каля павароту дарогі да Ватмана далучыўся яшчэ адзін вершнік. І шкаляр ведаў, хто той другі, зграбненькі ды невысокі, што нават рукой яму памахаў… Не забылася, не кінула свайго пасланца! Ад гарачага пачуцця ў Пранцыся аж слёзы на блакітныя вочы навярнуліся — хоць хмарку здаля расцалаваць, хоць бліжэйшую ялінку абняць ад паўнаты душэўнай… Але грубы Лёднік, далёкі ад тонкасцяў куртуазных, тузануў хлапца за рукаў:

— Пан, вядома, можа мроіць сабе тут да раніцы, але радзівілаўскія найміты вернуцца ў любы час. А мы, між іншым, збеглыя арыштанты…

Пранцысь ачомаўся. І сапраўды, не да абдоймаў з ялінкамі, трэба ўцякаць, калі хочаш у будучым жывую дзяўчыну да сэрца прытуліць. Але Лёднік, замест таго, каб выконваць свае ж словы, падыйшоў да аднаго з небарак, што ляжалі у кустах, стаў на калені, перавярнуў яго, памацаў шыю…

— Жывы… Нічога… Поўгадзіны паляжыць, ачомаецца.

Падыйшоў да другога, таксама абгледзеў, нават павека прыўзняў:

— І гэты выжыве, хаця сатрасенне мозгу займеў.

Ён што, лячыць сваю смерць магчымую збіраўся?

Рука Пранцыся між тым сама схапіла шаблю-аўгустоўку, што ляжала каля рукі жаўнера. Нарэшце ён зноў трымае зброю! Махнуў на спробу раз, другі… Уга, цяпер беражыцеся, усе Юдыцкія на свеце!

— Вашае фехтавальнае ўменне, акрым вожыкаў, няма тут каму ацаніць, — з’едлівы голас Лёдніка вярнуў Пранціша з рыцарскіх пераможных мараў на калюжную лясную дарогу. — Рушылі, пакуль жаўнераў не наехала!

Але ж і Лёднік не пагрэбваў зброяй разжыцца, расшпіліў свой чорны балахон і засунуў за пояс пісталет і шаблю, сканфіскаваныя ў пераможаных. Ды яшчэ прамовіў павучальна, заўважыўшы падазроны позірк гаспадара:

— Як вучыў італіец Макіявелі, дурная справа спадзявацца на тое, што ўзброены чалавек падпарадкуецца няўзброенаму, а ferrum ferro acuitur, жалеза жалезам вострыцца.

На галаве Лёдніка красаваўся таксама не ягоны чорны капялюш, і цяпер алхімік са сваім драпежным носам, цёмнымі патламі і свежым шнарам на лбе дакладна прыпадобніўся да рыцара вялікай дарогі, а не да мужа вучонага.

Ісці вырашылі ў бок Слуцка… Па магчымасці, не па дарозе, а па гушчарах, наўзбоч. Накірунак спрэчак не выклікаў. Па-першае, Лёднік разважыў, што наўрад праследнікі ўявяць, што вязні скіруюцца менавіта ў той бок, дзе мусяць знайсці пагібель. Па-другое, ясная справа, Лёднік ірваўся да сваёй Саламеі — Пранціш шчыра не разумеў, якую цікавасць у мужчыны можа выклікаць кабета, што мае за трыццаць гадоў. Цётухна! Пекнай паненцы павінна быць гадоў пятнаццаць-шаснаццаць, як Паланэйцы Багінскай. Але

ў Слуцак і Пранцішу трэба… Выканаць даручэнне ваевадзянкі, знайсці Аляксандра Сапегу… Але слузе пра гэта ведаць не абавязкова.

А падобна, Пранціш мае слугу не толькі абазнанага, але і вернага — пры ўспаміне, як Лёднік захінаў яго ў карэце ад куль, Вырвічу сталася трохі няёмка, але і неяк цёпла на сэрцы… Ніхто раней не спрабаваў аддаць за Пранціша жыццё. Свой уласны ўчынак — адмову прадаць доктара з усімі наступствамі — Пранціш не лічыў чымсьці адметным.

Калі яны, зняможаныя, прыселі на паваленым бервяне пад разлапістай сасной, Лёднік, здымаючы з твару наліплае павуцінне, задумліва прагаварыў:

— Раней я б склаў наш гараскоп і вызначыў, ці прарокуюць зоры поспех і адкуль набліжаецца небяспека… Цяпер застаецца маліцца ды спадзявацца на ласку Божую. Ну, і куды ты, хлопча, улез? Чаму стары выжал Герман Ватман цябе вызваляць узяўся? Ягоныя паслугі вялізныя грошы каштуюць, не кожны магнат такога здолее наняць. Чым ты стаўся такі дарагі Багінскім?

Пранціш трохі павагаўся, паглядзеў на восеньскае лісце, што гніло пад ягонымі нагамі, нагадваючы пра тленнасць зямнога быцця, і распавёў пра знаёмства з чароўнай ваевадзянкай…

— Ліст пакажы! — уладна сказаў Лёднік, працягнуўшы руку. Пранціш падумаў, ці не абурыцца дзёрзкасцю слугі, але ж дастаў памяты канверт. Алхімік пакруціў яго ў руках і раптам рашуча зламаў пячатку. Шкаляр ускочыў і замахнуўся на лекара:

— Ах ты!.. Што робіш, паскуднік! Гэта ж ганьба — чытаць чужыя лісты, шляхціцу давераныя!

— А я не шляхціц, мне гонар не рупіць, — холадна прагаварыў Лёднік. — А ведаць, дзеля чаго жыццём рызыкуем, я павінен, так што ўвесь грэх і ганьба — на мне. Та-ак…

Лёднік пільна вывучаў аркуш, на якім усяго і было пару радкоў без подпісу накрэмзана. Пранціш, як ні кіпеў ад абурэння нізкім учынкам слугі, не мог утрымацца, каб не прачытаць таксама…

«Леў гатовы скочыць, але не можа забыцца пра ланцуг.

Калі адзінарог прывядзе грыфона да брамы і аднойдзе з дапамогай Дзевы Вянец Палямона, ланцуг парвецца. Ружа будзе чакаць ля белага калодзежа».

Што за блёкат? Пранціш расчаравана адвярнуўся. Але алхімік расчараваным ці азадачаным не выглядаў.

— Вось жа кабета… Калі нават ліст дастанецца ворагам — ніякіх зачэпак. Ні адрасу, ні подпісу, адны іншаказанні. Ды і вызваленне наша — яшчэ давесці трэба, што Багінскія да яго датычныя. Карэту сваю адправілі загадзя на Менск. Ватман пераапрануўся, хаця ён такі адметна здаровы, што западозрыць можна. Але, вядома, стане ўсё адмаўляць. Мала якія разбойнікі на людзей Юдыцкага напалі. А каму панна прасіла перадаць ліст? Князю Аляксандру Сапегу?

Пранціш разгублена памаўчаў. Як відаць, слузе загадкавы ліст быў куды больш зразумелы, чым ягонаму гаспадару. Але распытваць, што да чаго, па-

казаць сябе недасведчаным, было ганебна. Лёднік насмешна скасавурыўся на гаспадара, разумеючы ягоныя пакуты.

— Перш чым увязвацца ў палітыку, трэба хаця б сваю партыю свядома выбраць. Хаця ў нас, ліцвінаў, ды яшчэ праваслаўных, якая можа быць партыя, калі мы па звычаі апынуліся паміж патэльняй ды ражном? Ведаеш, якія жарсці бушавалі, калі польскі трон дзялілі? Аўгуст на яго сеў не толькі таму, што расейцы падтрымалі ды партыя Чартарыйскіх, але і таму, што іншыя не маглі адзін аднаго перамагчы і вырашылі: «Няхай ні вашым, ні нашым».

— Дый пан бацька мой яго не любіць, — заківаў Пранціш, жадаючы паказаць і сваю дасведчанасць. — Кажа: «Які ж гэта кароль, прабач мяне, Божа? Да таго, як вайна яго з Дрэздэна выкурыла, пару дзён у Польшчы і пабыў, мовы не ведаючы, з каханкамі разабрацца не можа, тут усё фаварыты вырашаюць». Кажа, ягоным пераемнікам Чартарыйскія маладога Панятоўскага хочуць зрабіць.

— Смаркача Панятоўскага не ведаю, — прабурчэў Лёднік. — Але бачыў, як старэйшы Юзаф Панятоўскі па Варшаве ў карэце раз’язджае ў кампаніі амараткі Юзэфкі… А тая — у касцюме Евы, прабач, Госпадзе.

Пранцысь уздыхнуў ад шкадавання, што сам не пабачыў таго спакуснага відовішча. Лёднік асцярожна крануў свой разбіты лоб.

— Та-ак… Страшна ўявіць, што нас чакае. Вось табе і алхімічны працэс: перамалоўшы каштоўныя камяні, атрымліваюць кучку фанабэрыстага пылу. Магнаты ўлады каралеўскае не прызнаюць, войскі маюць куды мацнейшыя за кароннае. Геранім Радзівіл падаткі адмовіўся плаціць, пляменнік ягоны, Пане Каханку, заявіў, што гэта ён, Караль, заўсёды быў тутэйшым каралём. Калі спрэчнае пытанне — даводзіцца звяртацца да расейцаў, каб прыслалі жаўнераў.

— Але ж Расія праваслаўных абараняе… — прамовіў Пранціш. — Лізавета Пятроўна патрабуе, каб нас перасталі лічыць дысідэнтамі, ураўнавалі ў правах. Можа, для нас і лепей хаўрус з Расіяй?

— Так, пад Польшчай не соладка ліцвінам… — пагадзіўся Лёднік. — Сам бачыў, як праваслаўных братчыкаў камянямі закідваюць. Храмы паадбіралі, ва ўніяцтва заганяюць. Адзін такі… місіянер нават загадаў праваслаўных з магілаў выкопваць і, як падлу, кідаць. Тут мы — схізматыкі, але і для расійцаў — схізматыкі, каталікамі папсаваныя. Нас выпраўляць будуць… Так, што кроў пацячэ. А што з тымі, хто прыняў унію, зробяць… Асабліва з простымі мужыкамі, якіх з веры ў веру бізунамі перахрышчваюць…

Былы алхімік задумліва ўзіраўся ў шэрыя нябёсы, нібыта спадзяваўся на старонках аблокаў прачытаць нешта важнае.

— Ведаеш, Вальтэр… ёсць такі французскі філосаф… неяк сказаў, што ён гатовы аддаць жыццё, каб ягоны вораг мог свабодна выказваць сваё меркаванне. Як па-мойму, дык варта памерці не толькі за сваю веру, але і каб не забівалі, не катавалі людзей за тое, што яны гэтую тваю адзіна правільную веру не прымаюць. Я падобнага ўжо столькі нагледзеўся, мой пан… А калі пачынаюць чужацкія войскі грабеж учыняць, не разбіраюць, хто ў якую царкву

ходзіць. Таму што ў падбіўцы ўсяго — звычайная хцівасць. Жаданне захапіць паболей зямлі.

Пранціш акінуў вокам панылыя восеньскія відарысы. Зямля ў іх, вядома, не такая яркая, як на карцінах італьянцаў… Але ж свая. Са сваімі рыцарамі і чароўнымі дамамі… Дарэчы, пра дам.

— А пры чым тут Багінскія?

— Увязаўся ты, хлопча, у змову магнацкую супраць Аўгуста Саксонца, — змрочна патлумачыў доктар. — Багінскія мараць пра карону. Падбіваюць змагацца за трон князя Міхала. Лізавета Пятроўна моцна хварэе. І князя Міхала пазнаёмілі з жонкай ейнага наследніка Екацярынай, якая з мужам не ладзіць і завяла раман са Станіславам Панятоўскім. Багінскі Панятоўскага не пераможа, затое, кажуць, не на жарт закахаўся ў маладую царыцу. Доўга ў Санкт-Пецярбургу не затрымаўся, паехаў па Еўропе… І давядзецца яму змагацца за карону самому. Але Міхал Багінскі адчувае на сабе ланцуг — прысягу, што даў каралю… І ўвогуле палітычных інтрыг не любіць. Вось і сястру малодшую, відаць, падалей ад палітыкі адаслаў пад прыглядам Ватмана.

— Значыць, Багінскія у змове з Сапегамі? — глыбакадумна заўважыў Пранціш.

— А чаму і не? — Лёднік сарваў з ядлоўцавага куста сіня-чорную ягадзіну, пакруціў у пальцах, нібыта яна была чорнай перлінай. — Змаганне за ўладу, хлопча… Ворагі цішком хаўрусуюцца, сябар са шчырымі слязьмі жалю заганяе сябру нож у спіну… Аляксандр Сапега таксама цяпер страшэнна пакрыўджаны. Ён дамагаецца булавы гетмана польнага літоўскага, кажуць, даў графу Брулю, амарату каралеўскаму, нямерана грошай… Нават жонку сваю падаслаў да ягонага сына, каб яго сваімі вабнотамі адарыла. Ганьбы займеў — але нічога не здабыў. Так што карона для яго — трафей, які за ўсё ўзнагародзіць.

Вырвіч глядзеў на засыпануюігліцай і ржавым лісцем зямлю, па якой яшчэ сноўгалі падманутыя восеньскім сонцам мурашкі. А ў гэтых нікчымных казюрак таксама ж ёсць жаўнеры, і мужыкі, і каралева, ёсць і крылатыя асобіны, якім бліжнія хуценька абкусваюць крылы. Няма чаго лётаць, калі трэба ігліцу цягаць, тлю пасвіць ды нападнікаў грызці. Пранцысь на хвілю ўявіў Лёдніка такім вось чорным крылатым мурашом з абкусанымі крыламі, які ледзь варушыцца на сцежцы, бо калі няможна лётаць, то паўзці — усё роўна куды, і ўсё роўна, пасвіць табе давядзецца альбо цягаць, альбо зараз цябе раздушаць. Глухое раздражненне зварухнулася ў душы школяра, змяшанае з зайздрасцю: скажы ты, які разумнік — сын гарбара, у тонкасцях палітычных разбіраецца, магнатаў асуджае… Крылы адрасціў… Ды хто ён такі?

— Слухай, Лёднік, калі леў — гэта князь Багінскі, значыць, паводле гэтага ліста, ён можа пайсці супраць караля, толькі патрэбны нейкі штуршок… Вянец Палямона. Гэта што?

— А хто ж яго ведае… — абыякава адказаў доктар. — Карона Вітаўта? Світак з прадказаннем святога Даўмонта, што каралём павінен стаць уладальнік герба такога ці гэткага? Святы Грааль, які адразу зробіць

уладальніка выбранцам? Мне, на жаль, ясна адно — з гэтай штукай звязаны Рэнічы. Спадар Іван усялякія дзівосы збіраў, нават зямлю на месцы старых будынкаў раскопваў… Можа, што і раскапаў. Шляхціцы любяць усялякія сімвалічныя бескарысныя рэчы, кшталту абломка мяча прапрапрадзеда, які хадзіў на мядзведзя разам з царом Дадонам.

Цярпенне Пранцыся лопнула, як бурбалка на паверхні лужыны. Лёднік што, з шляхты смяецца? То пячатку на чужым лісце ламае, то выстаўляе ўладальнікаў гербаў легкавернымі ёлупамі… Нельга гэтага спускаць! Кроў кінулася шкаляру ў галаў, аж у скронях дзятлы застукалі. Пранціш ускочыў, выхапіў шаблю, прыставіў да горла свайго слугі і зароў:

— Не твая справа разважаць пра шляхецкую годнасць! Ды за такія словы я маю права табе галаву бязродную адсячы!

У гэты момант Пранціш адчуваў сябе чамусьці падобным да свайго бацькі ў маладыя гады, зуха і буяша на ўвесь павет, вялікага Вырвіча. Адчуванне п’яніла, як такайскае віно.

Лёднік прыкусіў губу, відаць, разам са з’едлівымі словамі, памаўчаў і выціснуў з сябе, гледзячы ў зямлю:

— Прашу прабачэння ў майго гаспадара. Я не меў права гаварыць, што думаю пра тых, хто вышэй за мяне. Я забыўся, хто я такі. Гэта больш не паўторыцца.

Лязо Пранцішавай шаблі дрыжэла ля ўпартага падбароддзя доктара. Той не рабіў спробы адхінуцца, але ўсмешка больш не крывіла ягоныя вусны. Зухаватасць выпарылася са шкаляра, як вада з варэння. Вырвіч прыбраў шаблю, сеў. Запанавала маўчанне, якое Пранцішу дужа не спадабалася. Вядома, слугу трэба было паставіць на месца… А што, калі раптам ганарлівы Лёднік так вось у сабе замкнецца ды пачне з пафасам святога пакутніка выконваць ролю раба? І не будзе больш даверлівых размоў і адчування моцнага надзейнага пляча побач?

Пранціш кінуў хуткі позірк на Лёдніка, які ўсё гэтак жа глядзеў у зямлю. Абразіўся. Шкаляр устаў, пахадзіў, паперхваючы, вакол, пазбіваў з галін сухое лісце. Ну, доктар жа разумны, павінен здагадацца, што малады пан шкадуе аб сваёй гарачнасці! Але той толькі папытаўся, не падняўшы вачэй:

— Пан загадвае ісці далей?

Гэткім бяздушным, сухім, як чараціна, голасам, з належнай дозай ветласці… Пранціш ажно ўзвыў:

— Ну добра! Добра! Я пагарачыўся! Я шкадую! Але ж у шляхціца ёсць святыя рэчы… Табе не зразумець… Што мне цяпер, прабачэння прасіць да вечара?

Лёднік скептычна хмыкнуў:

— Дзе ўжо мне, бязроднаму, зразумець шляхецкія тонкасці!

Але ў Пранцыся палягчэла на душы, бо ён адчуў у доктаравым голасе знаёмыя з’едлівыя ноткі. Усеўся побач, загаварыў прымірэнча:

— Бацька мяне вучыў, што фамільная зброя — не проста шабля, яна аплочаная крывёй продкаў… Як і ўсе нашыя прывілеі. І мой бацька ваяваў,

ішоў у паспалітае рушэнне, не за сябе — за радзіму, за Княства Літоўскае, за беларускую зямлю… На ім знаеш, колькі шнараў ад варожай зброі? І мяне з дзяцінства прывучаў, што я павінен увесь час быць гатовы аддаць жыццё за Айчыну. Без развагі, па першым поклічы. Загартоўваў… Калі я быў малы, адпраўляў мяне, напрыклад, ноччу на поле прынесці некалькі каласкоў — а поле каля самых могілак… А колькі Вырвічаў галовы склалі ў бойках — з маскоўцамі, з татарамі, са шведамі!

— Я шаную тых, хто аддае жыццё за радзіму, ваша мосць… — ціха сказаў Лёднік. — Я не хацеў абразіць вашых продкаў і вас. Мае продкі таксама, хоць і не былі шляхціцамі, гінулі за вольны Полацак. Прадзед з братамі стаяў на мурах, калі горад асаджвалі войскі Івана Жахлівага. Маскоўцы нагналі гарматаў вялікага нараду, закупленых у Ангельшчыне, што стралялі ядрамі па дваццаць пудоў… Сеча была страшэнная, на абарону сталі ўсе — жанчыны, дзеці, старыя. Хаця напачатку нават малебны служылі за праваслаўных братоў, спадзяваліся, што скончацца з іх дапамогай напады каталікоў ды ўніятаў, пакінуць у спакоі праваслаўныя храмы… Але з чужымі гарматамі воля не прыходзіць. Тады малады князь Ян Глябовіч, які кіраваў абаронай Запалоцця, прапанаваў даць зброю «чорным людзям», сялянам… І што ты думаеш? — доктар правёў рукой па твары. — Ваявода Давойна адмовіўся… І горад быў узяты. І больш чым палова жыхароў выразана. А самых радавітых шляхціцаў пагналі ў маскоўскі палон, хоць многія з іх былі такімі ж праваслаўнымі, як маскоўскі цар. А ўсё з-за таго, што высакародны пан не прызнаў за чорнымі людзьмі права мець радзіму і бараніць яе. А сто гадоў таму пятнаццацітысячнае войска ваяводы Трубяцкога спыніў аддзел простых мужыкоў з Каленснікаўскага павета — іх было ўсяго тры тысячы, але ім абрыдлі грабежнікі. Калі маскоўцы бралі Магілёў — ключы ім месцічы паднеслі, таксама радаваліся прыходу праваслаўных братоў, ды атрымалі рабункі ды гвалт. І простыя мешчукі знішчылі за ноч сем тысячаў чужацкіх жаўнераў — увесь гарнізон.

Лёднік паглядзеў у вочы Пранцысю цёмнымі сумнымі вачыма.

— Я не шляхціц, але ў мяне таксама ёсць радзіма. І мне балюча бачыць, як яна гіне з-за…

Доктар змоўк, але Вырвіч зразумеў, што ён хацеў сказаць. І запярэчыць было цяжка, бо старэйшы Вырвіч гэтаксама наракаў на магнатаў, якія гатовыя хаўрусавацца з любым чужаземным ворагам, абы перамагчы адзін аднаго. Абодва нейкі час маўчалі, гледзячы, як сосны гайдаюць галінкамі, нібыта просяць паратунку ад немінучай сцюжы.

— Доктар, а твой настаўнік Ян Рэніч мог ведаць рэцэпт філасофскага каменя?

Лёднік скептычна хмыкнуў.

— Не памятаю такога за спадаром Іванам… Ён і мяне адгаворваў у дурную справу лезці — шкада, я не паслухаўся ад гардыні сваёй.

— Але ж Марцін Радзівіл кнігі ў яго замаўляў!

— Вось я і думаю, якія… — прамовіў доктар. — Наўрад псалтыры. Марцін Радзівіл дужа паверыў у метэмпсіхоз… Перасяленне душаў. Увесь час сцвярджаў, што быў у мінулым жыцці птушкай, бо мае доўгі нос. А ў наступным жыцці спадзяваўся быць сланом. Што не перашкаджала яму ў гэтым быць апошняй свіннёй. А ў настаўніка кнігі меліся рэдкія, нават з Кітая, з Індыі. Эх, трэба Саламею спытаць… А калі яна зараз у сутарэннях слуцкага замка…

Лёднік аж зубамі скрыгатнуў.

— Нічога! — Пранціш выхапіў ліст з рук слугі. — Знойдзем Аляксандра Сапегу, папросім дапамогі!

Лекар спахмурнеў.

— Сапега супраць Радзівіла, ды яшчэ ў ягонай вотчыне, нават з рашэннем Трыбуналу і трыма сотнямі жаўнераў — бяссілы. Добра, калі Геранім Шалёны не наважыцца яго гвалтам са сваёй зямлі вытурыць. І заступніцтва магнатаў — справа ненадзейная. Ён табе келіх падасць і тут жа тым келіхам зубы табе выб’е. Пляменнік Гераніма Пане Каханку так жартаваць любіць. Магнаты… — Лёднік уздыхнуў і адмахнуўся ад худога восеньскага камара, што так і цэліў да ягонага доўгага носа. — Няма чаго беднаму чалавеку ў іхнія гулі ўвязвацца. Мой знаёмы па Празе, доктар Бахстром, да Гераніма Радзівіла быў уладкаваўся… Золатам думаў засыпацца. А пан у кожнай лыжцы атруту падазраваў, гэтак жа, як у кожным позірку жонкі сваёй, Тэрэзы, здраду. Кабету пад замок пасадзіў, сачыў за кожным крокам… А яна ж не абы-хто — дачка падскарбія надворнага! Вось Бахстром і пашкадаваў прыгажуньку. Дапамог ёй збегчы… Паненка ўцякла, бацька за яе заступіўся, развод зладзіў. А Бахстром апынуўся кульгавым лісянём, якога пакінулі ў перадушаным куратніку. Збягаў ад радзівілаўскай хеўры на злом галавы, папрасіў прытулку ў Аскеркаў у Шацку… Дык Радзівілы туды цэлае войска прыгналі! І што, думаеш, сваякі пані Тэрэзы доктару дапамаглі? Хто ён такі? Пыл на шляхецкіх ботах. Вось табе і служэнне чароўнай даме.

Лёднік злосна насунуў глыбей на галаву зняты з жаўнера капялюш, прыкрыўшы шнар ад шаблі суддзі.

— Але ж ты сам пайшоў на службу да Марціна Радзівіла, дзе бяды спазнаў! — папікнуў Пранціш. — Чым ты тады думаў?

— Чым думае апантаны чалавек? — цяжка ўздыхнуў Лёднік. — Я недалёка тады ад вар’ята Марціна адышоўся. Уяўляеш, калі брат ягоны замак штурмаваў, Марцін натхнёна граў на скрыпцы! Праўда, я гэтага не чуў, бо ў сутарэнні гукі не даходзілі. Але і я, калі судовыя выканаўцы дзверы ў мой дом ламалі, з адной колбы ў другую вадкасць пераліваў і кроплі лічыў, як акорды найлепшай музыкі.

Былы алхімік пакаяльна ўздыхнуў.

— Цяпер бы не музыку слухаць, а паесці… — прабурчэў Пранціш, азіраючыся па баках. Урэшце, у ліцвінскім лесе тутэйшы чалавек з голаду памерці не можа: хоць грыб які ўхопіць… А вунь, здаецца, лісічкі наіўнанахабна так жаўцеюць, знак падаюць — з’еш нас, бедны шкаляр!

— Тсс… На зямлю… — трывожна шапнуў Лёднік і, ухапіўшы гаспадара цвёрдай рукою за каршэнь, паваліў тварам у цвілае лісце, відаць, канчаткова забыўшыся на сваю крыўду і дэкляраванне памятаць сваё рабскае месца. На дарозе чуўся стукат капытоў. Пранціш ляжаў, сціскаючы дзяржальна шаблі, і страху не было, адзін паляўнічы азарт. Дзесяць вершнікаў, Юдыцкага не відаць… Ды яны з Лёднікам, калі што, удвух пасякуць гэтых выжлаў, як лапушыны!

Вершнікі праехалі, стала ціха, толькі камары дзумкалі.

— Рушым! — Лёднік штурхануў гаспадара. — І шаблю больш не выхоплівай без прычыны… Ваяка… Госпадзе Божа мой, усё ў мяне не па-людску, нібы жыццё маё сачыніў паэт з багатай, але бяздарнай фантазіяй! Адну панну вызваляць, ад другой ліст перадаваць…

Сонца вырашыла, што на сённяшні дзень выдаткавала ўсё сваё жабрацкае золата, і з палёгкай схавалася за бліжэйшую хмару. Тая незадаволена сыпанула дажджом.

— Подзвіг у імя чароўнай дамы — гэта не бяздарная фантазія! — аптымістычна азваўся Пранціш, уявіўшы гожыя вачаняты панны Багінскай, а ягоны слуга толькі ўздыхнуў. Да Слуцку заставалася тры дні шляху, не кароценькага і не лёгенькага.

…З капытоў будуць кубачкі,
З капытоў будуць,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Кубачкі!

## *Раздзел 5*
## Як Пранціш і ягоны слуга немцамі сталі

Леанарда да Вінчы ў сваім «Бестыярыі» напісаў, што совы помсцяць тым, хто з іх насміхаецца, — выдзёўбваюць вочы. Леанарда лічыў, што вачастыя птушкі толькі гэтай ежаю і могуць пракарміцца.

Праўда, сава, якую Пранціш пабачыў учора вечарам, дакладна харчавалася не чалавечымі вачыма, а мышамі. Падгледзеў трошкі ейнага палявання… Вось і яны з Лёднікам зараз, як мышы. Таго і глядзі, кіпцюры ў бакі нехта запусціць. Хаця лес для ліцвіна — гэта ж ратунак, не так, як для іншых, што атаясамлялі яго з першабытным хаосам, ці з лабірынтам, у якім жыве Мінатаўр… Дастаткова, праўда, і тутэйшага мядзведзя, каб да Абрама на піва выправіцца. Але пакуль нічога буйнейшага за саву шкаляр ды доктар не сустрэлі. Не знайшлі і святое дрэва Перыдэксіён, пладамі якога харчуюцца галубы, а змеі нават ад ценю ягонага ўцякаюць. Не расло тут і дрэва Ігдрасіль, па якім памерлыя душы сыходзяць на той свет… Наверсе дрэва Ігдрасіль жыве арол, пад карэннямі — цмок, а па ствале бегае туды-сюды

вавёрка Рататоск, увасабляючы свет мітуслівы чалавечы. Гэта ўсё Лёднік па дарозе засмечваў Пранцысеву кучаравую галаву непатрэбнымі цытатамі, відаць, вырашыўшы, што свяшчэнны ягоны доўг — давучыць свайго гаспадара замест езуітаў. Ха! Тыя абламаліся, і сыну полацкага гарбара нічога не свяціла на неўрадлівай ніве Пранцысевай адукаванасці. Затое свойскі лясун за апошні дзень не аднойчы падкідваў падарожнікам пад ногі паваленую елку альбо палівaў нечаканым, як прыступ кашлю ў старэчы, дажджом. Так, на грыбах ды арэхах жыць сумна, маючы ў кішэні залатыя дукаты…

Лёднік дыбаў побач, мармычучы даўжэзныя фразы з «Досведаў» філосафа-французіка Мантэня, да якога Пранцысю не было ніякай справы, як і да дурной скандынаўскай вавёркі Рататоск. Раптам доктар схапіў Вырвіча за плячук і спыніўся. Пранціш прыслухаўся… У іхні бок нехта пёрся, ломячы кустоўе і енчачы. Лёднік адцягнуў Пранцыся пад разлапістую елку, хаця Вырвічу так і рупіла рвануцца наперад і выпрабаваць шаблю на невядомай небяспецы. Але ўспамін пра адно ўчарашняе даставанне шаблі з похваў быў такі непрыемны, што Вырвіч вырашыў перачакаць, як раіў Лёднік. А той, аднак, дастаў з-за пояса пісталет. Пранціш не стаў агучваць, што Вырвіч-старэйшы, як і многія шанавальнікі сармацкіх звычаяў, лічыў ужыванне пісталетаў адзнакай заняпаду шляхецкага баявога мастацтва, хаця пагаджаўся, што шляхціц павінен умець з пісталета патрапіць вавёрцы ў вока. Урэшце, Лёднік — не шляхціц, а мяшчук, вось няхай і страляе.

— Прасвятая Багародзіца, ратуй!

З боку дарогі беглі двое мужыкоў у звычайных упэцканых світах і магерках, відаць па ўсім, дужа пераляканыя. Адзін на бягу спрабаваў маліцца, другі выкрыкваў, быццам заікаўся:

— Цмок! Цмок! Цмок!

І наўрад гэткім чынам ён намякаў на пацалункі. Што ж, простыя людзі, вядома, і саву палічаць нячыстай сілай. Калі небаракі, спатыкаючыся на вільготных карэннях, абдзіраючыся аб голле, адбегліся дастаткова далёка, Лёднік і Вырвіч з належнай асцярожнасцю рушылі далей: тое, што напалохала мужыкоў, павінна было знаходзіцца на дарозе трохі наперадзе.

Напачатку яны пачулі нямецкую лаянку. Нехта шчыра і выразна апісваў мясцовыя дарогі, мясцовых дзікуноў і мясцовае надвор’е. Асобныя фразы ўтрымлівалі лацінскія словы, таму можна было зразумець, што чалавек лаецца вучоны.

Пранціш і ягоны слуга вызірнулі з-за кустоў, на якіх засталіся вісець пераможанымі сцягамі толькі асобныя рудыя лісты. Пасярод дарогі стаялі дзве павозкі. Адна — звычайны дарожны экіпаж, брычка з наладаванымі ззаду куфрамі. А вось другі ўяўляў з сябе нешта падобнае да невялікай адрыны на колах, шчыльна накрытай прасмоленымі палотнамі. У гэтую адрыну было запрэжана ажно восем коней, але і яны не маглі зрушыць з месца волатаўскі воз, які патрапіў двума левымі коламі ў велізарную калюжыну, так, што пагрозліва пахіліўся. З аднаго боку палотны, якімі быў шчыльна схаваны таямнічы груз, разышліся, і між імі нешта металічна паблісквала. Каля

возу мітусіўся невысокі пузаты чалавечак у чорным камзоле з простым белым каўняром, з-пад капелюша з высокай туллёй звісалі пасыпаныя пудрай буклі. А на нагах, зусім недарэчна на ліцвінскіх восеньскіх дарогах, былі чаравікі і калісьці белыя панчохі. Менавіта гэты чалавечак і сыпаў праклёнамі. Высокая худая кабета ў каптуры, захінутая ў дорожны плашч, час ад часу перакрывала ягоныя крыкі пранізлівым:

— Якаб, вазьмі сябе ў рукі!

Вусаты фурман, таксама апрануты ў нямецкі строй, завіхаўся ля коней…

— Няхай будзе пракляты той дзень, калі я атрымаў ліст са Слуцка і зажадаў княскіх дукатаў! — гарлаў чалавек у капелюшы, прынамсі, менавіта так Пранціш, у якога поспехі ў нямецкай былі даволі сціплымі, разумеў ягоныя скаргі. Але ясна было, што экіпажы кіруюцца ў Слуцк! Лёднік перарывіста ўздыхнуў, як паляўнічы, што нарэшце пабачыў з засокі вепрука:

— Вось табе і літасць лёсу… Здаецца, гэты немчык мне знаёмы. Аднакурснік мой па Лейпцыгу… Калісьці мы няблага праводзілі час. Але як ён павядзецца, калі даведаецца, што мы збеглі з-пад арышту?

— А ты што, вось так сабраўся яму ўсё пра нас вываліць? — Пранціш ледзь не рассмяяўся — вось наіўная дзівачына гэты доктар.

— А як патлумачыць, чаму мы тут апынуліся, ды яшчэ ў такім выглядзе?

Пранціш агледзеў сябе і Бутрыма прыдзірлівым вокам: так, не з балявання паны… Абцерханыя, брудныя… Добра, што ўзброеныя, але ж — пешкі ідуць! А які гэта высакародны пан без каня?

— Гэх, каб ён толькі па-нашаму разумеў… — з прыкрасцю прамовіў Вырвіч.

— Якаб Пфальцман? Ды ён моваў дваццаць ведае, і ліцвінскую разумее дакладна, — запэўніў доктар.

Шкаляр драпежна ўсміхнуўся:

— Тады ніякіх праблемаў! Рушылі! А ты толькі з усім згаджайся, што я скажу. Homo semper in ore aliud fert, aliud cogitat. Чалавек заўсёды адно гаворыць, а іншае думае.

Сямейства Пфальцманаў сустрэла з'яўленне чужынцаў, калі мякка казаць, насцярожана: фрау схавалася за невядомую канструкцыю на возе, а гер Пфальцман проста наставіў на прыхадняў з лесу два пісталеты. Але пры набліжэнні Лёдніка немец разгублена апусціў сваю зброю і нясмела заўсміхаўся.

— Гер Лёднік? Не можа быць! Майн Гот! Гэта вы, мой сябра, альбо інкуб у вашым абліччы?

Былы алхімік расцягнуў вусны ў падабенстве ўсмешкі.

— Вітаю пана Пфальцмана!

— Эльза! Гэта доктар Бутрымус Лёднік, з Лейпцыга, той, што вынайшаў дваццаць тры спосабы трахеатаміі! Колькі піва, сябар мой! Колькі добрага піва ў карчомцы «Пад карасём» мы папілі! Генрых, апусці зброю, усё ладам!

Апошнія словы на нямецкай Пфальцман скіраваў фурману, які ўвесь гэты час стаяў за возам, наставіўшы на гасцей вялізную, з раструбам, рулю руж-

жа. Між тым Лёднік з чыста навуковай адсланёнай цікавасцю наблізіўся да канструкцыі, прыкрытай палотнамі, і зазірнуў у дзірку, чым гер Пфальцман быў вельмі незадаволены і, падобна, каб мог, не падпусціў бы туды старога сябра. На возе грувасцілася нейкая незразумелая жалезная прылада, відочная частка якой сапраўды выглядала як рэбры цмока.

Лёднік хмыкнуў і павярнуўся да Пфальцмана, які спрабаваў схаваць сваю трывогу:

— Машына-чарапаха? Ты ўсё-ткі зрабіў яе, Якубе?

Пфальцман з пачырванелай фізіяноміяй кінуўся захінаць таямнічую канструкцыю.

— Прабач, сябар, але… У навуцы кожны сам за сябе… Мне б не хацелася раней часу дэманстраваць сваё вынаходніцтва, якое далёка не кожны здольны ацаніць.

Лёднік насмешна паківаў галавою.

— Не бойся, Якуб. Я не збіраюся красці тваё вынаходніцтва. Тым больш мы ж з табой разам бачылі ягоныя чарцяжы ў нататніку Леанарда да Вінчы.

— Там быў эскіз! Накід! Нічога канкрэтнага! — пакрыўдзіўся Пфальцман. — Пра мой вадзяны рухавік твой Леанарда нават памысліць не мог!

— І мы з табой гаварылі, што такая бязлітасная зброя была б занадта вялікай спакусай для тыранаў, — цвёрда прагаварыў Лёднік.

— І дазволіла б за адзін дзень завершыць любую вайну і тым зберагчы жыцці! — раздражнёна запярэчыў Пфальцман, відаць, працягваючы старую спрэчку.

— А калі кацёл узарвецца — а ён напэўна ўзарвецца, калі папрацуе хвіляў дваццаць, то зварыцца найперш той, хто будзе сядзець у гэтай скрынцы.

— Я ўдасканаліў рухавік! Ён звонку, аддзелены ад унутранага памяшкання двайным сталёвым лістом. Я сам ездзіў у гэтай машыне, і нічога, жывы! — раз’юшыўся Якуб.

— Але пасярод калюжыны беларусінскага лесу гэтая цуда-машына выратаваць свайго стваральніка не можа! — з’едліва зазначыў Лёднік, і Пранцысь ледзь не пхнуў свайго слугу нагой — знайшоў калі дыспут учыняць. Твар Пфальцмана пайшоў плямамі, так што фрау Эльза, якая не разумела ні слова з размовы, пачала дужа няўхвальна паглядаць на дзюбаносага прыхадня, які крыўдзіў ейнага геніяльнага мужа.

Пфальцман зноў выдаў порцыю лаянкі наконт кепскіх дарог і дзікуноў-мужыкоў… Як зразумеў з ягоных словаў Пранцысь, нямецкі вынаходнік вёз сваю канструкцыю князю Гераніму Радзівілу, які паабяцаў немалыя грошы. Такія, што фрау Эльза, кабета практычная і не баязлівая, не наважылася адпускаць мужа ў дарогу аднаго. Хацелася і ўцячы з ахопленай вайной Саксоніі. Аднак падарожжа ад пачатку не заладзілася. Даводзілася праязджаць кружнымі шляхамі, мінуючы ваенныя дзеянні, а вайна — гэта ж не паненка, якую можна замкнуць у асобным пакоі. Вялізны груз, які Пфальцман выдаваў за дэкарацыі для тэатра пана Гераніма Радзівіла, выклікаў нездаровую цікаўнасць. У Варшаве адзін з памочнікаў гэтак зайграўся ў адным са

славутых ігорных клубаў, што нібыта растварыўся ў напоўненым азартам і віннымі выпарэннямі паветры. Другі памочнік ад мясцовай ежы захварэў на жывот, давялося яго пакінуць у Берасці. Не паспелі ад'ехаць ад Берасця — карэта звалілася з моста так, што нагадвала тыя выкапнёвыя парэшткі, якія засталіся ад Ноевага каўчэга на гары Арарат. Фурман пакалечыўся, добра, самі Пфальцманы мудра перачэквалі на беразе, пакуль іх экіпаж праедзе небяспечны мост. Жалезную чарапаху перацягвалі праз раку двое сутак, дрэвы валілі, як звар'яцелыя бабры. У Камянцы Пфальцман ледзь раздабыў новую павозку, вось гэтую нехлямяжую брычку з сеннікам замест абабітых зялёным сукном сядзенняў. Наняў і некалькі мясцовых мужыкоў. Тыя, аднак, да немца паставіліся падазрона, калі адварочваўся, хрысціліся, да грузу на павозцы дакранацца баяліся. Давялося павысіць плату. Але патрапіў aus dem Staub in die Muhle kommen, з пылу ў млын. Калі здарылася няшчасце з калюгай і накрыўка расхінулася, неадукаваныя найміты вырашылі, што пабачылі самога д'ябла ў выглядзе жалезнага цмока, і разбегліся, кінуўшы гаспадара ў самым бядотным становішчы.

— А якім чынам лёс паслаў сюды вас, і хто гэты юнак? Ці не сын твой?

Пранцыся аж перасмыкнула. Якое падабенства можна ўгледзець між ім і алхімікам? Належала браць справу ў свае рукі, пакуль Лёднік не пачаў сенсацыйную споведзь, а то яшчэ ў прыступе самабічавання распавядзе і пра тое, што яго прадалі ў рабства малаадукаванаму шкаляру. Тады не чакай павагі, і адпаведна, дапамогі.

— Толькі прашу пана Пфальцмана захоўваць пачутае ў таямніцы! — інтрыгуюча пачаў Пранціш.

А з расповеду ягонага вынікала, што Пранціш — малодшы сын багатага і радавітага шляхціца, толькі не варта прамаўляць ягонае імя ўслых, таму што Пранціш сям'ю сваю раззлаваў, увязаўшыся ў авантуры.

— Амурныя справы, разумееце? — даверліва пазіраючы блакітнымі вачыма, гаварыў Вырвіч.

Амурныя справы тыя наносілі крыўду другой, яшчэ больш радавітай сям'і, і юнака з разбітым ад нешчаслівага кахання сэрцам давялося адправіць падалей ад непрыемнасцяў, пад прыглядам ягонага хатняга настаўніка, шаноўнага доктара гера Лотмана — менавіта так цяпер належала называць Бутрымуса Лёдніка.

У гэтым месцы расповеду Бутрымус нібы пракаўтнуў нешта, што перасела ў горле. Але прамаўчаў.

Вядома, выправілі Пранціша («Можаце называць мяне Франц Магнус!» — сціпла прапанаваў Вырвіч, стараючыся не глядзець на слугу) не голым-босым, былі і гладкія коні, і куфры з дабром, і грошы… Вось толькі мінулым вечарам на іх з настаўнікам напалі падступна грабежнікі, і ўсё адабралі, нават распранулі, давялося ахвярам скарыстацца з тых абноскаў, што латругі праклятыя, з сябе зняўшы, ім кінулі. Пры гэтых словах Пранціш патрос перад сваімі вачмі паедзенай моллю шапкай, быццам веры не даваў, што мог апрануць гэткую непаглядную рэч.

Але жменьку грошай захаваць ад грабежнікаў усё-ткі ўдалося, так што Пранціш і ягоны настаўнік будуць вельмі ўдзячныя, калі пан Пфальцман падзеліцца з імі адзежай за разумную плату… А яны ахвотна дапамогуць пану ў ягоным бядотным становішчы, прыкладуць усе сілы, каб выцягнуць павозку з калюжыны і даставіць у Слуцк, бо дзве шаблі і пісталет у руках людзей баявітых і смелых у дарозе не лішнія, а надалей і ў дэманстрацыі цуда-машыны паспрыяюць.

— Бо як мяне выправілі ў свет па навучанне, дык я рады буду пазнаёміцца з такім дасведчаным панам, як вы, гер Пфальцман, і паназіраць за цуд-машынай… Толькі трымайце ў таямніцы, хто мы, — а то могуць быць непрыемнасці і для нас, і для вас. Можаце мяне прадстаўляць як Франца, асістэнта гера Лотмана.

Пранціш уклаў у голас як мага больш пранікнёнасці, і гер Пфальцман размяк. Ён каротка пераклаў расповед Пранціша жонцы, і фрау Эльза ажно ўсхліпнула ад расчуленасці і ласкава паглядзела трохі пукатымі светлымі вачыма на блакітнавокага высакароднага юнака, які трапіў у бяду з-за палкасці пачуццяў, якім, вядома, жанчыны з вялікім сэрцам не спачуваць не могуць.

Лёднік, прабачце, гер Лотман, мудра маўчаў.

Мясцовы лясун відавочна прыйшоў у добры настрой і перастаў учыняць падарожным гадасці. Вецер Сутон працягваў наганяць хмары і плявацца халоднай вадой. Але Пранціш і Лёднік ехалі ў экіпажы Пфальцманаў. На абодвух былі нямецкія касцюмы, такія ж, як на гаспадары карэты. Двух дукатаў, вядома, шкада, але таргавацца не даводзілася — Пранціш выдатна адчуваў мяжу беражлівасці дабрадзеяў, за якую пераступаць нельга. З прычыны таго, што ўсе найміты збеглі, Лёдніку давялося быць за фурмана — бо вусаты Генрых кіраваў павозкай з застрашлівай жалезнай чарапахай.

Між тым Пфальцман забыўся на непрыемны выпадак і набыў выгляд самазадаволены да агіды. Ён паблажліва паглядаў на спіну Лёдніка, чыя залежнасць ад ягонае ласкі была яму, падобна, страшэнна прыемнай, нарэшце перасеў бліжэй да былога сябра і загаварыў.

— І чаму гэта, гер… Лотман, апошнія гадоў дзесяць я пра цябе нічога не чуў? — голас немца можна было на булку замест мёда мазаць. — Ты ж такім свяцілам быў… Трактат пра солі напісаў, артыкулы ў Лейпцыгскім навуковым часопісе друкаваў. Прафесар Гофман лічыў цябе новым Парацэльсам. А ты, аказваецца, у хатнія настаўнікі пайшоў! Можа, таксама нешта вынайшаў за гэты час, але сціплічаеш?

Лёднік пахмура скасавурыўся на былога аднакурсніка.

— Хваліцца мне няма чым. На маім млыне маloліся адны камяні, а з іх хлеба не спячэш.

Куртаты Пфальцман ад гэтых слоў яшчэ больш раздзьмуўся і ўмудраўся пaглядаць на высокага субяседніка зверху ўніз. Пранцысю зрабілася страшэнна крыўдна — гэта ж, уласна кажучы, ставілася пад сумніў каштоўнасць таго, што належала яму, Вырвічу! Чаго гэты Лёднік сябе прыніжае! Ён жа, на погляд абазнаных у алхіміі, навуковы подзвіг здзейсніў, філасофскі камень знайшоў, алхімічнае золата здабыў, тут якраз ацанілі б!

— Бутрым, ды пакажы яму шкеліцу! — штурхануў слугу пад локаць Вырвіч. Але Лёднік, не выпускаючы лейцы з рук, толькі працяў юнака цяжкім позіркам і ўпарта паўтарыў:

— Мне няма чым пахваліцца.

Пранціш ажно засычэў ад расчаравання. Сам ён ні хвілечкі б не прамарудзіў пакрасавацца, каб было чым. Як можна дапускаць, каб нехта, дурнейшы за цябе, над табой узносіўся? Але Бутрыма гэта, падобна, зусім не турбавала. Гэтак жа спакойна ён адмовіўся складаць зорны прагноз шляху, які іх чакае, чым невымерна Пфальцмана здзівіў — Пранцысь зразумеў, што Лёднік у маладосці лічыўся майстрам такой справы і прадказанні рабіў ахвотна.

З неба зноў ліўся паскудны дождж, які барабаніў аб скураны навес павозкі. Лёднік і Пфальцман пачалі ўспамінаць падзеі часоў прускай вайны, падчас якой абодвум давялося зашыць нямала ран і адрэзаць горы раструшчаных канечнасцяў. Фраў Эльза час ад часу спрабавала спыніць крывавую гаворку, але мужчыны рассмакаваліся, і Вырвіч задрамаў пад натхнёны расповед пра цікавыя прэцэдэнты кшталту даставання кулі з сёмага пазванка.

Пад вечар давялося зноў выцягваць павозку з калюжыны. Пасля фраў Эльза вылучыла ўсім па кавалку белага хлеба, лусце вяндліны і цыбуліне, а Пранцішу дык нават дастаўся кавалачак саксонскага перніка на мёдзе, які фраў ашчаджала, каб час ад часу ўспамінаць салодкі смак роднага дому. Да бліжэйшай карчмы было яшчэ гадзіны дзве, бо рухаліся яны з-за жалезнай чарапахі дужа марудна, дарога была больш падобнай да праніка, рабрыстай дошкі, якой гаспадыні шуруюць бялізну, і коні стамляліся. Вось і зноў — чарговы адпачынак.

Затое выпала магчымасць трохі пахадзіць па лесе, размяцца. Пранціш адышоўся да маладых хвоек і выхапіў шаблю: нельга закідваць высакароднае мастацтва фехтавання! Выпад, выпад, узмах, адбіць, прапароць… Вырвіч забыўся на ўсё на свеце, уяўляючы на месцы хвоек, з якіх так і аблятали ссечаныя галінкі, магутных, але бяссілых супраць спрыту і сілы вырвічаўскай варожых рыцараў. Раптам пры выпадзе з разваротам шабля Пранціша стукнулася аб метал… Лёднік улез са сваёй шабляй! Паківаў галавой расчаравана, адступіў на крок, адсалютваў зброяй, як робіцца перад кожным паядынкам, і па-настаўніцку скамандваў:

— У пазіцыю!

Гэты дактарок што, вырашыў выпрабаваць баявое ўменне шляхціца? Ну, зараз атрымаеш!

Пранцысь кінуўся на Лёдніка, спадзеючыся збіць з таго фанабэрыю… Але неяк хутка аказаўся без шаблі. Выбітая з рукі нейкім невядомым чынам, яна ўторкнулася ў вільготную глебу побач з норкай ляснóй мышы.

Лёднік занудным голасам тлумачыў Пранцысю ягоныя памылкі: і наконт паставы, і наконт увагі, і як правільна адбіваць удар… Вырвіч ужо нічога не чуў, толькі шум уласнай крыві… Схапіў шаблю — і на доктара…

Ды што ж гэта такое!

Задыханы Вырвіч, з потнымі кудзерамі, прыліплымі да лба, хрыпла дыхаў і глядзеў на сваю шаблю, якая зноў ляжала на зямлі. Лёднік схаваў зброю ў похвы, падышоў да юнака і ўзяў за плечы:

— Паглядзі на мяне! Чуеш? Удыхні і затрымай дыханне! Так! Цяпер выдыхні… Яшчэ раз… Пастарайся супакоіцца. Cave canem, бойся сабакі, як казалі рымляне, і асабліва ўласнага гневу.

Пранціш з прыкрасцю страсянуў з сябе рукі слугі. Хацелася плакаць, але слёзы былі б ганьбай. Яшчэ хацелася адлупцаваць паскуднага доктара, так, каб у нагах валяўся, падла. А той стаў перад панам, скрыжаваўшы рукі на грудзях, сур'ёзны, як прафесар на іспыце.

— Я бачу ў табе два розныя тэмпераменты, якія, відаць, дасталіся ў спадчыну па радавых лініях і ўступаюць у канфлікт. З аднаго боку — ты жыццярадасны, здольны да спачування, празрысты і лёгкі, як вада ў ручаі. З другога — у тваёй крыві занадта шмат агню, калі ты ўсхваляваны, абражаны, агонь успыхвае, кроў бяжыць хутчэй, і ты траціш над сабой уладу і робішся жорсткім. Гэтая якасць узмоцніцца, калі пачнеш ужываць алкаголь. Кепска, што ў моманты перавагі другога, халерычнага, тэмпераменту ты нічога не чуеш, не ўспрымаеш… Калі размахваў шабляй, я да цябе лёгка падышоў са спіны. Ты мусіш вучыцца ўладаць сабою!

— А ты мяне і навучыш, значыць? — раздражнёна прамовіў Пранцысь. — А я, між іншым, не дазваляў табе скрыжоўваць са мной зброю! Гэта ты што, адпомсціць захацеў за мінулае, калі я шаблю табе да горла прыставіў?

Лёднік разгубіўся, нават пачырванеў.

— Як табе ў галаву такое прыйшло? — злосна прамовіў ён. — Я сам усё жыццё кіраваўся тым, што калі ёсць чаму і ў каго навучыцца, трэба не ўпускаць такой магчымасці! І калі можаш падзяліцца ведамі, трэба гэта рабіць. Але, відаць, некаторыя высакародныя асобы маюць устойлівую агіду да навукі…

Лёднік пакрыўджана адвярнуўся. Пранцысь некалькі разоў паводле парады доктара глыбока ўздыхнуў. Два тэмпераменты… Агонь і вада… Што ж, лепей, чым чорная жоўць альбо флегма.

— А дзе ты так фехтаваць навучыўся?

— У Лейпцыгу, — неахвотна адказаў доктар. — Ва ўніверсітэце кожны бурш павінен удзельнічаць у студэнцкіх двубоях — на шаблях, з морам крыві… Спецыяльна ставяць навічка супраць самых моцных — каб выпрабаваць, ці зможа стрываць раны, ці не схібіць. Хочаш выжыць — вучыся біцца і цярпець. А я ў кожнай навуцы прагнуў дайсці да вяршынь. А потым… усялякія школы былі. На вайне і доктар павінен умець абараніцца.

Пранціш памаўчаў, яшчэ раз уздыхнуў:

— Гэй, доктар, пакажы той прыёмчык… Калі ты апошні раз у мяне шаблю выбіў.

Лёднік, вытрымаўшы імгненні гонару, моўчкі павярнуўся. Выпрабавальна паглядзеў на гаспадара, маланкава выхапіў шаблю:

— У пазіцыю!

Цяпер Пранціш быў упэўнены, што кожную вольную хвілю прабывання побач з доктарам той будзе выкарыстоўваць, каб напружваць альбо мазгі маладога гаспадара, альбо ягонае фізічнае цела…

Адзіная выратавальная думка — затое гэты настаўнік пры ўсёй сваёй суровасці ні дысцыплінай не адхвастае, ні ў карцэр не пасадзіць. А вось Пранцысь яго можа адлупцаваць! І той нічога не зробіць і не ўцячэ, мураш бяскрылы.

Да карчмы даехалі толькі як сцямнела. Лёднік і Пранціш, аднак, на начлег туды не пайшлі, справядліва падазраючы, што шпегаў знойдзецца і тут. Намовіліся сцерагчы груз і засталіся ў брычцы, на шчасце, не зіма.

Шлях цягнуўся страшэнна марудна — пешкі, магчыма, дайшлі б хутчэй. Затое хапала часу на разважанні. Дапамагаць Пфальцманам — гэта вельмі добры, і, магчыма, адзіны шанец патрапіць у Слуцкі замак. Але ж трэба і знайсці Аляксандра Сапегу! А той, як сцвярджалі чуткі, спыніўся са сваім войскам на падыходзе да горада, у будынку кавалергардыі. У горад яго не пускаюць, але і прагнаць не могуць: узброенае перамір'е, ён з Радзівілам усё роўна як два шчупакі застылі над маленькай паўжывой рыбкай, ведаючы, што калі пачнуць біцца за здабычу, адзін аднаго зжаруць, ускаламуцяць усё возера, а рыбка, глядзіш, і выслізне альбо здохне.

Пранціш сядзеў побач са сваім слугою на козлах брычкі, весела пабоўтваючы нагамі ў нямецкіх чаравіках і недарэчных белых панчохах, якія зрабіліся плямістымі, як лемпард. Пфальцманы драмалі ззаду на сенніку, воз з жалезнай чарапахай цягнуўся за брычкай, як грахі за грэшнікам. Лёднік упэўнена кіраваў коньмі і вучыў Пранцыся вымаўляць без акцэнту нямецкія фразы.

Апошнія елачкі расчыніліся ў прыцемку, замільгалі хаты… Наперадзе гарэлі цьмяныя агні ў вокнах камяніцаў…

— Стой! Хто такія?

Дарогу перагарадзілі людзі ў амарантавых жупанах каралеўскіх войскаў, асвятляючы падарожных паходнямі. Пранцысь насунуў капялюш як мага ніжэй, зрабілася млосна, як перад іспытамі. Няўжо зноў? Лёднік таксама апусціў галаву.

Якуб Пфальцман вылез наперад.

— Я доктар Якуб Пфальцман з Лейпцыга! Вязу дэкарацыі і піратэхнічныя прылады да тэатра найяснейшага князя Гераніма Радзівіла!

— А, Гераніма Радзівіла? А ці не ёсць гэтыя дэкарацыі толькі, так бы мовіць, дэкарацыямі? — з'едліва адгукнуўся высокі ўлан. — Можа, вы дапамагаеце пану Радзівілу рыхтаваць паўстанне супраць нашага законнага караля? Пакажыце, што везяце!

— Па якім праве? — абурыўся гер Пфальцман, які звык, што імя Радзівілаў выклікае ў сустрэчных звычайна багавейлівы жах.

— Па загадзе генерал-маёра Аляксандра Сапегі, маршалка Трыбуналу! — адказаў улан, і Пранціш ускінуўся: вось дык шанец!

— А дзе зараз найяснейшы пан Сапега?

— А табе што за справа, немчык? — пагардліва кінуў улан, і нават палаш з похваў трохі высунуў, каб пастрашыць падшыванца. Пранцысь жа забыўся, у якім ён зараз аблічча. Але пазбаўляцца шанцу сустрэцца з Сапегам было немагчыма. Вырвіч саскочыў з брычкі, наблізіўся да ўлана і пачаў тлумачыць пра таемнае і тэрміновае пасланне.

— Нядаўна да пана Сапегі прыехаў малады казак, увесь аброслы… Давялося яго пагаліць, каб прачытаць на ягонай чэрапаўцы напісанае квасцамі пасланне. У цябе таксама нешта падобнае? — насмешна папытаўся улан. — Ты ж разумееш, што калі ветрам гандлюеш, нашыя шаблі хутка праветраць твае вантробы.

Пранціш паклаў руку на сваю зброю:

— Слова шляхціца! Калі неадкладна праводзіце да пана Сапегі мяне і майго доктара, генерал толькі рады будзе.

А за ягонай спінай ужо дыхаў Лёднік, гатовы абараняць маладога гаспадара. Пфальцман выціраў насоўкай спацелы лоб, уцяміўшы, што патрапіў у рукі ворагаў свайго кліента, не менш магутных, чым той, а побач грувасцілася захінутая палотнамі жалезная чарапаха.

На вокладцы змешчана фота з выявай хаты Юльяна Сергіевіча.

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# КУФЭРАК ВІЛЕНШЧЫНЫ 14

Гісторыка-краязнаўчы і літаратурна-мастацкі альманах

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Міхась Казлоўскі*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 7.05.2012. Фармат 60х84 $^1/_{16}$.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 12,46. Ум. друк. арк. 11,63.
Наклад 170 асобнікаў. Зак. 320.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

**ISBN 978-985-7007-67-7**




Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.